Леанід Несцярчук

# БЕЛАРУСЬ У ВАЙНЕ 1812 ГОДА

# ПАМІЖ НАПАЛЕОНАМ І АЛЯКСАНДРАМ



Брэст
«Паліграфіка»
2012

УДК 940.2 (476)
ББК 63.3 (4 БеИ) 453-8
Н56



Рэцэнзенты:
Акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук,
прафесар М.П. Касцюк
Доктар гістарычных навук, загадчык кафедры гісторыі славянскіх народаў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна А.М. Вабішчэвіч

У манаграфіі выкарыстаны фотаілюстрацыі іканаграфічных матэрыялаў з музеяў, бібліятэк, архіваў, фондаў Беларусі, Польшчы, Расіі, Францыі, Літвы, Украіны, Швейцарыі, Італіі, Германіі паводле афіцыйных дазволаў з названых устаноў, фотакопіі асобных ілюстрацый з шэрагу айчынных і замежных выданняў, а таксама асабістага архіва аўтара і архіва выдавецтва.



**Несцярчук Л.М.** Беларусь у вайне 1812 года. Паміж Напалеонам і Аляк-
Н56 сандрам / Л.М. Несцярчук. – Брэст : ТАА «Паліграфіка», 2012. – 320 с.: іл.

ISBN 978-985-6970-46-0

Ілюстраванае выданне «Беларусь у вайне 1812 года. Паміж Напалеонам і Аляксандрам» прысвечана падзеям вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі, дзейнасці створанай Напалеонам Банапартам беларускай дзяржаўнасці – Вялікага Княства Літоўскага, ягонай Камісіі Часовага ўрада, стратам, якія прынесла вайна 1812 года Беларусі, а таксама ўшанаванню гістарычных падзей 1812 г. сродкамі манументальнага і выяўленчага мастацтва ў Беларусі.

Кніга рэкамендуецца гісторыкам, музейным і бібліятэчным спецыялістам, выкладчыкам, студэнтам і навучэнцам вышэйшых, сярэднеспецыяльных і сярэдніх навучальных устаноў, турыстам і гасцям Беларусі, краязнаўцам, даследчыкам і ўсім прыхільнікам зберажэння і аднаўлення матэрыяльнай і духоўнай спадчыны, знітаванай з падзеямі вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі.

**УДК 940.2 (476)**
**ББК 63.3 (4 БеИ) 453-8**

**ISBN 978-985-6970-46-0**

# Змест

# РАЗДЗЕЛ III



# РАЗДЗЕЛ IV



# РАЗДЗЕЛ V

# 1812 год — складаная старонка ў гісторыі Беларусі

Рукапіс кнігі «Беларусь у вайне 1812 года. Паміж Напалеонам і Аляксандрам», прапанаваны Л. М. Несцерчуком для падрыхтоўкі невялікай рэцэнзіі, прачытаў з пачуццём удзячнасці і павагі да аўтара.

Тэма вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі застаецца не да канца асветленай, таму з'яўляецца актуальнай і своечасовай.

Кніга, якая складаецца з 8 раздзелаў і 56 глаў, напісана разважліва і адказна. Неабходна падкрэсліць, што аўтар смела і грунтоўна ўзяўся за напісанне гістарычных падзей 200-гадовай даўніны і, як бачна, справіўся з гэтай задачай даволі годна.

Акрамя шчырага жадання, ён меў маральнае права на гэтую працу, маючы за плячыма шэраг манаграфічных прац па гісторыі Беларусі, ахове яе матэрыяльнай і духоўнай спадчыны, з якіх манаграфіі «Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X-XX стст.», «А. Т. Касцюшка. Вяртанне героя на радзіму», «Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны», «Ахова гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі» і «Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Манарх, асветнік, мецэнат» з'явіліся даволі ўдалай спробай напісання навуковых прац пра гістарычныя падзеі і асобы Беларусі.

Аўтар старанна сабраў і апрацаваў значную бібліяграфію па тэме, якая налічвае 1.336 друкаваных прац як айчынных, так і замежных даследчыкаў, прааналізаваў розныя падыходы да асвятлення праблем французска-расійскай кампаніі 1812 года, якія застаюцца і сёння аднымі з самых спрэчных у гісторыі Беларусі. У навуковае абарачэнне аўтарам уключаны шэраг новых архіўных матэрыялаў, раскрываючых вельмі складаную тэму вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі. Гэтаму садзейнічала амаль 15-гадовая збіральніцкая праца Л. М. Несцерчука ў Беларусі і за яе межамі.

Асабліва плённай была яго праца ў беларускіх архівах, бібліятэках, фондах і музеях Парыжа, каралеўскім замку, архіве старажытных актаў, музеях Незалежнасці і Войска Польскага ў Варшаве, Кракаўскім нацыянальным гістарычным музеі, Расійскім ваенна-гістарычным архіве ў Маскве,

Дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу, дзе сканцэнтравана большасць пісьмовых крыніц аб кампаніі 1812 года.

З сабраных матэрыялаў частка з іх ужо апублікавана аўтарам у шэрагу манаграфій, у артыкулах на старонках часопісаў і газет, зборніках навуковых канферэнцый.

У новым даследаванні аўтар старанна аналізуе эвалюцыю поглядаў айчынных і замежных даследчыкаў на тэму аб месцы беларускіх губерняў і шмат у чым прымусовым удзеле насельніцтва Беларусі ў вайне 1812 года.

Увайшоўшы на тэрыторыю Беларусі, Напалеон сваім першым загадам аднавіў ВКЛ, абмежаваўшы новую дзяржаву толькі трыма губернямі: Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Беластоцкай вобласцю, але і гэтым задаволіў спадзяванні патрыятычна настроенай мясцовай шляхты.

Тэрыторыя Беларусі стала галоўным тэатрам баявых дзеянняў паміж Францыяй і Расіяй, таму асноўны цяжар ваенных дзеянняў падчас французска-расійскай кампаніі 1812 года лёг на плечы сялян, бо, менавіта, яны больш за ўсіх пацярпелі ад французскай навалы.

На наш погляд, новая кніга Л.М. Несцерчука «Беларусь у вайне 1812 года. Паміж Напалеонам і Аляксандрам» з'явіцца важкім унёскам у гістарыяграфію Беларусі, тым больш, што факты і падзеі 1812 года на тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны, выкладзеныя ў кнізе, захоўваюць адбітак свайго часу, не губляюць гістарычнай памяці пра гісторыю роднага краю і яе знакамітых ураджэнцаў.

Кніга будзе карысна выкладчыкам гісторыі ВНУ і сярэдніх навучальных устаноў, гісторыкам, архітэктарам, спецыялістам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, а таксама аматарам і ўсім, хто неабыякавы да айчыннай матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Акрамя таго, кніга з цудоўнымі ілюстрацыямі гістарычных мясцін Беларусі, знітаваных з падзеямі вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі, будзе спрыяць узвышэнню нашай краіны сярод гасцей, турыстаў і наогул далёка за яе межамі.

*Акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі,*
*доктар гістарычных навук, прафесар М.П. Касцюк*

# Беларусь у вайне 1812 года — тэма актуальная і своечасовая

Грунтоўная і шматаспектная праца Л. М. Несцерчука, прысвечаная падзеям вайны 1812 г. на тэрыторыі Беларусі, з'яўляецца адной з першых айчынных манаграфій па дадзенай праблематыцы. Пасля выдання адной з папярэдніх прац — «Белорусский народ в Отечественной войне 1812 г.» Я. Карнейчыка (1962 г.) — прайшло паўстагоддзя. За гэты час істотна пашырыліся база гістарычных крыніц, спектр навукова-метадалагічных падыходаў. Таму сам факт звароту да падзей 200-гадовай даўніны падаецца вельмі сімвалічным і надзвычай актуальным ва ўмовах абуджэння інтарэсу грамадскасці суверэннай Рэспублікі Беларусь да айчыннай гісторыка-культурнай спадчыны. Навуковая навізна прадстаўленага на рэцэнзаванне рукапісу манаграфіі Л. М. Несцерчука заключаецца найперш у яе саліднай гістарыяграфічнай аснове, што ўключае не толькі агляд і абагульненне друкаваных гістарычных крыніц, але і шмат новых архіўных матэрыялаў, назапашаных уласнаручна ў музеях, архівах і бібліятэках як Беларусі, так і замежных краін (Францыі, Расіі, Германіі, Польшчы, Літвы, Украіны). Даследчыкам старанна сабраны і апрацаваны велізарны масіў бібліяграфіі па праблематыцы вайны 1812 г. на землях Беларусі, які налічвае больш за 1 336 публікацый айчынных і замежных вучоных. Сур'ёзная навуковая кваліфікацыя аўтара не выклікае сумнення. Ім выдадзены больш за 60 навуковых прац па гісторыі Беларусі, ахове гісторыка-культурнай спадчыны, сярод якіх 6 манаграфій. Яго выданне «Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны» атрымала Гран-пры на VI Міжнародным конкурсе «Мастацтва кнігі» за 2009 г. у Маскве.

Тэма «Беларусь у вайне 1812 года», якая ўзнята аўтарам, без сумнення з'яўляецца актуальнай і своечасовай. Можна сцвярджаць, што пры гэтым прадэманстраваны адказныя адносіны да раскрыцця даволі складанай праблематыкі тэмы даследавання. Смеласць, грунтоўнасць дазволілі яму паспяхова справіцца з асноўнай мэтай — паказаць карціну суровых і крывавых падзей 1812 г. на тэрыторыі Беларусі. У першых двух раздзелах кнігі выкладзены змястоўны матэрыял аб падрыхтоўцы Францыі і Расіі да вайны, на-

мерах варагуючых бакоў адносна ўключэння беларускіх зямель у арбіту сваіх геапалітычных планаў. У III раздзеле аўтар у навукова-папулярнай форме прыводзіць адметныя біяграфічныя звесткі аб жыцці і дзейнасці Напалеона Банапарта, якія прадстаўляюць цікаўнасць для карыстальнікаў дадзенага выдання. У IV, V і VI раздзелах змешчана шмат новых фактаў аб дзейнасці Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага, створанага ўказам Напалеона 1 ліпеня 1812 г., як васальнага дзяржаўнага ўтварэння для папаўнення яго «Вялікай арміі» жывой сілай, правіянтам і фуражом. У VII і VIII раздзелах прааналізаваны трагічныя і разбуральныя вынікі вайны 1812 г., паказана мемарыялізацыя яе падзей на тэрыторыі Беларусі сродкамі манументальнага і выяўленчага мастацтва, што прадэманстравана якасным і актуальным ілюстрацыйным матэрыялам. Такое цэласнае бачанне падзей вайны 1812 г. на тэрыторыі Беларусі робіць кнігу Л. М. Несцерчука запатрабаванай і даволі карыснай як для аматараў айчыннай гісторыі, так і прафесійных даследчыкаў, што займаюцца вывучэннем гісторыі, культуры беларускага і іншых народаў Еўропы.

Акрамя навуковай вартасці, рэцэнзуемая праца мае важную сацыяльную значнасць. Факталагічны матэрыял можна выкарыстоўваць у турыстычна-экскурсійнай працы, для выхавання моладзі ў сярэдняй і вышэйшай школе краіны, у справе аднаўлення помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Сам аўтар дадзенай манаграфіі ўжо шмат гадоў плённа займаецца зберажэннем і аднаўленнем гісторыка-культурнай спадчыны ў Брэсцкай вобласці. Па яго ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле на «малой Радзіме» на полі бітвы пад Гарадзечна на Пружаншчыне ў 1991 г. быў адноўлены Свята-Пакроўскі храм 1825 г., а ў 1994 г. адрэстаўраваны помнік-капліца «Доблесным продкам, палеглым у бітве пад Гарадзечна 31 ліпеня 1812 г.», якая была ўзведзена ў 1912–1914 гг. да 100-годдзя бітвы. Гэтыя факты з біяграфіі даследчыка яшчэ больш ажыўляюць, «ачалавечваюць» падзеі вайны 1812 г., падкрэсліваюць традыцыі пераемнасці ў справе ўшанавання загінуўшых.

Неабходна адзначыць, што Л. М. Несцярчук мае самае непасрэднае дачыненне да «брэсцкага вопыту» аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Па яго прапанове быў прыняты шэраг важных рашэнняў Брэсцкага аблвыканкама, у тым ліку па аднаўленні сядзібы Т. Касцюшкі ў Івацэвіцкім раёне, дома-сядзібы Ю. Нямцэвіча, паплечніка і ад'ютанта Т. Касцюшкі, у в. Скокі Брэсцкага раёна, рэстаўрацыі Троіцкага касцёла ў в. Воўчын Камянецкага раёна, у якім хрысцілі ў 1732 г. апошняга караля Рэчы Паспалітай С. А. Панятоўскага, палацавага комплекса Сапегаў у Ружанах Пружанскага раёна, палаца М. Бутрымовіча ў г. Пінску і шэрагу іншых каштоўных гістарычных аб'ектаў.

У цэлым, рукапіс манаграфіі, падрыхтаваны руплівай працай аўтара, адпавядае ўсім неабходным патрабаванням і заслугоўвае друкавання.

*Доктар гістарычных навук, загадчык кафедры гісторыі славянскіх народаў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна*
*А. М. Вабішчэвіч*

# Уводзіны

Расійская гістарыяграфія надзвычай багатая па тэме вайны 1812 года, якая атрымала назву Айчынная. Сёння нават немагчыма пералічыць усяго, што за 200 гадоў напісалі гісторыкі, пісьменнікі, паэты, стварылі кампазітары і мастакі розных пакаленняў пра ваенныя падзеі 1812 года, імператара Аляксандра I, М. Кутузава і іншых расійскіх палкаводцаў.

З другога боку, і імя Напалеона пасля яго смерці ў супрацьпастаўленні з нізасцю і злачынствамі ўлады Бурбонаў, бязлітасьнай палітычнай рэакцыяй і цемрашальствам Свяшчэннага саюза стала абрастаць легендамі. Напалеона, як барацьбіта за свабоду, праслаўлялі Жорж Ноэль Байран (1788-1824) і Віктар Гюго (1802-1885), П'ер Жан Беранжэ (1780-1834) і Генрых Гейнэ (1797-1856), Міхаіл Лермантаў (1814-1841) і Адам Міцкевіч (1798-1855). Сябра А. Міцкевіча А.С. Пушкін (1799-1837) на смерць Напалеона ў 1821 г. успламянёна пісаў:

«...Хвала, он русскому народу
Высокий жребий указал
И миру вечную свободу
Из мрака ссылки завещал!» [621].

Асобныя даследчыкі сцвярджаюць, што пра вайну 1812 года напісана 15 тыс. кніг. Названая лічба даволі сціплая, бо яшчэ ў 1912 годзе да 100-гадовага юбілею французска-расійскай кампаніі І.Х. Каладзееў — гэты нястомны збіральнік старасветчыны, заснавальнік Імператарскага ваенна-гістарычнага таварыства і ганаровы сябра Віцебскай вучонай археалагічнай камісіі — стварыў у Навабарысаве Мінскай губерні багацейшую ў Еўропе бібліятэку па гісторыі вайны 1812 года, лёс якой дасканала да сяго часу не вызначаны. У яе кнігазбор ува-




Тытульны ліст кнігі «Напалеон. Яго жыццё, яго барацьба, яго імперыя», выдадзенай у Лондане [1013].

Напалеон Банапарт. Мастак Луіс Давід, 1810 г. Версаль [1013, с. 52].

ходзіла 15 тыс. кніг на большасці еўрапейскіх моў, шэраг калекцый газет, гравюр, партрэтаў, картаў, рысункаў, арыгінальных дакументаў перыяду 1805-1815 гг. [343, 615, 790].

Не сціхаюць яшчэ спрэчкі сярод сучасных беларускіх і нават некаторых расійскіх навукоўцаў аб назве вайны 1812 года «Айчынная». Усё становіцца зразумелым, калі высвятляецца, які сэнс закладваецца даследчыкамі ў гэтую назву.

Расійскія гісторыкі, філосафы і палітыкі, у тым ліку рэвалюцыйна настроеная інтэлігенцыя, падкрэслівалі, што «война 1812 года — народная война, которая пробудила русскую нацию к новой жизни» [444], што ўсе войны на тэрыторыі Расіі, у тым ліку Айчынную вайну 1812 года, «выигрывал русский солдат — необразованный, невооруженный, бесправный, не надеющийся ни на чье снисхождение, но не имеющий пути назад. Он всегда побеждал. А лавры делили потом — кому как удастся» [473].

Для Беларусі вайна 1812 года таксама была Айчыннай, але зусім не ў тым сэнсе, які маюць і мелі на ўвазе дарэвалюцыйныя, савецкія і сучасныя расійскія гісторыкі. За 17 гадоў пасля падаўлення паўстання Т. Касцюшкі і падзелу Рэчы Паспалітай расійскія ўлады не паспелі




1




2




3




4

1. Тытульны ліст «Кодэкса Напалеона». Са збораў музея Незалежнасці ў Варшаве. Фота аўтара [39, GR I-866].

2. Вокладка кнігі пра бацьку Напалеона «Фрывольны і галантны» [1005, с. 6].

3. Вокладка кнігі «Отечественная война и русское общество: Юбилейное издание 1812-1912 гг.» [710].

4. Тытульны ліст «Французскай ілюстраванай энцыклапедыі» з поўнай біяграфіяй Напалеона. Са збораў бібліятэкі Фонда Напалеона ў Парыжы. Фота аўтара, 2011 г. [50, 1215].

русіфікаваць мясцовае насельніцтва настолькі, каб поўнасцю схіліць яго на свой бок. Вайна 1812 года давала шанец беларусам, украінцам і палякам вярнуць сваю страчаную Айчыну, а разам скінуць ганебнае прыгоннае права, гвалтам уведзенае на нашых землях Расійскай імперыяй. Таму беларуска-польская шляхта і просты люд у большасці падтрымалі Напалеона, а значыць з гэтага пункту гледжання вайну 1812 года ў Беларусі можна лічыць Айчыннай.

Усебаковае раскрыццё ўдзелу народных мас Беларусі ў вайне 1812 года — задача для беларускіх гісторыкаў не такая простая, як можа паказацца на першы погляд. Галоўная іх цяжкасць — абмежаванасць дакументальнага матэрыяла, на падставе якога можна было б найбольш поўна раскрыць размах і вынікі рознабаковага ўдзелу беларускага народа ў гэтай вайне. Акрамя таго, пры даследаванні вайны недапушчальныя супрацьпастаўленні альбо ізаляваны разгляд у ёй ролі народа, арміі, палкаводцаў, а таксама акупацыйных уладаў як з боку Расійскай імперыі, так і напалеонаўскай адміністрацыі. Любая вайна патрабуе комплекснага даследавання, у якім знайшлі б адлюстраванне ўсе бакі.

У XIX ст. пры ўсім багацці публікацый тагачасных даследчыкаў значных прац аб вайне 1812 г. выйшла не так ужо шмат, тым больш аб удзеле ў ёй насельніцтва беларускіх губерняў.

Паводле А.Лукашэвіча, пачаткам асвятлення ў літаратурных крыніцах пытання вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца працы нашага земляка, ад'ютанта Т.Касцюшкі Ю.У. Нямцэвіча, у якіх крытыкуецца прарускапя пазіцыя часткі беларускай шляхты, падтрымліваецца патрыятычны рух за адзінства Кароны і Літвы шляхам кансалідацыі праз Генеральную канфедэрацыю [131, 1209-1211].

Значны ўклад у асвятленне нашай тэмы ўнёс таксама наш знакаміты зямляк з Гомельшчыны М.А. Старынкевіч, які ў той час узначальваў канцылярыю Галоўнакамандуючага 2-й Заходняй арміяй ген. П. Баграціёна, служыў пры штабах М. Кутузава і М. Барклая дэ Толі, быў удзельнікам, сведкам і складальнікам рукапісаў гісторыі амаль усіх значных ваенных спраў на тэрыторыі Беларусі, увайшоўшых у грунтоўнае даследаванне па гісторыі вайны 1812 года [131].

Дваранскія гістарыёграфы ў сваіх даследаваннях асноўны акцэнт рабілі на знешняе апісанне баёў і бітваў, ухваляючы асобу імператара, без грунтоўнага аналізу іх палітычнай і сацыяльна-эканамічнай абумоўленасці.

Афіцыйнай трактоўкай першых ваенных аперацый 1812 года на тэрыторыі беларускіх губерняў з'явіліся даследаванні І. Двігубскага [405], Я. Дзямінскага [411], Э. Пфуля [762], П. Чуйкевіча [911], апублікаваныя ўжо ў 1813-1815 гг.

Аўтары прааналізавалі першыя вынікі баёў рускіх армій, у тым ліку 3-й Заходняй арміі А.П. Тармасава, падкрэсліўшы, што «сии победы в июле месяце хотя сначала и не могли нанести сильного удара французской армии, но, затрудняя оной движения... имели важные для России последствия» [405].

Неабходнасць мець поўную гісторыю вайны 1812 года выказаў у сваіх артыкулах у 1817-1818 гг. непасрэдны ўдзельнік баявых дзеянняў Ф. Глінка [370-375].

Падрыхтоўка да 25-годдзя, а затым да 50-годдзя вайны 1812 года паскорыла працу гісторыкаў. У першую чаргу трэба назваць чатыры першыя найбольш грунтоўныя працы, у якіх вайна 1812 года атрымала поўнае ваенна-гістарычнае апісанне. Гэта кніга Д.І. Ахшарумава [255], двухтомнае даследаванне Д.П. Бутурліна [313], чатырохтомная праца А.І. Міхайлоўскага-Данілеўскага [654] і трохтомная гісторыя вайны 1812 года М.І. Багдановіча [290]. Аўтары гэтых прац вялі даследаванні ў розны час, мелі неаднолькавыя магчымасці выкарыстання дакументальных матэрыялаў. Але важна, што ўсе яны былі ваеннымі гісторыкамі, прычым першыя трое былі непасрэднымі ўдзельнікамі вайны



Парыж. Трыўмфальная арка. Фота аўтара. 2011 г.

1812 года, а М. І. Багдановіч яшчэ і выкладаў у Акадэміі Генеральнага штаба Расійскай імперыі. Такім чынам, узброеная барацьба, сражэнні і бітвы, якія адбыліся на тэрыторыі беларускіх губерняў, ужо тады былі імі асвечаны грунтоўна.

Аўтары ў вялікай колькасці выкарысталі архіўныя матэрыялы, расійскую і замежную літаратуру, якая на гэты час налічвала ўжо некалькі сот даследаванняў. Некаторым з гэтых даследчыкаў, напрыклад, ген.-лту А. І. Міхайлоўскаму-Данілеўскаму, былі створаны выключна спрыяльныя ўмовы, бо імператар Мікалай І прадаставіў яму права на беспераШкодную працу з матэрыяламі ваенных архіваў, якія іншым даследчыкам былі яшчэ не даступны.

Велізарная колькасць крыніц, у тым ліку картаграфічных матэрыялаў, копій данясенняў, рапартаў, пісем, указаў і вытрымак з «Журналаў баявых дзеянняў рускіх армій» утрымліваецца ў трохтомным выданні М. І. Багдановіча [290].

Названыя вышэй аўтары выказваюць прыхільныя адносіны да памылак і пралікаў ген. А. П. Тармасава і адм. П. В. Чычагава, падкрэсліўшы, што «нельзя судить о делах Генерала, подчиненного высшей власти, с такой строгостью, как о Главнокомандующем, который действует по собственной воле и благоусмотрению» [313]. У сваёй працы Д. П. Бутурлін адхіляе вывады шэрагу французскіх гісторыкаў, непасрэдных удзельнікаў пахода на Маскву аб тым, што адм. П. В. Чычагаў пацярпеў няўдачу на Бярэзіне па віне непрадуманых загадаў М. І. Кутузава [313].

З'яўленне гэтых класічных прац было неадназначна ўспрынята навуковай грамадскасцю Расіі. Напрыклад, выхад у свет кнігі М. І. Багдановіча выклікаў рэзкую рэакцыю гістарыёграфаў. Так, удзельнік вайны 1812 года І. П. Ліпрандзі напісаў работу пад назвай «Замечания ... на сочинение ген.-м-ра Богдановича», у якой паставіў задачу даказаць, што аўтар «Истории Отечественной войны 1812 года...» зрабіў крок назад у гістарыяграфіі вайны 1812 года, што ягоная кніга з'яўляецца начынкай паказанняў іншаземцаў і скажэннем гістарычнай праўды ў асвятленні важнейшых падзей вайны, у тым ліку баявых дзеянняў 3-й рускай арміі [583].

Буржуазныя гісторыкі А. Авербух [228], П. Андрыянаў [239], А. Архангельская [245], А. Баналь [297], М. Баскакаў [263], Я. Буткоўскі [312], І. Бяляеў [271], К. А. Ваенскі [336-344], А. Вандаль [317], А. Грэкаў [384], А. Гулевіч [395], М. Дубровін [423-427], М. Жэрве [440], Г. Леер [574-575], В. Надлер [665], С. Салаўёў [826-827], Д. Троіцкі [864], А. Н. Папоў [749-751], Н. Шыльдэр [919], Е. Шумігорскі [929], У. І. Харкевіч [878-882], А. Яхонтаў [940] і інш. былі больш аб'ектыўнымі ў адносінах да ваюючых



Старонка з «Французскай ілюстраванай энцыклапедыі» з біяграфіяй Напалеона і ілюстрацыямі. Са збораў бібліятэкі Фонда Напалеона ў Парыжы [50, 1215, с. 306].



Парыж. Музейны комплекс Луўр.

бакоў. Яны падверглі сумненню карэнныя палажэнні дваранскіх гістарыёграфаў аб выключнай ролі Аляксандра I у вайне 1812 года. На падставе грунтоўнага аналізу яны высветлілі прычыны ўзнікнення ваеннага канфлікту, пераканаўча падкрэслівалі, што не толькі гегеманізм і сквапнасць Напалеона выклікалі пажар вайны. Галоўная яе прычына крыецца ў сутыкненні палітычных і эканамічных інтарэсаў Расійскай і Французскай імперый.

У першай і пачатку II паловы XIX ст. у Расіі і за мяжой выйшла велізарная колькасць мемуарнага матэрыялу, які пісаўся непасрэднымі сведкамі і ўдзельнікамі вайны 1812 года. Пазней дзённікі і ўспаміны былі надрукаваны ў розных часопісах, зборніках і газетах.

Каштоўнымі па даследуемай тэме з'яўляюцца «Записки ген. Изюмова о действиях Чугуевского уланского полка в 1812 г.», у якіх раскрываюцца дзеянні асобных вайсковых часцей 3-й Заходняй арміі пад камандаваннем ген. М.Л. Булатава пад Слонімам [478], «Воспоминания...» ген. К.О. Ламбэрта аб узяцці ягоным атрадам г. Барысава і баявых дзеяннях падчас пераправы французскай арміі праз р. Бярэзіну [566], «Записки...» гр. А.Ф. Ланжэрона аб Бярэзінскай аперацыі, характарыстыках, дадзеных ім П.В. Чычагаву, Е.П. Чапліцу, аб складзе 3-й рускай арміі, данясеннях яе авангарда пад камандаваннем ген. К.О. Ламбэрта, аб'яднанні 3-й Заходняй і Дунайскай армій [567, 568], «Замечания...» гр. І.К. Арурка з нагоды захопу ім гг. Барысава і Пружан, аб памылках П.В. Чычагава пры вызначэнні месца пераправы войскаў Напалеона праз р. Бярэзіну, дзеяннях пры праследаванні французаў ад Маладзечна да Коўна, «Рассказ ген. Е.И. Чаплица» аб баявых аперацыях супраць войскаў аўстрыйскага ген. К.Ф. Шварцэнберга і французскага ген. Ж.Л. Рэнье каля гг.Брэста і Кобрына ў ліпені 1812 г. з характарыстыкай А.П. Тармасава, узяцці ў палон ген. Я. Канопкі ў Слоніме, дзеяннях пад Барысавам і на р. Бярэзіне [707].

Цікавыя звесткі аб узяцці атрадам ген. А.Г. Шчарбатава г. Брэст-Літоўска, баі пад г. Кобрынам і бітве пры Гарадзечне ў ліпені-жніўні 1812 г., дзяннях авангарда 3-й Заходняй арміі пад г. Барысавам і на р. Бярэзіне змяшчаюцца ў «Записках...» ген. Шчарбатава [930].

У сярэдзіне XIX ст. падзеі кампаніі 1812 года на тэрыторыі беларускіх губерняў у той ці іншай меры асвятляліся ў даследаваннях М. Без-Карніловіча [265], П. Кукальніка [560], Я. Тышкевіча [1309] і інш. працах.

Багаты матэрыял аб ваенным становішчы ў Герцагстве Варшаўскім, на тэрыторыі Гродзенскай губерні, адносінах мясцовага насельніцтва змяшчаецца ў мемуарных працах былога галоўнакамандуючага 3-й Заходняй арміяй адм. П.В. Чычагава. У ягоных «Записках...» больш крытычна выказваюцца погляды на працэс аб'яднання 3-й Заходняй і Дунайскай армій, на ўзяцце ген. Я.І. Чапліцам г. Слоніма, паланенне ген. Я. Канопкі, падзеі пры Койданаве, колькасць і размяшчэнне 3-й Заходняй арміі на р. Бярэзіне, бюлетэні французскай




Карта руху і баявых паходаў «Вялікай арміі» Напалеона [1305, p. 35].




Тытульны ліст кнігі «Гісторыі Напалеона і «Вялікай арміі». Са збораў Польскай бібліятэкі і музея Адама Міцкевіча ў Парыжы.



SUPPLÉMENT

A LA

CORRESPONDANCE DE NAPOLÉON I

L'EMPEREUR ET LA POLOGNE

PARIS
AU BUREAU DE L'AGENCE POLONAISE DE PRESSE
45, RUE DE RENNES, 45
1908

Тытульны ліст зборніка «Карэспандэнцыя Напалеона», 1908 г. Са збораў бібліятэкі Фонда Напалеона ў Парыжы [50, 1026].

арміі і заўвагі на іх аўтара. У сваіх успамінах ён выкладае свае аргументы і падвяргае крытыцы дзеянні М.І. Кутузава і П.Х. Вітгенштэйна падчас Бярэзінскай аперацыі [907-909].

Аб праліках М.І. Кутузава і памылках П.В. Чычагава, генералаў Е.І. Чапліца, П.Х. Вітгенштэйна піша ў сваіх «Записках...» кн. А.В. Галіцын [378], а ў «Дневнике партизанских действий...» Д.В. Давыдаў дае сваю ацэнку Бярэзінскай аперацыі. [398]. Важнымі звесткамі багаты «Записки...» ген. А. Ярмолава, у якіх ён таксама спрабуе абараніць гонар адм. Чычагава за ягоныя пралікі ў Бярэзінскай аперацыі. «И хотя среди современников были и такие, которые, скорее, оправдывали Чичагова ... однако общее мнение было неблагоприятно для него» [436].

Першым значным прадстаўніком буржуазнага кірунку ў гістарыяграфіі вайны 1812 года быў А.І. Папоў. Але ў сваіх сачыненнях ён асноўнае месца адводзіў праблеме рэабілітацыі М.І. Кутузава і значна менш — баявым дзеянням на тэрыторыі беларускіх губерняў [749-751].

Гэты прабел запоўніў адзін з вядомых дакастрычніцкіх гістарыёграфаў В.І. Харкевіч [878-882]. Лепш за ўсіх ён выклаў ход падзей на пераправе праз Бярэзіну. Няўдалае выкананне плана поўнага акружэння Напалеона на Бярэзіне, падкрэслівае В.І. Харкевіч, з'явілася вынікам намаганняў Аляксандра І умешвацца ў ход ваенных дзеянняў, а таксама сведчаннем няўмелага кіраўніцтва і няўзгодненых дзеянняў з боку адм. П.В. Чычагава і ген. П.Х. Вітгенштэйна. Адначасова В.І. Харкевіч змякчае віну адм. Чычагава. «Известие о переправе Наполеона через р. Березину было принято общественным мнением России как неудача... Общественное мнение искало виновника неудачи, и таким в глазах современников мог быть только адм. Чичагов» [878].

Падрыхтоўка да 100-гадовага юбілею вайны 1812 года новай хваляй узнялася сярод гісторыкаў таго часу. З найбольш значных работ гэтага перыяду неабходна адзначыць юбілейнае сямітомнае выданне «Отечественная война и русское общество 1812-1912 гг.». Аднак у раздзеле «Дзеянні на флангах» ягоны аўтар К.А. Саскі вельмі сціпла ацэньвае баявыя дзеянні 3-й рускай арміі, змясціўшы іх апісанне на двух аркушах са шматлікімі памылкамі, недакладнымі выразамі, скажэннямі назваў мястэчак і дат [710].

У перыяд падрыхтоўкі да 100-годдзя вайны 1812 года выйшла каля 600 твораў. Розныя аспекты тэмы закранулі ў сваіх работах расійскія даследчыкі Н.П. Чарапнін [899], П.М. Андрыянаў [239], Я.В. Барысаў [301], П.Г. Васенка [318], Ф.А. Кудрынскі [552-553], П.М. Плахаў [727], В.Е. Раманоўскі [776-777], А.А. Саламаха [828], Д.І. Троіцкі [863], С.І. Грэчушкін [385], Н.А. Палявы [739], Д.Н. Сеславін [810], Е.В. Багдановіч [291], Г.І. Валажынскі [347], А.П. Грэкаў [384], Н.П. Жэрве [440], А.Г. Елчанінаў [435], І.І. Іваноў [472], Н. Карабанаў [500], В.Я. Калакольнікава [526], Д.А. Назараў [666], П.А. Ніве [693], С.В. Тамілін [857], В.В. Бяляеў [269], В.І. Харкевіч [872-882], А.В. Архангельская [245] і шэраг іншых [242-244, 251, 256, 258, 259, 262, 268, 270-271, 274-277, 282, 297-298, 301, 307, 310-312, 318-319, 347-349, 351, 369, 376, 378, 383, 385, 395, 397, 415-417, 439, 465, 469, 494, 506, 521, 527, 535, 552-553, 560, 605, 617, 638, 640, 646, 649, 655-656, 659, 665-667, 696, 700-701, 725-726, 730, 736-738, 771, 775-778, 792, 794, 810, 813, 820, 827-828, 839, 869, 876, 889, 905, 927, 933].

У гэты перыяд сацыяльна-эканамічныя праблемы падчас кампаніі 1812 года ў заходніх губернях часткова і ў больш шырокім аспекце з доляй крытыкі беларускага дваранства за смеласць падняцця зброі супраць расійскіх уладаў і падтрымаўшых Напалеона аналізаваліся ў працах Я. Арлоўскага [704-705], Л. Брыліянтава [306], М. Бярнацкага [276], У. Глыбоўскага [376], В. Дабравольскага [415], Ф. Кудрынскага [552-553], А. Лучыны [605], А. Семянтоўскага [807], М. Фурсава [876], В. Цеханавецкага [889], С. Чысцякова [906] і інш.

Аднак неабходна справядліва адзначыць, што ў большасці прац, выдадзеных да 100-гадовага юбілею вайны 1812 года, асноўную ўвагу гісторыкі таго часу ўдзялілі даследванню баявых дзеянняў на галоўным тэатры вайны, а многія ар'ергардныя баі і бітвы на тэрыторыі беларускіх губерняў, адносіны мясцовай шляхты і сялян да напалеонаўскіх уладаў ці зусім не асветлены, ці асветлены вельмі тэндэнцыёзна.

Нават палкоўнік Генеральнага штаба расійскай арміі М. Іластранцаў адзначыў, што ў даследаваннях расійскіх гісторыкаў «операции 3-й армии генерала Тормасова остались в тени». Такое становішча ён назваў «односторонним и недостаточно научным». Адну з прычын гэтага ён бачыў у тым, што «все внимание и интерес историки сосредоточили на тех событиях, в которых лежал центр тяжести войны» [480].

Пра ваенна-палітычнае становішча ў Мінску, Барысаве і Барысаўскім павеце і дзеянне Мінскага Часовага ўраду падчас французска-расійскай кампаніі 1812 года на падставе мясцовых архіваў найбольш папулярна выказваецца даследчык У. Краснянскі [544-545].

Першым буйным савецкім гісторыкам, асвятліўшым баявыя дзеянні і ваенна-палітычнае становішча на тэрыторыі Заходніх губерняў, быў М. Пакроўскі [736-538]. Ягоныя погляды на падзеі вайны 1812 года былі выкладзены, галоўным чынам, у раздзеле «Знешняя палітыка Расіі ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст.» [736].

Нягледзячы на тое, што работы Пакроўскага мелі памылкі і недакладнасці, у прыватнасці ягоная характарыстыка дзеянняў галоўнакамандуючых 3-й Заходняй арміяй Тармасава і Чычагава, але з боку іншых



гісторыкаў яны не выклікалі аргументаваных пярэчанняў, так як былі накіраваны супраць дваранскай і буржуазнай гістарыяграфіі.

У 20-х і 30-х гг. XX ст. значных прац па гісторыі вайны 1812 года было мала, але і ў тых, якія выходзілі, пытанні ўдзелу насельніцтва беларускіх губерняў у французска-расійскай кампаніі не знайшлі свайго адлюстравання.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны 1941-1945 гг. з'явіўся шэраг кніг, брашур і артыкулаў пра вайну 1812 года [316, 571, 693, 812, 836, 847, 853]. У гэтых працах, нават такіх буйных, як «Нашествие Наполеона на Россию» Е.В. Тарле, толькі мімаходзь гаворыцца аб ваенных дзеяннях 3-й Заходняй і Дунайскай армій на тэрыторыі Беларусі.

У пасляваенныя гады ажывілася дзейнасць гістарыёграфаў па распрацоўцы і апублікаванні архіўных матэрыялаў. У манаграфіях Л.Г. Бяскроўнага па-новаму адлюстраваны ваенна-стратэгічныя пытанні на беларускім тэатры вайны, аднак дзейнасць левафлангавай групіроўкі армій, якая дзейнічала на тэрыторыі Беларусі, асветлена па старой схеме [277-281, 357-358, 795, 864, 885].

Да 150-гадовага юбілею вайны 1812 года выйшла кніга беларускага гісторыка Е.І. Карнейчыка «Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года». Аўтар у папулярнай форме распавядае пра ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі, апісвае найбольш буйныя аперацыі расійскіх армій, асабліва 3-й Заходняй, гераізм рускіх воінаў, беларускіх сялян у барацьбе супраць французаў.

Недахопам гэтай працы з'яўляецца той факт, што аўтар лічыць партызанскую вайну на Беларусі «ўсенароднай» і апускае прыклады станоўчых адносін насельніцтва заходніх губерняў Беларусі да напалеонаўскіх планаў і войскаў, а з другога боку — варожасць значнай часткі насельніцтва да рускай арміі [530].

У 1970-1980 гг. выйшлі грунтоўныя працы Н. Троіцкага [864] і П. Жыліна [441-443], у якіх на падставе значнага архіўнага матэрыяла асвечаны ваенныя падзеі на тэрыторыі Беларусі, але ў дадзеных даследаваннях зусім адсутнічаюць шмат якія эпізоды баявых дзеянняў 3-й Заходняй арміі ў чэрвені-жніўні 1812 г., нават няма ўпамінання аб першай пераможнай бітве арміі Тармасава ў Кобрыне, бітве пад Гарадзечна, шмат якіх іншых баях і бітвах у Беларусі [865].

З сучасных прац заслугоўваюць увагі даследаванні расійскіх гісторыкаў Б.С. Абаліхіна і В.А. Дунаеўскага, але і ў іх выпадаюць з поля зроку некаторыя баявыя аперацыі на тэрыторыі Беларусі [224-227].

У савецкі перыяд найбольш рэалістычную і аб'ектыўную пазіцыю ў адносінах да сацыяльна-эканамічнага і палітычнага становішча на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў, праектаў адраджэння ВКЛ у рэчышчы вырашэння «польскага пытання»,



CORRESPONDANCE

DE

NAPOLÉON PREMIER.

ANNÉE 1812.

18879. — A ALEXANDRE, EMPEREUR DE RUSSIE,

À SAINT-PÉTERSBOURG.

Monsieur mon Frère, j'ai reçu la lettre de Votre Majesté. La guerre qui divisait nos états se termina par le traité de Tilsit. J'avais été à la conférence du Niemen avec la résolution de ne pas faire la paix que je n'eusse obtenu tous les avantages que les circonstances me promettaient. J'avais en conséquence refusé d'y voir le roi de Prusse. Votre Majesté me dit : *Je serai votre second contre l'Angleterre.* Ce mot de Votre Majesté changea tout ; le traité de Tilsit en fut le corollaire. Depuis, Votre Majesté désira que des modifications fussent faites à ce traité ; elle voulut garder la Moldavie et la Valachie, et porter ses limites sur le Danube. Elle eut recours aux négociations. Cette importante modification au traité de Tilsit, si avantageuse à Votre Majesté, fut le résultat de la convention d'Erfurt. Il paraît que, vers le milieu de 1810, Votre Majesté désira de nouvelles modifications au traité de Tilsit. Elle avait deux moyens d'y arriver, la négociation ou la guerre. La négociation lui avait réussi à Erfurt ; pourquoi, cette fois, prit-elle un moyen différent? Elle fit des armements considérables, déclina la voie des négociations, et parut ne vouloir obtenir de modifications au traité de Tilsit que par la protection de ses nombreuses armées. Les relations établies entre les deux puis-

Францыя, прадмесце Парыжа, замак Мальмазон, колішняя ўрадавая рэзідэнцыя Напалеона. Цяпер — музейны комплекс Напалеона і Жазэфіны Банапартаў. Гравюра 1866 г. Жана-Луіса-Віктора Вігера (1819-1879) [1005, с. 51-а].

Першая старонка пісьма Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г. да імператара Аляксандра І з тлумачэннем аб прычынах ваенных дзеянняў супраць Расійскай імперыі.
Са збораў бібліятэкі Фонда Напалеона ў Парыжы [50, 1026].

дзейнасці Камісіі Часова ўрада ВКЛ і інш. аспектаў французска-расійскай кампаніі 1812 года заняў літоўскі даследчык Б. Дундуліс [1051-1053].

Беларускія гісторыкі савецкага перыяду В. Аношка [722], В. Каракін [536], С. Кот [722], А. Мартынаў [625-632], Л. Лінеў [581], Б. Міралюбаў [647], І. Пірожнік [722], В. Чарнатаў [896-897], а таксама аўтар дадзенай манаграфіі [681-688] у канцы 1980-х гг. у большасці сваёй прытрымліваліся традыцыйных поглядаў пры асвятленні падзей 1812 года на тэрыторыі Беларусі.

У 1990-2010-я гг. шэрагам беларускіх даследчыкаў апублікавана на старонках часопісаў, газет, у зборніках Міжнародных канферэнцый значная колькасць артыкулаў на рускай мове, у якіх выказана прынцыповая пазіцыя пра вайну 1812 г. на тэрыторыі Беларусі, ролю і месцы ў ёй насельніцтва і Часовай Камісіі ВКЛ, створанай паводле загаду Напалеона Банапарта ў першыя дні вайны.

Напрыклад, С. Александровіч параўноўвае паходы Напалеона з войнамі антычных палкаводцаў [235], С. Асіноўскі сцвярджае, што пад сцягамі Напалеона ваявалі 23 тысячы беларускіх воінаў [249], І. Бамбешка распавядае пра зборы кніг І. Каладзеева як комплексе крыніц аб расійска-французскіх адносінах 1805-1815 гг. [296], І. Груцо — аб таямніцах напалеонаўскіх скарбаў, лёсе маскоўскіх трафеяў і ўшанаванні ахвяраў Бярэзінскай пераправы [390-393], А. Ерашэвіч — аб тэрміналогіі вайны 1812 года [437], Э. Іофе — пра ўдзел беларускіх яўрэяў у вайне 1812 года [481], Д. Карэў і Ф. Рабкоў — аб гістарыяграфічных і крыніцазнаўчых аспектах вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі [503], Э. Кабяк — пра гісторыю аднаўлення помніка-капліцы 1812 г. на полі бітвы каля в. Гарадзечна [518-520], Е. Крывіцкая — аб складзе Камісіі Часовага ўраду ВКЛ [548], І. Кудрашоў — пра Узброеныя сілы ВКЛ у вайне 1812 года [554-556], Ю. Літвіноўская — аб стратах беларускага народа ў вайне 1812 года і фіскальнай палітыцы французскіх уладных структур [587-588], А. Лукашэвіч — пра планы Расійскага ўраду ў дачыненні да Беларусі, помнікі і памятныя мясціны 1812 г., палітычную сітуацыю і праекты аднаўлення ВКЛ [697-603], У. Лякін — пра беларускія палі сражэнняў [610-612], Е. Макаранка — пра мемуарную літаратуру [616], Л. Несцярчук — пра ўдзел брэстаўчан на баку Напалеона [680], І. Аржахоўскі і В. Цяплова — пра «польскае пытанне» [703], Д. Самахвалаў — пра дваісты характар паводзін удзельнікаў і сведкаў вайны 1812 года [793], У. Сосна — пра вайну 1812 года і Беларусь [829], У. Швед — пра падзеі 1812 года на Гродзеншчыне [914].

У 2003 г. Белдзяржуніверсітэтам, дзякуючы сумесным намаганням беларускіх даследчыкаў А. Яноўскага, К. Козака і дырэктара Цэнтра напалеонаўскіх даследаванняў Ф. Бакура (Францыя), выйшла ў свет кніга ў перакладзе на рускую мову пад назвай «Исполнено по высочайшему повелению...». Асноўны змест кнігі складае рапарт, пададзены Напалеону Банапарту 10 лютага (па н/стылю) 1812 г. начальнікам ягонай контрразведкі, польскім ген. М. Сакальніцкім, з апісаннем панарамы ваенна-палітычнай сітуацыі ў Расіі, Польшчы, Літве і Беларусі напярэдадні вайны 1812 г., планамі магчымага шляху паходу Напалеона ў Расію, з прапановамі па расчляненні тэрыторыі Расіі на шэраг васальных «герцагстваў» і шляхамі адраджэння польскай дзяржаўнасці [824].

Баявыя дзеянні армій Напалеона на тэрыторыі Беларусі займаюць значнае месца ў гістарычнай літаратуры замежных дзяржаў.

Асабліва вялікую ўвагу гэтай тэме надавалі і надаюць гістарыёграфы Францыі, Аўстрыі, Польшчы, Германіі, Англіі, ЗША і інш. краін Еўропы, якія бралі ўдзел у вайне 1812 года, бо значная частка саюзных Напалеону войскаў (7-мы саксонскі корпус ген. гр. Ж.-Л. Рэнье, аўстрыйскі экспедыцыйны корпус ген. кн. К.-О. Шварцэнберга, 17-я польская дывізія ген. Я. Г. Дамброўскага, палкі ген. А. Ражнецкага, 3-ці полк напалеонаўскай



Парыж. Сабор Парыжскай Божай Маці (Notre-Dame de Paris).
Фота аўтара, 2011 г.

імператарскай гвардыі брыгаднага ген. Я. Канопкі, 6-ты баварскі корпус ген. К. Врэдэ, 5-ты польскі корпус марш. Ю. Панятоўскага і інш.) дзейнічалі супраць расійскіх войскаў на тэрыторыі беларускіх губерняў.

Першымі французскімі гісторыкамі, пачаўшымі даследаванні похода Напалеона на Расійскую імперыю, лічацца Манлазье [1202] і Дзюрдан [429]. Але ў сваіх даследаваннях гэтыя гісторыкі распрацоўвалі ў асноўным праблему асобы імператара Напалеона.

У 1814 г. у Парыжы выйшла кніга Я. Лабома, у якой французскі даследчык упершыню найбольш грунтоўна апісвае баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі. На падставе гэтай працы шэраг расійскіх дваранскіх гісторыкаў апісвалі баявыя аперацыі ў заходніх губернях Расійскай імперыі [563, 1141].

Удзельнік паходу ў Расію Жорж дэ Шамбрэ ў 1823 г. выдаў кнігу «Гісторыя пахода ў Расію», якая з'яўляецца адным з лепшых ваенна-гістарычных апісанняў, а ў сэнсе фактычнага матэрыялу па праблеме баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі не страціла значэння і сёння. Так, апісваючы Бярэзінскую аперацыю, Шамбрэ адзначае, што калі Напалеону пашанцавала ўратавацца на Бярэзіне, то выключна з-за памылковых паводзінаў расійскіх генералаў [1010].

Вялікую цікавасць па даследуемай тэме прадстаўляюць кнігі-ўспаміны былога ад'ютанта Напалеона Філіпа Поль Сегюра. І калі





Парыж. Ансамбль Інвалідаў. Музейны комплекс: Дом Інвалідаў, музей Арміі, музей планаў і рэльефаў, музей Ордэна вызвалення і сабор з грабніцай Напалеона Банапарта, 2011 г.

Парыж. Алтар у саборы Інвалідаў перад грабніцай Напалеона Банапарта, 2011 г.

Грабніца Напалеона Банапарта ў саборы Ансамбля.
Парыж. Ансамбль Інвалідаў.



аб дзеяннях арміі ген. Тармасава ў пачатковы перыяд вайны на тэрыторыі Гродзенскай губерні няма ўспамінаў, то падзеі пад Мінскам, Барысавам, асабліва Бярэзінская аперацыя, апісаны даволі падрабязна. Аўтар адзначае, што падзеі на Бярэзіне былі страшэннымі, бо ў выніку праз граніцу прайшлі толькі «два каралі, адзін прынц, восем маршалаў у суправаджэнні некалькіх афіцэраў, генералы, якія ішлі пехатою без усялякага парадку, і нарэшце некалькі сотняў салдат старой гвардыі з узбраеннем — гэта было ўсё, што засталося! Яны прадстаўлялі сабой «Вялікую армію» [804, 1268, 1269].

Расійскаму паходу Напалеона прысвяціў свае працы французскі гісторык г. Жаміні [445-449], у якіх аўтар на падставе апублікаваных матэрыялаў апісаў асноўныя падзеі 1812 года на тэрыторыі Беларусі. «Я лічыў, — піша Жаміні словамі Напалеона, — што рускія будуць бараніць Літву, і спадзяваўся выйграць сражэнне, калі яны прымуць яго» [445].

У сярэдзіне XIX ст. з'явіліся даследаванні А. Цьера [866, 1292], Ж. Мішле [657], А. Сарэля [831], А. Вандаля [317], А. Рамбо [764] і інш. французскіх гісторыкаў [961, 963-964, 987, 1020, 1025, 1041, 1048, 1055, 1076]. Аб баявых дзеяннях 3-й Заходняй арміі на тэрыторыі Беларусі гэтыя аўтары пісалі мала, абмежаваўшыся ў асноўным падзеямі на Бярэзіне.

З работ пачатку XX ст. у Францыі найбольшай увагі па названай тэме заслугоўваюць кнігі Лавіса і Рамбо «Гісторыя XIX ст.» [564] і «Віленская аперацыя» Анры Баналя [297], «Напалеон у Еўропе» Эдуарда Дрыа [1047], працы Жоржа Лефеўра [1151] і Жака Бенвіля [956] «Напалеон», у якіх мы знаходзім апісанне баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі ў вайну 1812 года.

Дарэчы, Жак Банвіль быў упэўнены, што Маскву спалілі не французы, а, паводле загаду расійскага камандавання, быў здзейснены акт «рускага варварства» [956].

У сваіх мемуарах шмат новых фактаў аб баявых дзеяннях на тэрыторыі Беларусі раскрываюць французскія афіцэры і генералы, удзельнікі пахода 1812 года. У прыватнасці, начальнік артылерыі III корпуса Л. Грыўуа [388], ад'ютант штаба імператарскай гвардыі Б. Кастэлан [539], генерал і дыпламат А.-О. Каленкур [523-525], ад'ютант світы Напалеона Ж.-Р. Куанье [550], генерал і інспектар санслужбы арміі Напалеона Д.Ж. Ларэй [570], лейтэнант корпуса маршала Удзіно Т. Легляр [573], генерал штаба пяхотнага корпуса маршала Даву Ф.Л. Лежэн [576], афіцэр 4-га корпуса маршала Багарнэ Лаж'е дэ Балакур [577], афіцэр 8-га корпуса маршала Жуно Ф.В. Лосберг [592-593], фельдшар 3-га конна-егерскага палка, узяты ў палон на Бярэзіне г. У. Рос [779], афіцэр кірасірскай дывізіі А. Цірыён [856], французская актрыса Л. Фюзі [877], афіцэр корпуса маршала Даву Ж.-Ф. Булар [308] і інш. гісторыкі прысвяцілі свае работы ваенным дзеянням на беларускіх землях, асабліва ў Бярэзінскай аперацыі.

Рэдкія звесткі змяшчае ў сваіх запісках французскі грамадзянскі інтэндант у Беларусі Пастарэ, у прыватнасці аб ходзе ўтварэння Часовага ўрада ў Вільні, выказвае добрыя пачуцці да беларусаў, палякаў, паслядоўна раскрывае працэс увядзення французскай адміністрацыі ў Беларусі [719].

У 1952 г. выйшла кніга Жозефа Кальметта «Наполеон», у якой аўтар лічыць самай важнай падзеяй рускага похода дзеянні на Бярэзіне. «Рускі план акружэння, — піша ён, — быў выкананы, але выратавалі Напалеона і рэшткі ягонай арміі ад поўнага знішчэння маршалы Віктор і Ней, а таксама няўзгодненасць рускіх генералаў» [495].

Адной з грунтоўных прац французскай гістарыяграфіі 60-х гг. XX ст. з'яўляецца работа Луі Мадлена «Катастрофа в России», якая ўяўляе сабой адзін з 15 тамоў «Истории консульства в империи». Апісваючы падзеі на Бярэзіне, аўтар адзначае, што вялікія пралікі Напалеона прывялі да катастрофы, у выніку чаго «Вялікая армія», якая налічвала 50 тысяч чалавек, была сціснута на прасторы 15 кв. лье і, дзейнічаючы супраць 100-тысячнага войска

Кутузава, Чычагава і Вітгенштэйна, амаль уся загінула [613].

У перыяд 1990-2010-х гг. выйшаў шэраг новых выданняў сучасных французскіх даследчыкаў, у якіх адлюстраваны больш паглыблены падыход да гісторыі французска-расійскай кампаніі 1812 года [957, 960, 962, 968, 985, 992, 1007, 1017, 1038, 1085, 1098, 1153, 1173, 1230, 1297].

Тым не менш, французская навуковая літаратура пра вайну 1812 года, паводле А. Манфрэда, значна бяднейшая, чым расійская. Гэта тлумачыцца нязначнай архіўнай базай, якая захавалася ў архівах і фондах Францыі. Апошнія даследаванні паказалі, што пры адступленні і бегстве французскай арміі з-за недастачы коней і павозак пад Оршай 20-21 лістапада 1812 года загадам французскага камандавання ўвесь архіў напалеонаўскай арміі быў спалены [47, 621].

З даследчыкаў нямецкай гістарыяграфіі XIX ст. па нашай праблеме неабходна адзначыць В. Клаўзевіца, непасрэднага ўдзельніка вайны 1812 года. Ён неаднаразова падкрэсліваў рашаючую ролю ў перамогах Расійскай імперыі саветнікаў-германцаў, якія служылі пры рускай арміі [513-514].

У сярэдзіне XIX ст. была выдадзена «Сусветная гісторыя» Ф. Шлосера, у якой аўтар лічыць, што катастрофа на Бярэзіне з'явілася вынікам парушэнняў у справе забеспячэння войска, таму ў арміі Напалеона наступіў голад, а рускі мароз канчаткова дабіў французскую армію [925].

З найбольш буйных работ у нямецкай гістарыяграфіі XX ст., у якіх закраналіся па-



Экспазіцыя гармат 1812 г. Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў. Фота аўтара, 2011 г.

дзеі вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі, неабходна адзначыць працы Ф. Мерынга [643], Г. Дэльбрука [410], Г. Лінднера [1165], А. Нордэна [1214].

Гістарыёграфы Англіі і Амерыкі таксама распрацоўвалі тэматыку вайны 1812 года. У вядомым сачыненні В. Скота «Жыццё Напалеона» аўтар падрабязна апісвае падзеі ў Беларусі пры адступленні французаў. Ён падкрэслівае, што наступіўшыя марозы значна ўзмацнілі пакуты і павялічылі страты французаў, што зіма зрабіла адступленне «Вялікай арміі» страшэнным бедствам і яно стала неабходным [817, 1273].

У 1860 г. у Лондане былі надрукаваны мемуары Р. Вільсана, які падчас вайны 1812 года знаходзіўся пры штабе расійскай арміі ў якасці ваеннага аташэ. На Расію ён глядзеў як на «прыладу» ці «прыдатак» Англіі ў яе барацьбе з напалеонаўскай Францыяй і ўсе падзеі ацэньваў з пункту гледжання іх адпаведнасці інтарэсам Англіі [327, 1316].

У ЗША да 100-гадовага юбілею вайны 1812 года выйшла праца г. Белока «Кампанія 1812 года і адступленне ад Масквы». Аўтар па агульнай схеме выклаў увесь ход вайны, але больш падрабязна асвяціў яе першапачатковы этап на тэрыторыі Беларусі, а таксама Бярэзінскую аперацыю [971].

У 1957 г. у Нью-Йорку быў выдадзены зборнік пад назвай «Перапісванне рускай гісторыі. Савецкая інтэрпрэтацыя мінулага Расіі». У дадзеным зборніку ёсць артыкул Л. Яраша «Кампанія 1812 года». Аўтар артыкула ўзяў на сябе задачу паказаць эвалюцыю поглядаў савецкіх гісторыкаў на вайну 1812 года, што савецкая гістарыяграфія прарабіла складаны шлях паступовага пераходу з марксісцкіх пазіцый на пазіцыі дваранскія [939, 1328].

Польская гістарыяграфія XIX — I паловы XX стст. адрозніваецца тым, што ў цэнтры ўвагі даследчыкаў больш за ўсё знаходзіліся пытанні аднаўлення польскай дзяржаўнасці падчас напалеонаўскага ўладарання, асвячэння Бярэзінскай аперацыі, фарміравання польскіх легіёнаў, жыцці і дзейнасці кн. Я.Г. Дамброўскага і Ю. Панятоўскага [949-954, 959, 976-983, 1037, 1039, 1056, 1065, 1069, 1087, 1093, 1095, 1111, 1121, 1130, 1203, 1236, 1238, 1262, 1264, 1285, 1317, 1331-1332], а таксама раскрыццё тэмы ваенна-палітычнага становішча на беларускіх і літоўскіх землях, асабліва ў працах Ю. Івашкевіча [1103-1104] і М. Кукеля [1134-1139].

Сучасныя польскія гісторыкі працягваюць даследаванне напалеонаўскіх войнаў, але ў значна іншым і пераасэнсаваным аспекце [1033, 1043, 1129, 1180, 1192, 1197, 1270, 1274-1277, 1336].

Напрыклад, гісторык Ш. Аскеназы падрабязна апісаў місію А. Чартарыйскага да князя ген. Ю. Панятоўскага з прапановай Аляксандра I аб саюзе супраць Напалеона і пра тайную падрыхтоўку дамовы Княства Варшаўскага з Урадам Расійскай імперыі ў лістападзе-снежні 1812 г. [952]. Тэму месца ВКЛ у планах ваюючых бакоў закранае ў сваіх працах У. Фельдман [1069], даследчык М. Хандэльсман звяртае ўвагу на супрацоўніцтва Францыі і Польшчы напярэдадні вайны 1812 года [1090-1095], М. Кукель адзначыў высілкі А. Чартарыйскага як план супрацістаўлення ВКЛ Кароне і дае адрозненне ВКЛ ад Белай Русі [1134], Ю. Скаўронак знаёміць нас з планамі А. Чартарыйскага падчас яго найбольшага ўплыву на тагачасную расійскую палітыку [1274].

## Аналіз беларускамоўнай гістарыяграфіі

Пасля абвяшчэння нашай краіны ў 1991 г. незалежнай Рэспублікай Беларусь адбылася карэнная змена ў поглядах большасці беларускіх гісторыкаў на вайну 1812 года як на Айчынную, а таксама на ролю ў ёй беларускага народа.

Найбольш актыўную і смелую пазіцыю ў дачыненні да нашай тэмы займалі і займа-

юць ужо вядомыя гісторыкі А. Грыцкевіч [52, 93], У. Арлоў [57-59], Я. Юхо і В. Сажына [219], а таксама малавядомыя і маладыя гісторыкі Ш. Бекцінееў [68-72], А. Бензярук [74-81], Ю. Вільчак [88], С. Таляронак [187-193], В. Піліпчык [170], М. Цуба [205] і інш.

Пачалася праца над айчыннымі энцыклапедычнымі выданнямі, якія ў хуткім часе папоўніліся змястоўнымі і фактурнымі артыкуламі пра французска-расійскую кампанію на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку публікацыі В. Антонава [54-57], А. Ерашэвіча, [106, 110], С. Рудовіча [57], В. Шведа [57, 209-211] і інш.

У шэрагу публікацый А. Блінца [83], Я. Ліса [126], А. Літвінскага [129], А. Ружанца [175], К. Тарасава [194-195], А. Філатавай [196-199] і інш. па тэматыцы французска-расійскай кампаніі 1812 года аўтары пачалі пазбаўляцца ўжывання тэрміна «Айчынная вайна 1812 года», аргументуючы такі падыход разнастайнымі дакументальнымі сведчаннямі.

Дзякуючы паслядоўнай дзейнасці гісторыкаў БДУ К. Козака [119, 522], Ф. Бакура [966-970] і інш. праведзены навуковыя канферэнцыі па нашай тэме, на якіх з грунтоўнымі і спецыялізаванымі выкладамі на розных мовах выступілі шэраг айчынных і замежных навукоўцаў: Э. Іофе [481], А. Радзюк [172], С. Данскіх [99], Ю. Літвіноўская [128], Д. Карацееў [534], А. Сцебурака [185], Д. Самахвалаў [793], С. Жарко [438], І. Бамбешка [296], Е. Макаранка [616], А. Гіза [1080], Л. Шэр-Зямбіцка [1263], С. Аляксандровіч [235], В. Раховіч [768] і інш.

Аргументавана падыходзіць да аналізу арганізацыі Камісіі Часовага ўраду ВКЛ, падрыхтоўкі праектаў Канстытуцыі і палітычных праектаў ВКЛ 1811 года, шэрагу іншых сацыяльна-палітычных праблем адраджэння ВКЛ пад апекай Напалеона Банапарта і Аляксандра І А. Ерашэвіч [101-109].

Найбольш грунтоўнымі даследаваннямі, якія ўсебакова адлюстроўваюць ваенна-палітычнае становішча Беларусі напярэдадні і падчас французска-расійскай кампаніі 1812 года, з'яўляюцца шматаспектныя працы даследчыка падзей 1812 года на Беларусі В. Шведа [206-215].

Пытанням арганізацыі і дзейнасці расійскай службы конрразведкі, камплектавання расійскага войска беларускімі рэкрутамі ў канцы 18 ст., планавання і падрыхтоўкі расійска-прускай наступальнай аперацыі супраць Княства Варшаўскага восенню 1811 г., апрацоўцы неапублікаваных матэрыялаў па тэме з беларускіх архіваў прысвяціў свае навуковыя працы А. Лукашэвіч [130-136, 268].

Разглядаемая тэма больш чым у іншых даследчыкаў распрацавана А. Лукашэвічам у яголым вучэбна-метадычным комплексе «Беларусь напярэдадні і ў час вайны 1812 г.», у якім у шырокім аспекце пададзены гістарыяграфія і крыніцы гэтага перыяду ў гісторыі Беларусі [131].

Асвячэнню рознабаковых пытанняў пра падзеі 1812 г. на тэрыторыі Беларусі прысвяцілі свае артыкулы М. Багадзяж [65], І. Барашка [67], А. Блінец [83], П. Брыгадзін [84], М. Маліноўскі [141, 618], Э. Паўловіч [167], А. Ружанец [175], У. Сосна [183-184], С. Сяргейчык [186], М. Яніцкая [220] і інш. даследчыкі.

Значна павялічылася ўвага мясцовых даследчыкаў да падзей французска-расійскай кампаніі 1812 года на тэрыторыі Беларусі падчас напісання гарадскіх і раённых кніг-хронік «Памяць» у канцы XX — пачатку XXI стст. [51, 53, 60-64, 66, 68-70, 72, 75, 85, 87, 90-91, 95-97, 111, 113-118, 120-123, 137-140, 142-143, 147-151, 164-166, 168, 171, 173, 177-181, 200, 204, 213-214, 217-218, 221-223].

Погляды аўтара дадзенай манаграфіі па тэме таксама прайшлі пэўны эвалюцыйны шлях, дастаткова выкрысталізаваліся, таму ягоныя публікацыі ўзбагаціліся новымі фактычнымі матэрыяламі па праблематыцы вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі [155-163].



Парыж.
Музей А. Міцкевіча.
Прэзентацыя аўтарскіх кніг дырэктару музея Дануце Дубайс, 2011 г.



Парыж. Экспазіцыйны зал музея А. Міцкевіча.
Фота аўтара, 2011 г.

## Крыніцы

Усе выяўленыя крыніцы па даследуемай тэме мэтазгодна падраздзяліць на 4 групы: 1. Афіцыйныя дакументы. 2. Эпісталярныя крыніцы. 3. Сучасная прэса. 4. Картаграфічныя матэрыялы.

Асноўная маса афіцыйных дакументаў аб баявых дзеяннях вайны 1812 года ўтрымліваецца ў фондах Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва (РДВГА) у Маскве [I] і Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва (РДГА) у Санкт-Пецярбургу [II]. Да іх адносяцца акты вышэйшых органаў улады Расіі, большасць якіх змешчана ў фондзе Ваенна-вучонага архіва — ВВА, цяпер фонд 846, вопіс 16 Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве (маніфесты, указы, рэскрыпты, распараджэнні, загады імператара Аляксандра І, у т.л. Найвышэйшыя



Парыж. Версаль. Парк і паркавы фасад музейнага ансамбля.

Калекцыя кніг Ю. І. Крашэўскага.
Са збораў дзяржаўнага музея Ю. І. Крашэўскага ў Раманове (Польшча), 2008 г.



рэскрыпты на імя ген. Тармасава аб дастаўцы данясенняў і аб дзеяннях супраць непрыяцеля ад 21 чэрвеня, аб выдварэнні з тэрыторыі Заходніх губерняў падазроных асобаў ад 17 ліпеня, аб прызначэнні кн. Кутузава галоўнакамандуючым расійскімі войскамі ад 8 жніўня, аб прызначэнні ген. Тармасава галоўнакамандуючым 2-ой Заходняй рускай арміяй замест смяротна параненага ген. Баграціёна ад 1 верасня [1, спр. 3643. – Л.1-31].

Багатая калекцыя матэрыялаў аб баявых дзеяннях у вайну 1812 года на тэрыторыі Беларусі змяшчаецца ў фондах 103, 474 і 489 РДВГА. Напрыклад, у фондзе 474 знаходзяцца загады па 3-й Заходняй арміі адм. П. В. Чычагава з 17 лістапада 1812 г. па 2 лютага 1813 г. У асобныя справы згрупаваны матэрыялы з рапартамі адм. Чычагава, планамі аперацый, спісамі загінуўшых у бітвах і сутычках, спісамі генералаў і афіцэраў, атрымаўшых баявыя ўзнагароды за ўдзел у баявых аперацыях, расклад войск 3-й Заходняй арміі [5, спр. 40, 42, 64-67, 95-101].

У фондзе 489 РДВГА змяшчаецца 11 тысяч 375 спраў з фармулярнымі спісамі складу рускіх армій ад радавых салдат усіх родаў войск да афіцэраў і генералаў з рапартамі аб прызначэннях і пасмяротнымі дакументамі [6].

Шмат новых фактаў выяўлена аўтарам пры вывучэнні матэрыялаў фонда 103 РДВГА (фонд Барклая дэ Толі). У ім змяшчаюцца даклады і данясенні, рэляцыі і справаздачы камандуючых палкамі, дывізіямі і карпусамі аб баявых дзеяннях у пачатку вайны 1812 года, справаздачы гр. Ламберта аб баях каля Пружан, мм. Козі-Брод і Гарадзечна, пастанова камісіі «Георгіеўскага савета» 3-й Заходняй арміі аб узнагароджанні генералаў і афіцэраў гэтай арміі ардэнамі св. Георгія 4 кл. і інш. [3].

У асобную справу фонда 103 РДВГА згрупаваны матэрыялы ваеннай канцэлярыі галоўнакамандуючага 3-й Заходняй арміяй з узнагароднымі матэрыяламі на генералаў Сакена, Эртэля, Ламберта, Чапліца, Хрушчова за баявыя аперацыі ў Кобрыне (15 ліпеня), пры: в. Сігневічы (27 ліпеня), г. Пружаны (27 ліпеня), м. Гарадзечна (31 ліпеня–1 жніўня), м. Выжва (13 жніўня), в. Гарбацэвічы (3 верасня), г. Нясвіжы (8 верасня), пад Барысавам (9 лістапада), в. Стахава (16 лістапада). У паімённых і паслужных спісах шмат эпізодаў з баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі [3].

Важную інфармацыю ўтрымліваюць журналы баявых дзеянняў. Па даследуемай тэме ў фондзе ВВА (Ф. 846) іх змяшчаецца 30, большая палавіна яшчэ не апублікавана. Галоўныя з іх: «Журнал Галоўнага штаба», «Журнал Дунайскай арміі», «Журнал 3-й Заходняй арміі». Гэтыя журналы адлюстроўваюць шырокае кола пытанняў адносна арганізацыі, колькасці, дыслакацыі, руху армій па тэрыторыі Беларусі, правядзення

рэкагнасцыровак, будаўніцтва ўмацаванняў, утварэння баз забеспячэння, планаў аперацый, дыслакацый, баёў, бітваў, звестак аб складзе, колькасці і руху войск праціўніка, аб ягоных стратах у жывой сіле, трафеях расійскіх войскаў [1, спр. 3484, 3517].

У гэтым фондзе аўтару ўдалося выявіць амаль усе рапарты, данясенні камандуючых войскамі ад ротных камандзіраў да камандуючых карпусоў 3-й Заходняй арміі, усе значныя і дробныя баявыя дзеянні на тэрыторыі Беларусі. Вывучэнне журналаў баявых дзеянняў, рапартаў дапамагло зрабіць вывады аб тым, наколькі паспяхова выконваліся войскамі стратэгічныя замыслы галоўнага камандавання, як рыхтаваліся і праводзіліся баявыя аперацыі. У журналах падводзяцца вынікі асобных баёў, перамяшчэнняў, утрымліваюцца важныя звесткі аб маральным стане, гераізме салдат і афіцэраў з абодвух варожых бакоў [1].

У фондзе ВВА выяўлена таксама значная колькасць матэрыялаў, якія змяшчаюць калекцыі пісем генералаў Тармасава, Чычагава, Ярмолава, Вітгенштэйна, Эсена. Тут сабраны надзвычай цікавыя дакументы, накіраваныя ў свой час на імя ваеннага міністра Барклая-дэ-Толлі, якія датычацца пераважна палітычных і ваенных абставін у заходніх краінах Еўропы, пісьмы і данясенні ваенных агентаў аб зборах і перасоўваннях войск, становішчы фартыфікацыйных аб'ектаў, назіраннях за заходняй граніцай, шэраг звестак аб становішчы спраў і ваенных прыгатаваннях у Аўстрыі, данясенні флігель-ад'ютанта Чарнышова з Парыжа і ўласнаручнае пісьмо кн. Баграціёна адносна неабходнасці звярнуць асаблівую ўвагу на заходнюю граніцу, аб палітычным настроі сярод насельніцтва ў Герцагстве Варшаўскім і Літве, арыгінальны рукапіс з характарыстыкай польскіх генералаў, іх поглядамі на адносіны Польшчы да Расіі і Францыі, праект герцага Вюртэмбергскага адносна выенных дзеянняў у Герцагстве Варшаўскім і ваенных збудаваннях на заходніх межах Расіі з нагоды набліжэння вайны, сакрэтныя дакументы, перахопленыя падчас ваенных дзеянняў адносна складу войскаў Герцагства Варшаўскага, перапіска кн. Юзафа Панятоўскага з каралём саксонскім наконт уладкавання войскаў і перавядзення дзяржаваў і войскаў на ваенны лад, геаграфічныя і статыстычныя звесткі аб былых польскіх правінцыях, далучаных да Расіі [1, спр. 3480, 3502, 3506, 3514, 3519, 3546,



1

1. Парыж. Ансамбль Інвалідаў. Грабніца Жазэфа (1768-1844), брата Напалеона Банапарта, у саборы Ансамбля.

2. Прыбыццё праха Напалеона ў Парыж 15 снежня 1840 г. Гравюра XIX ст., паводле малюнка мастака Адольфа-Жана-Бацiста Баёта. Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў [42. 1207, с. 35].

3. Перанясенне праха імператара Напалеона ў капэлу Сан-Жэром. Гравюра першай паловы XIX ст., паводле малюнка мастака Адама Якоба. [42. 1207, с. 67].



Парыж. Помнік Адаму Міцкевічу на набярэжнай Сены (1929 г.). Архітэктар Антуан Бурдэль, 2011 г.

3559, 3573, 3575, 3612, 3614, 3615, 3622, 3628, 3643, 3645, 3700, 3711].

Каштоўнай крыніцай для даследавання вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі з'яўляюцца штогадовыя справаздачы ваенных і дзяржаўных губернатараў імператару Аляксандру I за 1811-1813 гг., якія захоўваюцца ў фондах РДВГА. Тут знаходзіцца асноўная маса матэрыялаў аб баявых дзеяннях на заходнім напрамку. Так, у справе «Входящий журнал донесений Е.И.В по секретной части» фонда ВВА ўтрымліваюцца рапарты Тармасава, Чычагава, Эртэля, іншых ваеначальнікаў аб колькасці, перасоўванні, баявых дзеяннях іх войск, прапанова ген. А. Ярмолава накіраваць Дунайскую армію для прыкрыцця правага фланга русскай арміі.

У тым жа фондзе захоўваюцца данясенні адм. Чычагава, а таксама ягоныя рапарты Аляксандру I ад 20 чэрвеня, 2 і 6 жніўня, 22 і 25 верасня, 9 кастрычніка, 7, 17, 18 і 29 лістапада 1812 года адносна баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі [1, спр. 3762, 3763, 3775, 3833, 3836].

У фондзе ВВА змяшчаецца яшчэ не абследаваная справа аб смерці ген. Тармасава і разборцы застаўшыхся пасля яго дакументаў. Тут ёсць важныя звесткі аб баявых аперацыях 3-й Заходняй арміі ў першапачатковы перыяд [1, спр. 657].

У асобныя справы ВВА згуртаваны матэрыялы аб стане спраў у Літоўска-Беларускіх заходніх губернях, праектах утварэння новага ўпраўлення і фарміравання польскай арміі напярэдадні вайны 1812 года, данясенне галоўнакамандуючага польскай арміяй кн. Ю. Панятоўскага маршалу Даву па падрыхтоўцы сумесных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі. Апрацавана таксама справа з перапіскай галоўнакамандуючага аўстрыйскімі войскамі ген. кн. К. Шварцэнберга аб ваенных дзеяннях ягонай арміі, дакументамі Тармасава ад 7 ліпеня з дадаткам раскладу войскаў арміі Чычагава [1, спр. 3576, 3621, 3638].

Да асобай групы адносяцца дакументы, зыходзячыя ад Напалеона Банапарта і ягонага Галоўнага штаба. Большасць іх апублікавана ў XXIII і XXIV тамах шматтомнага выдання «Карэспандэнцыя Напалеона I». Сюды ўвайшлі пасланні Напалеона аўстрыйскаму імператару, саксонскаму каралю, турэцкаму султану, міністрам Францыі і інш. дакументы даваеннага і ваеннага перыядаў. Вывучэнне гэтых матэрыялаў дазваляе больш грунтоўна высветліць планы вядзення баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі і ваенна-палітычнае становішча ў беларускіх губернях.

Шмат дакументаў па тэме выяўлена ў фондах Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу (РДГА). Тут змяшчаюцца справа аб узнагароджанні ген. Тармасава ордэнам св. Андрэя Першазванага, спісы капітулу ордэнаў, нанесеных на мармуровыя пліты храма Хрыста Збавіцеля, рапарты ген.

Тармасава № 125, 126 ад 11 і 14 верасня 1812 г. на імя М. Кутузава [11, спр. 363].

Прадстаўляюць інтарэс па тэме запіскі фельдмаршала Кутузава Аляксандру І аб нявысветленым месцазнаходжанні Дунайскай арміі, вялых дзеяннях Чычагава ў Брэсце, следаванні Дунайскай арміі насустрач напалеонаўскім войскам, рапарты ген. Тармасава аб першай пераможнай бітве пад Кобрынам ад 16 ліпеня, якія змяшчаюцца ў спецыяльным фондзе «Канцелярия императрицы Марии Фёдоровны. Из Отечественной войны 1812 года» [15, спр. 797].

Асобую цікавасць у РДГА прадстаўляюць праекты помнікаў у гонар Кобрынскай бітвы і Ваўкавыскай аперацыі [16, спр. 105, 131].

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску змяшчаецца вялікая колькасць матэрыялаў аб падрыхтоўчых мерапрыемствах расійскіх улад да вайны 1812 года, стратах Беларусі ў кампанію 1812 года, наладжванні мірнага жыцця і аказанні дапамогі ветэранам і пацярпелым жыхарам і інш. [27-37].

Унікальныя матэрыялы па тэме змяшчаюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве ў Гродне. Тут маюцца асобныя папкі з матэрыяламі абследавання ў 1911-1912 гг. спецыяльнымі дзяржаўнымі камісіямі месцаў баёў 3-й Заходняй арміі на тэрыторыі Гродзенскай губерні, копіі дакументаў, якія датычацца ваенных дзеянняў 1812 года, перапіска ваенных і дзяржаўных улад аб устанаўленні помнікаў у г.Кобрыне і в.Гарадзечна Пружанскага павета ў гонар прайшоўшых тут бітваў 1812 года [22-26].

Некалькі цікавых фотаматэрыялаў па тэме захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве кінафотадакументаў Рэспублікі Беларусь у г. Дзяржынску [40].

Шматлікія матэрыялы аб падзеях 1812 года на тэрыторыі Беларусі змяшчаюцца ў аддзелах рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу, у аддзелах рэдкай кнігі Цэнтральнай дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, у аддзелах графікі Ягелонскай бібліятэкі ў Кракаве і Цэнтральнай навуковай бібліятэкі ім. М. Стэфаніка ў Львове [41].

Шэраг новых матэрыялаў аб ваенных дзеяннях 1812 года на тэрыторыі Беларусі выяўлена аўтарам у Музеі арміі ў Дзяржаўным Ансамблі Інвалідаў [42], музеі Адама Міцкевіча ў Польскай бібліятэцы ў Парыжы [43], у фондах палацава-паркавага ансамбля «Версаль» у Парыжы [44], музейнага ансамбля «Луўр» у Парыжы [45]. Дыпламатычнага архіва ў Парыжы: Польшча. Палітычная карэспандэнцыя [46], Нацыянальнага архіва Францыі [47], архіва Напалеона ў Парыжы [49], Фонда Напалеона ў Парыжы [50].

У архіве Гістарычнай службы сухапутных войск Францыі (Венсенскі замак) змяшчаецца ёмісты рукапісны рапарт (каля 200 стар.) польскага ген. М. Сакальніцкага, шэфа контрразведкі «Вялікай арміі» Напалеона з рэкамендацыямі на імя французскага імператара ад 10 лютага 1812 г. аб «спосабах збаўлення Еўропы ад уплыву Расіі...» [48].

Большая колькасць архіўных матэрыялаў у Расіі, Польшчы, Францыі, Беларусі апублікавана. Напрыклад, у Расіі зборнікі дакументаў па вайне 1812 года апрацаваны і надрукаваны ўжо ў апошняй чвэрці XIX ст. [380, 418-421, 426, 486, 533, 672, 712, 781-782].

Паводле А. Лукашэвіча, да 1917 г. аб вайне 1812 года ў Расіі было выдадзена каля 70 тамоў разнастайных матэрыялаў і дакументаў [131].

Шэраг каштоўных дакументаў аб дзейнасці Камісіі Часовага ўрада ВКЛ і мясцовых адміністрацыйных камісій дэпартаментаў былі выяўлены сучаснымі беларускімі даследчыкамі У. Соснам [183-184] і А. Ерашэвічам [101, 103] у дзяржаўных архівах старажытных актаў у Маскве, Варшаве, аддзеле рукапісаў бібліятэкі Чартарыйскіх у Кракаве.

Напрыклад, дакументы падрыхтоўкі да вайны 1812 года, ліквідацыі яе наступстваў, перапіска М.І. Кутузава з літоўскім



Парыж. Палацава-паркавы музейны ансамбль Версаль. Галоўны ўваход. Фота аўтара, 2011 г.

ваенным губернатарам А.М. Рымскім-Корсакавым, пісьмы А.А. Аркчэева, указы Сената, даклады губернатараў, прадпісанні галоўнакамандуючага 1-й Заходняй арміяй, спісы ваеннапалонных французаў, матэрыялы пра забеспячэнне расійскай арміі правіянтам і фуражом, канфіскацыю маёнткаў у эмігрантаў і высылку недобранадзейных асоб надрукаваны і ўтрымліваюцца ў 5-й кнізе «Виленского временника» [325].

Да 100-гадовага юбілею вайны 1812 года ў Маскве была распачата праца па выданні манументальных зборнікаў: «Отечественная война 1812 года. Материалы ВУА» ў 22-х тамах [711] і «Отечественная война 1812 года и русское общество» ў 7 тамах [710], якія змяшчаюць значную колькасць дакументаў аб ваенных дзеяннях і палітычным становішчы сярод насельніцтва на тэрыторыі беларускіх губерняў.

Каштоўныя матэрыялы пра французскіх ваеннапалонных апрацаваў і выдаў старшыня Віцебскай вучонай архіўнай камісіі В.С. Арсеньеў [242-244], а даследчыца М.А. Мельнікава апублікавала матэрыялы і дакументы Віцебскага губернскага архіва [640].

Падзеям вайны 1812 года і дзейнасці Камісіі Часовага ўрада ВКЛ прысвечаны 128-мы і 139-ты тамы «Сборника Императорского Русского исторического общества. Акты, документы и материалы...». Напрыклад, у 128 томе згаданага зборніка змяшчаюцца Акты Варшаўскай і Літоўскай канфедэрацый, дакументы аб стварэнні Камісіі Часовага ўрада ВКЛ, яе распараджэнні, запіскі Беластоцкага, Валынскага, Віленскага, Гродзенскага, Мінскага і Падольскага грамадзянскіх губернатараў пра становішча ў падначаленых губернях, асобныя артыкулы з перыядычнага



Парыж. Версаль. Каралеўская капэла.

1. Вокладка зборніка «Карэспандэнцыя Напалеона», т 24. Са збораў бібліятэкі Фонда Напалеона ў Парыжы. [50, 1026].

2. Тытульны ліст кнігі «Описание Отечественной войны в 1812 году, по высочайшему повелению сочиненное Михайловским-Данилевским » [654].



1



ОПИСАНІЕ
ОТЕЧЕСТВЕННОЙ
ВОЙНЫ
ВЪ 1812 ГОДУ,
ПО
ВЫСОЧАЙШЕМУ
ПОВЕЛѢНІЮ
сочиненное Генералъ-Лейтенантомъ
Михайловскимъ-Данилевскимъ
ЧАСТЬ ЧЕТВЕРТАЯ.
САНКТПЕТЕРБУРГЪ.

2

выдання «Tymczasowa gazeta Mińska» (Часовая газета Мінска), на старонках якой за 1812 г. у № 6 надрукаваны загад Напалеона Банапарта № 1 «Аб прызначэнні Часовага ўрада ВКЛ ад 1 ліпеня 1812 года» [233, 798, 1308]. У 139 томе зборніка маюцца цікавыя фотаілюстрацыі і матэрыялы з перапіскай па справах «здрадніцкай» дзейнасці ў перыяд існавання Часовага ўрада ВКЛ губернскіх чыноўнікаў і архіепіскапа Віцебскага і Магілёўскага, якія ў свой час прысягнулі на адданасць Напалеону [232].

Вялікую колькасць матэрыялаў аб дзейнасці Віцебскага магістрата падчас вайны 1812 года сабралі, апрацавалі і апублікавалі расійскія даследчыкі старасветчыны В. Даўгарукаў [329] і А. Сапуноў [330, 794].

Унікальным выданнем, прысвечаным падзеям вайны 1812 года, з'яўляюцца «Акты, издаваемые Виленскою комиссией...» з падрабязнай прадмовай збіральніка А. Уруцэвіча, у якіх на мове арыгіналу надрукаваны дакументы пра дзейнасць мясцовых устаноў улады (прэфектур, падпрэфектур) падчас функцыянавання Камісіі Часовага ўрада ВКЛ на падпарадкаванай Напалеону тэрыторыі Беларусі [234].

Дапаўненнем да ранейшых дарэвалюцыйных зборнікаў з'яўляецца таксама шэраг савецкіх выданняў з матэрыяламі ваенных дзеянняў у 1812 годзе на тэрыторыі Беларусі [332, 359, 781, 797, 854].

Напрыклад, у 1940 г. у свет выйшаў другі том беларускамоўнага выдання «Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі». Безумоўна, складальнікі выдання падышлі да збораў дакументаў аднабакова, змясціўшы дакументы аб рабаўніцтве, рэквізіцыях, паборах мясцовага насельніцтва з боку французскіх войскаў і

грамадзянскіх уладаў ВКЛ, але гэтая абставіна не змяншае каштоўнасці зборніка [94].

У такім жа кірунку дзейнічалі складальнікі другога зборніка дакументаў «Белоруссия в эпоху феодализма», дзе ў IV томе змешчаны пісьмы П. Баграціёна Магілёўскаму губернатару аб сражэнні пры Міры, наборы рэкрутаў для абароны Магілёва, загад Напалеона аб арганізацыі ўлады ў Літве і Беларусі ад 1 чэрвеня 1812 года, асобныя матэрыялы аб утварэнні Камісіі Часовага ўрада ВКЛ і дзейнасці мясцовых грамадзянскіх і ваенных уладаў у дачыненні да насельніцтва Беларусі [269].

У сярэдзіне 1990-х гг. вядомы беларускі вучоны А.П. Грыцкевіч пераклаў і надрукаваў на беларускай мове ў альманаху «Адраджэнне» «Памятныя запіскі Міхала Клеафаса Агінскага Аляксандру I» [52], а ў 2011 г. А. Лукашэвіч і Д. Яцкевіч склалі і выдалі новы зборнік дакументаў не апублікаваных дагэтуль матэрыялаў з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі і Нацыянальнага гістарычнага архіва ў г. Гродна [268].

З французскіх публікацый архіўных матэрыялаў змястоўнасцю адрозніваюцца зборнікі: Напалеонаўскія бюлетэні [800, 1002], «Карэспандэнцыя Напалеона» [1026], перапіска французскіх дыпламатаў у Варшаве [1092] і інш.

У 1903 г. у Парыжы выйшла ў свет 5-томнае выданне пад назвай «Руская кампанія» (1812), дзе апублікаваны матэрыялы перапіскі з Напалеонам, журналы баявых дзеянняў і шмат іншай ваенна-штабной дакументацыі французскай арміі [1065].

Звесткі аб генералах Напалеона, іх загадах можна знайсці ў 3-томным зборніку «Вайна ў Расіі», які выйшаў у свет у 1912 г. [1023].

Для нашай тэмы асобае значэнне маюць эпісталярныя крыніцы, у першую чаргу расійскія, французскія, нямецкія і польскія.

Сярод іх значнае месца па нашай тэме займаюць матэрыялы перапіскі Аляксандра I з камандуючымі арміямі Барклаем дэ Толі [260, 542, 641], П. Баграціёнам [359, 786], М. Кутузавым [533, 761, 797], А. Тармасавым [254], П. Чычагавым [907-909] і іншымі военачальнікамі [380, 413, 426-427, 486, 607, 650, 665, 670, 695], а таксама з А.Е. Чартарыйскім [894-896], М.К. Агінскім [126, 381], сястрой Кацярынай Фёдараўнай [720]. У іх знайшлі адлюстраванне пытанні знешняй палітыкі Францыі і Расійскай імперыі, узаемаадносіны Расіі з Аўстрыяй, Турцыяй, Герцагствам Варшаўскім, праблемы аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага. У сваіх пасланнях Аляксандр I выкладаў стратэгічныя планы выкарыстання тэрыторыі беларускіх губерняў у вайне з Напалеонам. У асноўным гэтыя крыніцы апрацаваны і надрукаваны яшчэ ў канцы XIX — пачатку XX стст.

На працягу XIX ст. пастаянна друкаваліся, а пазней перавыдаваліся мемуары шэрагу расійскіх генералаў і афіцэраў, непасрэдных удзельнікаў вайны 1812 года [272-273, 282, 293-294, 303, 335, 348, 370-375, 398-401, 414, 416, 436, 456-460, 463-464, 468-469, 477-478, 494, 521, 527-528, 535, 566-568, 619, 649, 661, 664, 675, 697-698, 707, 723, 756, 765-766, 816, 841, 849, 852, 859,888, 893, 907, 910].

Найбольш цікавымі па тэме з'яўляюцца зборнікі эпісталярных крыніц, выдадзеных М. Дубровіным [420-423], а таксама апублікаваныя ўспаміны дыпламатаў, партызанскіх камандзіраў, мясцовых чыноўнікаў і жыхароў ВКЛ [394, 398, 434, 644, 882].

Французская мемуарыстыка ў дачыненні да нашай тэмы мае абмежаваны характар. Аб падзеях вайны 1812 года на тэрыторыі Беларусі ўспамінаюць ад'ютанты Напалеона і ягоных маршалаў, шэраг генералаў, афіцэраў і радавых «Вялікай арміі», у прыватнасці: Г. Брандт [305], К. Булар [308], А. Вандаль [317], К. Ведэль [320], Я. Вейсенгоф [321], Ф. Вігель [324], Р. Вільсан [326-328, 1316], Л. Грыуа [388], Р. Дзюрдан [429], Г. Жоміні [445-449], А. Каленкур [523-525], Ж. Куан'е [550], Д.Ларэй [570], Л. Лежэн [576], Б. Леж'е [577], Ц. Лож'е [590-591], Напалеон Банапарт [668-669], А. Пастарэ [719], Ф. Рэдэр

[769], А. Расле [783], Л. Рошешуара [788], І. Руа [789], Ф. Сегюр [804-806, 1268-1269], А. Цірыён [856], Г. Сен-Сір [323], Л. Фюзі [877], Я. Шамбрэ [1010] і інш.

Аб настроі і адносінах насельніцтва беларускіх губерняў да французскай арміі пісалі напалеонаўскія ваяры беларуска-польскага паходжання ці прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі: І. Красіцкі [1130], Ю. Красінскі [1131], Я. Сангушка [1262], Р. Солтык [1280], А. Сулкоўскі [1285], К. Таньскі [1289], Ю. Гарайскі [1081], Ю.Залускі [1331], Ю. Франк [1072] і інш.

У публікацыях ваенна-палітычных дзеячаў ВКЛ М.К. Агінскага [1216-1217], Ю.У. Нямцэвіча [1209-1211], А.Е. Чартарыйскага [894-896] і інш. выказваецца ўласнае меркаванне аўтараў успамінаў да спробаў Аляксандра І і Напалеона Банапарта пайграць на пачуццях палякаў і ліцвінаў, выкарыстаць «польскую карту» ў інтарэсах Расіі і Францыі.

Трэцюю групу крыніц па нашай тэме складае прэса XIX ст. Яе можна падраздзяліць на тры падгрупы. Да першай адносяцца газеты і часопісы, выдаваемыя ў Расійскай імперыі: «Россиянин», «Санкт-Петербургские ведомости», «Северная почта», «Московские ведомости», «Сын Отечества», «Русская старина», «Русский архив», «Русский вестник», «Военный сборник», да другой — прэса Францыі і Германіі: «Journal de l'Empire», «Moniteur Beobachter», «Dörptche Zeitung», «Gesterreichischer», «Der Zuschauer», да трэцяй — газеты, выдадзеныя на тэрыторыі Польшчы і Беларусі: «Gazeta Warszawska», «Kurjer Litewski» і «Tymczasowa Gazeta Mińska».

Напярэдадні вайны 1812 года Расійскі ўрад стварыў пры Галоўнай кватэры 1-й Заходняй рускай арміі буйны агітацыйна-прапагандысцкі цэнтр — «Паходную друкарню», у рэдакцыйную калегію якога ўвайшлі прафесары Тартускага ўніверсітэта А.С. Кайсараў (галоўны рэдактар) і Ф.Э. Рамбах, а таксама шэраг ваенных публіцыстаў: М. Арлоў, А. Ваейкаў, А. Шчарбінін, П. Габэ, Эрн. Пфуль, А. Міхайлоўскі-Данілеўскі [231, 848].

Першыя 10 тыс. лістовак у самым пачатку вайны 1812 г. былі надрукаваны ў Санкт-Пецярбургу на замежных мовах і накіраваны ў якасці контрпрапаганды ў нямецкія, затым у французскія і італьянскія войскі «Вялікай арміі» Напалеона. Ужо ў першых лістоўках расійскае камандаванне папярэджвала пра немінуемую пагібель напалеонаўскіх войскаў на тэрыторыі беларускіх губерняў, непазбежнае пакаранне і заклікала французскіх афіцэраў і радавых на рускую службу [231].

З гісторыі расійскай ваеннай публіцыстыкі 1812 года неабходна назваць артыкул-памфлет Э. Пфуля «Отступление французов», надрукаваны пры Галоўнай кватэры рускай арміі ў Вільні ў снежні 1812 г. [762], а таксама артыкулы ваеннай газеты «Россиянин», якія выйшлі ў ліпені 1812 г. пры штабе 1-й Заходняй арміі падчас яе адступлення праз Віцебск [231].

Значную інфармацыю па тэме ўтрымліваюць першыя нумары афіцыйных французскіх бюлетэняў па арміі Напалеона [1002].

Ваенна-палітычнае жыццё 1812 года на тэрыторыі Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў найбольш шырока адлюстравалі артыкулы тагачасных газет «Kurjer Litewski» («Кур'ер Літоўскі»)» [1140] і «Tymczasowa Gazeta Mińska» («Часовая газета Мінска») [1308] .

Напрыклад, у 1812 г. у Вільні пад кіраўніцтвам рэдактара К. Даніловіча выйшла ў свет 99 нумароў «Кур'ера Літоўскага», з якіх 48 нумароў друкаваліся падчас панавання Расійскай імперыі, астатнія рэгулярна выходзілі пад наглядам французскіх ваенных улад да заняцця расійскімі войскамі ў канцы лістапада 1812 года [131].

Значнае месца на старонках першых нумароў гэтай газеты займаюць здравіцы ў гонар «Непераможнага Напалеона» і Караля італьянскага, усхваленне перамог французскай арміі, затым з'яўляюцца перадрукі навін

са старонак замежных выданняў, навіны з палёў сражэнняў, афіцыйныя матэрыялы пасяджэнняў і распараджэнняў Варшаўскай (Генеральнай) канфедэрацыі, Камісіі Часовага ўрада ВКЛ, заклікі да народа, навіны з Герцагства Варшаўскага, бюлетэні «Вялікай арміі» і інш. матэрыялы і артыкулы, якія насілі ўспламянёна-патрыятычны характар па меры прасоўвання французскіх войскаў да Масквы.

Унікальную інфармацыю несла на сваіх старонках «Tymczasowa Gazeta Mińska» («Часовая газета Мінска»), якая ў перыяд ліпеня-кастрычніка 1812 года выходзіла два разы на тыдзень і друкавалася на польскай мове пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара інспектара Мінскай гімназіі І. М. Брадоўскага.

На старонках № 6 гэтай рэдкай газеты надрукаваны Загад Напалеона І «Аб прызначэнні Часовага ўрада ВКЛ» ад 1 ліпеня 1812 года [758, 798].

У гэтай газеце знайшлі сваё адлюстраванне перадрукоўкі з «Кур'ера Літоўскага» і замежных газет, дакументы Камісіі Часовага ўрада ВКЛ, адміністрацыі Мінскага дэпартамента, праграмы і падзеі святкавання ў Мінску дня нараджэння «Вызваліцеля ад рускага іга» Напалеона Банапарта, урачыстасцей з нагоды перамогі французскай арміі ў Барадзінскай бітве, узяцця Напалеонам Масквы і г.д. [1308].

Большасць матэрыялаў дадзенай газеты ў 1909 г. былі надрукаваны К. Ваенскім у першым томе «Актов, документов и материалов для политической и бытовой истории 1812 года...» [233].

Копіі яе поўнага збору ў 2000 г. былі падараваны Беларусі дырэктарам Цэнтра напалеонаўскіх даследаванняў прафесарам Ф. Бакурам (Францыя) і цяпер захоўваюцца ў кнігасховішчах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі [131].

Чацвёртую групу крыніц складаюць картаграфічныя матэрыялы, асноўная калекцыя якіх змяшчаецца ў Расійскім ваенна-гістарычным архіве ў Маскве [1] і Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу [11], музеі арміі ў Дзяржаўным Ансамблі Інвалідаў у Парыжы [42], Нацыянальным архіве Гісторыі службы сухапутных войскаў Францыі [48], архіве [49] і Фондзе Напалеона ў Парыжы [50].

Напрыклад, у Расійскім ваенна-гістарычным архіве ў Маскве маюцца планы баявых дзеянняў на тэрыторыі беларускіх губерняў, генеральныя карты размяшчэння войск, карты дарог і ўсіх аперацый, якія праведзены на тэрыторыі Беларусі [1, спр. 51, 52, 58, 64 — 67, 145, 3762, 3763, 3775, 3833, 3836].

Аўтар шчыра дзякуе супрацоўнікам пасольстваў Надзвычайным і Паўнамоцным паслам Рэспублікі Беларусь у Францыі і Польшчы А. Паўлоўскаму і В. Гайсёнку, Генеральнаму консульству Рэспублікі Польшча ў г. Брэсце, сябрам Фундацый Касцюшкаўскіх у Варшаве (д-р М. Кшэсняк, А. Бандажэўска) і Кракаве (Т. Атрэмбскі), саюзу мастакоў Пазнаньскага ваяводства, супрацоўнікам Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве, Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу, Нацыянальных гістарычных архіваў Беларусі ў Мінску і Гродне, Цэнтральнага дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў Рэспублікі Беларусь у г. Дзяржынску, музея арміі ў Дзяржаўным Ансамблі Інвалідаў у Парыжы, музея Адама Міцкевіча і Польскай бібліятэкі ў Парыжы, фондаў палацава-паркавага ансамбля «Версаль» і музейнага ансамбля «Лувр» у Парыжы, дыпламатычнага архіва, Нацыянальнага архіва, архіва Напалеона і Фонда Напалеона ў Парыжы, Галоўнага архіва старадаўніх актаў у

Прыбыццё катафалка з прахам Напалеона Банапарта ў сабор Ансамбля Інвалідаў 15 снежня 1840 г. Мастакі Жанін (1760-1841), Жан Бацiст Арно (1788-1865), Віктор- Жан Адам (1801-1866). Парыж. Са збораў музея Арміі ў ансамблі Інвалідаў [42. 1207, с. 39].

Варшаве, Галоўнага дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы ў Вільнюсе, Нацыянальнага музея і архіва князёў Чартарыйскіх у Кракаве, супрацоўнікаў аддзела рукапісаў Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу, аддзелаў рэдкай кнігі Цэнтральнай дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, аддзелаў графікі і рукапісаў бібліятэкі Ягелонскіх у Кракаве і ўніверсітэцкай бібліятэкі ў Варшаве, музеяў Войска Польскага, Незалежнасці і Каралеўскага замка ў Варшаве, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі ім. М. Стэфаніка ў Львове, супрацоўнікам Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага ў Брэсце, супрацоўнікам бібліятэк, музеяў і краязнаўцам Брэстчыны: С. Басаву, А. Бензеруку, К. Гарэйка, В. Дрозд, Р.Т. Кавенька, Р. Кнізе, А. Мяснянкінай, Р. Палухіну і інш. за дапамогу ў падрыхтоўцы рукапісу да выдання.



## Глава 1
# Палітычны стан

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыя Беларусі і Жамойціі была далучана да Расійскай імперыі. Тэрыторыю Беласточчыны і Занёманскага краю расійская імператрыца Кацярына II аддала Прусіі.

Як адзначае Ю. Івашкевіч, пасля падаўлення паўстання Тадэвуша Касцюшкі спынілася грамадскае жыццё і «мёртвая цішыня» ахутала Літву [1103].

З прыходам на расійскі трон Паўла I павеяла свежым паветрам палітычных і эканамічных змен [896]. На тэрыторыі Белай Русі быў адноўлены скасаваны Кацярынай II Статут ВКЛ, вызвалены з палону галоўныя кіраўнікі і ўдзельнікі паўстання 1794 г.: Т. Касцюшка, Ю. У. Нямцэвіч, І. Патоцкі, Т. Ваўжэцкі, І. Закржэўскі, К. Князевіч, К. Серакоўскі, М. Сакальніцкі, Т. Мастоўскі і інш. зняволеныя [155].

Больш істотныя змены ў сацыяльным жыцці народа беларускіх губерняў адбыліся пасля ўзвядзення на расійскі трон у 1801 г. Аляксандра I. Усеагульная амністыя дала магчымасць палітэмігрантам, у тым ліку нашым землякам М. К. Агінскаму, К. Прозару, Р. Гедройцу і інш. суайчыннікам, прыехаць на радзіму і вярнуць канфіскаваную маёмасць: маёнткі, сядзібы, зямельныя надзелы і г.д. Вяртанне эмігрантаў ажывіла публічнае жыццё, аднавілася дзейнасць сеймікаў пры выбарах губернскіх маршалкаў, узмацнілася передвыбарная барацьба.

Значнымі асветніцкімі падзеямі сталі пераўтварэнне Галоўнай Віленскай школы (раней акадэміі) у Віленскі ўніверсітэт і стварэнне пад апекай кн. А. Е. Чартарыйскага Віленскай навучальнай акругі, якая падпарадкоўвала навучальныя ўстановы Валынскай, Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Кіеўскай, Магілёўскай, Мінскай і Падольскай губерняў.

Гэтыя і іншыя змены ў палітычным жыцці ў краі адбываліся ва ўмовах жорсткага супрацьборства вялікіх на той час Французскай і Расійскай імперый з велізарнымі людскімі, матэрыяльнымі рэсурсамі, а таксама іх амбітных і непрымірымых лідэраў Напалеона Банапарта і Аляксандра I.

Напалеон абвяшчае Канстытуцыю і Грамадзянскі кодэкс членам дэлегацыі Варшаўскага герцагства (княства) у 1808 г. Копія XIX ст. з малюнка Марчэла Бачарэлі. Са збораў музея князёў Замойскіх у м. Казлуўка (Польшча) [1273, с. 18-а].

## Глава 2
# Напалеон і Касцюшка

Рэвалюцыйныя войны буржуазнай Францыі з феадальнымі манархіямі Еўропы, лозунгі свабоды Французскай рэвалюцыі, несціхаючая барацьба паміж краінамі, якія «раскраілі» Рэч Паспалітую, з'яўленне Напалеона Банапарта на палітычным небасхіле Еўропы як сімвала барацьбы за свабоду і незалежнасць, пастаянна прыцягвалі ўвагу палякаў і ліцвінаў і ўзмацнялі спадзяванні на аднаўленне іх дзяржаўнасці. Такі патрыятычны запал і нацыянальны настрой заўважыў дальнабачны Напалеон і стаў выкарыстоўваць гэтую сітуацыю ў сваіх інтарэсах.

У 1795-1796 гг. польскі ген. Я. Г. Дамброўскі прадставіў французскаму ўраду праект стварэння польскіх легіёнаў, у склад якіх уваходзілі эмігранты і вайскоўцы з былой Рэчы Паспалітай у аўстрыйскай арміі.

Паводле фармальнага пагаднення з Ламбардскай рэспублікай у студзені 1797 г. быў сфарміраваны першы польскі легіён, а ў 1799 г. па ініцыятыве паплечніка Т. Касцюшкі ген. К. Князевіча быў створаны другі, так званы «Дунайскі легіён».

Лозунгамі легіёнаў сталі: «Свабода!», «Роўнасць!», «Братэрства!», «За вольнасць нашу і вашу!».

Знаходзячыся ў ЗША і атрымаўшы праз дыпламатычныя каналы звесткі аб фарміраванні польскіх легіёнаў, Т. Касцюшка нечакана і патаемна ад сваіх сяброў Ю. У. Нямцэвіча і С. Дамброўскага, а таксама ад агентаў амерыканскага прэзідэнта Дж. Адамса пад апекай давераных асобаў Дж. Вашынгтона па пашпарту на імя Томаса Канберга вярнуўся 28 чэрвеня 1798 г. у Францыю.

Французская Дырэкторыя распачала дыпламатычную гульню вакол Касцюшкі. Міністру Талейрану ўдалося нават падбухторыць Касцюшку напісаць расійскаму імператару Паўлу I ліст, у якім ён адмаўляўся ад прынесенай прысягі і падараваных царом 12 тысяч рублёў асігнацыямі. Верагодна, гэтае пісьмо генерал пісаў пад дыктоўку французскіх дыпламатаў [155].

Да Касцюшкі прыбылі пасланцы ад камандуючага польскімі легіёнамі ген. Я. Дамброўскага, які ад імя эмігрантаў і сябе выказаў згоду падпарадкавацца Касцюшку, калі ён прыме камандаванне легіёнамі.

Прапанова Дамброўскага ўсхвалявала Касцюшку. Ён добра разумеў, што 7 тысячаў шабляў легіёнаў — гэта не мала, з імі можна пачынаць, але яны, на жаль, падпарадкаваны чужой французскай сіле, таму няма гарантый, што кроў гэтых салдат будзе праліта за сваю радзіму. Акрамя таго, ён ставіў перад сабою больш складаную задачу: цалкам прыцягнуць Францыю да справы адраджэння Рэчы Паспалітай.

У тагачаснай Францыі першая асоба — Напалеон Банапарт, а з ім Касцюшка можа размаўляць як паўнапраўны прадстаўнік наро-



Тадэвуш Касцюшка. XIX ст. Невядомы мастак.
Са збораў Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

1

Au Général
Koscìuszko.

2



1. Ліст ген. г. Каменскага ад 19 лістапада 1806 г. да Т. Касцюшкі аб прыёме Напалеонам Варшаўскай дэпутацыі.
Са збораў музея А. Міцкевіча ў Парыжы.
[43, гкрs. № 335/8, s. 45-46].

2. Лісты з прамовай Напалеона да Варшаўскай дэпутацыі, дасланыя ген. А. Каменскім Т. Касцюшку ў дадатак да пісьма ад 19 лістапада 1806 г. Са збораў музея А. Міцкевіча ў Парыжы.
[43, гкрs. № 335/8, s. 47-48].

да былой дзяржавы, якая прагне вызвалення, а не як падпарадкаваны Напалеону камандуючы польскімі легіёнамі. З гэтай нагоды Касцюшка адмовіўся ад высокага гонару, аб чым напісаў Дамброўскаму. Ён прасіў, каб у легіёнах панавалі згода, яднанне і сапраўдныя рэспубліканскія прынцыпы, патрабаваў прывядзення легіянераў да прысягі на адданасць вечным прынцыпам свабоды і роўнасці. Ён настойліва шукаў шляхі, па якіх легіёны маглі пранікнуць на радзіму і ваяваць пад сваімі нацыянальнымі сцягамі.

Ён пастаянна папярэджваў сваіх землякоў, каб у барацьбе за волю яны не спадзяваліся на замежную дапамогу. У брашуры «Ці могуць палякі дамагчыся незалежнасці?», выпушчанай ананімна ў Парыжы ў 1800 г., зроблены запіс разважанняў Касцюшкі з ягонай непахіснай пазіцыяй: «Нацыі, якая імкнецца да незалежнасці, неабходна верыць у свае сілы. Калі яна не мае гэтага пачуцця, калі яна не прыкладае ўласных намаганняў да захавання свайго існавання, а спадзяецца на падтрымку ці ласку чужынцаў, то можна смела казаць, што не будзе яна мець ні шчасця, ні гонару, ні славы» [155].

З такіх пазіцый Касцюшка асцярожна вёў перамовы з французскім урадам. У кастрычніку 1799 г. Напалеон Банапарт, разабраўшыся з інтрыгамі і карупцыяй у Дырэкторыі, успомніў пра Касцюшку і нанёс яму візіт. Размовы з Банапартам ні да чаго не прывялі, яны толькі пацвердзілі ранейшыя думкі Касцюшкі, што буржуазны ўрад Францыі кіраваўся сваімі эгаістычнымі інтарэсамі і не жадаў думаць аб свабодзе народаў Рэчы Паспалітай. Але Касцюшка не траціў надзеі на лепшае.

Праз некалькі тыдняў ён сам дабіўся аўдыенцыі ў Напалеона, на якой абмяркоўваліся пытанні польскіх легіёнаў, але вынікаў яны не далі. Напалеон, выказваючы сваю незадаволенасць іх дзеяннямі, тым не менш запрасіў Касцюшку на ўрачысты прыём, які прайшоў 6 лістапада ў храме Св. Сульпіцыя, але слова для выступлення Касцюшку не далі.

Калі Касцюшка даведаўся аб дзяржаўным перавароце ў Парыжы, ён быў страшэнна ўражаны палітычным тэрарызмам Напалеона, бо заставаўся паслядоўным прыхільнікам прагрэсіўных ідэй Ж.-Ж. Русо, Ш. Мантэск'е, Т. Джэферсана і іншых тагачасных палітычных дзеячоў і філосафаў.

Ён бачыў, як Напалеон крочыць праз горы трупаў, добра разумеў, што для Банапарта лозунгі Французскай рэвалюцыі толькі прыступкі для імператарскага крэсла, таму ён стаў яму непрыемнай асобай.

Недавер Касцюшкі да Напалеона спраўдзіўся. Спачатку Банапарт дасылаў Дамброўскаму хвалебныя оды, падкрэсліваў у лістах, што доблесныя польскія паплечнікі заўсёды ў ягонай памяці, што ён разлічвае на іх і будзе адданым ім сябрам. Але ў 1801 г. Напалеон падпісаў з Аўстрыяй мірную дамову, якая стала смяротным прыгаворам легіёнам. Яны былі расфарміраваны, два з якіх Напалеон перадаў італьянцам, а трэці, Дунайскі, уключыў у склад французскай арміі.

Гэтыя падзеі глыбока кранулі Касцюшку, ён адышоў у цень. Яго не пакідалі ў спакоі, шмат крыўдзілі, абражалі ў французскіх пракламацыях, у якіх выказвалася сумненне: ці заслугоўваюць палякі ды ліцвіны быць незалежнымі народамі.

Тым часам Напалеон агнём гармат і крывёй салдат ірваўся да яшчэ большых вяршынь улады. Ягонаму генію стала ўжо цесна ў межах Цэнтральнай Еўропы. Ён пачаў збірацца ў паход на Расію, а шлях на Маскву ляжаў праз Польшчу і Вялікае Княства Літоўскае, дзе можна было набраць шмат жывой сілы, хлеба і фуражу [1139].

Тут Напалеон зноў успомніў пра Касцюшку і праз свайго міністра Ж. Фушэ паспрабаваў выкарыстаць яго для вярбоўкі новых легіёнаў. У гутарцы з Фушэ ў 1806 г. Касцюшка прасіў перадаць Напалеону, што ён, Касцюшка, служыў Айчыне пры розных абставінах, з большым ці меншым шчасцем і нічога больш не жадае, каб служыць ёй сёння. Але ён ужо навучаны

горкім вопытам, падзеямі, у якіх ягоныя земляки заўсёды былі пераможныя, панеслі вялікія страты ў Італіі, Егіпце, на Санта-Дамінга, пад Марэнга, але не змаглі атрымаць ніякай карысці для сваёй краіны.

У далейшай гутарцы Касцюшка прапанаваў, каб імператар Напалеон прызнаў, што наступіў час, калі Рэч Паспалітая павінна быць адноўлена з адпаведнай канстытуцыяй, з абвяшчэннем палітычнай роўнасці ўсіх без выключэння жыхароў, як гэта ёсць у Францыі.

Фуршэ заявіў, што Напалеон ніякіх абяцанняў і гарантый даваць не будзе, але прасіць Касцюшку падпісаць зварот-пракламацыю да суайчыннікаў з заклікам выступіць у падтрымку імператара французаў, на што Касцюшка даў катэгарычную адмову.



Генерал Я. Г. Дамброўскі. Малюнак каля 1810 г.
Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве.



Ген. К. Князевіч. Малюнак І паловы XIX ст.
Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве.

## Глава 3
# Віленскія хваляванні

У другой палове 1797 г. па Маскве і Санкт-Пецярбургу папаўзлі чуткі, што ў Літве не зусім спакойна. Нават нядаўні праезд імператара Паўла І з Масквы ў Санкт-Пецярбург праз Смаленск, Мінск, Нясвіж, Сталовічы, Палонку, Слонім і інш. гарады і мястэчкі Беларусі не прынёс тут спакою.

Сапраўды, у Вільні наспела антырасійская змова, кіраўніком якой быў настаяцель Трынітарскага кляштара ў Берастэчку на Валыні 30-гадовы манах Лаўрэнцій Дамброўскі [162]. Да гэтага ён вучыўся ў Брэст-Літоўску, затым служыў вернікам у Віленскім трынітарскім кляштары.

Летам 1797 г. ён двойчы (у чэрвені і жніўні) прыязджаў у Вільню, дзе патаемна сустракаўся са сваімі сябрамі і выступіў арганізатарам антыўрадавага патрыятычнага таварыства, якое мела назву «Віленская асацыяцыя».

Сябры таварыства выпрацоўвалі праграму палітычнай працы з насельніцтвам, пачалі рыхтаваць паўстанне супраць расійскай акупацыі, збіралі сродкі, вялі агітацыю сярод моладзі, вербавалі дабраахвотнікаў у польскія легіёны.



Напалеон Банапарт у афіцэрскім убранні. Малюнак І паловы XIX ст. Парыж. Са збораў Версальскага музейнага ансамбля.

Таварыства не паспела разгарнуць сваю дзейнасць на поўную моц, бо паліцыя Літоўскага губернатара Булгакава напала на след аднаго са змоўшчыкаў Себасцьяна Цяцерскага, знайшоўшы ў ягонай вопратцы зашытыя дакументы: акт Віленскага паўстання, матэрыялы інструкцый па прыёму ў члены асацыяцыі, сродках і метадах барацьбы, патаемныя шыфры.

Цяцерскі не вытрываў катаванняў царскай ахранкі і выкрыў планы дзеянняў і імёны сваіх сяброў (21 чал.), якія на працягу верасня-кастрычніка былі арыштаваныя ў Вільні, Кобрыне і Брэсце. Сярод іх: святары Дамброўскі, Цяцерскі і Зюлькоўскі, падпаручнік Цяцерскі, адвакат Грабоўскі, шляхцічы Чарноўскі, Юдзіцкі і два браты Паздзерскія, прафесар Кандратовіч, суддзя Сняжко і браты Сестравітоўскія з Кобрына, Невяровіч, Нагурскі, Калінскі, Эйтман, Нарбут, Гедройц, Петральскі і падпаручнік Гарадзецкі.

Расійскі сенат неадкладна разгледзеў справу аб Віленскай антырасійскай змове. Падчас абмеркавання лёсу змошчыкаў і прапаноў аб смяротным пакаранні і адпраўцы іх на катаргу ў Сібір адзін толькі сенатар г. Дзяржавін стаў на бок арыштаваных.

Ён звярнуўся да старшынствуючага на сенаце Макарава з пытаннем: «Ці вінаватыя былі Пажарскі, Мінін і Паліцын, што, жадаючы пазбавіць Расію ад польскага рабства, учынілі паміж сабой саюз і зверглі іншаземнае іга?».

Макараў са здзіўленнем прамовіў, што не толькі не вінаватыя, але дастойныя вялікай удзячнасці. Тады г. Дзяржавін мовіў: «Дык чаму так сурова абвінавачваюцца гэтыя няшчасныя за тое, што мелі паміж сабою некаторыя размовы аб ураванні сваёй Айчыны ад нашага ўладарання?» [162].

Гарачы пратэст Дзяржавіна з'явіўся паказальным дакорам сенатарам-палякам, якія раўнадушна падпісвалі прысуд сваім супляменнікам. Безумоўна, гарачая прамова Дзяржавіна паспрыяла змякчэнню прысуду, таму што большасць з абвінавачваемых былі адпушчаны на радзіму, толькі Дамброўскі, Зюлькоўскі, Цяцерскія і Юдзіцкі былі сасланыя ў Сібір на руднік з пазбаўленнем грамадзянскіх правоў, а Грабоўскі, Чарноўскі, браты Сестравітоўскія з Кобрына, адзін з Паздзерскіх і Кандратовіч былі сасланы ў Табольскую на пасяленне без пазбаўлення грамадзянскіх правоў.

Магчыма, Віленская змова на чале з манахам Лаўрэнціем Дамброўскім, нягледзячы на невялікі размах, стала першай ластаўкай у ланцугу далейшых паўстанняў XIX ст. супраць Расійскай акупацыі ў Беларусі, Літве, Украіне і Польшчы.

У палітычных планах расійскага ўрада неаднаразова ўзнікалі і разглядаліся варыянты аднаўлення Рэчы Паспалітай. Гэтаму спрыялі як агрэсіўная палітыка Напалеона Банапарта так і ўнутраная палітыка Расіі ў дачыненні да заходніх рэгіёнаў імперыі. Тым больш, што значная частка польскай магнатэрыі і шляхты, якая пазбегла канфіскацыі і ўтрымала нерухомасць, заняла прарасійскую арыентацыю і звязвала свае надзеі на аднаўленне Айчыны з іменем кн. А. Е. Чартарыйскага пад апекай імператара Аляксандра I.

Адам Ежы (1770-1861), прадстаўнік знакамітага роду Чартарыйскіх, спадкаемца Воўчынскага маёнтка, паводле энцыклапедычных крыніц, ужо з юнацкіх гадоў рыхтаваў сябе да здзяйснення трох вялікіх спраў: здабыць вялікую перамогу, напісаць вялікую паэму і ўратаваць Польшчу.

1. Напалеон Банапарт у званні лейтэнанта. Малюнак I паловы XIX ст. Парыж. Са збораў Версальскага музейнага ансамбля. Фота аўтара, 2011 г.

2. Спатканне Аляксандра I і Напалеона Банапарта на Немане 25 чэрвеня 1807 г. Малюнак I чвэрці XIX ст. Мастак Адольф Ройн (1780-1867) [1005, с. 75].

## Глава 4
# Клопаты А. Е. Чартарыйскага

За сваё доўгае жыццё яму ўдалося шмат чаго здзейсніць. Ён стаў вельмі ўплывовым дзяржаўным і палітычным дзеячам, асветнікам, бібліяфілам, мемуарыстам. У трывожныя гады крушэння Рэчы Паспалітай ён як гарачы прыхільнік Т. Касцюшкі пасля падаўлення паўстання 1794 г. страчвае свае ўладаранні, але разам з братам едзе ў Санкт-Пецярбург, становіцца «добраахвотным» нявольнікам самых нянавісных яму ворагаў, таму вяртае свае маёнткі. Стаўшы адданым сябрам Аляксандра I, прапаноўвае яму шэраг планаў перабудовы Еўропы, працуе пры ім у «тайным камітэце», з 1804 г. займае пасаду Міністра замежных спраў Расіі, пазней абіраецца членам Дзяржаўнага Савета, сенатарам.

А. Е. Чартарыйскі добра разумеў, наколькі складанае было пытанне адраджэння Польшчы і ВКЛ, таму дзейнічаў асцярожна і чакаў змянення палітычных і эканамічных абставін у лепшы бок.

Толькі ў канцы 1804 г., калі пагоршыліся адносіны Аляксандра I да Напалеона Банапарта, выспела неабходнасць прадставіць расійскаму імператару свае варыянты аднаўлення Польшчы.

Справа ў тым, што ў гэты перыяд значна парушыўся мір у Еўропе, Англія абвясціла вайну Францыі, пачалося фарміраванне трэцяй кааліцыі еўрапейскіх краін (дзве першыя Напалеон разграміў). Пасля забойства Напалеонам нашчадка каралеўскага роду Бурбонаў герц. Энгіенскага Аляксандр I у пагрозлівым тоне асуджае гэты злачынны акт. У адказ французскі імператар накіраваў Аляксандру I абразлівы адказ, назваўшы апошняга забойцам свайго бацькі Паўла I. Адносіны з Францыяй былі разарваны, Расія стала асноўнай сілай трэцяй кааліцыі супраць Францыі. У канфлікт былі ўцягнуты дзяржавы, якія ўдзельнічалі некалі ў разборы Рэчы Паспалітай.

Гэтай абставінай скарыстаўся А. Е. Чартарыйскі, які ў 1805 г. прадставіў Аляксандру I у сваім радавым маёнтку Пулавы варыянт адраджэння польскай дзяржаўнасці. Сутнасць «пулаўскага» плана як сродка ўцягнення Прусіі ў антынапалеонаўскую кааліцыю трымалася на руска-прускім канфлікце (увядзенне расійскіх войскаў у прускую частку польскіх тэрыторый, арганізацыя там паўстання польскага насельніцтва, далучэнне да Расійскай імперыі і абвяшчэнне такім чынам на абшарах Рэчы Паспалітай польскай дзяржаўнасці).

План Чартарыйскага выклікаў шырокі водгук, стаў вядомы прускім уладам, якія хутка зарыентаваліся ў такой сітуацыі і, каб пазбегнуць канфлікта, далучыліся да кааліцыі. У гэтых умовах «пулаўскі» план застаўся нерэалізаваным.

1

Mémoire sur la nécessité de retablir la Pologne pour prevenir Bonaparte.

Dans la lutte qui se prolonge et qui doit décider du sort de la Russie et de l'Europe; asservir entièrement cette dernière, ou lui permettre encore d'espérer, la Pologne, au point où en sont les choses, est devenu un objet principal pour les deux empires, qui vont s'entrechoquer corps à corps; mais c'est d'une manière toute différente qu'elle attire leur attention.

Pour les Français, c'est une source d'assurance, un but qui anime leur courage et affermit leur persévérance; c'est dans la Pologne que Bonaparte trouve son point d'appui, pour combattre la Russie et pénétrer jusque dans ses anciennes frontières. En vain il s'éloigne du centre de ses opérations et en s'étendant il devrait s'affaiblir; la Pologne fournira proportion gardée à

son

61

Мемарыял А. Е. Чартарыйскага аб аднаўленні Польшчы, які быў дастаўлены Аляксандру І у Санкт-Пецярбург у 1806 г. Са збораў музея А. Міцкевіча ў Парыжы. [43, rkps. № 335/8, s. 45-46].

# Глава 5
# «Польскія планы» расійскага двара

Набліжэнне французаў да межаў Расійскай імперыі і планы Напалеона Банапарта аб перспектыве аднаўлення Рэчы Паспалітай падштурхнулі расійскіх палітыкаў шукаць новыя варыянты вырашэння «польскага пытання».

Ініцыятыва па гэтай справе зноў належала А. Е. Чартарыйскаму, які разам з гр. П. Страганавым і М. Навасільцавым 11 (23) лістапада 1806 г. рыхтуе і накіроўвае першую запіску, затым асабіста 5 (17) снежня 1806 г. піша другую запіску на імя Аляксандра I, у якіх звяртае яго ўвагу на магчымасць выкарыстання Напалеонам палітычнай і эканамічнай рэсурснай базы Польшчы ў барацьбе супраць Расіі, прапаноўвае федэратыўную форму суадносін Расіі з Польшчай, лічыць магчымым абвясціць яе каралеўствам, падтрымаць шчырае жаданне палякаў выступіць у абарону гонару і свабоды сваёй краіны, а значыць апярэдзіць Напалеона ў сваіх намерах.

Асобныя актыўныя дзеячы Літвы (С. Нямцэвіч, Т. Ваўжэцкі) падтрымалі ініцыятывы А. Е. Чартарыйскага, а С. Нямцэвіч



Яўхім Лелявель, гісторык, нумізматык, бібліёграф XIX ст. Бронза. Мастак-скульптар Жан Давід. Парыж, 1844 г. Са збораў Каралеўскага замка ў Варшаве [1273, с. 80].



Юльян Урсын Нямцэвіч, ад'ютант Т. Касцюшкі, пісьменнік, публіцыст, гісторык. Бронза. Мастак-скульптар Жан Давід. Парыж, 1844 г. Са збораў Каралеўскага замка ў Варшаве [1273, с. 80].



Казіміраўскі палац. Пабудаваны ў XVII стагоддзі ў якасці каралеўскай вілы ў прадмесці Варшавы. У 1765-1795 гг. тут размяшчалася слаўная Рыцарская школа (кадэцкі корпус), выпускнікамі якой былі Тадэвуш Касцюшка, Юльян Урсын Нямцэвіч, Караль Князевіч і інш.

нават прывёз у Санкт-Пецярбург і перадаў яму свой праект па арганізацыі літоўскіх і рускіх земляў, сутнасць якога заключалася ў стварэнні з польскіх земляў аўтаномнай дзяржавы на аснове Канстытуцыі 3 мая пад апекай расійскага імператара.

Паводле плана С. Нямцэвіча, падрыхтоўка да абвяшчэння Аляксандра I польскім каралём павінна весціся ў стане строгай сакрэтнасці, а сам акт каранавання правесці ў Вільні на сходзе прадстаўнікоў грамадскасці Віленскай, Гродзенскай, Валынскай, Падольскай і Кіеўскай губерняў з падачы А. Е. Чартарыйскага.

С. Нямцэвіч падрыхтаваў спісы для ўдзелу прадстаўнікоў заможнай шляхты і праект дэкларацыі, згодна з якой Аляксандр I, як польскі кароль, гарантаваў бы шляхце захаванне зямельных надзелаў, правоў, прывілеяў і г.д.

Адначасова А. Г. Радзівіл у пачатку 1807 г. прадставіў прускаму манарху Фрыдрыху Вільгельму III надаць польскім землям палітычную незалежнасць і прыняць тытул караля Вялікай Польшчы.

Абмяркоўваючы прадстаўленыя праекты, Аляксандр I запрасіў да сябе ў маі 1807 г. у Таўрогі Т. Ваўжэцкага з Літвы і К. Князевіча, якому прапанаваў стаць на чале польскага войска ў складзе расійскіх узброеных сіл, але апошні, магчыма, пад уплывам Т. Касцюшкі адмовіўся ад такога даручэння.

Ваенна-палітычная абстаноўка не спрыяла рэалізацыі гэтых праектаў. Усім спадзяванням палякаў і ліцвінаў на адраджэнне сваіх дзяржаў у гэты час палажыла канец параза расійскай арміі спачатку пад Аўстэрліцам, затым пад Фрыдландам.

# Глава 6
# Польшча ў планах Напалеона

У пачатку XIX ст. праблема Польшчы набыла еўрапейскія маштабы. Напалеонам ужо авалодалі мары паходу на ўсход, і ён прадбачліва пачаў разыгрываць «польскую карту». Але спачатку ён старанна рыхтаваўся да расправы з Англіяй. У гэты крытычны час Расія ўступіла ў схватку з Напалеонам і ўратавала Англію.

Увага Напалеона сканцэнтравалася на саюзніках Расіі. У пачатку лістапада 1805 г. Напалеон уступіў у непераможную дагэтуль нікім сталіцу Аўстрыі Вену.

Бліз м. Аўстэрліц (цяпер м. Слаўкаў) пад г. Бруна Напалеон у прысутнасці двух імператараў — расійскага Аляксандра I і аўстрыйскага Франца I — ушчэнт разбівае аб'яднаную расійскую армію (каля 70 тыс. чал.) на чале з М. Кутузавым і 15-тысячны аўстрыйскі корпус.

Праўда, Аляксандр I не паслухаў прапанову Кутузава аб адводзе войскаў да граніц Расійскай імперыі. Нават А. Е. Чартарыйскі падтрымліваў Кутузава. У сваіх мемуарах ён піша, што калі б Кутузаў самастойна кіраваў войскамі, ён пачакаў бы спрыяльнага выпадку і трымаўся б да той хвіліны, калі да яго далучылася б Прусія [896].

«Перамога за намі! Пасля бітвы пад Іенай 27 кастрычніка 1806 года». Фрагмент. Мастак Жан-Баціст Эдуард Дэтайль. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў. [Inv. 016; 1207, c. 178].

Такім чынам трэцяя антынапалеонаўская кааліцыя распалася. Аўстрыя пакорліва схіліла галаву перад Напалеонам, у Англіі ўзніклі панічныя настроі, затое Расія не паклала зброі і ўцягнула Прусію ў чацвёртую кааліцыю. Але 14 кастрычніка 1806 г. узброеныя сілы Прусіі былі ўшчэнт разбіты Напалеонам, у выніку ягоныя ўладаранні падышлі да мяжы паміж Эльбай і Рэйнам.

У лістападзе 1806 г. у Берліне Напалеон падпісаў дэкрэт аб кантынентальнай блакадзе Англіі, вырашыўшы задушыць яе эканамічнымі санкцыямі, забараніўшы ўсім краінам, залежным ад яго, усялякія зносіны з брытанскімі астравамі.

На дапамогу Англіі зноў прыйшла Расійская імперыя, але 14 (26) снежня 1806 г. расійскія войскі пад Фрынландам атрымалі моцную паразу, што прывяло да распаду чацвёртай кааліцыі.

Заняўшы тэрыторыю «прускай Польшчы», Напалеон пачаў вырашаць далейшы лёс гэтай тэрыторыі. У лістападзе 1806 г. ён прыняў у Берліне дэлегацыю польскіх дзеячаў, якую ўзначальвалі Ю. Выбіцкі і Я. Дамброўскі. Напалеон з уласцівай яму фанабэрыяй гаварыў пра харчаванне, фураж і г.д. для ягонага войска і запатрабаваў сфарміраваць на польскіх тэрыторыях 40-тысячнае войска.

У размовах са сваімі маршаламі ён заяўляў, што для яго Польшча — гэта складанае пытанне, што ва ўласных бедах вінаваты

самі палякі, дапусціўшыя падзелы зямель, ператварыўшыя сваю краіну ў нябожчыка.

Як ужо падкрэслівалася, у гэты час Напалеон зрабіў няўдалую спробу ўцягвання ў ажыццяўленне сваіх авантурыстычных планаў нядаўняга лідэра палякаў і ліцвінаў Т. Касцюшку.

Нягледзячы на адмову Касцюшкі ў супрацоўніцтве, Напалеон пачаў яшчэ больш распальваць патрыятычныя пачуцці палякаў, каб выціснуць і выкруціць максімум з іх людскіх і матэрыяльных рэсурсаў, словам, маніпуляваць Польшчай так, як яму было выгадна.

У яго нават узнікла ідэя дараваць польскую карону прускаму каралю, каб схіліць апошняга да саюза з Францыяй і раскалоць кааліцыю.

Напалеон разглядаў і іншыя праекты, каб узняць палякаў супраць Расіі, ствараць дыверсійныя атрады, рэйды ў літоўскія губерні, каб несці шкоду расійскім вайсковым камунікацыям, узбуджаць антырасійскі настрой.

Пасля шэрагу перамог над расійскімі войскамі Напалеон загарэўся ідэяй заключыць з Расіяй мірную дамову і ўцягнуць яе ў выгадны саюз, таму на кароткі час не разглядаў праблемы Польшчы і Літвы.

У чэрвені 1807 г. у г. Тыльзіце (цяпер г. Свяцк каля Калінінграда) па ініцыятыве Напалеона адбылося спатканне французскай і расійскай дэлегацый, якія ўзначальвалі імператары. Нарэшце мара Напалеона збылася, бо, падпісаўшы мірную дамову, Расія прызнала яго імператарам Францыі і захопленых ім зямель, уступала з ім у саюз, пагаджалася далучыцца да кантынентальнай блакады супраць Англіі, падпісаць мір з Турцыяй на ўмовах Францыі і давала дабро на стварэнне на польскіх землях польскай дзяржаўнасці — Княства (Герцагства) Варшаўскага.

Менавіта ў Тыльзіце ўзнікла і прапрацоўвалася першая ідэя аднаўлення ВКЛ, бо падчас тыльзіцкіх перамоў да Напалеона прыбыла патаемная ліцвінская дэлегацыя ў складзе Ю. Серакоўскага, Т. Тышкевіча і Л. Плятэра, якая прывезла французскаму імператару на гэты конт свае меркаванні. Дэлегацыя была прынята толькі на ўзроўні напалеонаўскага сакратарыята і вярнулася назад без усялякіх вынікаў, бо Тыльзіцкі мір паклаў канец надзеям на аднаўленне ВКЛ.

Пасля Тыльзіту змянілася Еўропа: ад Прусіі адышла палова захопленых ёю тэрыторый, Напалеон стаў паўнамоцным уладаром Цэнтральнай і Заходняй Еўропы, прыйшла перадышка ў барацьбе за ўплыў у Еўропе. Нягледзячы на гэта, французска-расійскія адносіны сталі яшчэ больш напружанымі, у Расіі выспявала незадаволенасць і расла трывога ў асяродку дваранства і грамадскасці ў цэлым.



«Напалеон у 1814 годзе». Мастак Жан-Луі-Эрнэст Месанье.

1. Чорная фетравая шапка — неабходны кампанент іміджа Напалеона, якая стала ягоным адметным знакам. Парыж.
Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў.
[42, Inv. Ca 34; 105, c. 119].

2. Палявая вопратка Напалеона.
Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў.
[Inv. Ca 16; 1207, c. 85].



2



1

# Глава 7
# Варшаўскае герцагства (княства)

Паводле Тыльзіцкай мірнай дамовы ад 27 чэрвеня (9 ліпеня) 1897 г. на землях былой Рэчы Паспалітай, адабраных ад Прусіі (у іх ліку частка Гродзенскага раёна з г.п. Сапоцкін), Напалеонам Банапартам была створана васальная дзяржава — Варшаўскае герцагства ў сістэме напалеонаўскай імперыі.

Напачатку герцагства займала 1850 кв. міль, падзялялася на 6 дэпартаментаў (Варшава, Быдгашч, Каліш, Ломжа, Плоцк і Познань), якімі кіравалі прэфекты і павятовыя падпрэфекты, у гарадах — прэзідэнты і бургамістры. Кіравалася Герцагства Канстытуцыяй, праект якой адрэдагаваў і зацвердзіў сам Напалеон 22 ліпеня 1807 г. у Дрэздэне. Ён жа прызначыў саксонскага караля Фрыдрыха Аўгуста I наменікам герцагства пад тытулам герцага Варшаўскага.

Выпрацоўкай законапраектаў і дэкрэтаў, фінансавымі і маёмаснымі пытаннямі, касацыйнымі справамі інш. у герцагстве займаўся Дзяржаўны савет, склад якога прызначаўся герцагам Варшаўскім.



Каранацыйная рэгалія Напалеона — карона, якая стала сімвалам ягонай улады ў Францыі [1013, с. 61].



Параза маршала Віктора пры Старым Барысаве 15 і 16 (27 і 28) лістапада 1812 г. Гравюра І. Бегцерава, выкананал пад кіраўніцтвам С. Кардэлі ў 1814 г. [302, с. 288].

Урадавай дзейнасцю займалася Рада міністраў з 6 чал. Прэм'ер-міністрам быў прызначаны С. Патоцкі, міністрамі: паліцыі — І. Сабалеўскі, фінансаў — Т. Матушэвіч, юстыцыі — Ф. Лубенскі, ваенным міністрам — Ю. Панятоўскі, пляменнік апошняга караля Рэчы Паспалітай С. А. Панятоўскага.

Канстытуцыяй 1807 г. абвяшчаліся роўнасць усіх грамадзян перад законам, свабода веравызнання, скасоўвалася прыгонніцтва, уводзілася парламенцкая форма кіравання.

Парламент герцагства (Сейм) складаўся з дзвюх палат: Сената (18 чал.) і Палаты земскіх дэпутатаў, так званай Пасольскай ізбы (60 чал.). Сейм не меў права заканадаўчай ініцыятывы, склікаўся ў Варшаве кожныя 2 гады герцагам, якому належала вышэйшая выканаўчая ўлада [131].

Герцаг Варшаўскі Фрыдрых Аўгуст І карыстаўся павагай у палякаў, размаўляў папольску, ганарыўся тым, што належыць да нашчадкаў каралёў з дынастыі Саксаў, якія кіравалі некалі Рэччу Паспалітай.

У маі 1808 г. Напалеон зацвердзіў для герцагства грамадзянскі кодэкс на французскі ўзор, а ў 1809 і 1810 гг. спецыяльнымі дэкрэтамі былі зацверджаны нормы новага кодэкса.

«Кодэкс Напалеона» меў прагрэсіўны характар, пацвярджаў роўнасць грамадзян перад законам і судом, дэклараваў незалежнасць суда ад урадавых структур, але часткова захоўваў прынцыпы прускага крымінальнага права.

Згодна з Канстытуцыяй і Кодэксам, польскае войска (30 тыс. чал.) павінна было служыць імператару Францыі.



Папа Рымскі Пій VII (1742-1823). У 1812 г. папа выступіў супраць палітыкі Напалеона ў адносінах да царквы, бо, паводле ўнесеных паправак Напалеонам у асноўны Закон Францыі, царква поўнасцю падпадала пад кантроль дзяржавы, і далучыўся да саюзнікаў. За гэты ўчынак Напалеон арыштаваў папу, але ў вачах французаў папа стаў сімвалам нязгоды з уладай узурпатара. Папа таксама адмовіўся развянчаць шлюб Жэрома, брата Напалеона, і даць яму развод з Элізабэт Патарсон, не прызнаў улады Жазэфа, брата Напалеона, над Сіцыліяй. Нягледзячы на такую непрымірымую пазіцыю, папа прысутнічаў на каранацыі Напалеона, быў цесна звязаны з родам Банапартаў на Корсіцы, а пасля паражэння Напалеона і вяртання да ўлады дынастыі Бурбонаў праявіў высакароднасць да лёсу сям'і Напалеона, прапанаваў маці Напалеона Марыі Ляцыцы прытулак і сваю апеку. [1013, с. 61].

Пасля паражэння войскаў незалежнай Аўстрыі пры падтрымцы Расіі і ўдзеле войскаў Варшаўскага герцагства Напалеон зрабіў вялікі крок насустрач палякам. За кошт заваяваных земляў Галіцыі ў снежні 1809 г. ён павялічыў Варшаўскае герцагства на 919 кв. міль з насельніцтвам у паўтара мільёны чалавек. Да герцагства далучыліся землі, на якіх былі створаны Люблінскі, Радамскі і Седльцкі дэпартаменты.

За кароткі час у Варшаўскім герцагстве быў ажыццяўлены шэраг сацыяльных рэформаў, асабліва ў галіне асветы: адноўлены ўніверсітэт Ягелонскіх у Кракаве, заснавана медыцынская школа ў Варшаве, павялічылася колькасць пачатковых школ.

Вельмі трапна характарызавалі нетрывалы стан Варшаўскага герцагства тагачасныя крытыкі, маўляў, у Еўропе з'явілася новае польскае дзяржаўнае ўтварэнне, у якім манета пруская, армія польская, кароль саксонскі, а Кодэкс французскі.

Як бы там ні было, але стварэнне і пашырэнне Варшаўскага герцагства стала прарывам на шляху аднаўлення Польшчы.

Падчас паходу арміі кн. Галіцына ў Галіцыю група польскіх магнатаў звярнулася праз яго да Аляксандра I з прапановай аб аднаўленні Польскага каралеўства шляхам далучэння да Варшаўскага герцагства былых польскіх зямель на тэрыторыі расійскіх губерняў за выключэннем Віцебскай і Магілёўскай губерняў і часткі Кіеўскай і Падольскай губерняў.

Аляксандр I пагадзіўся на такі варыянт і шчыра прызнаўся, што быў бы нават удзячны, калі Польскае каралеўства прызнае яго сваім манархам.

## Глава 8
# Стан грамадства ў беларускіх губернях

На Літве існаванне Варшаўскага герцагства ўспрымалася неадназначна: большая частка ліцвінскай шляхты і магнатаў ставіліся да герцагства прыхільна, іншыя баяліся напалеонаўскіх новаўвядзенняў і страты прыгонных сялян.

Тым часам па беларускіх губернях паўсюдна распаўсюджваліся лістоўкі, маніфесты, брашуры, праз якія яшчэ з большай сілай падграваліся чуткі пра аднаўленне Польскага каралеўства і далучэнне да Варшаўскага герцагства галіцыйскіх зямель, якімі валодала Аўстрыя, і літоўскіх губерняў Расіі.

Ад'езд Напалеона з новай жонкай Марыяй-Луізай Хабсбургскай, эрцгерцагіняй Аўстрыі, у пасляшлюбнае падарожжа на адпачынак у Бельгію (красавік 1810 г.) [1013, с. 87].



Пачалася шырокая эміграцыя шляхецкай моладзі з заходніх беларускіх губерняў у армію Варшаўскага герцагства. Служыць у польскай арміі Напалеона лічылася за вялікі гонар, таму за мяжу з Літвы ўцякалі не толькі шляхцічы, але і сяляне, каб пазбегнуць прыгонніцтва і набораў у расійскія рэкруты.

Пакінулі свае маёнткі і выехалі ў Варшаву нават літоўскія магнаты Д. Радзівіл, Л. Пац, А. Сапега і інш.

У Варшаўскае герцагства пабеглі не толькі людзі, але вывозіліся валюта, жывёла, коні, павозкі, харч, фураж і г.д.

Гэта не дзіўна, бо на працягу апошніх ваенных гадоў 1805-1812 гг. беларускія губерні сталі тэрыторыяй бясконцых маршаў, рэйдаў і перасоўвання вялікіх расійскіх армій, а таксама месцам іх дыслакацыі.

Нярэдка вайсковыя маршы суправаджаліся злоўжываннямі і не заўсёды законнымі дзеяннямі ваенных камендантаў па прымусовым зборы мясцовых жыхароў з павозкамі для забеспячэння перасоўвання войскаў.

Трохгадовы неўраджай, недахоп рабочых рук, дрэннае кіраўніцтва мясцовых адміністрацый, вынікі кантынентальнай блакады ў галіне гандлю, адсутнасць наяўных грошай, недавоз іх з расійскіх банкаў прывялі да голаду, галечы і эпедымічных хваробаў у Беларусі [1103].

Да гэтага трэба дадаць факт існавання хаосу ў сістэме прававога забеспячэння, бо адначасова са Статутам ВКЛ дзейнічалі ўказы і дэкрэты, выдадзеныя Кацярынай II, Паўлам I і Аляксандрам I. Не на вышыні было і судзейства, не хапала судзейскіх кадраў. Судовыя справы накіроўваліся да канчатковага разгляду ў Санкт-Пецярбург, іх рашэнні марудзіліся. Сярод расійскай адміністрацыі ў Беларусі распаўсюджваліся карупцыя, злоўжыванні, а паліцыя не змагла ў поўнай меры забяспечыць грамадскі парадак.

Вялікая колькасць уцекачоў з арміі і беглых сялян, недахоп харчу ў значнай ступені ўплывалі на рост злачыннасці, рабаванinformationня, узброеных нападзенняў на панскія двары і вёскі, што было не характэрным для Літвы раней.

Паколькі паліцыя бяздзейнічала, грамадзяне беларускіх губерняў пачалі абараняць сваю маёмасць і сябе ўласнымі сіламі і сродкамі. Так, уладальнік маёнткаў на Браслаўшчыне Т. Ваўжэцкі арганізаваў і ўзброіў сваю грамадзянскую паліцыю, якая вяла барацьбу са злачыннасцю на месцах.

Сітуацыя са злачыннасцю не ў лепшым стане была ў цэлым па Расіі. Нават пісьменнік-гісторык М. Карамзін, якога нельга ўлічыць у адсутнасці патрыятызму, неаднаразова падкрэсліваў, што стан Расіі на той час характарызаваўся адным словам «крадзёж», які быў пастаўлены на шырокую нагу [502].

Адзіным страхам для чыноўнікаў расійскай адміністрацыі, беспакарана злоўжываўшых сваім службовым палажэннем у беларускіх губернях, былі рэдкія сенатарскія праверкі-рэвізіі з Санкт-Пецярбургу ды неаднаразовыя запіскі А. Чартарыйскага Аляксандру I, але і яны не ўплывалі па паляпшэнне сітуацыі.

Выбары губернскіх і павятовых маршалкаў былі прадметам бурнай барацьбы. Сама працэдура выбараў на ўсіх узроўнях рэгулявалася дадатковымі ўрадавымі ўказамі. Прымаць удзел у выбарах губернскіх маршалкаў і быць абранымі магла толькі шляхта, якая мела ў асабістай уласнасці маёнтак з сялянамі, вучоную ступень, афіцэрскае званне ці адпаведны службовы ранг.

Выбары ў сеймікі рэгуляваліся законамі часоў Рэчы Паспалітай, а выбранымі ў сеймікі і на губернскую службу маглі быць асобы, якія мелі 20 і больш прыгонных душ, менш заможныя мелі права займаць павятовыя і ніжэйшыя службовыя пасады.

Шляхетныя сем'і рознымі спосабамі спрабавалі абысці ўсталяваныя абмежаванні, напрыклад, запісвалі сваіх сыноў у розныя канцыляры і ў якасці практыкантаў для атрымання адпаведнага тытула. Жадаючых,


Cérémonie du Mariage
de
S. M. l'Empereur Napoléon,
avec
S. A. I. et R. l'Archiduchesse
Marie-Louise.


GALERIE DU MUSÉE.

BILLET d'entrée pour un homme.

On entrera par les deux escaliers extérieurs du Pavillon de l'Horloge, du côté du Quai et de la rue des Orties.

La porte s'ouvrira à sept heures, et sera fermée à midi.

Les hommes seront en habit français.

GRAND MAÎTRE DES CÉRÉMONIES

Запрашэнне для высокіх гасцей на ўдзел ва ўрачыстай цырымоніі ў Луўр, прысвечанай заключэнню другога шлюбу Напалеона з Марыяй-Луізай. Злева — аверс, справа — адварот запрашэння [1013, с. 64].



Марыя Валеўская і Напалеон прымаюць віншаванні і брусельскія кружавы ад прыдворных дам з нагоды нараджэння пазашлюбнага сына Аляксандра. Праз 40 гадоў Аляксандр стане міністрам замежных спраў у імператара Францыі Напалеона III, сына Луіса Банапарта (брата Напалеона I) і Гартэнзіі, пляменніка Напалеона [1013, с. 85].

каб уласнымі намаганнямі атрымаць вучоную ступень у Віленскім універсітэце, было ўсё менш.

Шмат злоўжыванняў і блытаніны мелася ў працы шматлікіх рэкруцкіх камісій, выдаткі на ўтрыманне якіх пакрываліся за кошт насельніцтва. Існавала негалосна вызначаная такса аплат галоўнаму ўрачу-інспектару, ваенным арганізатарам набораў, аплата за дастаўку, абмундзіраванне, а таксама ўтрыманне рэкрутаў і г.д.

Амаль нічога не рабілася для паляпшэння ўмоў жыцця сельскім жыхарам. Указ Аляксандра I 1803 г. «Аб вольных фермерах» выконваўся марудна. За перыяд ягонага праўлення атрымала волю толькі 47 тыс. 153 прыгонных селяніна без зямельнага надзела ад 161 памешчыка.

Праект вызвалення сялян ад прыгонніцтва прапагандаваў і праводзіў па ініцыятыве Гродзенскага маршалка на Беласточчыне дэпутат Гронцкі. Паводле праекта Гронцкага, беластоцкая шляхта па ўласнай волі павінна прынесці ахвяраванне дзеля вызвалення сялян ад прыгонніцтва.

На тэму вызвалення сялян выйшла кніга сенатара Страўноўскага, якая разам з праектам Гронцкага была прыняты варожа ва ўладных кабінетах Санкт-Пецярбурга. Асабліва захваляваліся расійскія магнаты, якія атрымалі на землях Беларусі велізарныя надзелы са шматтысячнай колькасцю прыгонных душ.

Валынскі губернатар гр. Качубей назваў працу Страўноўскага «варожай кнігай», а Віленскі генерал-губернатар кн. М. Галянішчаў-Кутузаў выступіў з абурэннем, назваўшы кнігу, напісаную «недастойным палякам», «... набатным звонам, які можа ўскалыхнуць Расійскую дзяржаву», што яму, генералу Кутузаву, «сорамна насіць такую ж вопратку», у якую апрануты названы сенатар [1103].

Такім чынам, расійская ўлада не дапускала нават думкі аб разглядзе прапаноў і праектаў Гронцкага, Страўноўскага, пазней Любецкага аб правядзенні рэформы па ўладкаванню больш дастойнага жыцця беларускіх сялян.



RÉPUBLIQUE FRANÇAISE

Liberté Egalité

Au Quartier Général de Milan le 22 Brumaire an VI. de la République, une et indivisible

BONAPARTE
Général en Chef de l'Armée d'Italie

AU PEUPLE CISALPIN

A compter du premier Frimaire votre Constitution se trouvera en pleine activité.
Votre Directoire, votre Corps Législatif, votre Tribunal de Cassation, les autres Administrations subalternes se trouveront organisées.
Vous êtes le premier exemple dans l'histoire, d'un Peuple qui devient libre, sans factions, sans révolutions et sans déchirement.
Nous vous avons donné la Liberté, sachez la conserver.
Vous êtes, après la France, la République la plus populeuse, la plus riche. Votre position vous appelle à jouer un grand rôle dans les affaires de l'Europe.
Pour être dignes de votre destinée, ne faites que des Lois sages et modérées.
Faites les exécuter avec force et énergie.
Favorisez la propagation des lumières, et respectez la Religion.
Composez vos bataillons, non pas de gens sans aveu, mais de Citoyens qui se nourrissent des principes de la République, et soient immédiatement attachés à sa prosperité.
Vous avez en général besoin de vous pénétrer du sentiment de votre force, et de la dignité qui convient à l'homme libre.
Divisés et pliés depuis tant d'années à la tyrannie, vous n'eussiez pas conquis votre liberté. Mais sous peu d'années, fussiez-vous abandonnés à vous-même, aucune Puissance de la terre ne sera assez forte pour vous l'ôter.
Jusqu' alors la grande Nation vous protégera contre les attaques de vos voisins. Son système politique sera réuni au vôtre.
Si le Peuple Romain eut fait le même usage de sa force, que le Peuple Français, les Aigles Romaines seraient encore sur le Capitole, et dix huit siècles d'esclavage et de tyrannie n'auraient pas déshonoré l'espèce humaine.
J'ai fait pour consolider la liberté et en seule vue de votre bonheur, un travail que l'ambition et l'amour du pouvoir ont seul fait faire à d'autres.
J'ai nommé à un gran nombre de places. Je me suis exposé à avoir oublié l'homme probe et donné la préférence à l'intrigant, mais il y avait des inconvéniens majeurs à vous laisser faire les premières nominations. Vous n'étiez pas encore organisés.
Je vous quitte sous peu de jours. Les ordres de mon gouvernement, et un danger imminent que courrait la République Cisalpine, me rappelleront seul au milieu de vous.
Mais dans quelque lieu que le service de ma patrie m'appelle, je prendrai toujours une vive sollicitude au bonheur, et à la gloire de votre République.

BONAPARTE

Milan, Chez les Frères Pirola.

Дэкларацыя Напалеона Банапарта народу адной з правінцый Італіі, падпісаная ім 11 лістапада 1795 г. [1005, с. 31].

Від Варшавы (прадмесце Прага) у 1807 г.
Акварэль Жыгімонта Фогеля (1764-1826) [1005, с. 73].

## Глава 9

# Новыя расійскія планы па аднаўленню Польшчы

На працягу 1810-1811 гг. Расія вяла ўзмоцненую падрыхтоўку да вайны з Францыяй паводле абарончага плана, распрацаванага Генеральным штабам узброеных сіл пад кіраўніцтвам ваеннага міністра ген. Барклая дэ Толі. Аляксандр І быў прыхільнікам абарончай вайны і таму падтрымліваў прадстаўлены план.

Але сітуацыя змянілася, калі стала відавочна, што Напалеон збіраецца рушыць на Расію войскі амаль усіх краінаў Еўропы, таму Расія стала ўсур'ёз рыхтавацца да наступальных дзеянняў у кірунку Польшчы і Германіі.

З гэтай нагоды ў пісьме да кн. А. Чартарыйскага ў пачатку 1811 г. Аляксандр І падкрэсліваў, што Расія не можа быць перашкодай у справе аднаўлення Польшчы, што менавіта яна можа ажыццявіць надзеі і мары палякаў, але яму патрэбна 50-тысячнае польскае войска для ваенных дзеянняў



супраць Напалеона, а значыць, ад саміх палякаў залежыць іх далейшы лёс [896].

Як сведчаць матэрыялы перапіскі Аляксандра І з кн. А. Чартарыйскім, Расія сапраўды планавала аднавіць Польскае каралеўства з былых зямель Польшчы, за выключэннем Беларусі, абяцала ўвесці ліберальную Канстытуцыю, дапусціць да ўладных структур каралеўства толькі польскіх чыноўнікаў. Але Аляксандр І выставіў палякам дзве ўмовы. Па-першае, Польскае каралеўства назаўсёды далучыцца да Расіі і Аляксандр І стане польскім каралём. Па-другое, каб жыхары каралеўства аднадушна жадалі далучыцца да Расійскай імперыі, а ўплывовыя дзяржаўныя дзеячы Польшчы паставілі пад гэтым свае подпісы.

Усё залежала ад згоды аўстрыйскага імператара па перадачы земляў Галіцыі Польскаму каралеўству, а ўзамен планавалася перадаць Аўстрыі землі Малдавіі і Валахіі. Перашкодай гэтаму маглі быць Саксонія і Прусія, з якімі Аляксандр І вёў мэтанакіраваную перапіску, абяцаючы ім выгады ад гэтых падзелаў.

Пераход палякаў на бок Расійскай імперыі, паводле меркавання Аляксандра І, у пэўнай меры прадвызначыць далейшае пераўстройства Еўропы, прымусіць Напалеона вывесці свае войскі з акупаванай Іспаніі,




Абвяшчэнне аб нараджэнні Марыяй-Луізай сына ад Напалеона Банапарта 20 сакавіка 1811 г. [1005, с. 93-а].

шматтысячная армія якой можа ўвайсці ў Францыю. У выніку новай вайны Еўропа можа вызваліцца ад напалеонаўскай залежнасці і палякі атрымаюць абяцанае каралеўства ў складзе Расійскай імперыі з ліберальнай Канстытуцыяй, свабодным гандлем, што прывядзе да дабрабыту польскага народа [332].

На самой справе падзеі развіваліся не ў тым кірунку, у якім завяраў Аляксандр І кн. А. Чартарыйскага. Згодна з планам, распрацаваным Бенігсонам, Расія павінна апярэдзіць Напалеона і абвясціць Францыі вайну, увесці свае войскі ў Прусію і Польшчу, а ў выпадку супраціўлення знішчыць армію Варшаўскага герцагства.

У пачатку 1812 г. пачаліся перадыслакацыя і канцэнтрацыя расійскіх войскаў уздоўж граніцы Варшаўскага герцагства, што падняло страшэнную паніку сярод палякаў і прафранцузскі настрой. Пра гэта паведаміў кн. А. Чартарыйскі ў пісьме Аляксандру І пасля свайго візіту ў Варшаўскае герцагства і няўдалай спробы схіліць ваеннага міністра Варшаўскага герцагства кн. Ю. Панятоўскага на бок Расіі.

Даведаўшыся ад Панятоўскага аб агрэсіўных планах Расіі, Напалеон абвінаваціў Аляксандра І у падрыхтоўцы вайны супраць Францыі і пачаў умацоўваць Варшаўскае герцагства вайсковымі фарміраваннямі і зброяй.

Прускі кароль Фрыдрых Вільгельм III не толькі не паддаўся на ўгаворы Аляксандра І выступіць у саюзе з Расіяй і падтрымаць расійскія планы ў адносінах да Польшчы, але распачаў перамовы з Напалеонам аб сумесных дзеяннях. У пісьме да Аляксандра І ён пісаў, што мог бы выступіць разам з Расіяй супраць Напалеона пры ўмове далучэння да саюза з Расіяй Аўстрыі і Польшчы.

Такім чынам, да сярэдзіны 1811 г. антынапалеонаўская кааліцыя Расія-Прусія-Аўстрыя-Польшча не склалася. У такіх умовах наступальны план вайны з Напалеонам адпадаў, заставалася толькі рыхтаваць план абарончай дактрыны.



Паўліна Банапарт, сястра Напалеона. Малюнак 1808 г. Мастак Марыя Бенуаст (1768-1826) [1005, с. 89].

## Глава 10
# ВКЛ у планах Аляксандра І

Для стварэння спрыяльных умоў па падрыхтоўцы і вядзенні баявых дзеянняў на тэрыторыі беларускіх губерняў Аляксандру І прыйшлося разглядаць прапановы па ўтварэнню тут аўтаномнай дзяржаўнасці — Вялікага Княства Літоўскага.

Думку аб арганізацыі ВКЛ Аляксандр І выказаў яшчэ ў 1809 г. падчас гутарак з А. Чартарыйскім, але канкрэтна літоўская справа кранулася з месца пасля правалу плана далучэння Варшаўскага герцагства да Расійскай імперыі.

Асноўную працу па выпрацоўцы праекта стварэння ВКЛ выканалі А. Чартарыйскі і аўтарытэтны і паважаны ў Еўропе і нават Напалеонам сенатар М.К. Агінскі, адзін з паплечнікаў Т. Касцюшкі, аўтар славутага паланеза «Развітанне з Радзімай».

Падчас аўдыенцыі 5 (17) красавіка 1810 г. А. Чартарыйскі, які на працягу пяці месяцаў да гэтага амаль штодзённа бываў пры расійскім двары, пазнаёміў імператара з планам адбудовы ВКЛ, якім прадугледжвалася на літоўскіх землях стварэнне Сената, Літоўскай адміністрацыі з канцылярыяй у Санкт-Пецярбургу, Літоўскі Трыбунал і г.д. Але хутка А. Чартарыйскі зняверыўся ў шчырасці Аляксандра І і спыніў з ім кантакты.

Але ідэя аднаўлення ВКЛ не пакідала М.К. Агінскага. У 1802 г. ён вярнуўся па амністыі на радзіму ў свой радавы маёнтак Залессе, што на Смаргоншчыне, прысягнуў на адданасць Аляксандру І, заслужыў ягоны давер, за што ў 1810 г. атрымаў званне сенатара, чын тайнага саветніка, ордэны Св. Уладзіміра і Аляксандра Неўскага. Меў шэраг сустрэч і аўдыенцый у Аляксандра І у Санкт-Пецярбургу, Вільні, Магілёве і Віцебску.

Да гэтага ён некалькі разоў гутарыў з Напалеонам, але яму не давяраў і свае спадзяванні на аднаўленне Рэчы Паспалітай звязаў толькі з Расіяй.

У чэрвені 1810 г. Агінскі, як упаўнаважаны ад Віленскай шляхты, прыехаў у Санкт-Пецярбург і быў прыняты Аляксандрам І. Пасля аўдыенцыі Агінскі шчыра паверыў у прыхільныя выказванні расійскага імператара наконт аднаўлення Рэчы Паспалітай.

Пасля гэтай аўдыенцыі ў імператара ён наведаў Вільню, Парыж, Дрэздэн, дзе вёў актыўную агітацыю за аднаўленне ВКЛ сярод сваіх землякоў. У Дрэздэне ён сустрэўся і абмеркаваў з Г. Калантаем складўшуюся сітуацыю. Па дарозе Агінскі назіраў велізарную канцэнтрацыю напалеонаўскіх войскаў пры набліжэнні да граніц Расійскай імперыі і, прыехаўшы ў Санкт-Пецярбург, папярэдзіў Аляксандра І аб хуткім пачатку вайны. На запыт Аляксандра І аб уводзе расійскай арміі ў Варшаўскае герцагства і Галіцыю і пачатку прэвентыўнай вайны супраць Напалеона Агінскі паставіў пад сумненне паспяховасць

гэтай аперацыі, бо тагачасная геапалітычная сітуацыя была не на баку Расіі.

У ходзе гэтай размовы, якая адбылася ў пачатку красавіка 1811 г., Агінскі прапанаваў Аляксандру I правесці адміністрацыйную рэформу на тэрыторыі заходніх губерняў Расійскай імперыі і ўтварыць з Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай губерняў з уключэннем Беластоцкай і Тарнапальскай акруг былую дзяржаўнасць — Вялікае Княства Літоўскае. Аляксандр I ухваліў прапановы Агінскага і даручыў яму падрыхтаваць пісьмовы праект плана.

Асноўныя палажэнні гэтага плана распрацавала група літоўскіх дзеячаў пад кіраўніцтвам М. Агінскага ў складзе Т. Ваўжэцкага, Ф. Любецкага, Л. Плятэра і інш.

План аднаўлення ВКЛ быў прадстаўлены М. Агінскім імператару ў мемарыяле (памятнай запісцы), згодна з якім планавалася ўтварыць з вышэй названых губерняў і акруг ВКЛ са сталіцай Вільняй на чале з імператарскім намеснікам Літоўскую канцылярыю ў Санкт-Пецярбургу для кіравання ВКЛ, у Вільні — Адміністрацыйную Раду пад старшынствам намесніка.

Планам таксама прадугледжвалася прызнанне Статута ВКЛ 1588 г. асноўным грамадзянскім законам, вядзенне справаводства на польскай мове, стварэнне ў Вільні Вярхоўнага трыбунала як вышэйшай судовай інстанцыі па крымінальных і судовых справах, замяшчэнне дзяржаўных пасад ураджэнцамі ВКЛ, выдзяленне фінансавых сродкаў асобным радком на народную адукацыю.



Сустрэча Напалеона Банапарта і Аляксандра I у Эрфурце ў 1808 г. Размаляваная гравюра [557, с. 29].




Прэм'ер-міністр Англіі Вільям і Напалеон Банапарт дзеляць мір па частках (карыкатура). Малюнак 1804 г. Мастак Жамэ Гільрэй (1757-1815) [1305, с. 95].

Пры распрацоўцы праекта Канстытуцыі ВКЛ асноўныя палажэнні плана былі дапоўнены і пашыраны. Напрыклад, прадугледжвалася стварыць двухпалатны сейм, а на працягу 10 гадоў ліквідаваць прыгонную залежнасць сялян.

Пры азнаямленні Аляксандра I з дапрацаваным планам было прапанавана правесці работу па арганізацыі літоўскага войска ў складзе ўзброеных сіл Расійскай імперыі.

Падчас гутаркі Аляксандр I прасіў Агінскага як свайго даверанага сенатара трымаць у сакрэце змест іх размовы. З таго часу сенатара Агінскага некалькі разоў на тыдзень запрашалі на званыя імператарскія абеды і прыёмы, на якіх часта закраналіся пытанні гісторыі і традыцыі Літоўскага краю, праблемы яго адміністрацыйнага ўладкавання.

Дарэчы, мемарыял Агінскага да Аляксандра I заканчваецца ўзнёслымі словамі аб тым, што адным росчыркам імператарскай рукі ліцвінам будуць вернуты іхнія імя і Айчына ў той час, калі варшавяне цешацца толькі надзеяй, якую да таго ж павінны аплочваць асабістай крывёю [127].

Пасля гэтага Агінскі накіраваўся на Бацькаўшчыну ў свой маёнтак Залессе, дзе пазнаёміў землякоў з планам аднаўлення ВКЛ і перадаў наказ Аляксандра I захоўваць спакой і разважлівасць на месцах, а ён, імператар, калі пачнецца вайна, створыць Польскае каралеўства, а калі вайны не будзе — выканае вялікі план наконт Літвы [1217].

У кастрычніку 1811 г. Агінскі зноў гутарыў з Аляксандрам I па асноўных палажэннях плана. Падчас гутаркі імператар прапанаваў вылучыць восем найаўтарытэтнейшых прадстаўнікоў ад кожнай губерні, якім можна даверыць ажыццяўленне плана, з якімі ён неўзабаве сустрэўся ў Санкт-Пецярбургу.

На чарговай сустрэчы 27 студзеня 1812 г. Аляксандр I раіў Агінскаму звярнуць увагу на праблемы земляробства ў беларускіх губернях, а ў першай палове чэрвеня напярэдадні вайны расійскі імператар падняў перад Агінскім пытанне стварэння газеты, якую збіраюцца выпускаць пры Галоўным штабе. Мэта газеты састаяла ў разбурэнні і нейтралізацыі прапагандысцкіх пракламацый і лістовак эмісараў Напалеона, каб астудзіць успламянёнасць ліцвінаў. Імператар папрасіў Агінскага выехаць на Валынь да гр. Л. Плятэра і перадаць яму, што жадае бачыць яго ў сябе ў Галоўнай кватэры і даручае яму рэдагаванне гэтай газеты на французскай і польскай мовах [848, 1216].

Галоўнай мэтай, якую праследаваў расійскі імператар, плануючы адміністрацыйныя рэформы на тэрыторыі ВКЛ, было максімальнае выкарыстанне матэрыяльных і людскіх рэсурсаў, забеспячэнне ягонай велізарнай арміі харчам і фуражом, спустошыць гэтыя землі, а пры неспрыяльным ходзе баявых дзеянняў і адступаючы на новую моцна ўмацаваную лінію абароны, пакінуць непрыяцелю «... все места опустошенные, без хлеба, скота и средств...» [457, 600]. Аляксандра I не засмучала пры гэтым магчымасць грамадзянскай вайны паміж народамі былой Рэчы Паспалітай (палякамі і ліцвінамі).

Тым не менш, план Агінскага па аднаўленню ВКЛ быў варожа ўспрыняты расійскім грамадствам. На пазіцыю Расійскага двара моцна паўплывала нарастанне кансерватыўна-нацыяналістычных настрояў сярод творчай і навуковай інтэлігенцыі. Распаўсюджванне па Расіі «Запіскі пра старажытную і новую Расію» М. Карамзіна, адстаўка і высылка з



Франц I Іосіф Карл (1768-1835), імператар Аўстрыі, у 1804-1835 гг. – кароль Венгрыі і Багеміі. Перад тым, як стаць цесцем Напалеона Банапарта, доўгі час Франц з'яўляўся яму ворагам, бо лічыў Напалеона пераемнікам Французскай рэвалюцыі і называў яго «Карсіканскім людаедам» [1013, с. 69].



être sincères dans leurs déclarations
et n'en avoir jamais voulu qu'à ma
personne ! ma vie politique est
terminée et je proclame mon fils sous
le titre de Napoléon 2 Empereur
des Français.

Les Ministres actuels formeront
provisoirement le Conseil de gouvernement.
l'intérêt que je porte à mon fils
m'engage à inviter les chambres à
organiser sans délai la régence
par une loi.

Unissez vous tous pour le
salut public et pour rester une
Nation indépendante.

Au Palais de l'Élysée
le 22 juin 1815

Napoléon

Acte d'abdication rédigé par Napoléon Ier le 22 juin 1815

Другі Акт адрачэння Напалеона ад імператарства перад французскім народам ад 22 чэрвеня 1815 г. [1005, с.118-а].



Напалеон пасля першага адрачэння ад трона ў красавіку 1814 г. пакідае імператарскую рэзідэнцыю ў Фантэбла. Мастак Дэларош (Георг Жульен) Аўгуста Кайн (1856-1919) [1305, с. 49].

Санкт-Пецярбурга дзяржаўнага дзеяча М. Сперанскага, якому Аляксандр I даручыў весці разам з Агінскім падрыхтоўку праекта плана аднаўлення ВКЛ, іншыя неспрыяльныя падзеі перашкодзілі ўхваленню дадзенага плана Расійскім дваром.

У пачатку 1812 г. Аляксандр I фактычна адмовіўся ад ідэі аднаўлення ВКЛ, а пасля выезду імператара ў красавіку таго ж года да арміі гэтае пытанне ўжо не разглядалася і план аднаўлення ВКЛ застаўся нерэалізаваным. Нягледзячы на гэта, план Агінскага з'яўляўся важнай вехай на шляху расійскай палітыкі на тэрыторыі беларускіх губерняў, бо ўрад прыняў шэраг мер па развіццю гэтага рэгіёну (законы 1812 г. аб падаткавых ільготах, рэскрыпт Аляксандра I аб патрэбах і межах літоўскіх губерняў, імператарскі Указ аб падатках у Віленскай губерні і інш.) [57].

Клопаты Агінскага пра сваю Айчыну працягваліся і пасля вайны 1812 года. Аляксандр I даручыў яму напісаць зварот імператара да жыхароў Заходняга краю і рэскрыпт да фельдмаршала М. Кутузава пра амністыю ўсім сваім былым праціўнікам.

Летам 1814 г. у Санкт-Пецярбургу па ініцыятыве Агінскага Аляксандр I сустрэўся з дэпутатамі Гродзенскай, Віленскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Валынскай, Падольскай, Курляндскай губерняў і Беластоцкай акругі і падзякаваў за падтрымку і дапамогу ў вайне 1812 г., а ў лістападзе 1815 г. расійскі імператар прыняў у Вільні прадстаўнікоў шляхецкіх колаў Літвы, але ягоная размова з Агінскім пра лёс ВКЛ не мела поспеху.

Верагодна, з канца 1810 г. узнікла думка аб расійска-французскай вайне, бо ў Санкт-Пецярбургу ў лютым 1811 г. пры двары ўжо склалася меркаванне аб верагоднасці і нават блізкасці вайны.

Чуткі аб вайне выклікалі ў расійска-французскім грамадстве прыглушанае абурэнне. Нават сам Напалеон у перыяд падрыхтоўкі да вайны часам разумеў непатрэбнасць, а магчыма, яе гібельнасць, бо 1 ліпеня 1811 г.



Сын Напалеона ад Марыі-Луізы Франсуа Чарльз Іосіф Банапарт у гадавалым узросце [1326, с. 9].

ён гаварыў Каленкуру: «Я не хачу завяршэння свайго лёсу ў пясках пустыні Расіі!». Ён не раз напамінаў, што не хоча паўтараць лёс Карла XII і новай Палтавы. Пазней на востраве Св. Алены ён з горыччу каецца, што вайна з Расіяй была бессэнсоўнай, гібельнай і яго асабістай фатальнай памылкай [947].

Выклікаўшы летам 1811 г. у Парыж французскага пасла Каленкура і паслаўшы замест яго ў Санкт-Пецярбург Ларыстона, Напалеон праз іх даведаўся, што Расія сур'ёзна і поўным ходам рыхтуецца да вайны, але Каленкур і Фушэ настойліва адгаворвалі Напалеона ад вайны, а Фушэ нават папярэджваў, што думка аб стварэнні сусветнай манархіі шляхам заваявання Расіі з'яўляецца бліскучай хімерай, ад якой трэба адмовіцца [621].

Гэта сведчыць, што ў напалеонаўскім акружэнні панавала трывога за зыход планунемага паходаў на Расію, а сам Напалеон у размове з кн. А. Куракіным (братам пасла ў Францыі) распавядаў, што калі ён мусіць ваяваць з Расіяй, то гэта будзе супраць ягонай волі.

Тым не менш, абодва бакі дзённа і ночна рыхтаваліся да вайны. Алей у агонь падліваў таленавіты, але хітры і каварны аўстрыйскі пасол Мітэрніх, які пасля жаніцьбы Напалеона з аўстрыйскай прынцэсай Марыяй-Луізай быў частым госцем у імператарскім двары і падштурхоўваў Напалеона да ратавання Еўропы, у якой быў адзін толькі вораг — Расія.

Шэраг даследчыкаў адзначаюць, што, пачынаючы падрыхтоўку кампаніі 1812 г., Напалеон не толькі не меў агульнага стратэгічнага плана вайны, але нават не быў у стане вырашыць асноўнае пытанне аб галоўным тэатры вайны, дзе будуць адбывацца ваенныя дзеянні і як далёка павінна зайсці французская армія, каб атрымаць перамогу над Расіяй [621].

Гэта тлумачылася тым, што да апошняга часу Напалеон меў хістанні і няўпэўненасць у неабходнасці вайны. У яго заставалася надзея, што грозныя прыгатаванні прымусяць Аляксандра I пайсці на ўступкі, а значыць, паспрыяюць маральнай і палітычнай перамозе над ім Напалеона.

Гэтая вайна пачыналася для Напалеона не як «руская вайна», а як «другая польская вайна» — паўтор 1807 г. Ягоныя распараджэнні па дыслакацыі ўзброеных сіл сведчаць, што ён чакаў нападу расійскіх войскаў на Варшаўскае герцагства, а разграміўшы ў герцагстве расіян, ён зробіць вайну кароткатэрміновай.

Ні ў адным з афіцыйных дакументаў французскага камандавання пачатку вайны немагчыма знайсці ніякіх упамінанняў пра Маскву. Першапачаткова ў Напалеона не было нават і думкі аб глыбокім паходзе ў глыбіню Расіі.

Калі верыць мемуарам Мітэрніха, то вясной 1812 г. у Дрэздэне Напалеон гаварыў: «Я адкрыю кампанію пераправай праз Нёман; яе межамі будуць Мінск і Смаленск. Тут я спынюся, умацую гэтыя два пункты і вярнуся ў Вільню, дзе будзе галоўная стаўка камандавання, і займуся ўладкаваннем Літоўскай дзяржавы...» [1200].




Au Palais de Erfurt le 12

Napoléon, Empereur des Français,
Roi d'Italie et Protecteur de
Confédération du Rhin,

РАЗДЗЕЛ II

# Беларусь як плацдарм у будучай вайне

## Глава 11
# Тэрыторыя Беларусі ў ваенных планах Расіі

Як адзначалася ў папярэдніх главах, Аляксандр І падтрымліваў планы наступальнай вайны з Напалеонам. Толькі за 1811-1812 гг. было падрыхтавана 20 планаў, але самы грунтоўны быў прадстаўлены ваенным міністрам Барклаем дэ Толі. Ягоным планам прадугледжвалася павелічэнне колькасці і ўдасканаленне баяздольнасці войскаў, інжынернае ўмацаванне тэатра ваенных дзеянняў, нарыхтоўка правіянту і фуражу, арганізацыя дзейнасці ваеннай разведкі і контрразведкі і г.д. Менавіта Барклаю належыць ідэя адступлення ў глыбіню Расіі, каб уцягнуць Напалеона дробнымі дзеяннямі ў зацяжную вайну і падрыхтаваць «...хотя бы за Москвой новую Полтаву» [131].

Заходняя Дзвіна і Днепр планаваліся стаць галоўнай абарончай лініяй, на якой прапанавалася сканцэнтраваць 15 дывізій. У першай палове 1810 г. на тэрыторыі беларускіх губерняў сіламі арміі з дапамогай насельніцтва разгарнулася вялікая праца па ваенна-інжынернаму ўладкаванню абарончай лініі, у тым ліку будаўніцтва Бабруйскай крэпасці, вялікага маста на Бярэзіне каля г. Барысава, умацаванага лагера каля г. Дрыса на Заходняй Дзвіне, земляных валоў (тэт-дэ-понаў, празваных пазней «батарэямі Чычагава») на Бярэзіне, у г. Рагачове, у г. Масты на Нёмане і ў г. Беліца. Паўсюдна будаваліся дарогі, рачныя масты, паштовыя станцыі і будынкі магазінаў (складоў) для нарыхтоўкі і захавання харчу і правіянту.

У красавіку 1812 г. на тэрыторыі Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Кіеўскай, Курляндскай, Валынскай, Падольскай губерняў, Беластоцкай і Цярнопальскай абласцей былі створаны дзве ваенныя акругі з двума Заходнімі арміямі і ўведзена ваеннае становішча.

Арганізацыяй нарыхтоўкі харчу і фуражу для расійскіх армій шляхам рэквізіцый у мясцовага насельніцтва займаўся Галоўны камітэт ваенных павіннасцей з адпаведнымі губернскімі і павятовымі ведамствамі. У сетку правіянцкіх цэнтраў Беларусі ўвайшлі магазіны ў гг. Дрыса, Дзісна, Дынабург, Бабруйск, Шаўлі, Вільня, Свянцяны, Гродна, Слонім, Слуцк, Мазыр і Пінск.

Насельніцтва Беларусі абавязана было ўдзельнічаць у будаўніцтве абарончых збудаванняў. Сяляне секлі лес, а ствалы дрэў цягнулі да месцаў умацаванняў, капалі равы, стваралі насыпныя валы. Толькі на будоўлю Дрыскага ўмацавання штодня накіроўвалася каля 2500 чалавек. Тысячы людзей былі заняты на будоўлі Бабруйскай крэпасці [290].

Нарыхтоўка правіянту і фуражу, набор рэкрутаў і збор грашовых сродкаў на ўтрыманне расійскай арміі ў беларуска-літоўскіх губернях праходзілі ва ўмовах супраціўлення мясцовага насельніцтва, вельмі часта з сабатажам і іншым ухіленнем ад рэквізіцый і ваенных работ. Ад паставак

Minute de Décret Impérial.

Sommaire du Décret.

Au Palais de Erfurt — le 12 octobre 1808

Expédition été le 20 8bre au Ministre de la guerre et du trésor

Napoléon, Empereur des Français, Roi d'Italie et Protecteur de la Confédératian du Rhin,

art 1er

Goethe

Wieland id

Starke

Vogel

art 2

Nap

Дэкрэт Напалеона ад 12 кастрычніка 1808 г. аб фарміраванні Ганаровых легіёнаў [1005, с. 52-а].



Аляксандр I. Мастак Сцяпан Шчукін. 1880-я гг. [557, с. 20].



Імператар Аляксандр I, Напалеон Банапарт і каралева Прусіі Луіза падчас сустрэчы ў Тыльзіце. Ліпень 1807 г. Невядомы мастак [557, с. 29].

правіянту ў запасныя магазіны ўхіляліся як сяляне, так і заможная шляхта, якая зрывала пастаўкі сукна для расійскай арміі.

У лютым 1811 г. ген. Л. Бенігсенам быў распрацаваны план баявых дзеянняў, якім прадугледжваўся перанос тэатра ваенных дзеянняў на тэрыторыю Варшаўскага герцагства, нейтралізацыю там польскай арміі і прыцягненне Прусіі на бок Расіі.

Паводле меркавання А. Лукашэвіча, «план Бенігсена і праект аднаўлення Польскага каралеўства А. Чартарыйскага ўзаемазвязаны і быццам дапаўняюць адзін другога» [131].

У першай палове 1811 г. пачаліся грандыёзная перадыслакацыя і канцэнтрацыя расійскіх войскаў уздоўж заходняй граніцы. Напрыклад, у раёнах Вільні, Брэста, Гродна і Беластока размясціліся буйныя вайсковыя сілы ў колькасці да 200 тыс. чалавек, што выклікала страшэнную паніку ў Варшаўскім герцагстве ад рэальнай пагрозы нападу расійскай арміі на герцагства.

У чэрвені 1811 г., калі стала вядома, што антынапалеонаўская кааліцыя (Расія — Польшча — Аўстрыя — Прусія) належным чынам не складваецца, Аляксандр I зацвярджае новы абарончы план ген. К. Фуля і адначасова разглядае праект М. Агінскага па аднаўленні ВКЛ.

План Фуля ў асноўным супадаў з планам Барклая і прадугледжваў на першым этапе ўхіленне ад генеральнай бітвы з Напалеонам, а пры спрыяльных умовах не выключаў наступальныя дзеянні на тэрыторыю Варшаўскага герцагства і ўцягненне ў антынапалеонаўскую кааліцыю Прусіі.

На гэты час непаслядоўны ў палітыцы і занепакоены захопніцтвам Напалеона прускі кароль Фрыдрых Вільгельм III прапанаваў Аляксандру I у якасці паслугі свае ваенныя рэсурсы і пагадзіўся на вядзенне з ім сакрэтных



Цёплае і сяброўскае раставанне Напалеона Банапарта і Аляксандра І пасля спаткання ў Тыльзіце 9 ліпеня 1807 г. Малюнак 1810 г. Мастак Г. Серангелі. Версаль [1212, с. 208].

перамоў. У верасні 1811 г. начальнік Генеральнага штаба ўзброеных сіл Прусіі ген. г. Шарнхорст наведаў Санкт-Пецярбург, быў прыняты Аляксандрам І і перадаў яму Мемарандум — прускі план баявых дзеянняў Расіі і Прусіі супраць Напалеона.

Планам Прусіі прадугледжваліся ўвядзенне расійскай арміі на тэрыторыю Варшаўскага герцагства і прасоўванне яе аж да Віслы на выпадак, калі Напалеон нападзе на Прусію. Затым расійская армія разгорнецца на Одры і разам з прускай арміяй дасць адкрыты бой французам.

Пасля марудных перамоў Аляксандр І падпісаў 6 (18) кастрычніка 1811 г. з Прусіяй канчатковы тэкст ваеннай канвенцыі аб сумесных ваенных дзеяннях супраць Напалеона.

У такіх умовах ваенны міністр Барклай дэ Толі прыступіў да рэалізацыі плана, узгадняючы шляхам сакрэтнай перапіскі і сакрэтнымі маршрутамі ваенныя прыгатаванні Расіі з Генштабам Прусіі.

Пачаткам вайны лічыліся напад французаў на прускае каралеўства і моцнае павелічэнне французскай арміі з саюзнікамі на Одры.

Да пачатку лістапада 1811 г. была закончана перадыслакацыя расійскіх войскаў бліжэй да граніцы Варшаўскага герцагства, і Аляксандр І ужо пісаў сястры Кацярыне Паўлаўне, што ваенныя дзеянні пачнуцца з хвіліны на хвіліну [720].

Калі стала вядома, што прускі кароль адмовіўся ратыфікаваць Канвенцыю і неўзабаве апынуўся разам з Аўстрыяй у стане саюзнікаў Напалеона і ворагаў Расіі, Аляксандр І палічыў немагчымым весці наступальную вайну ў Еўропе сіламі адной Расіі, ён стаў рашучым прыхільнікам абарончай вайны і дзеля гэтага пачаў рыхтаваць свае ўзброеныя сілы.

## Глава 12
# Падрыхтоўка Расіі да вайны

Такім чынам, Расія рыхтавалася і ўступала ў вайну з Напалеонам фактычна без саюзнікаў, хаця напярэдадні і ў пачатку баявых дзеянняў былі заключаны саюзы са Швецыяй, Англіяй і Іспаніяй Фердынанда VII, але канкрэтнай дапамогі з іх ніхто аказаць не мог, ды і не паспеў.

На працягу 1810 – I паловы 1812 гг. агульная колькасць расійскай арміі ўзрасла з 610 тыс. да 975 тыс. чалавек.

У сакавіку 1812 г. былі сфарміраваны тры Заходнія расійскія арміі. Першая — пад камандаваннем ген. ад інф. М. Барклая дэ Толі — размяшчалася ў Літве і Заходняй Беларусі (штаб у Вільні) і мела каля 120 тыс. чалавек, 580 гармат, другая — колькасцю каля 49,5 тыс. чалавек і 180 гармат (галоўнакамандуючы ген. ад інф. П. Баграціён) — разгарнулася каля г. Луцка на Валыні і трэцяя — рэзервовая абсервацыйная армія колькасцю каля 44 тыс. чалавек і 168 гармат (галоўнакамандуючы ген. ад кав. А. Тармасаў) — кватэравала ў раёне г. Жытоміра.

Акрамя таго, іх дапаўнялі 3 асобныя карпусы: першы размяшчаўся ў першай лініі абароны каля Рыгі (38 тыс. чалавек, камандуючы ген.-лейт. І. Эсен), другую лінію абароны прыкрывалі два рэзервовыя корпусы: першы — ген.-ад'-т. Я. Мелер-Закамельскага (27,5 тыс. чалавек) каля Таранца, другі — ген.-лейт. Ф. Эртэля (каля 37 тыс. чалавек) каля Мазыра. Флангі першых ліній прыкрывалі корпус ген.-лейт. Ф. Штэйнгеля (19 тыс. чалавек) у Фінляндыі і Дунайская армія адм. П. Чычагава (каля 57,5 тыс. чалавек) у Валахіі. У Смаленску, Калузе і Нарве таксама фарміраваліся карпусы.




Манета коштам 50 злотых, выпушчаная ў Варшаве падчас панавання Аляксандра I у 1819 г. ( Avers). Са збораў Каралеўскага замка ў Варшаве [1273, с. 113].

У маі 1812 г. 2-я армія Баграціёна наблізілася да 1-й і заняла месца яе левага фланга (р-н Ваўкавыск-Зельва), 3-я армія Тармасава ў сваю чаргу заняла месца Баграціёна пад Луцкам [54, 734].

Стратэгічныя абставіны для расіян былі неспрыяльнымі па шэрагу прычын.

Па-першае, іх войскі былі расцягнуты амаль на 600 кіламетраў, не мелі нармальнай сувязі, а штаб-кватэры галоўнакамандуючых раздзялялі сотні кіламетраў. Да таго ж афіцыйнага галоўнакамандуючага Аляксандр I яшчэ не прызначыў. Кіраўніцтва арміямі ў пачатку кампаніі 1812 года ён ажыццяўляў сам.

Па-другое, расійская армія саступала арміі Напалеона па ўзроўні ўзбраення, каманднага і колькаснага састава. Армія ўтрымлівалася, рыхтавалася і кіравалася старымі неэфектыўнымі метадамі, а камплектавалася рэкруцкімі наборамі на 25 гадоў службы. Рэкруты фактычна былі бяспраўнымі перад афіцэрамі, якія маглі распараджацца імі і здзекавацца з іх як хацелі.

Камандны састаў расійскай арміі камплектаваўся фактычна не па здольнасцях, а па саслоўнаму прынцыпу, як правіла, з дваран і памешчыкаў. Сярод афіцэраў было шмат бяздарных і фанабэрысных асобаў.

Тым не менш патрыятычны пад'ём у войску і сярод насельніцтва Расіі быў высокім.

Пісьмо Напалеона Жазэфіне, якое датуецца 23 лістападам 1796 г. Змест пісьма — доказ гарачага і дзіўнага кахання юнага мужа да Жазэфіны. Першыя словы «Я не кахаю цябе «па частках» ...» падкрэсліваюць гарачае пачуццё маладога генерала, адлучанага ад сваёй каханай дарогамі войн [1013, с. 21-а].

Аздоба герба роду князёў Чартарыйскіх «Пагоня». Са збораў фонда князёў Чартарыйскіх [Rkps,13066].





Armée d'Italie

République Française

Liberté Egalité

Bonaparte Général en Chef de l'Armée d'Italie

A Joséphine

# Глава 13
# Рэкруцкі набор у беларускіх губернях

Напярэдадні вайны ў расійскае войска была ўзята вялікая колькасць беларусаў. Некаторыя палкі расійскай арміі з канца XVIII ст. камплектаваліся рэкрутамі выключна з беларускіх губерняў.

Пасля канчатковай анексіі Беларусі толькі за 1796-1999 гг. у расійскае войска ўзята 49 тысяч беларусаў, а з 1801 да 1812 года — 130 тыс. чалавек, апрача шляхты, якая папаўняла расійскі афіцэрскі корпус. Як ужо адзначалася, тэрмін службы рэкрутаў быў тады 25 гадоў, так што ўлетку 1812 г. у расійскіх арміях стаялі яшчэ рэкруты набору 1788 г., які праводзіўся на Полаччыне, Віцебшчыне, Магілёўшчыне, акупаваных Расійскай імперыяй яшчэ ў 1772 г.

Так, указам Кацярыны II ад 7 кастрычніка 1794 г. ваеннай калегіі было прадпісана правесці камплектаванне егерскіх карпусоў — Беларускага, Кацярынаслаўскага, Эстляндскага, Ліфляндскага і Фінляндскага рэкрутамі з Мінскай, Полацкай і Магілёўскай губерняў, а ў будучым папаўняць названыя карпусы рэкрутамі гэтых губерняў.

Служылі беларускія рэкруты ў 3-7, 11, 12, 14-18, 21, 23 і 27-й пяхотных дывізіях. Гэтыя дывізіі ўваходзілі ў склад армій Барклая дэ Толі і Баграціёна і прынялі на сябе галоўны цяжар ваенных дзеянняў 1812 г., асабліва ў Барадзінскай бітве [176].

Як адзначае С. Данскіх, у 1802-1806 гг. толькі з Гродзенскай губерні было ўзята ў расійскае войска 7742 рэкруты, з якіх 5019 набралі ў 1805-1806 гг. і адразу накіравалі на палі бітваў, якія вяла Расія пад Аўстэрліцам, Фрыдландам, у Прусіі, Польшчы і інш., таму моладзь гэтых набораў у бальшыні не дажыла да 1812 года [99].



Nous Antoine-Marie d'Hozier-de Sérigny,

Certifions au Roi que Napoleone de Buonaparte né le 15 d'Août mil sept cent soixante-neuf, fils de Noble Charles-Marie de Buonaparte Député de la Noblesse de Corse et de Dame Marie-Letitia Romolino sa femme,

ARCHIVES

Par Monsieur le Juge d'Armes de la Noblesse de France,

Duplessis

Сертыфікат аб дваранстве для паступлення ў вайсковую школу ў Брэне. Францыя [1005, с. 11-а].

У перыяд 1808-1811 гг. рэкруты Віцебскай губерні накіроўваліся ў 3-ю і 17-ю пяхотныя дывізіі, рэкруты Віленскай губерні — у 23-ю дывізію, Гродзенскай і Магілёўскай (з 2-х паветаў — Клімавіцкага і Мсціслаўскага) губерняў — у 11-ю дывізію, Мінскай і Магілёўскай — у 7-ю і 24-ю пяхотныя дывізіі.

Беларускія рэкруты складалі ў расійскай арміі даволі значны кантынгент. Адных толькі рэкрутаў набора 1811 г. (па 4 чалавекі на 500 душ) паступіла ў названыя дывізіі з Віцебскай губерні 2809 чалавек, з Віленскай — 3964, з Гродзенскай — 2521, з Мінскай — 3056 і з Магілёўскай — 2400 чалавек, а ўсяго па пяці губерням — 14750 чалавек [711].

Наборы ў рэкруты не заўсёды ішлі гладка, і насельніцтва ратавалася ад іх рознымі сродкамі. Як адзначае Я. Івашкевіч, каб не ісці ў войска, заможныя сем'і давалі хабары рэкруцкім камісіям, земскім іспраўнікам, царскім афіцэрам. Маладыя навабранцы масава збягалі за мяжу ў Варшаўскае герцагства, шляхта нярэдка замест здаровых рэкрутаў накіроўвала на пункты збору хворых, калек, здавала замест прыпісных сялян злоўленых дэзерціраў ды валацугаў.

Каб павялічыць якасць рэкруцкіх набораў, зменшыць факты хабару, падману і г.д., рэкруцкія пункты з 1811 г. былі перанесены ў губернскія гарады, і гэтая справа даручалася надзейным і праверанным ваенным кадрам [1103]. Але існавала магчымасць афіцыйна адкупіцца ад рэкруцкай службы.

Пасля перамогі над Напалеонам рэкруцкія наборы ў расійскае войска ўзнавіліся з новай сілай. Паводле асобных даследаванняў, у 1813 г. з беларуска-літоўскіх губерняў было набрана амаль 100 тыс. рэкрутаў. У Гродзенскай губерні забіралі прыкладна 18 чалавек з 1000 душ насельніцтва [99].



Напалеон паказвае партрэт сына Напалеона II сваёй гвардыі. Гісторыя малюнка наступная: 26 жніўня (6 верасня) 1812 г. прэфект імператарскага палаца Басэ даставіў з Парыжа ў напалеонаўскую стаўку на Барадзінскае поле каля в. Валуева падарунак ад імператрыцы Марыі-Луізы — партрэт іх сына Напалеона II (караля Рыма), выкананы мастаком Францам Жэрарам. Напалеону спадабаўся партрэт, і ён загадаў паставіць яго на крэсла перад палаткай, каб афіцэры і салдаты Старой гвардыі змаглі ўбачыць наследніка імператара. Гравюра Х. Дэлюса, паводле арыгінала Хагнера. Сярэдзіна XIX ст. [302, с. 107].

# Глава 14
# Напалеон на падступах да Расійскай імперыі

Напалеон добра разумеў і рэальна ацэньваў спрыяльную сітуацыю для ягонага войска, якое мела перавагу па колькасці, узбраенні, вопыту і ўдзелу ў баявых аперацыях, чым расіяне. Французскаму імператару праз дыпламатычныя і разведвальныя каналы паступала інфармацыя пра інтрыгі і нетрываласць царскага двара ў Санкт-Пецярбургу. Тым не менш, ён адчуваў велізарную долю рызыкі ў імкліва наступаючай вайне з Расіяй, таму рыхтаваўся дасканала і грунтоўна.

Яшчэ ў Парыжы ён адкрыта заявіў расійскаму паслу ў Францыі А. Куракіну, што ён выставіць супраць Расіі 400 тыс. воінаў. На той час агульная колькасць напалеонаўскіх войскаў разам з саюзнікамі па ўсёй Еўропе налічвала каля 1 млн. чалавек.

Дарадчыкамі і ад'ютантамі Напалеона былі адукаваныя, дасведчаныя і таленавітыя асобы.

Напрыклад, адзін з дарадчыкаў — польскі ген. М. Сакальніцкі — з'яўляўся начальнікам яго контрразведкі, баявым афіцэрам часоў Касцюшкі, вучоным-тапографам і аўтарам унікальнага з пункту гледжання ваеннай навукі рапарта, пададзенага Напалеону ў лютым 1812 г., з дэтальным аналізам ваенна-палітычнай сітуацыі, планам магчымага маршрута ўварвання французаў у Расію, прапановамі па расчляненні яе тэрыторыі на шэраг васальных «герцагстваў», шляхамі аднаўлення польскай дзяржаўнасці [824].

Запіскі Сакальніцкага не маглі пакінуць Напалеона абыякавым. Хоць ён не прадпрыняў прапанаваных Сакальніцкім дыверсій, тым не менш частка аўстрыйскага корпуса Шварцэнберга правага крыла Вялікай арміі ў пачатку ліпеня 1812 г. зрабіла рэйд на Палессе і дайшла ад Брэста да Пінска.



Генерал М. Сакальніцкі, начальнік разведкі «Вялікай арміі», аўтар распрацаванага для Напалеона плана баявых дзеянняў супраць Расійскай імперыі [824, с 20-а].

Рыхтуючыся да вайны з Расіяй, Напалеон актывізаваў дзейнасць сваіх дыпламатаў і разведвальнага бюро на чале з французскім рэзідэнтам Ж. Серай, пазней Л.П. Біньёнам, якому даручалася займацца ваеннай разведкай.

Адначасова пры штабе маршала Даву, пазней пры Галоўным штабе «Вялікай арміі» Напалеона дзейнічала разведслужба, якую ўзначальваў вышэйназваны ген. Сакальніцкі.

Значную колькасць інфармацыі аб унутраным стане Расійскай імперыі і яе арміі пастаўлялі ў інфармацыйны аддзел Міністэрства замежных спраў Францыі французскія дыпламаты самага высокага ўзроўню (пасол Францыі Ж. Ларыстон, ад'ютант Ларыстона дэ Лангру, былы дыпламат, ген.-ад'ютант Напалеона гр. Л. Нарбон і інш.).

Шляхам умелай дыпламатыі вясной 1812 г. Напалеону ўдалося заключыць саюзную дамову з Прусіяй і Аўстрыяй. На выпадак вайны Прусія абяцала накіраваць Напалеону дапаможны корпус (20 тыс. чалавек), паставіць для французскай арміі харчаванне, амуніцыю, даваць французам права беспарашкодна праводзіць свае войскі па тэрыторыі Прусіі.

Аўстрыя таксама абавязалася паслаць супраць Расіі 30-тысячны корпус, падтрымала прапанову аб аднаўленні Польшчы пасля перамогі над Аляксандрам І.

Для нашэсця на Расійскую імперыю Францыя падрыхтавала Вялікую армію (647 тыс. чалавек з 1372 гарматамі), якая складалася з 3-х карпусоў, галоўнакамандуючымі якіх былі сам Напалеон, Э. Багарнэ і Ж. Банапарт. Армія Напалеона, выхаваная і загартаваная на палях бітваў Еўропы і Афрыкі, лічылася самай перадавой, магутнай і баяздольнай. Яна камплектавалася выключна па прынцыпу ўсеагульнай вайсковай павіннасці, пазней канскрыпцыі (па запісу), згодна з пастановай Канвента, на аснове роўнасці правоў.

Акрамя таго, для патрэб вайны з Расіяй Напалеон прыцягнуў матэрыяльныя, людскія і фінансавыя рэсурсы Баварыі, Варшаўскага герцагства (княства), Вестфаліі, Вюртэмберга, Гесэна, Галандыі, Саксоніі, часткова Аўстрыі і Прусіі.

Армія Напалеона была буржуазнай арміяй, якая не ведала ні каставых межаў паміж салдатамі і афіцэрамі, ні муштры, ні палачнага пакарання. Напалеон ганарыўся і падкрэсліваў, што кожны яго салдат «носіць у сваім ранцы маршалскі жэзл» [668].

Сапраўды, усе лепшыя маршалы Напалеона — К. Віктор, Ж. Бес'ер, Ж. Лан, А. Масэна, М. Нэй, І. Мюрат, Л. Сюшэ, Н. Удзіна, Ж. Журдан, а таксама шэраг генералаў і ніжэйшых па чыну і званні афіцэраў пачалі вайсковую кар'еру з простага салдата, што не магло быць магчымым у Расійскай арміі.

Галоўнай ударнай сілай Напалеона была ягоная імператарская гвардыя — Старая з



Bonaparte

Закон Рэспублікі, падпісаны Напалеонам Банапартам у якасці першага консула Францыі. Пачатак 19 ст. [1005, с. 43-а].



Паходныя прылады палявога хірурга Франсуа Булё. Парыж. Музей Арміі ў Ансамблі Інвалідаў [42. Inv. 2006: c 207].

1805 г. і Маладая з 1809 г., якая камплектавалася выключна са смелых і самаадданых ветэранаў з 10-гадовым стажам вайсковай службы і 4-ма баявымі паходамі.

Армія Напалеона атрымала вялікую баявую падрыхтоўку, шырока выкарыстоўвала тактыку рассыпнога бою, мела належнае ўзаемадзеянне ўсіх родаў войск, у тым ліку кавалерыі, артылерыі, прымяненне манеўру, падтрымку адзін аднаго ў баявых паходах і дзеяннях.

Ва ўсіх паходах у Еўропе і Афрыцы французскую армію вёў сам Напалеон, за што нават сам Аляксандр I лічыў яго самым геніяльным палкаводцам сучаснасці.

Своеасаблівай была дысцыпліна, уведзеная Напалеонам. Цялесных пакаранняў у арміі ён не дапускаў. Ваенны суд мог прыгаварыць да смяротнага пакарання за значныя праступкі, у больш лёгкіх выпадках — да катаргі ці турмы.

Але ў арміі Напалеона быў асабліва аўтарытэтны інстытут — сяброўскі суд, які не прапісваўся ў законах, тым не менш моўчкі падтрымліваўся Напалеонам. Вось як распавядаюць пра гэта ветэраны, сведкі тых падзей. Напрыклад, адбылася бітва, а двух салдат на полі боя не было. Заслухаўшы іх тлумачэнні, рота прыходзіць да высновы, што яны схаваліся ад страху, і неадкладна выбірае трох суддзяў з салдат, якія на месцы выносяць прысуд і расстрэльваюць вінаватых. Афіцэры гэта ведаюць, але не ўмешваюцца ў салдацкую справу [846].

На пачатку вайны галоўныя сілы «Вялікай арміі» (група Напалеона і Багарнэ ў колькасці каля 300 тыс. чалавек і 735 гармат) падышлі да Усходняй Прусіі. Гэтая група павінна была наступаць на Вільню праз Коўна і раз'яднаць 1-ю і 2-ю Заходнія арміі, група карпусоў брата Напалеона Жэрома (каля 70 тыс. чалавек і 159 гармат) размясцілася ў раёне Варшавы і павінна была адцягнуць на сябе 2-ю Заходнюю армію расіян, а на флангах разгарнуліся карпусы Ж. Макдональда каля Тыльзіта і К. Шварцэнберга каля Любліна.

Агульны фронт наступлення французаў складаў каля 300 кіламетраў [734].

## Глава 15
# Нараджэнне і ўзвышэнне Напалеона пад Марсельезу

Нарадзіўся Напалеон у г. Аяча (востраў Корсіка) за тры месяцы перад абвяшчэннем вострава французскім уладараннем, 15 жніўня 1769 г., у дваранскай шматдзетнай сям'і чацвёртым сярод 12 дзяцей, чацвёра з якіх памерлі немаўлятамі. Дарэчы, самае першае дзіця ў сям'і Банапартаў, якое памерла, звалі Напалеонам [1326].

Маці — Марыя Ляціцыя Рамаліна (1750-1836) — была дачкою Пітры Санта, удавы Рамаліна, якая другі раз выйшла замуж за швейцарца з паважанай сям'і банкіраў. Яна пражыла доўгае і багатае на падзеі жыццё і перажыла свайго сына Напалеона на 15 гадоў. Па характары была цвёрдай, строгай і справядлівай, бо з ранняга дзяцінства прывучала сваіх дзяцей да паслухмянасці, парадку і працавітасці [571].

Бацька — Чарльз (Карл)-Марыя Банапарт (1746-1785) — быў небагатым дваранінам, займаўся адвакацкай практыкай, але памёр рана.

Старэйшы брат Напалеона — Жазэф (Юзаф) (1768-1844) — быў прызначаны Напалеонам каралём Іспаніі, малодшы — Жэром (1784-1860) — каралём Вестфальскім, два другія малодшыя браты — Луіс (1778-1846) і Люцыян (1775-1840) — былі паплечнікамі Напалеона ва ўсіх яго справах. Люцыян з жонкай Гартэнзіяй нарадзілі трох дзяцей, з якіх Напалеон III (1808-1873) з 1852 па 1870 гг. быў каралём Францыі. Малодшыя сёстры Напалеона: Эліза (1777-1820) мела пяцёра дзяцей, Паўліна (1780-1825) у двух шлюбах нарадзіла толькі аднаго сына, які памёр у шасцігадовым узросце, і, нарэшце, самая малодшая сястра Напалеона Караліна (1782-1839) выйшла замуж за Яўхіма Мюрата, французскага маршала, і нарадзіла з ім чацвёра дзяцей [1326].

Зорка Напалеона Банапарта ўзышла і стала разгарацца на небасхіле Францыі ў гады, напоўненыя лютай барацьбой унутры краіны і схваткамі са знешнімі ворагамі. Гэта быў час, калі Вялікая Французская рэвалюцыя (1789-1799) нанесла знішчальны ўдар па феадальнаму ладу і зрабіла Францыю рэспублікай, разбурыла Бастылію, стварыла Нацыянальную гвардыю, прывяла да прыняцця Дэкларацыі правоў чалавека, стварэння новага вышэйшага заканадаўчага органа ўлады — Канвента, які асудзіў караля Людовіка XVI і ягоную жонку Марыю Антуанету на смяротнае пакаранне.



Старадаўні герб роду Банапартаў [1005, с. 5].




Дом у г. Аяцо (Корсіка), у якім нарадзіліся Напалеон і ягоныя сёстры і браты. Малюнак 1849 г. Мастак Леанард-Алексіс Далігэ дэ Фантанэ (1813-1892) [1005, с. 10-а].



Маці Напалеона Ляціцыя Рамаліна (1750-1836). Гравюра XIX ст., паводле малюнка Вільяма Рэда [1106, с. 7]. Высокая і прыгожая, Ляціцыя была жанчынай з моцным характарам. Напалеон пазней адзначыць, што яна была «галавой мужчыны на целе жанчыны з Карсіканскіх гор» [1013, с. 9]. Доўгі час хадзілі чуткі, што Ляціцыя, як прывабная маладая жанчына, была звязана з уплывовым карсіканцам Камтэ дэ Марбюфам, што, быццам, Чарльз Банапарт не з'яўляецца бацькам Напалеона. Тым не менш, гісторыкі прадстаўляюць яе як жанчыну прынцыповую і строгую да сябе і сваіх дзяцей, і ўсім сваім жыццём Ляціцыя набыла рэпутацыю клапатлівай маці. Нават пасля падзення Напалеона яна пастаянна і з пачуццём гонару прымала ў сваім доме ў Рыме дзяцей, нявестак, зяцёў і ўсіх блізкіх і знаёмых [1013, с. 9].



Бацька Напалеона Чарльз Марыя Банапартэ (1746-1785). Гравюра Чарльза Дэўрыца. Пачатак XIX ст. [1106, с. 7]. Калі французы захапілі Корсіку ў 1768 г., Чарльз спачатку далучыўся да апазіцыйнага кіраўніка Корсікі Паскаля Паолі, затым клопаты пра будучыню ягоных дзяцей схілілі яго на бок караля Францыі Луі XV [1005, с. 6].



286 Hymnes.
Vergente mundi veſpere,
Uti ſponſus de thalamo
Egreſſus honeſtiſſimâ
Virginis Matris clauſulâ.
Cujus forti potentiæ
Genu curvantur omnia
Cœleſtia, terreſtria
Nutu fatentur ſubdita.
Te deprecamur, agie,
Venture Judex ſæculi,
Conſerva nos in tempore
Hoſtis à telo perfidi.
Laus, honor, virtus, gloria
Deo Patri & Filio,
Sancto ſimul Paraclito
In ſæculorum ſæcula. Amen.
Magnificat, &c. page 238.

Hymnes. 287
Pour le jour de Noël.
A Solis ortûs cardine
Ad uſque terræ limitem
Chriſtum canamus Principem,
Natum Mariâ Virgine.
Beatus auctor ſæculi
Servile corpus induit,
Ut carne carnem liberans,
Ne perderet quos condidit.
Caſtæ parentis viſcera
Cœleſtis intrat gratia,
Venter puellæ bajulat
Secreta quæ non noverat.
Domus pudici pectoris
Templum repentè fit Dei,
Intacta neſciens virum

Малітваслоў Напалеона Банапарта [1005, с. 13].



Battesimo
Napoleone
Bona-
Parte

Carlo Buonaparte

Выпіска з метрыкі аб хрышчэнні Напалеона ў 1771 г. у родным доме г. Аяца праз два гады пасля яго нараджэння. [1005, с. 5].

Смерць караля не астудзіла раз'юшаных якабінцаў, памяркоўных жырандыстаў і кансерватыўных раялістаў, бо барацьба паміж імі несла тэрарызм, праследаванні і пакаранні. Адначасова Францыя вяла вайну супраць Прусіі, Сардзініі, Нідэрландаў, Іспаніі і Англіі, якія аб'ядналіся, каб разам знішчыць краіну, адкуль ішла рэвалюцыйная хваля [557].

Да прыхільнікаў Францыі далучыўся і бацька Напалеона. Ён імкнуўся даць сынам адукацыю і, каб не абцяжарваць сямейны бюджэт, у снежні 1778 г. завёз двух старэйшых сыноў — Юзафа і Напалеона — у Парыж у каледж Атэна.

Пасля кароткай вучобы ў каледжы Напалеон стаў стыпендыятам Брыенскага ваеннага вучылішча, дзе ён правучыўся 5 гадоў, меў выключныя здольнасці ў матэматыцы, выдатныя поспехі па гісторыі, геаграфіі, латыні і нямецкай мове.

Хоць маладога карсіканца тут не любілі багатыя дваранскія дзецюкі за ягоны круты характар, маленькі рост і фальшывую французскую мову, але ў крыўду ён сябе не даваў ні вучням, ні настаўнікам вучылішча.

Калі аднойчы выкладчык прымушаў яго стаць на калені і з'есці абед, Напалеон з гонарам і ўпартасцю заявіў: «У нашай сям'і становяцца на калені толькі перад Богам!» [557].

Як здольнага навучэнца, яго перавялі ў кастрычніку 1784 г. кадэтам у Парыжскую вышэйшую ваенную школу на Марсавым полі, дзе ён старанна спецыялізаваўся ў галіне артылерыі.

У 1785 г. у званні малодшага лейтэнанта Напалеон быў выпушчаны з вучылішча і накіраваны ў полк, размешчаны ў г. Валенса, што непадалёку ад Ліёна.

У лютым 1785 г. памёр бацька і на плечы 16-гадовага афіцэра ляглі клопаты аб маці, якая засталася з малалетнімі дзецьмі амаль без сродкаў да існавання. Ягоны прыезд праз 7 гадоў на радзіму ў г. Аяча, паводле слоў брата Юзафа, быў «вялікім шчасцем для маці», бо ўзніклі складаныя сямейныя судовыя справы [621].

Для іх вырашэння малады чалавек у снежні 1787 г. выехаў у Парыж, у снежні 1788 г. вярнуўся дадому, выпрасіў у вайсковага начальства дадатковы водпуск, амаль 5 месяцаў вырашаў сямейныя справы і ў чэрвені 1788 г. здолеў вярнуцца ў сваю вайсковую частку, якая перамясцілася ў Бургундыю.

## Глава 16

# Першыя паражэнні і перамогі ў баталіях і палітыцы

На што разлічваў і спадзяваўся бедны лейтэнант-карсіканец без роду і племені, без сувязяў, грошай, блізкіх і знаёмых у глухой гарнізоннай часці? Безумоўна, толькі на свае ўласныя сілы. Ён быў рэўнасным афіцэрам, падрыхтаваным спецыялістам у справе артылерыйскага майстэрства, прычым вышэй на галаву сярод саслужыўцаў.

Лад ягонага жыцця ў палку быў просты і бедны, харчаваўся 1-2 разы ў дзень у карчме «Тры галубы» г. Валенсы, у асноўным малаком і кавалкам хлеба [557].

Напалеон з дзіцячых гадоў і да канца свайго жыцця валодаў рэдкім талентам арыентавацца ў складаных сітуацыях, хутка знаходзіць рашэнне ўзнікшага пытання, валодаў абсалютнай памяццю. Мог на памяць расказваць вершы ці маналогі Карнеля, Расіна, Руссо ці Вальтэра, пазней беспамылкова называў імёны сваіх салдат і афіцэраў, з якімі служыў і ваяваў, палкі, дывізіі. Любіў чытаць кнігі па старажытнай гісторыі, добра разумеў музыку, мастацтва, свабодна пісаў навэлы, раманы ў прозе, вершах і публіцыстыцы, меў асабістую літаратурную спадчыну.

Словам, ён быў сынам века Асветніцтва і настойліва намагаўся авалодаць ведамі яго часу, падняцца на ўзровень праблем бурлівага пералому XVIII-XIX стст.

У той час, калі большасць ягоных аднакурснікаў са зброяй у руках пачалі змагацца супраць рэвалюцыі, перайшлі на службу да ворагаў Францыі — Англіі, Аўстрыі, Партугаліі, дваццацігадовы афіцэр артылерыйскага палка Напалеон Банапарт, не раздумваючы, прыняў ідэі рэвалюцыйных пераўтварэнняў і стаў іх гарачым прыхільнікам.

Любімым героем юнацкіх мараў Напалеона быў былы кіраўнік Карсіканскай рэспублікі, галоўнакамандуючы яе ўзбраенымі сіламі Паскале Паолі, які мужна абараняў сваю



Будучы імператар Напалеон з маці. Гравюра пачатку XIX ст. [1106, с. 23].



Дзіцячыя гульні Напалеона (у цэнтры) з гувернанткай. Гравюра, паводле малюнка Жака Мары Гастона Онфрэй дэ Брэвія [1005, с. 9-а].



Юнацтва Напалеона. Гульня ў снежкі ў школе Брэнны. Гравюра, паводле малюнка 1863 г. мастака Хораса Вэрнэ (1769-1863) [1106, с. 23].

Бацькаўшчыну, не схіліў галаву перад французскімі заваёўнікамі і выехаў у выгнанне. Пасля ягонага трыўмфальнага звароту на Корсіку браты Юзаф і Напалеон Банапарты былі прыняты асабіста горача любімым імі карсіканскім героем.

З цягам часу палітычныя сімпатыі да яго ў Напалеона астудзіліся. У чэрвені 1791 г. пасля шасці гадоў службы ён атрымаў лейтэнантскія пагоны, неблагую зарплату (100 ліўраў замест 93) і быў пераведзены ў 4-ты артылерыйскі полк у г. Валенсу [621].

Тут ён добраахвотна ўступіў у Клуб (партыю) якабінцаў, пачаў адкрыта выказвацца на карысць рэспублікі, але не страчваў надзею на сустрэчу з правадыром Корсікі Паолі, таму ў верасні 1791 г. ён на тры месяцы водпуску прыехаў на Корсіку і нечакана атрымаў падтрымку апазіцыйна настроенага дэпутата Салічэці і званне падпалкоўніка батальёна валанцёраў Корсікі.

У Парыжы былі незадаволены такімі паводзінамі Напалеона. Ён неадкладна пакідае Корсіку і своечасова вяртаецца ў сваю часць, бо ў ваеннага міністра на стале ляжала судовая справа аб здрадніцтве карсіканскага падпалкоўніка.

Напалеона выратавала вайна Францыі з Аўстрыяй, судовая справа над ім спыняецца, яго аднаўляюць на службе і прысвойваюць званне капітана, але карсіканскае пытанне не дае яму спакою. У сярэдзіне кастрычніка 1791 г., рызыкуючы ўсім на свеце, ён зноў прыехаў на Корсіку, дзе ішла адкрытая барацьба карсіканскіх сепаратыстаў за незалежнасць вострава.

Тут, у гэтым палітычным хаосе вераломства, здрадніцтва, патаемных інтрыгаў, ён не знаходзіць сябе, а падчас ваеннай экспедыцыі супраць Сардзініі Напалеон са сваім батальёнам валанцёраў атрымоўвае ганебнае паражэнне. Уся Корсіка была ахоплена полымем мяцежа супраць французскага панавання і паляваннем на ворагаў, у стане якіх апынуліся і браты Люсьен і Напалеон Банапарты [557].

Напалеон патаемна збег з г. Аяча, але па дарозе быў затрыманы, пасаджаны ў астрог, змог уцячы, вярнуўся зноў у свой горад, хаваўся ў зямлянцы ад праследаванняў і, нарэшце, markdown рознымі шляхамі вярнуўся ў Францыю з упэўненасцю, што Корсіка не для яго.

Дзякуючы пратэкцыі брата, ген. Жана дзю Тэйля, Напалеон быў зноў прыняты ў полк камандзірам берагавой батарэі, а ў верасні 1793 г. добра знаёмы яму дэпутат Канвента ад Корсікі Сілачэці ўладкаваў яго камандзірам артылерыі ў армію ген. Карто, якая аблажыла паўстанцаў і англічан у г. Тулон.

Ваенны савет французскай арміі пад Тулонам, у складзе якога быў малодшы брат Максімільяна Робесп’ера Огюстэн, падтрымаў план аперацыі, распрацаваны Напалеонам, і 14 снежня 1793 г. пачаўся штурм крэпасці. Пасля двухдзённай кананады рэспубліканскія войскі пачалі цярпець паражэнне, але на дапамогу падаспеў Напалеон з рэзервовай калонай, і гэта прадвызначыла перамогу. Напалеон быў кантужаны, паранены ў нагу, пад ім быў забіты конь, але ягонага наступальнага парыву ўжо ніхто не мог стрымаць.

Подзвіг Напалеона быў заўважаны, і 22 снежня 1793 г. Робесп’ер-малодшы і дэпутат Сілачэці пастановай сходу камісараў прысвоілі 24-гадоваму Напалеону званне брыгаднага генерала.

Між тым, барацьба за ўладу ў рэвалюцыйнай Францыі прывяла да перавароту. У выніку змовы 27 ліпеня (9 тэрмідора) 1794 г. Максімільян Робесп’ер і ягоныя бліжэйшыя якабінцы былі арыштаваны і пакараны смерцю. Генерал Напалеон, блізкі да Робесп’ера-малодшага, папаў у турму, але праз два тыдні выйшаў на волю і застаўся без канкрэтных спраў.

Тэрмідарыянскі Канвент, які задушыў якабінскую дыктатуру, паводле новай Канстытуцыі, стварыў заканадаўчы орган — двухпалатны сход (Савет пяцісот і Савет старэйшын) і выканаўчую ўладу — пяць дырэктараў (Дырэкторыю).

1



Аднак Канвент не ў сілах быў сцішыць народныя хваляванні і палітычных праціўнікаў, бо для гэтага былі патрэбны адданыя войскі і кадры.

Адзін з галоўных арганізатараў перавароту Поль Барас успомніў пра Напалеона і даў згоду на прызначэнне маладога генерала сваім памочнікам.

Напалеон неадкладна прыступіў да падаўлення мецяжа і 5 кастрычніка значна меншымі сіламі бязлітасна і спакойна расстраляў узброены натоўп, які аблажыў будынак Канвента.

Пасля гэтай расправы Барас, стаўшы адным з дырэктароў новага ўрада, усяляк падтрымліваў Напалеона, які да гэтага часу ажаніўся з былой каханкай Бараса Жазэфінай Багарнэ, удавой генерала Аляксандра Багарнэ, пакаранага на гільяціне.

Атрымаўшы званне дывізіённага генерала, пасаду камандуючага ўнутранай арміяй, Напалеон 27 сакавіка 1796 г. прыбыў у г. Ніцу і прыняў камандаванне цэлай італьянскай арміяй, якая знаходзілася ў дэмаралізаваным стане, была разутай і галоднай.

Нягледзячы на гэта, італьянскі паход ён правёў паспяхова, маланкава займаючы гарады Крэмон, Мілан, Мантую, Араколу і Ламбардскую раўніну.

Да кастрычніка 1797 г. Напалеон заваяваў не толькі Паўночную Італію, але і Іаніцкія астравы ў Сяродземным моры, пасля чаго стаў схіляць Дырэкторыю да паходу ў Егіпет для перакрыцця гандлёвых шляхоў Англіі.

Члены Дырэкторыі пачалі ўжо страшыцца Напалеона, якога сустракаў Парыж з вялікім гонарам пасля Італійскага паходу, таму, па прапанове міністра замежных спраў Ш. Талейрана, яго, як мага хутчэй, адправілі далей ад Парыжа.

У маі 1798 г. Напалеон на борце карабля «Арыент» прыбыў у Егіпет, дзе ягоная армія

1. Напалеон Банапарт у вайсковай школе ў Брэнне нярэдка быў аб'ектам кпінаў сяброў. Гравюра, паводле малюнка Марыса Рэалье-Дзюма (1860-1928) [1005, с. 14].

2. 15 снежня 1778 г. Ад'езд сям'і Банапартаў з Корсікі ў Марсэль. Ілюстрацыя, паводле малюнка Жака Мары Гастона Онфрэй дэ Брэвія (1858-1931) [1005, с. 12].



2

пачала высадку на бераг, па шляху захапіўшы востраў Мальту. Французскія войскі ўзялі Александрыю і, нягледзячы на набегі мамлюкаў, спякоту, адсутнасць прэснай вады, праз пустыню рушылі да р. Ніл.

20 ліпеня 1798 г. Напалеон разграміў асноўныя сілы егіпецкіх воінаў-мамлюкаў каля Каіра ў так званай «бітве пры Пірамідах», жорстка расправіўся з ўсімі, хто яму праціўіўся, і павёў свае войска ў Сірыю, дзе 4 сакавіка 1799 г. асадзіў г. Яфу, гараджане якога пасля папярэджання Напалеона адкрылі яму вароты.

Расстраляўшы палонных, ва ўмовах эпідэміі чумы, Напалеон загадаў забраць усіх раненых воінаў, вярнуўся ў Каір, але неўзабаве выступіў супраць рушыўшай насустрач турэцкай арміі і разбіў яе каля г. Абукіры.

З газеты Напалеон даведаўся, што Англія, Аўстрыя, Расія і Неапалітанскае каралеўства ўзнавілі вайну супраць Францыі, а рускі палкаводзец А. Суvotаў разбіў французаў у Італіі і гатовы ўварвацца ў Францыю.

Такім чынам, усё, што ён заваяваў з такім поспехам, раптоўна рушылася. Перадаўшы камандаванне арміяй ген. Клеберу, ён 23 жніўня 1799 г. патаемна і імкліва адплыў у Францыю.

1. Маршал Жан-Бацістэ Юлес Бернадот (1763-1844), паплечнік Напалеона, муж Дэзіры Клары, маршал і галоўнакамандуючы Паўночнай арміяй. Са збораў Версальскага музейнага ансамбля (1013, с. 95).

2. Дэзіра Клары, каханая Напалеона Банапарта, якая выйшла замуж за Жана-Бацістэ Юлеса Бернадота, будучага маршала «Вялікай арміі», але ніколі не забывала пачуццяў да маладога лейтэнанта Напалеона. Ён быў адданым яе сябрам да апошніх гадоў свайго жыцця. Гравюра пачатку XIX ст. (1013, с. 29).

3. Штурм крэпасці пад Тулонам 14 снежня 1793 г., у якой Напалеон Банапарт быў паранены, але разам са сваёй батарэяй уратаваў сітуацыю [1013, с. 24].



3

# Глава 17
# Да імператарскага трону і славы

Перад самым 1800 годам у Дырэкторыі Францыі панавалі разброд, хістанні і сваркі, французскія арміі разбіты, фінансавая сістэма рушылася, народ бунтаваўся, яму патрэбна была «галава і шабля», якая неўзабаве знайшлася.

На сумесным пасяджэнні Савета старэйшын і Савета пяцісот, якое адбылося 9 снежня (18 брумера) 1799 г., выступіў Напалеон, але няўдала, і быў асмяяны дэпутатамі. Нечакана пракацілася чутка, што Напалеона хочуць забіць, і ў дэпутацкую залу ўварваўся Мюрат разам з салдатамі.


Archives du Gouvernement

Le COMITÉ DE SALUT PUBLIC

Пасведчанне аб прызначэнні Напалеона Банапарта генералам і камандуючым унутранай арміяй 26 кастрычніка 1795 г. [1005, с. 27 ].

Тэрмінова быў створаны выканаўчы орган з трох консулаў: Камбасеры, Напалеона і Дэбрэна. Праз хуткі час Напалеон стаў першым консулам, прысвоіўшы сабе ўладу на 10 гадоў наперад. Так скончылася Французская рэвалюцыя.

Пасля ваенных дзеянняў з Аўстрыяй 27 сакавіка 1802 г. была падпісана мірная дамова паміж Францыяй з саюзнікамі і Англіяй, а 2 жніўня Напалеон быў прызначаны пажыццёвым консулам.

Пачалася напружаная праца па пераўтварэнні краіны: былі створаны Дзяржаўны савет, кантрольныя органы, узвышана ўлада прэфектаў, перабудаваны судовыя органы, перапрацаваны камерцыйны і крымінальны кодэксы, замацоўваліся правы царквы, свабода прыватнай уласнасці і прынцып роўнасці перад законам, з 1804 г. пачаў дзейнічаць «кодэкс Напалеона», ажывілася развіццё прамысловасці і гандлю, быў заснаваны Нацыянальны банк.



Імператрыца Францыі Марыя Жазэфіна Роз Ташэ (1763-1814), першая жонка Напалеона Банапарта. Дэталь з малюнка 1805 г. мастака Паўла Прудона (1758-1823) [1005, с. 91-а]. Жазэфіна нарадзілася ў г. Марцініка, атрымала цудоўнае сямейнае выхаванне, расла прыгажуняй. Выйшла замуж за афіцэра Аляксандра Багарнэ, які пасля атрымання патэнта на званне генерала застаўся прыхільнікам караля, за што быў пакараны якабінцамі на гільяціне. Застаўшыся маладой удавой з сынам Яўгенам (Эжэнам), Жазэфіна стала музай аднаго з дырэктароў новага ўрада Францыі Бараса, пазней пакахала Напалеона Банапарта. Пачаткам іх кахання прыдворныя біёграфы лічаць 28 кастрычніка 1795 г., а праз год яна выйшла замуж за Напалеона. Іх гарачае каханне спачатку было ўзорам для ўсёй Францыі, але хутка яно не вытрымала выпрабавання часу. Яна захаплялася ім і баялася яго, а ён гатовы аддаць ёй усё. Пасля ўзаемнай здрады ў каханні Напалеон дапамог ёй купіць замак Мальмазон, у якім была і ягоная рабочая рэзідэнцыя. Цяпер у замку размяшчаецца музей Жазэфіны і Напалеона. Жазэфіна была каранавана ў Саборы Парыжскай Божай Маці (Notre-Dame de Paris), але пазней, у 1810 г., вымушана даць Напалеону развод, захаваўшы тытул імператрыцы. Ад Напалеона яна не мела дзяцей. Яе незвычайная будучыня была прадказана сталай служанкай у Марцініцы, калі Жазэфіна была яшчэ маленькай дзяўчынкай. Прадказальніца ёй мовіла: «Дарагая гаспадынька, мне бачыцца, у воблаку ляціць вялікі птах з розай у дзюбе...Вы будзеце розай... Вы вельмі няшчасная па жыцці, але Вы станеце каралевай... Затым будзе вялікі шторм і Вы паміраеце». Жазэфіна была для Напалеона жаданай жанчынай, а яе заўчасную смерць ён аплакваў больш усяго і ўспамінаў яе з пяшчотай на працягу ўсяго прабывання на востраве Святой Алены [1013, с. 35].



Шлюбнае ўбранне Жазэфіны (у цэнтры). Цырымонія шлюбу адбылася ў сакавіку 1794 г. у палацы Луўр. Гравюра I паловы XIX ст. [1013, с. 35].



Жазэфіна і Напалеон падчас шлюбу наведваюць замак і парк Мальмазон. Пры шчодрай падтрымцы Напалеона Жазэфіна выкупіла за 325 тыс. франкаў замак Мальмазон і з дапамогай лепшых французскіх архітэктараў ператварыла яго ў квітнеючую і ўтульную рэзідэнцыю для сябе і Напалеона [1013, с. 37].



Польская каханая Напалеона Марыя Ланчынская — графіня Валеўская (1786-1817). Малюнак 1811 г. Мастак Франсуа Жэрар (1770-1837) [1305, 73].

Гартэнзія (1783-1837), жонка Луіса Банапарта, брата Напалеона, з сынам Напалеонам III (1798-1873), які ў будучым стане каралём Францыі (з 1852 па 1870 гг.). Малюнак 1807 г. Мастак: Франсуа Жэрар (1770-1837) [1005, с. 85].



Версаль. Самакаранаванне Напалеона Банапарта на імператара і Жазэфіны на імператрыцу ў Саборы Парыжскай Божай Маці (Notre-Dame de Paris) 2 снежня 1802 г. Палатно памерам 9 х 6 м захоўваецца ў Версальскім палацы. Малюнак прыдворнага мастака Луіса Дэвіда (1748-1825). Фота аўтара, 2011 г.
Мастак арыгінальна адлюстраваў самакаранаванне імператара,ператварыўшы жэст Напалеона ў каранаванне Жазэфіны. Пазней, у 1808 г., калі маладая пара наведала студыю мастака, Напалеон усклікнуў: «Дэвід, ты прачытаў мае думкі, ты зрабіў мяне рыцарам (Дон Кіхотам) Францыі!» (1013, с. 62).

У палітычным і культурным жыцці Францыі прыціхлі разлады, спрэчкі, атрымалі развіццё мастацтва, адукацыя, канкрэтна сфарміравалася сістэма ўлады, акружэнне якой патрабавала, каб Напалеон стаў каралём ці імператарам. І гэта неўзабаве адбылося.

2 снежня 1802 г. у Саборы Парыжскай Божай Маці Напалеон, выхапіўшы з рук папы Рымскага Пія VI карону, адзеў яе на сябе і адначасова каранаваў Жазэфіну, а затым стварыў шыкоўны імператарскі двор [557].

Братоў: Юзафа (Жазэфа) ён каранаваў спачатку на караля Неапалітанскага, затым Іспанскага, Луіса — каралём Галандыі, Жэрома — каралём Вестфальскім, сёстры атрымалі надзелы і прыдворныя тытулы: Эліза стала прынцэсай Лукскай і вялікай герцагіняй Гасканскай, Паўліна — герцагіняй Гуастальскай, Караліна стала жонкай маршала Мюрата, з 1808 г., караля Неапалітанскага.

Перамір'е з Англіяй цягнулася нядоўга, і з 1803 г. узнавілася чарга бясконцых ваенных кампаній, спачатку з Англіяй. Гэтая кампанія працягвалася доўга, фактычна да канца праўлення Напалеона.

Для вайны з Англіяй Напалеон стварыў грандыёзны лагер для дэсантных войскаў.

Крыху раней, калі Напалеон быў яшчэ консулам, Англія рыхтавала на яго замах, які быў раскрыты дасціпным міністрам паліцыі Ж. Фушэ. З таго часу па ўсёй краіне былі

рассыпаны інфарматары і шпіёны — вочы і вушы імператара, ад якіх ён ведаў усё, што рабілася ў краіне, ягоным акружэнні і нават каля Жазэфіны.

У часы Паўла I былі ўсталяваны цесныя кантакты з Напалеонам, расійскі імператар быў ім нават зачараваны. З французскага палону былі вызвалены вязні, а ў падзяку Павел I у 1801 г. адправіў у калонію Англіі Індыю 22-тысячнае расійскае войска.

З прыходам на расійскі прастол Аляксандра I узаемаадносіны Расіі і Францыі сталі напружанымі. Напалеон разумеў, што яму не ўдасца беспакарана весці сваю ігру ў Еўропе, таму стварыў 200-тысячную армію і рушыў з ёю на Дунай.

У гэтай арміі былі вядомыя і загартаваныя разам з Напалеонам маршалы-палкаводцы Мюрат, Нэй, Даву і інш.

У Напалеона былі тры выверaныя канцэпцыі ваеннага манеўру: акружэнне праціўніка і ўдар яму ў фланг, удар паміж двума праціўнікамі і прарыў абароны і, нарэшце, захоп цэнтра аперацыі.

Адначасова з дзеяннямі на сушы Францыя вяла вайну на моры пераважна з англійскімі караблямі, але ў 1805 г. Брытанскі флот на чале з адміралам Нельсанам ушчэнт разбіў французскі флот і ўзяў у палон 17 французскіх караблёў.

Значна лепшыя поспехі былі ў Напалеона на сушы. Ён сам вёў арміі на бітвы. Пасля разгрома аўстрыйскай арміі пад Ульмам у лістападзе 1805 г. Напалеон ушчэнт разбіў войскі антынапалеонаўскай кааліцыі ў «бітве трох імператараў» пад Аўстэрліцам. Войскі кааліцыі страцілі забітымі, раненымі і палоннымі звыш дваццаці сямі тысяч чалавек, амаль трэць сваёй колькасці. Імператары Аляксандр I і Франц паімчаліся з поля бітвы ў розныя бакі.

У лістападзе 1806 г. Напалеон падпісаў знакамітыя дэкрэты об «кантынентальнай блакадзе».

Палітыка Банапарта ў адносінах да Расіі заставалася падкрэслена добразычлівая, амаль сяброўская, наколькі гэта было магчыма ва ўмовах незацiхаючых войнаў, таму крывавыя бітвы з расійскімі войскамі 8 лютага 1807 г. пры Прэйсіш-Эйлау і 14 чэрвеня пад Фрынландам прымусілі яго да роздуму аб неабходнасці пошуку міру з Расіяй.

Праз 10 дзён пасля Фрыдланда Напалеон сустрэўся з Аляксандрам I на Нёмане. Яны абняліся, увайшлі ў палатку і гутарылі дзве гадзіны, затым у Тыльзіце (цяпер г. Савецк) 25 чэрвеня (7 ліпеня) 1807 г. імі была падпісана французска-расійская дамова аб міры. Пазней, 8 верасня 1808 г., Напалеон падпісаў з прускім каралём дамову аб вывадзе французскіх войскаў з тэрыторыі Прусіі, а ў сярэдзіне кастрычніка 1808 г. у Эрфурце была падпісана саюзная канвенцыя паміж Расіяй і Францыяй.

Разабраўшыся з кааліцыяй, Напалеон распачаў вайну з Іспаніяй і пасля шэрагу няўдач усё ж захапіў Мадрыд, а каля г. Ваграма ў сакавіку 1809 г. разграміў аўстрыйцаў.

Пасля цырымоніі самакаранавання на імператара Напалеон 2 снежня 1802 г. дае канстытуцыйную прысягу ў Саборы Парыжскай Божай Маці (Notre-Dame de Paris). Малюнак Луіса Дэвіда. Версаль [1013, с. 62].

## Глава 18
# Гарачае каханне да Марыі Валеўскай

Час ішоў, і Напалеон перажыў некалькі замахаў, пасля чаго пачаў задумвацца пра наследніка. З Жазэфінай, якая вяла часам распутнае жыццё, у яго не атрымалася мець дзяцей. Між іншым, менавіта Жазэфіна абвінавачвала ў бяздзетнасці Напалеона.

Пасля сражэння пад Палтускам на р. Нарэў, у якім Напалеон тыднямі не здымаў чобатаў, не распранаўся, спаў у верхнім адзенні падчас доўгіх пераходаў, ён вярнуўся ў Варшаву, каб прыстойна адпачыць.

У гэты час у яго адбыўся гарачы раман з польскай прыгажуняй Марыяй Валеўскай, якая, паводле шэрагу мемуарыстаў, стала яго грамадзянскай жонкай. Раман з ёю быў бурлівым і параўнальна доўгім.



Аляксандр — сын Марыі Валеўскай ад Напалеона Банапарта (1810 г.) [1005, с. 93].

Незадоўга да спаткання з Марыяй у Напалеона нарадзіўся сын Леон у выніку мімалётнай сувязі з эфектнай француженкай Элеанорай Дэнюкель дэ ля Плэнь Рэвель, якую выглядзеў і параіў яму Мюрат. Двухгадовы Леон быў на дзіва падобны да Напалеона, але імператар не спяшаўся прызнаць дзіця сваім сынам, бо падазраваў, што сапраўдным бацькам Леона з'яўляўся Мюрат [305].

Марыя Ланчынская, у будучым Валеўская, нарадзілася 7 снежня 1786 г. у маёнтку Бродна пад г. Керназі, непадалёку ад Варшавы, у сям'і Гастыньскага старосты і ўладальніка Керназі Мацея Ланчынскага і Эвы з роду Забароўскіх. Марыя была 4-й з сямі дзяцей. Бацька памёр рана, усе сямейныя клопаты ляглі на плечы энергічнай маці.

Найперш трэба падкрэсліць, што «Тайны архіў» напалеонаўскага рамана з Валеўскай упершыню раскрыў у канцы XIX ст. французскі гісторык-напалеоназнавец Фрэдэрык Массона. Цудоўны вучоны і пісьменнік, сакратар французскай Акадэміі, Массона дамогся дазволу ў сям'і парыжскіх Валеўскіх пазнаёміцца (першаму з гісторыкаў) з сямейным архівам і выкарыстаць яго для навуковых мэтаў. Аднак



Напалеон Банапарт дае развод імператрыцы Жазэфіне 15 снежня 1809 г. Малюнак 1846 г. Мастак Фрэдэрык Шапэн (1804-1880) [1005, с. 84].

нават яму не дазволілі дакрануцца да архіўнай тайны — рукапісу ўспамінаў самой Марыі Валеўскай.

На падставе публікацыі Массоны ў 1893 г. з біяграфічнымі звесткамі пра Марыю Валеўскую, а праз чатыры гады ўключэння яго ў напалеонаўскі зборнік, французскімі, італьянскімі, нямецкімі і польскімі біёграфамі выпушчана вялізная колькасць кніг, нарысаў, артыкулаў пра раман Марыі і Напалеона.

Манаполія Массоны на біяграфію Марыі трымалася амаль паўстагоддзя, пакуль у 1934-1935 гг. у Канадзе, затым у Англіі выйшаў гістарычны раман «Жыццё і каханне Марыі Валеўскай». Аўтарам рамана быў яе праўнук гр. Гійом д'Арнана па лініі другога шлюбу Марыі з ген. гр. д'Арнана ў лютым 1815 г. пасля заканчэння рамана з Напалеонам.

Родны брат Марыі Бенядзікт Юзаф Ланчынскі прайшоў усе войны ў польскім корпусе Панятоўскага, атрымаў званне брыгаднага генерала і ў сакавіку 1815 г. быў узяты ў палон прусамі, памёр у 1820 г.

Марыя з дзяцінства выхоўвалася на патрыятычных Касцюшкаўскіх традыцыях «веры і айчыны», старанна вучылася французскай і нямецкай мовам, танцам, а гувернёрам у яе быў Нікаля Шапэн.

Пасля завяршэння навучання ў пансіёне пры Варшаўскім кляштары і вяртання ў шаснаццацігадовым узросце дамоў да Марыі пачалі сватацца кавалеры. Першаму з іх маладому, багатаму, але расійскаму афіцэру яна рашуча адмовіла (бацькі не далі згоды), другому багатаму арыстакрату, уладальніку суседняга замка і маёнтка Валевіцы, удаўцу, былому камергеру апошняга караля Рэчы Паспалітай С.А. Панятоўскага, кавалеру блакітнай стужкі ордэна Белага Арла Анастазію Калона-Валеўскаму 18 чэрвеня 1803 г. аддала руку, хоць ён быў старэйшы за яе ў чатыры разы. Яму споўнілася 70 гадоў, а Марыя была



Вянчанне Напалеона з Марыяй-Луізай у прысутнасці імператарскай сям'і. Рэлігійная цырымонія адбылася ў спецыяльна прыгатаваным салоне палаца Луўр. Нарачоная нявеста была апранута ў цудоўнае адзенне з белага цюля з серабром, выкананае знакамітым куцюр'е Лероем. Яе плечы былі пакрыты тым жа чырвоным вяльветавым шлейфам, які адзявала Жазэфіна на каранацыю Напалеона [1013, с. 86].

маладзейшая на дзевяць гадоў за ягонага малодшага ўнука [633].

Пасля вяртання з Італіі дамоў у Валеўскіх нарадзіўся сын Антоній Базыль Рудольф. Муж Марыі быў чалавекам не публічным, часта хварэў, гаспадарчымі справамі не займаўся, а маючы ўладаранні коштам 650 тысяч фларынаў і атрымаўшы пасаг за Марыю 100 тысяч фларынаў, «большую частку часу праводзіў у падвале (піўніцы) палаца, дзе, лежачы, папіваў халоднае піва...» [305].

Ягоная маладзюткая жонка Марыя, як піша яе праўнук, не магла адчуваць сябе ўтульна ў такім акружэнні, таму разам з дамамі роду Валеўскіх стварыла канспіратыўны цэнтр патрыятычнай прапаганды, мэтай якога было вызваленне Польшчы.

Паводле нарыса Ф. Массоны, знаёмства Марыі і Напалеона адбылося наступным чынам. У пачатку студзеня 1807 г. імператар, вяртаючыся ад Пултуска да Варшавы, спыніўся ў г. Блоне, каб змяніць коней. Тут яго сустракаў увесь горад. Кругом гучалі ўзнёслыя здравіцы ў яго гонар, усе, хто як мог, кінуліся да імператарскай карэты. Маршал Дзюрок, выйшаўшы з карэты, каб пракласці дарогу, убачыў працягнутыя жаночыя рукі і пачуў мілы голас па-французску «О, гасудар ... зрабіце так, каб я магла ўбачыць яго хоць бы на імгненне!» [305].

Дзюрок глянуў на юную даму і адразу ацаніў яе прыгажосць: бландзінка з вялікімі блакітнымі вачамі, мяккімі і наіўнымі, поўнымі глыбокай пашаны, невысокага росту, цудоўна складзеная і гнуткая, нібы фантастычная фея.

Дзюрок прабраўся з ёю праз натоўп да дзвярэй карэты, прадставіў яе Напалеону, які

з першага погляду зачараваўся такім мілым стварэннем, а пасля яе палымяных слоў падаў букет кветак і паабяцаў хутка ўбачыцца ў Варшаве.

Гэтую гістарычную сустрэчу розныя даследчыкі трактуюць па-свойму. Адны пішуць, што сустрэча адбылася каля карчмы ў Блоні, другія лічаць, што, менавіта, ген. дэ Багарнэ (прыёмны сын Напалеона ад Жазэфіны) звярнуў увагу на прыгожую даму і, праязджаючы праз Блонь, перанёс сустракаўшую Марыю праз брудную раскіслую дарогу і пераказаў гэтую гісторыю Талейрану, а той, у сваю чаргу, зацікавіў прагажуняй Марыяй самога Напалеона.

Так ці інакш, але ў гэтую нядоўгую зіму ў Варшаве, залітай святлом і гукамі славутага паланэза Агінскага, у жыццё Напалеона ўвайшла Марыя Валеўская. Сярод загадаў, забот, планаў, думак ён на кароткі час адчуў, што яму ўжо трыццаць восем гадоў, што выйграная ці прайграная бітва — гэта не ўсё на свеце, што яго могуць любіць не толькі як імператара, а дзеля яго самога.

Напалеон не запамятаў маладую польку, таму ў Варшаве ён даручыў даведацца пра імя цудоўнай незнаёмкі. Клопатамі кн. Ю. Панятоўскага было хутка высветлена, што маладзіца жыве непадалёку ад Варшавы, у Валевічах, што яна з'яўляецца маладой жонкай састарэлага графа Валеўскага.

У бліжэйшыя дні ў цудоўным варшаўскім палацы князёў Радзівілаў адбыўся баль з удзелам Напалеона, на якім імператар сустрэўся з Марыяй. Зноў-такі, біёграфы, гісторыкі і мемуарысты апісваюць па-свойму першае спатканне Напалеона і Марыі.

Напрыклад, польская мемуарыстка А. Наквaская піша, што, увайшоўшы ў залу, Напалеон гучна ўсклікнуў: «Ах, якое мноства прыгожых жанчын у Варшаве!», пасля чаго ягоны погляд спыніўся на Валеўскай.

У сваіх успамінах камергер Напалеона Канстана гаворыць, што ў Варшаве імператар правёў цэлы тыдзень. На балі мадам



Яўгеніюш Багарнэ (1781-1814), прыёмны сын Напалеона ад Жазэфіны. Быў заўсёды прывязаны да маці, але з айчымам таксама хутка ўстанавіў добрыя адносіны, быў яму абавязаны за высокія пасады, у тым ліку за тытул віцэ-караля Італіі [1013, с. 37].

Паўліна Фаўрэ, адна з каханак Напалеона. Даведаўшыся аб здрадзе Жазэфіны, Напалеон распачаў гарачы раман з жонкай свайго салдата Паўлінай Фаўрэ, вядомай пад прозвішчам Беліоттэ. Сувязь была даволі скандальнай, але пасля вяртання ў Парыж раман згас [1013, с. 45].



На стар. 118-119: Бітва пад Рашынам, 1809 г. Малюнак 1832 г. Гродзенскі мастак Януар Сухадольскі (1797-1875). Са збораў музея імя Мяльжынскіх у Познані [MP 178].



Уваход Напалеона Банапарта ў Александрыю 3 ліпеня 1798 г. Малюнак 1812 г. Мастак Гюём Франсуа Кольсан (1785-1850) [1005, с. 35].

Марыя спадабалася імператару з першага погляду. Бландзінка, вочы блакітныя, скура незвычайнай белізны. Была яна не вельмі высокая, але стройная, з цудоўнай фігурай.

У сваіх мемуарах сама Марыя Валеўская, а затым яе праўнук пісалі, што спатканне ў Блоні так падзейнічала на Напалеона, што ён па прыездзе ў Варшаву загадаў падняць на ногі паліцыю ўсёй акругі, каб адшукаць незнаёмку.

Найбольш праўдападобным падаецца распавед напрыканцы жыцця самога Напалеона ва ўспамінах, запісаных ген. Манталонам на востраве Св. Алены. У запісках пазначана, што на баль прыбылі граф і графіня Валеўскія. Імператар аказваў Марыі ўсялякія знакі ўвагі і павагі, а калі да яе пачалі чапляцца дакучлівыя кавалеры, ён загадаў ім удаліцца да сваіх штабоў. Пасля гэтага Напалеон не адыходзіў ад яе ні на крок.

У сваіх мемуарах Талейран таксама пісаў, што імператар «публічна паклаў сваю славу да ног цудоўнай polькі Марыі (Анастасіі) Валеўскай» [305].

Пасля балю ў палацы Радзівілаў Напалеон адчуў, што шчыра пакахаў чароўную польку, і пачаў пісаць ёй узнёслыя пісьмы амаль штодня, якія дастаўляў адрасату асабісты дарадца Напалеона Дзюрок, але адказаў ад Марыі не было. Напалеон быў збіты з толку. Такога з ім яшчэ не было. Праходзілі дні і ночы. Пачуцці ў імператара разгараліся як полымя.

Да сядзібы Валеўскіх пад'язджалі экіпажы адзін за другім. Дастаўляючы пісьмы, Дзюрок увесь час нашэптваў ёй пра тое, як любіць яе Напалеон. Кн. Ю. Панятоўскі, іншыя польскія вяльможы, сяброўкі пры ёй глыбока ўздыхалі: «Бедная Польшча! Няшчасная Айчына!».

Перакінемся ў думках на імгненне ў атмасферу студзеня 1807 г. Сталіца вызваленай

Польшчы сустракае самага знакамітага ў свеце чалавека — «Героя двух стагоддзяў», «Заканадаўцу народаў», «Знішчальніка тыранаў». Усе погляды варшавян звернуты да Каралеўскага замка, пераіменаванага ў Імператарскі замак. Дзе ні з'яўляўся імператар, яго сустракалі ўспламянёныя натоўпы людзей з воклічамі: «Няхай жыве Напалеон Вялікі! Няхай жыве выратавальнік Айчыны!»

У такіх умовах Валеўская перажывае дні радасці і надзеі. Выхаваная ў патрыятычным асяродку, яна ўжо даўно абажае легендарнага імператара французаў. Але пераўтварэнне легендарнага героя ў закаханага мужчыну, які дамагаецца інтымных сувязяў, прадстала для Марыі жорсткай і балючай нечаканасцю.

Жыццё ўгатавала для гэтай маладой жанчыны цяжкае выпрабаванне. Зусім надаўна яе сям'я ўчыніла гвалт над яе пачуццямі, выдаўшы за старца, цяпер, калі яна звыклася з такой несправядлівасцю, абажаемы ёю імператар квапіцца на святасць яе шлюбу.

Але ў механізм напалеонаўскага рамана з Валеўскай уключаны міністры і маршалы: Талейран, Мюрат, Дзюрок, Панятоўскі і інш.

Нават стары муж, нічога не падазраючы, у настойлівасці візіцёраў бачыў прызнанне людзьмі высокага рангу таго палажэння, якое ён займаў у грамадстве, таму прымушаў маладую жонку з'яўляцца на балях Напалеона.

Сама Марыя ў сваіх мемуарах падкрэслівае, што яе раман з Напалеонам — справа хутчэй


1


2


3

1. Паўліна Банапарт (1780-1825), сястра Напалеона. Мастак Роберт Ляфеўр (1755-1830) [1305, с. 62].

2. Юзаф Сулкоўскі (1770-1798), афіцэр, якабінец, ад'ютант Напалеона Банапарта. Малюнак каля 1812 г. Мастак Антоні Брадоўскі (1784-1832). Са збораў музея імя Мяльжынскіх у Познані [MP 36].

3. Маршал «Вялікай арміі» Напалеона Віктор (1764-1841). Мастак Дуко Бялюна. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў. Парыж [inv. 04974, ea 268].

палітычная, што яна ўступіла Напалеону пад уздзеяннем просьб і патрыятычных настрояў з боку варшаўскіх правячых колаў і нават урада, які заклікаў Марыю праявіць патрыятычнае пачуццё.

Толькі пад уціскам урадавай дэлегацыі Марыя дала згоду прыехаць да Напалеона ў замак і ўступіла яму з глыбокай верай і ўпэўненасцю, што прыносіць ахвяру на алтар Айчыны.

У сваіх успамінах Ю.У. Нямцэвіч падкрэслівае, што «наша лоўчынская Марыся хацела ад яго аднаўлення Польшчы» і магла прымусіць Напалеона весці доўгія размовы пра лёс Польшчы [1210].

Каханне перамагло, хоць разгаралася цяжка, складана і выбухова. Ён дасылаў ёй запіскі з брыліянтамі, яна напачатку іх кідала на падлогу, затым пачуцці сталі ўзаемнымі і яны ўжо амаль не раставаліся.

Праз два гады, у жніўні 1809 г., Марыя адчула, што носіць дзіця ад Напалеона. Паводле жадання самога імператара, гэтая навіна была пацверджана імператарскім медыкам. Цяжарнасць Марыі Валеўскай для Напалеона стала падзеяй дзяржаўнага значэння, і ён праяўляў пастаянныя зацікаўленасць і клопаты пра будучае дзіця, нават хацеў прапанаваць Марыі карону.

Марыя нарадзіла ў Валевічах дзіця 4 мая 1810 г. і назвала яго Аляксандрам, які ў будучым стаў французскім дыпламатам.

Праходзіць час, паўстаюць новыя ваенныя і дзяржаўныя клопаты, тым больш, што дарадцы нашэптваюць яму аб законным наследніку, што сын ад Марыі не мае каралеўскай крыві і г.д., таму Напалеон, па прапанове міністра Фушэ, вырашыў ажаніцца з сястрой Аляксандра I Ганнай Паўлаўнай. Атрымаўшы адмову, французскі імператар літаральна ашалеў ад знявагі і загадаў паскорана пашукаць іншыя варыянты.

Ужо 7 лютага 1810 г. была падрыхтавана шлюбная дамова, а 11 сакавіка, паводле даручэння Напалеона, начальнік галоўнага штаба Луі Бярцье ў Вене заключыў ад імя Напалеона шлюб з аўстрыйскай прынцэсай Марыяй Луізай, дачкой аўстрыйскага імператара. Сам Напалеон сустрэў і ўбачыў упершыню сваю маладую толькі тады, калі яна прыехала да прадмесця Парыжа на вянчанне.

Праз год у Напалеона і Марыі Луізы нарадзіўся сын, які быў абвешчаны «Рымскім каралём» і наследнікам імператара.

Напалеон не забыў пра Марыю Валеўскую, бо 5 мая 1812 г. ён запрасіў яе ў сваю рэзідэнцыю ў Сен-Клу і ўручыў ёй даравальны акт забеспячэння двухгадовага сына Аляксандра матэрыяльнымі і фінансавымі сродкамі, а ў чэрвені 1812 г. Валеўская афіцыйна развялася з мужам Анастазіем Калона-Валеўскім. Апошні раз Марыя з сынам наведала Напалеона 28 чэрвеня 1815 г. пасля смерці яе першага мужа Анастазія, калі разбіты саюзнікамі Напалеон знаходзіўся ў разгубленым стане ў замкавай рэзідэнцыі Мальмазон.

З гэтага хвалюючага моманту развітання Напалеон знікае з біяграфіі Марыі Валеўскай, а ягонае месца займае ген. Агюст (Філіп-Антуан) д'Арнана, будучы маршал Францыі, з якім яна ўступіла ў шлюб 7 верасня 1816 г. і нарадзіла 9 чэрвеня 1817 г. яму сына Рудольфа-Агюста.

У пачатку восені 1817 г. Марыя захварэла на ныркі, а 11 снежня 1817 г. яна памерла, маючы за плячамі ўсяго толькі 31 год. Была пахавана на могілках Пэрла-Шэз у Парыжы, затым перахавана 27 верасня 1818 г. родным братам палкоўнікам Тэадорам Ланчынскім у касцёльнай крыпце на сваёй радзіме ў г. Керназі [305].

Імператар Францыі Напалеон I пасля самакаранацыі.
Малюнак 1805 г. Мастак Робэрт Ляфеўр.
Са збораў Версальскага музейнага ансамбля.

## Глава 19
# Праз Расію і «бітву народаў» да крушэння імперыі

Уладаранні Францыі дасягнулі небывалых памераў. Напалеонаўскія арлы парылі над велізарнымі прасторамі ад Эбро да Эльбы. Над пакоранымі дзяржавамі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы лунаў трохкаляровы французскі сцяг. Напалеон панаваў на тэрыторыі большасці параможаных ім краін Еўропы. На чарзе — Расійская імперыя. Паміж імі ўзніклі спрэчкі, рознагалоссі, непаразуменні па пытаннях Польшчы, кантынентальнай блакады, эканамічнага крызісу, тарыфаў на імпарт і экспарт тавараў і г.д., а як інструмент помсты крыўдзіцелю — вайна.

За дзень да нападу на Расію Напалеон прыбыў да войска, дзе яго бачылі ў розных месцах «Вялікай арміі» то вярхом на белым кані, то пешшу ў мундзіры з чужога пляча, каб не прыцягваць увагу ворагаў, якія толькі што былі яму саюзнікамі.

Над Нёманам з ім адбыўся казус. Раптоўна выскачыў заяц, конь пад Напалеонам спужаўся і выкінуў імператара з сядла на зямлю. Світа ўсхвалявалася — нядобрая прыкмета, быць вялікай бядзе. Гэта здарыцца позняй восенню, а цяпер разгар лета, толькі наперад, толькі ў бой і толькі перамога.

Напалеонаўская армія заняла Коўна, Вільню, хуткім маршам з баямі, малымі і вялікімі, рушыла на Віцебск. Напалеон з трывогай назіраў, што баявыя дзеянні разгортваюцца не па ягонаму сцэнарыю.

7 (26) жніўня 1812 г. адбылося Барадзінскае сражэнне, пасля якога Кутузаў адкрыў французам бесперашкодны шлях на Маскву, і 14 верасня Напалеон уступіў у падпаленую па загаду гр. Растапчына спецыяльнымі гарадскімі службамі старажытную расійскую сталіцу.

Праз 34 дні прабывання ў Маскве французская армія страціла баяздольнасць, патанула ў рабаваннях, разгулах, і 18 верасня (6 кастрычніка) яна вымушана была адступаць, а на наступны дзень Кутузаў ушчэнт разбіў Мюрата і стаў жалезным заслонам на шляху «Вялікай арміі» пад Малаяраслаўцам.

Напалеон пачаў ухіляцца ад бітваў, рухаўся на Смаленск у надзеі знайсці там харч, фураж, коней, зброю, боепрыпасы, каб накарміць і ўзброіць толькі старую і маладую гвардыі.

Затым былі Бярэзіна, Вільня, і паражэнне напалеонаўскай арміі ў Расіі было прадвызначана. 5 снежня Напалеон у суправаджэнні Каленкура паімчаўся ў Парыж, пакінуўшы рэшткі «Вялікай арміі» на Мюрата.

У карэце, затым на санках, зноў на калёсах ён імчаўся з невялікім эскортам і аховай інкогніта пад імем гр. Каленкура праз Польшчу, Прусію і Саксонію.

Вярнуўшыся ў Парыж у снежні 1812 г., Напалеон разгарнуў кіпучую дзейнасць, сабраў новую армію, абвясціў неадкладны набор, і да лютага 1813 г. пад яго штандары сталі 300 тыс. чалавек, а 20 красавіка (2 мая) пад Лютце-



Сын Напалеона ад Марыі Луізы Франсуа Чарльз Іосіф Банапарт, кароль Італіі (1811-1832), якога мастак Леапольд Бухер (1797-1857) намаляваў перад самай ягонай смерцю. Жыццё сына Напалеона было надзвычай трагічным. Нарадзіўся ён з імператарскім гонарам і пашанай, ва ўзросце трох гадоў быў разлучаны з бацькам. Нягледзячы на тое, што 22 чэрвеня 1815 г. Напалеон I адрокся ад трона на яго карысць, Чарльз правіў усяго толькі некалькі гадзін пад іменем Напалеон II. Паводле пажадання аўстрыйскага імператара, Чарльз павінен пачаць вайсковую службу і кар'еру ў Аўстрыі, але раптоўная смерць ва ўзросце 21 года перапыніла ягоную службу вайскоўцам і зрабіла яго пакутнікам у вачах тых, хто быў лаяльны да існуючага рэжыму. Прах Напалеона II быў вернуты ў сабор Ансамбля Інвалідаў 15 снежня 1840 г. праз 100 дзён пасля вяртання праха ягонага бацькі, Напалеона Банапарта. Падчас гітлераўскай акупацыі Францыі прах Чарльза быў апаганены фашыстамі, пазней адноўлены [1305, с. 56].

нам і 9 (21) мая пад Баўцэнам Напалеон разбіў саюзныя з Расіяй войскі.

Праз два тыдні Напалеон нечакана прапанаваў перамір'е, якое працягвалася да 29 ліпеня. За гэты час армія саюзнікаў вырасла да 350 тыс. чалавек, да іх далучылася Аўстрыя, Англія дала фінансавую дапамогу ў памеры 2 млн. фунтаў стэрлінгаў на ваенныя патрэбы, і 15 (27) жніўня адбылося новае і зноў правальнае для саюзнікаў сражэнне пад Дрэздэнам.

Пасля гэтага фартуна адвярнулася ад Напалеона. Першы поспех саюзнікі атрымалі ў бітве пад Кульмам над корпусам французскага ген. Вандаама. Праз тры дні крывавых баёў Вандаам здаўся ў палон толькі асабіста імператару Аляксандру I. Гэта было першае паражэнне войскаў Напалеона, дзе прысутнічаў расійскі імператар [654].

Самая вялікая бітва, нават па мерках усёй гісторыі войн, адбылася пад Лейпцыгам 4-7 (16-19) кастрычніка 1813 г. і ўвайшла ў гісторыю пад назвай «бітва народаў», у якой з абодвух бакоў удзельнічала каля паўмільёна чалавек пры двух тысячах гарматаў.

Напалеон прайграў, а для Аляксандра I як военачальніка наступіў «зоркавы час». У бітве фармальна галоўнакамандуючым саюзнымі войскамі быў аўстрыйскі генералісімус кн. К. Шварцэнберг, той самы, што за бітву пад Гарадзечна каля Пружан 31 ліпеня 1812 г. з 3-й Заходняй расійскай арміяй атрымаў з рук аўстрыйскага імператара па пратэкцыі Напалеона званне фельдмаршала. Але ўвесь генералітэт, што знаходзіўся ў стаўцы на Манаршым пагорку з расійскім, аўстрыйскім імператарамі і прускім каралём, аднадушна лічыў, што кіраўніком «бітвы народаў» быў Аляксандр I.

Напалеон у гэтай бітве згубіў да 60-ці тысяч забітымі і параненымі, 20 тыс. палоннымі,


EXTRAIT DU MONITEUR.

ACTE D'ABDICATION DE L'EMPEREUR NAPOLÉON.

Les Puissances alliées ayant proclamé que l'Empereur NAPOLÉON était le seul obstacle au rétablissement de la Paix en Europe, l'Empereur NAPOLÉON, fidèle à son serment, déclare qu'il renonce, pour lui et ses héritiers, aux Trônes de France et d'Italie, et qu'il n'est aucun sacrifice personnel, même celui de la vie, qu'il ne soit prêt à faire à l'intérêt de la France.

Fait au Palais de Fontainebleau, le 11 Avril 1814.

*Signé* NAPOLÉON.

Pour copie conforme:

*Signé* DUPONT (de Nemours), *Secrétaire général du Gouvernement provisoire.*

Affiché par ordre de M. le Préfet, le 13 Avril 1814.

1


*Au Golfe-Juan, le premier mars 1815*

NAPOLEON, PAR LA GRACE DE DIEU ET LES CONSTITUTIONS DE L'EMPIRE, EMPEREUR DES FRANÇAIS, ETC., ETC.

A L'ARMÉE.

Soldats!

2

у ліку якіх былі камандуючыя карпусамі Ларыстон і Рэнье, той самы французскі генерал, брыгада якога 15 ліпеня 1812 г. пацярпела паражэнне ў Кобрынскім баі.

Нягледзячы на шэраг перамог, атрыманых у 1814 г., французскаму імператару не ўдалося вярнуць сабе былую славу і страчаныя ўладаранні.

Пераможцам выйшаў Аляксандр І, які 19 (31 сакавіка) 1814 г. на светла-шэрым кані, тым самым, што падарыў яму Напалеон пры заключэнні Тыльзіцкага міру, урачыста ўехаў у Парыж у акружэнні шыкоўнай світы афіцэраў і генералаў шэрагу саюзных Расіі войскаў.

Нягледзячы на спробы Напалеона заключыць з саюзнікамі мір, апошнія на чале з Аляксандрам І няўмольна стаялі на тым, каб французскі імператар добраахвотна адрокся ад прастола.

Праз тыдзень Напалеон Банапарт у Фантэбло, дзе размяшчалася колішняя рэзідэнцыя французскіх каралёў, у прысутнасці сваіх маршалаў адрокся ад тронаў Францыі і Італіі. Ён быў настолькі ўзрушаны ганебным канцом свайго імператарства, што ў ноч 11 красавіка 1814 г. прыняў смяротную дозу яда (раствор опія). Напалеон выжыў, дзякуючы моцнаму арганізму, а трохі аправіўшыся ад атруты, ён 20 красавіка ў акружэнні аднаго батальёна старой гвардыі, пасля развітання са сваімі салдатамі, выехаў на Эльбу.

Саюзнікі былі задаволены такім зыходам справы і пацвердзілі, што Напалеону будзе аддадзены ў поўнае ўладаранне востраў Эльба, ягоным жонцы Марыі Луізе і сыну Напалеону II — самастойныя ўладаранні ў Італіі.

Паводле Парыжскага міру (30 мая па н.с.) 1814 г., Францыя вярталася да граніц 1792 г. і атрымоўвала назад большую частку калоній. Французскі трон быў вернуты каралеўскай дынастыі Бурбонаў — Людовіку XVIII.




3

1. Акт адрачэння ад імператарства, падпісаны Напалеонам Банапартам у Фантэбла 11 красавіка 1814 г. і надрукаваны ў газеце «Манітор» 13 красавіка 1814 г. [1005, с. 108-а; ]. У сваім адрачэнні Напалеон напісаў: «Так як саюзныя дзяржавы абвясцілі, што імператар Напалеон ёсць адзіная перашкода да ўсталявання міра ў Еўропе, то імператар Напалеон, каб не парушаць сваю прысягу, абвяшчае, што ён адмаўляецца за сябе і за сваіх наследнікаў ад трона Францыі і ад трона Італіі, таму што няма той асабістай ахвяры, нават ахвяры жыццём, якую ён не быў бы гатовы прынесці на карысць Францыі» [846, с. 342].

2. Зварот Напалеона Банапарта ад 1 сакавіка 1815 г. да салдат ягонай «Вялікай арміі», у якім ён заклікае салдат аб'яднацца пад французскімі штандарамі для вызвалення радзімы ад замежнай акупацыі [1005, с. 118].

3. Медаль «За ўзяцце Парыжа». Медалём узнагароджвалі салдат і афіцэраў, якія прымалі ўдзел у кампаніі 1814 года. Са збораў прыватнай калекцыі А. А. Нікалаева (г. Брэст).

4. У парку палаца Мальмазон. Апошнія дні Напалеона перад высылкай на востраў Эльба. Мастак Фурнэ Жавэ [1326, с ].



4

## Глава 20
# Апошні трыумф і фінал

Пакуль Еўропа з палёгкай уздыхала ад бясконцых войнаў і рыхтавала Венскі кангрэс, каб замацаваць перадзел граніц і вырашыць нарэшце пытанне аб Польскім каралеўстве, Напалеон тым часам збег з вострава Эльба з мэтай вярнуць страчаны прастол.

Такое рашэнне ён прыняў не адразу. Незадоўга былы міністр замежных спраў Марэ герцаг дэ Басана праінфармаваў Напалеона, што большасць насельніцтва Францыі і войска незадаволены Бурбонамі і жадалі б, каб вярнуўся да ўлады Напалеон.



Ляціцыя Банапарт (Рамаліна), маці Напалеона, у 1803 г. Мастак Луіджы Торо (1836-1900) [1305. с. 60].

У гэты час у яго гасцявала Ляціцыя — маці Напалеона. Для Напалеона яна была заўжды сямейным аўтарытэтам, і ён адкрыў ёй сваю тайну, чакаючы мацярынскага благаслаўлення.

Мудрая, разумная і цвёрдая Ляціцыя была ўзрушана такой нечаканасцю, доўга маўчала, затым па-мацярынску абняла сына і мовіла: «Адпраўляйцеся, сын мой, і трымайцеся свайго прызначэння. Магчыма, вас пасцігне няўдача і адразу наступіць ваша смерць. Але вы не можаце тут заставацца, я гэта бачу з жалем. Будзем спадзявацца, што Бог, які вас захаваў пасля столькіх сражэнняў, яшчэ раз зберажэ вас!» [846, с. 353].

Разам з тысячай салдат на маленькіх суднах за тры дні Напалеон Банапарт 1 сакавіка 1815 г. прыплыў да берагоў Францыі.

Ён лічыў, што для гэтага яму не патрэбны ні армія, ні фінансы, а толькі ягонае імя. Так яно і здарылася. Без усялякай перашкоды, без страляніны і гвалту за ім па шляху рушылі натоўпы людзей, вайскоўцаў,



Напалеон у акружэнні варты і блізкіх на востраве Святой Алены. Французскі жывапіс XIX ст. [1013, с. 108].



Смерць Напалеона 5 мая 1821 г. на востраве Святой Алены. Мастак Штойбэн [1013, с. 112].



Магіла імператара Напалеона І на востраве Святой Алены. 1840 год. Гравюра мастака Яўгена Цыцэры (1813-1890) [1005, с. 45].

гараджане гасцінна адкрывалі перад ім вароты, а ў ноч на 20 сакавіка 1815 г. Напалеон увайшоў у старадаўнюю каралеўскую рэзідэнцыю ў Фантэбла.

Даведаўшыся аб гэтым, кароль збег з Парыжа, а Напалеон вярнуўся ў сталіцу. У палац яго нёс на руках радасны натоўп гараджан. Было відавочна, што Францыя даравала яму велізарныя ахвяры, разбурэнне краіны, збядненне народа, узурпацыю ўлады і г.д., памяталі толькі ягоныя перамогі, былую славу і веліч напалеонаўскай Францыі.

Напалеон неадкладна прыступіў да дзяржаўных спраў і першым яго крокам было апублікаванне новай, больш ліберальнай Канстытуцыі Францыі.

Новы трыумф не толькі не ацвярэзіў Напалеона, а наадварот, натхніў на новыя войны з Еўропай, на новую схватку, якая стала ягоным апошнім акордам як трыумфатара, палітыка і дзяржаўнага дзеяча.

Напалоханая Еўропа неадкладна аб'ядналася, і 18 чэрвеня 1815 г. англійскія і прускія войскі разбілі сілы Напалеона пад Ватэрлоа.

Праз некалькі дзён ён другі раз адрокся ад трона на карысць свайго сына, чатырохгадовага Напалеона II, які жыў пры двары свайго дзеда, аўстрыйскага імператара Франца I, ніколі не правіў Францыяй і памёр ва ўзросце 21 год.

Сам Напалеон здаўся сваім заклятым ворагам англічанам, а «сто дзён» ягонага другога імператарства скончыліся падпісаннем другой Парыжскай мірнай дамовы, велізарнымі кантрыбуцыямі для Францыі і заключным Актам Венскага кангрэсу па пераўладкаванні Еўропы.



15 снежня 1840 г. труна з целам Напалеона з вялікай пашанай прыбыла ў Парыж. Шлях катафалка ўздоўж Сены да сабора Ансамбля Інвалідаў, паводле апісання Віктора Гюго, пралягаў праз натоўпы прыхільнікаў [1013, с. 116].

Напалеон быў сасланы на закінуты ў акіяне востраў Святой Алены, дзе ў акружэнні невялікага двара і брытанскай ахоўнай службы пражыў выгнаннікам да 1821 г. Там пісаў мемуары, ладзіў прыёмы для гасцей, саслужыўцаў, родных, блізкіх і знаёмых.

Памёр Напалеон 5 мая 1821 г., паводле заключэння ўрачоў, ад злаякаснай хваробы страўніка, але чуткі аб тым, што яго атруцілі, не заціхаюць да сяго часу.

У сваім завяшчанні ён прасіў, каб яго пахавалі на беразе Сены, а ўласныя зберажэнні раздалі тым, хто служыў яму на востраве і пад ягонымі штандарамі на палях сражэнняў, а таксама мясцовасцям Францыі, якія больш за ўсіх пастрадалі ад нашэсцяў іншаземных войскаў у 1814–1815 гг.

Напалеона спачатку пахавалі на востраве Эльба, затым у 1840 г. з ганаровай вартай пры велізарным скопішчы парыжан, асабліва напалеонаўскіх ветэранаў, саркафаг з ягоным прахам быў устаноўлены ў храме Парыжскага гістарычнага ансамбля Інвалідаў.

Да асобы Напалеона і цяпер не сціхае цікавасць палітыкаў, даследчыкаў, гісторыкаў, біёграфаў, турыстаў, гасцей і ўсіх, хто паважае гісторыю жыцця і дзейнасці вялікага імператара і палкаводца Францыі.

Гэта сведчыць, паводле выказвання самога Напалеона, аб тым, што «апошняе слова заўсёды застаецца за грамадствам» [669].



19e BULLETIN

DE LA GRANDE ARMÉE.

( Extrait du Moniteur du 3 octobre 1812. )

*Moscou, le 16 septembre 1812.*

Depuis la bataille de la Moskva ; l'armée française a poursuivi l'ennemi sur les trois routes de Mojaisk, de Svenigorod et de Kalouga sur Moscou.

РАЗДЗЕЛ IV

# БЕЛАРУСЬ У ПАЧАТКУ КАМПАНІІ 1812 ГОДА

БЕЛАРУСЬ У ПАЧАТКУ КАМПАНІІ 1812 ГОДА

## Глава 21
# Прыезд Аляксандра I у Вільню

Эпізод прыбыцця расійскага імператара бліжэй да войскаў у колішнюю сталіцу ВКЛ 26 красавіка 1812 г. гісторыкамі апісаны ўсебакова, таму звернем увагу толькі на асобныя дэталі гэтай падзеі.

Аб прыездзе манарха ў Вільню напышліва пісала на першай старонцы газета «Кур'ер Літоўскі": «Збылося наша самае вялікае і самае жаданае чаканне. У палове трэцяй гадзіны па палудні мы ўбачылі ў родных сценах любімага манарха. Сто гарматных стрэлаў і гучанне званоў апавясцілі пра гэты шчаслівы выпадак» [1140].

Імператар у акружэнні генералаў і ад'ютантаў на кані ехаў па прадмесці Вільні, вуліцы якой былі літаральна ўсеяны гараджанамі. Першымі паднеслі імператару хлеб-соль на срэбраным падносе прадстаўнікі яўрэйскай абшчыны. Перад кафедральным саборам яго чакала каталіцкае духавенства, і ён спыніўся, каб пацалаваць святы крыж, затым накіраваўся да губернатарскага палаца пад гукі ваенных маршаў і прывітальныя воклічы публікі: «Няхай жыве імператар!»

У палацы Аляксандра I віталі губернатар, віленскі маршалак Сулістроўскі, рэктар Віленскага ўніверсітэта Я. Снядзецкі і інш. тытулаваныя асобы. Тады яшчэ амаль ніхто не падазраваў, што, літаральна, праз два месяцы Вільня будзе сустракаць Напалеона Банапарта.

Прыезд расійскага імператара да войска ў Галоўную кватэру выклікаў у Варшаўскім герцагстве самыя розныя чуткі, меркаванні, здагадкі пра абвяшчэнне Аляксандра I польскім каралём і фарміраванне ім канфедэрацыі і г.д. Нават кн. А. Чартарыйскі паверыў гэтым ілюзіям, бо ў пісьме да сябра напісаў, што, быццам, вялікі кн. Міхаіл прызначаецца Вялікім Князем Літвы, бо за яго збіраюцца подпісы грамадзян, і, такім чынам, Масква сама хоча прызначыць кіраўніка літоўскай правінцыі.

Праз некалькі дзён пасля прыбыцця расійскага імператара ў Вільню ён прыняў дэлегацыю беларускай шляхты на чале з маршалкамі кн. Любецкім і Сулістроўскім, якая паспяшалася выказаць прыхільныя пачуцці і выказаць гатоўнасць на арганізацыю паставак для расійскай арміі ўсяго, што ёй не хапае. Імператар падзякаваў на польскай мове за добрыя намеры і паабяцаў стварыць асобны Камітэт, які павінен заняцца рэпатрыяцыяй харчу.

Такі Камітэт ужо быў створаны раней у 1807 г. Ён забяспечыў мільённыя па кошту пастаўкі для расійскай арміі.

У Камітэт 1812 г. увайшлі Ваўжэцкі, Плятэр і губернскія маршалкі: мінскі — Ракіцкі, віленскі — Сулістроўскі і гродзенскі — кн. Любецкі.

Каб зменшыць злоўжыванні службовых інтэндантаў, нарыхтоўка запасаў харчавання і фуражу ўзялася Камітэтам не марудзячы, напрасткі з завідным рвеннем і стараннасцю, хоць расійская армія на той час была добра за-



1



2

1. Аляксандр I (1777-1825), з 1801 — імператар Расіі, герцаг Гальштэйн-Гаторпскі, з 14 (26) красавіка 1813 г. — галоўнакамандуючы I Заходняй арміяй, у 1813-1814 гг. узначальваў кааліцыю саюзнікаў супраць Напалеона.
Гравюра I пал. XIX ст. Мастак Жан-Георг Ферэ.
[824, с. 20-а].

2. Яўхім Мюрат (1767-1815), маршал «Вялікай арміі» Напалеона, муж сястры Напалеона Караліны Банапарт, з якой меў чацвёра дзяцей. У 1812 г. камандаваў усёй рэзервнай кавалерыяй, у снежні 1812 г. Напалеон даручыў яму камандаванне рэшткамі «Вялікай арміі», са жніўня 1813 г. камандаваў усёй кавалерыяй.
Мастак Жан Бацiст Гюрн (1783-1885) [1013, с. 33].

3. Ген. А.Д. Балашоў прыбывае з пісьмом Аляксандра I да Напалеона ў Вільні ў першыя дні вайны 1812 г. Ілюстрацыя да рамана Л.М. Талстога «Вайна і мір». Малюнак 1973 г.
Мастак А. Нікалаеў [302, с. 40].



3



Прыбыццё Напалеона да Нёмана і пачатак пераправы «Вялікай арміі».
Гравюра Бэяра і Дэхерта.
Са збораў музея Войска Польскага [MWP 17906].





бяспечана і не патрабавала вялікай колькасці нарыхтовак.

Пазней, калі Напалеон зойме Вільню, гэтая стараннасць скончыцца полымем, агарнуўшым поўныя склады, якія падпаляць казакі пры імклівым адступленні расійскай арміі з Вільні, выклікаўшы голад і жабрацтва ў акрузе.

У Вільні тым часам мала пра гэта думалі, а рыхтавалі шыкоўныя балі ў гонар Аляксандра I, на якіх імператар паказваў сваё ўменне весці сябе ў вышэйшым свеце, стараўся быць шчодрым на ўзнагароды, добрым і ветлівым, асабліва для віленскіх кабет.

На балі запрашаліся губернатары трох беларускіх губерняў, на якіх маршалкі Сулістроўскі і Любецкі атрымалі з рук імператара ордэны Св. Ганны I кл., а шэраг іншых прадстаўнікоў літоўска-беларускай шляхты — ордэны і прызначэнні на пасады, мясцовыя шляхцянкі былі іменаваны прадворнымі дамамі [654].

На балях фактычна не абмяркоўваліся планы па аднаўленні ВКЛ, якія прапаноўваліся М.К. Агінскім. Нават на публічных выступленнях перад беларускай шляхтай, якая з нецярпеннем чакала рашучых імператарскіх крокаў у гэтым кірунку, Аляксандр I не кранаў дадзенае пытанне.

Пазней, перад ад'ездам з Вільні, Аляксандр I выказаў прыехаўшаму М.К. Агінскаму спачуванне, што з нагоды браку часу і па прынцыповых пытаннях павінен быў адмовіцца ад сваіх праектаў адносна ВКЛ, але не патлумачыў, у чым іх сэнс.

Некаторыя расійскія гісторыкі лічаць, што сур'ёзны ўплыў на імператара аказалі ў гэты час ягоны брат вялікі кн. Канстанцін Паўлавіч, прускі барон Штэйн, якія дэманстравалі сваю непрыхільнасць да праекта Агінскага [650].

Але добра вядома, што галоўная праблема крылася ў нежаданні самога імператара займацца ўладкаваннем Літвы.

## Глава 22
# Малавядомыя факты, таямніцы і легенды пра Аляксандра I

Нарадзіўся Аляксандр — будучы манарх і старэйшы сын расійскага імператара Паўла I і імператрыцы Марыі Фёдараўны — 12 (23) снежня 1777 г. у часы росквіту расійскага масонства.

Паводле падання, першым расійскім масонам стаў Пётр I, якога ўвёў у ложу «вольных каменшчыкаў» у 1697-1698 гг. відны дзеяч англійскага масонства Крыстофер Врэн [721].

Масонства — наднацыянальны рух, супрацьлеглы традыцыйным рэлігіям, які дэкларыруе сваёй мэтай пошук абсалютнай ісціны міра, аднаўленне і захаванне патаемных ведаў мінуўшчыны, духоўнае самаўдасканаленне і паляпшэнне грамадскіх правоў, рух да ідэалаў свабоды асобы і духоўнага адзінства людзей.

Гісторыя масонства мае пачатак з глыбокай старажытнасці, але масонскія ложы ў Еўропе расквітнелі ў XVII ст., у Расіі — падчас царавання імператрыц Елізаветы і Кацярыны II.

Настаўнікам будучага расійскага імператара Аляксандра па волі і распараджэнні Кацярыны II стаў прыхільнік асветніцкіх ідэй, упэўнены рэспубліканец і масон Ф. П. Лагарп.

Юны Аляксандр апынуўся ў складаным стане, бо мітусіўся паміж ненавідзячымі адзін другога бабуляй Кацярынай II і бацькам Паўлам I, што садзейнічала выхаванню ў ягоным характары рыс патаемнасці, гнуткасці, розуму і спрытнасці. Пераязджаючы з дома ў дом, ён прывучыўся іграць двайную ролю любячага і ўважлівага ўнука і сына. Гэтая сітуацыя вытравіла з характару Аляксандра шчырасць і зрабіла яго двудушнікам.

Сёння можна толькі здзіўляцца, чаму Кацярына II вельмі спяшалася ажаніць свайго горача любімага малалетняга ўнука Аляксандра. У хуткім часе была замоўлена для яго маладая бадэнская прынцэса Эліза, і ўжо ў маі 1793 г. адбыліся заручыны. Эліза прыняла праваслаўную веру, атрымала імя Елізаветы Аляксееўны, а 28 верасня 1893 г. адбыўся яе ўрачысты шлюб з вялікім князем Аляксандрам Паўлавічам, якому толькі што споўнілася 15 гадоў.



Ілюмінацыя ў Санкт-Пецярбургу ў гонар народзін Аляксандра, сына імператара Паўла I. Афорт мастакоў І. Бугрэева і А. Каўпашнікава. Са збораў Каралеўскага замка ў Варшаве [ZKW. 509].

Аляксандр I на кані. Малюнак I пал. XIX ст.



Елізавета Аляксееўна, жонка Аляксандра I, перад шлюбам.
Малюнак I пал. XIX ст.



Адам Ежы Чартарыйскі. Малюнак пасля 1818 г.
Мастак Юзаф Аляшкевіч, Вільня. Копія.
Са збораў музея Замойскіх у м. Казлуўка (Польшча).
Фотаздымак Тэрэзы Жалтоўскай-Гушчы.

Яны былі вельмі прыгожай парай і ў першыя гады сумеснага жыцця адносна шчаслівымі. Як і ўнука, так і Елізавету, Кацярына II горача любіла і апякала абоіх, стварала найлепшыя ўмовы жыцця, ладзіла для іх пры двары музычныя вечары, канцэрты, а для Елізаветы асобна арганізавала навучанне на музычных інструментах і ўрокі вакала.

Шлюб Аляксандра і Елізаветы паступова ўскладняўся і доўга заставаўся бяздзетным. Здарылася так, што ў 1796 г. свякроў Елізаветы, імператрыца Марыя Фёдараўна, з Паўлам I нарадзілі сына Мікалая, будучага расійскага імператара, а Елізавета Аляксееўна стала маці на тры гады пазней.

Аляксандр хутка страціў пачуцці да Елізаветы, стаў жорсткім у адносінах да жонкі, якая, паводле меркавання сучаснікаў, лічылася адной з першых прыгажунь Еўропы. З гэтай нагоды А. Герцэн пісаў, што Аляксандр любіў усіх, акрамя сваёй прыгожай жонкі.

Аб каханых Аляксандра хадзілі легенды і плёткі, бо пры двары назіралі пастаянную змену фаварытак маладога князя. Тое самае адбывалася вакол Елізаветы: пляліся неверагодныя чуткі, ствараліся шматлікія гісторыі ўлюбёных у яе мужчын.

Пад уздзеяннем чутак Павел I яўна змяніў свае адносіны да сына і нявесткі, стварыўшы вакол іх напружанасць і падазронасць.

Раптоўная смерць Кацярыны II, якая не паспела пакінуць завяшчанне аб перадачы прастола старэйшаму ўнуку Аляксандру, прыход на трон Паўла I, які ўнёс у іх жыццё жорсткасць і падазронасць, глыбока закранулі Елізавету. У такіх умовах яна нарадзіла ў 1799 г. дачушку Марыю, якая, не пражыўшы і 2 гады, памрэ ад цяжкай хваробы.

Неўзабаве расійскія царазабойцы задушылі Паўла I і ўзвялі на трон 24-гадовага Аляксандра. У гэтыя трагічныя дні, стаўшы імператрыцай, Елізавета была адзінай, хто вёў сябе дастойна пры двары. Яна імкнулася ўсялякімі сродкамі падтрымаць маладо-



Жазэфіна пасля развода з Напалеонам Банапартам. Малюнак I пал. XIX ст. [1171, с. 1].

га імператара і аптымістычна глядзець у будучыню.

Маці Аляксандра Марыя Фёдараўна патрабавала ад сына наказаць забойцаў Паўла I, і ён у зручных выпадках пачаў караць удзельнікаў жудаснай трагедыі адлучэннем ад прыдворных пасад і ссылкамі ў Сібір.

У верасні 1801 г., калі Елізавета вярнулася ў Санкт-Пецярбург пасля каранацыі мужа, яна атрымала цяжкую вестку аб смерці яе бацькі, бадэнскага маркграфа Карла-Людвіга.

Замест таго, каб падтрымаць сваю жонку ў гэтыя цяжкія хвіліны, Аляксандр I распачынае раман з княжной Марыяй Нарышкінай.

Прыдворныя патрасенні, адкрытая здрада мужа, дэманстратыўныя паводзіны Нарышкінай, адсутнасць дзяцей у імператрыцы кінулі Елізавету ў абдымкі маладога афіцэра Аляксея Ахотнікава. Ад гэтай сувязі ў 1806 г. яна нарадзіла дачку, і гэта стала як бы самасцвярджэннем і самазаспакаеннем Елізаветы.

Доўгачаканае мацярынства на нейкі час вярнула ёй шчасце. Цэлы год Елізавета не адыходзіла ад дачушкі, аддавала ёй усю пяшчоту і ўвагу. Адначасова яна ўзяла пад апеку Лізу, старэйшую дачку сваёй сяброўкі Н. Галіцынай, якая памерла ад сухоты.

Але гэтым марам не наканавана збыцца, бо праз паўтары гады яе дачушка памерла ад запалення дзёснаў, і дактары не змаглі ўратаваць дзіця. Гора Елізаветы было бязмежным. Чатыры дні і ночы яна правяла каля цела малюткі-нябожчыцы, пакуль яно не было перанесена ў Неўскую лаўру.

Аляксандр I таксама перажываў смерць дачушкі, пастаянна гаворачы ў роспачы, што Гасподзь не любіць ягоных дзяцей. Сапраўды, у далейшым у іх дзяцей не было.

Імператар нядоўга гараваў, бо неўзабаве ён узнавіў адносіны з М. Нарышкінай. Свякроў Марыя Фёдараўна таксама не любіла нявестку, таму Елізавета перажывала і цярпела сваё гора ў адзіноце, адышоўшы ад астатніх членаў царскай сям'і.

Вайна 1812 года адарвала яе ад асабістых перажыванняў і падштурхнула да новай дзейнасці, бо Расія стала перапоўнена тысячамі раненых і пакалечаных воінаў, тысячамі ўдоў і сірот.

Па яе ініцыятыве было створана Жаночае патрыятычнае таварыства, якое пачало сваю дзейнасць 12 лістапада 1812 г. Яго задачы былі разнабаковымі: ад аказання дапамогі ў размяшчэнні хворых да стварэння дамоў сірот і школ на яе ўласныя сродкі.

У гады вайны Елізавета вельмі рэдка бачылася з імператарам, які пастаянна знаходзіўся пры арміі, таму яшчэ больш адышла ад яго, яшчэ болей адчула сябе чужой і адзінокай.

У 1817 г. Елізавета пазнаёмілася з вядомым расійскім гісторыкам М. Карамзіным, і яе адносіны з ім адразу сталі даволі сардэчнымі і прынялі характар узаемнага даверу.

Яны зблізіліся настолькі, што яна пачала чытаць яму свае дзённікі. Бывалі выпадкі, калі яна не рашалася чытаць уголас некаторыя



Nro 47.

KURYER LITEWSKI

W WILNIE DNIA 12 CZERWCA V.S. 1812 ROKU

Першая старонка Віленскай газеты «Kuryer Litewski» № 47 ад 12 чэрвеня 1812 г. (па ст. стылі) з артыкулам аб знаходжанні расійскага імператара Аляксандра І у сталіцы ВКЛ Вільні. Са збораў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта.



Nro 49.

KURYER LITEWSKI

LITWA

ŻOŁNIERZE!

NAPOLEON.

Першая старонка Віленскай газеты «Kuryer Litewski» № 49 ад 4 ліпеня 1812 г. (па ст. стылі) з артыкулам аб урачыстай сустрэчы імператара Напалеона Банапарта ў сталіцы ВКЛ Вільні. Са збораў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта.

ўрыўкі надта інтымнага характару, тады яна перадавала сшытак Мікалаю Міхайлавічу, які моўчкі перачытваў асобныя радкі.

Пасля смерці Карамзіна дзённікі Елізаветы Аляксееўны — гэты каштоўны матэрыял, — паводле загада Мікалая І, былі спалены.

У 1820-х гг. Елізавета перажыла некалькі ўдараў лёсу. У чэрвені 1824 г. перад самым вяселлем памёрла дачка Аляксандра І ад Н. Нарышкінай, да якой ён быў вельмі прывязаны. Елізавета Аляксееўна аднеслася да гора імператара з поўным разуменнем і шчыра спачувала смерці 18-гадовай дзяўчыны.

Неўзабаве злёг сам імператар з запаленнем лёгкіх, і Елізавета Аляксееўна неадлучна знаходзілася пры ім, што дапамагло ім па-новаму зблізіцца. У 1825 г. яны пераехалі на адпачынак у Таганрог, дзе амаль месяц пражылі ў цішы, разуменні і ўзаемным прабачэнні. Верагодна, гэта быў самы шчаслівы месяц у іх жыцці.

У пісьмах да сваёй маці Елізавета выказвала тыя пачуцці, якія яна пітала да свайго мужа і якія ўтойвала ў глыбіні сваёй душы.

Тут, у Таганрогу, Аляксандр І цяжка захварэў і памёр, а ягонае цела было перапраўлена ў Санкт-Пецярбург.

Паводле завяшчання Аляксандра І, ёй дасталіся ў спадчыну два палацы (Араніенбаўмскі і Каменнаастроўскі), ад якіх яна адмовілася на карысць вялікага князя Міхаіла Паўлавіча і яго жонкі. Яна таксама адмовілася ад пенсіі ў мільён рублёў, якую прызначыў ёй імператар Мікалай І.

Вяртаючыся дамоў, па дарозе Елізавета Аляксееўна адчула сябе дрэнна, і ў ноч з 3 на 4 мая 1826 г. у г. Арле яе не стала.

Як ужо адзначалася, у шлюбе з Аляксандрам І яна мела двух дзяцей: Марыю (1799-1800) і Лізу (1806-1808). Бацькоўства двух дзяўчынак у імператарскай сям'і лічылася сумніўным: першую лічылі народжанай ад А. Е. Чартарыйскага, другую — ад афіцэра А. Ахотнікава, які быў заколаты насмерць невядомымі забойцамі.



Патаемны сход франкаў-масонаў. Рытуал прыёму да масонскай ложы. Малюнак невядомага мастака XVIII ст. [710].

Расійскія даследчыкі лічаць, што Аляксандр I меў глыбокі раман не толькі з Н. Нарышкінай, але і тое, што Аляксандра звязвалі цесныя асабістыя адносіны з ягонай сястрой Кацярынай Паўлаўнай.

Нечаканая смерць Аляксандра выклікала шмат легенд і паданняў, з якіх найбольшае распаўсюджанне атрымала легенда пра старца Фёдара Кузьміча. Згодна з ёю, Аляксандр I не памёр, а толькі імітаваў сваю канчыну, а сам патаемна пакінуў Таганрог і пасяліўся ў Сібіры. Сучаснікі адзначалі глыбокае знешняе падабенства гэтага чалавека з імператарам. Фёдар Кузьміч памёр 20 снежня 1864 г., забраўшы ў магілу сваю тайну.

Адзінымі сведкамі, якія разбураюць усе сумненні і гэтую тайну, з'яўляюцца пісьмы Елізаветы да сваёй маці, у якіх яна натуральна выказвала сваё гора з нагоды смерці мужа і не магла быць саўдзельніцай патаемнага знікнення жывога мужа.

Як бачна, жыццё Аляксандра I было напоўнена малавядомымі фактамі, таямніцамі і легендамі.

У палітыцы, у ягоных дзеяннях і поглядах адбывалася эвалюцыя на ўнутранае развіццё краіны і знешнія адносіны Расіі.

Пасутнасці, пры Аляксандры I «старая» Расія, ахопленая веяннямі еўрапейскіх рэфармацый, у чарговы раз апынулася на раздарожжы. Калі раней Аляксандр лавіраваў паміж бабуляй і бацькам, то стаўшы імператарам, ён мітусіўся паміж рознымі традыцыямі — духоўнымі, сацыяльнымі і палітычнымі. Доўгі час яго мучыў той выбар, які дала яму гісторыя, г. з. умацоўваць праваслаўе ці адчыніць вароты новым духоўным веянням, прыняць новы для Расіі «канстытуцыяналізм» ці ўмацаваць асновы самадзяржаўя, захаваць ці скасаваць прыгонніцтва і г. д.

Сам дух часу заклікаў маладога расійскага імператара да змены ладу велізарнай імперыі на еўрапейскі манер. Ва ўмацаванні ўпэўненасці ў імператара аб рэфармацыі расійскага грамадства без узрушэнняў і катастроф вялікую ролю адыгралі ягоныя бліжэйшыя сябры, маладыя арыстакраты, аб'яднаныя масонскімі ўзамі, П. Страганаў, В. Качубей, М. Навасільцаў і А. Чартарыйскі.


1

Менавіта гэтыя маладыя масоны-арыстакраты склалі вакол пачынаючага манарха Аляксандра І цеснае кола «рэфарматараў», т. зв. Негалосны камітэт, і напоўнілі ягоны дух рэфарматарскім энтузіязмам [721].

Сапраўды, у хуткім часе Аляксандр І правёў шэраг прагрэсіўных рэформаў: было ўведзена права на пакупку грамадзянамі незаселеных зямель (1801), прыняты законы аб вольных хлебаробах і праве вызвалення сялян ад прыгонніцтва праз выкуп ці адпрацоўку (1803), аб асвеце і стварэнні Віленскай навучальнай акругі, рэарганізацыі на свецкіх пачатках Віленскага ўніверсітэта, аднаўленні і заснаванні Дэрпцкага, Харкаўскага і Казанскага ўніверсітэтаў, педагагічнага інстытута ў Санкт-Пецярбургу (1804), пры садзеянні блізкага сябра М.М. Сперанскага распачата фінансавая рэформа (1808-1812), створаны Дзяржаўны Савет Расіі (1810) і г.д. [218].

Напачатку Аляксандр І імкнуўся захаваць нейтралітэт у адносінах да англа-французскага канфлікта, але з пашырэннем напалеонаўскай агрэсіі вымушаны ўступіць у кааліцыі супраць Францыі (1805-1807).

Падчас паездкі на тэатр ваенных дзеянняў Аляксандр І у 1805 г. наведаў Магілёў і Брэст. Пасля паражэння саюзных войскаў у бітвах з Напалеонам пад Аўстэрліцам (20. 11 (2.12.) 1805) і пад Франдландам (2 (14). 06. 1807) быў заключаны Тыльзіцкі мір (1807), паводле якога да Расіі была далучана Беластоцкая акруга. Усё разам прымусіла Аляксандра І пайсці насустрач Напалеону і далучыцца да кантынентальнай блакады Англіі, а неўзабаве падпісаць разам з Напалеонам Эрфурцкую канвенцыю, згодна з якой за Расіяй прызнаваліся правы на Фінляндыю, Валахію і Малдову.

З цягам часу расійска-французскія адносіны і супярэчнасці пачалі абвастрацца і выклікалі падрыхтоўку да новай вайны, умацавання плануемых франтавых межаў шляхам будаўніцтва Бабруйскай крэпасці і Дрысенскіх і іншых умацаванняў.

У канцы 1810 г. Аляксандр І схіліўся да прапаноў аб вядзенні наступальных дзеянняў супраць Напалеона ў саюзе з Прусіяй, ліквідацыі Варшаўскага герцагства (княства) і абвяшчэння сябе польскім каралём. У гэтых мэтах ён збіраўся выкарыстаць план М.К. Агінскага (1811 г.), напярэдадні вайны з Напалеонам выехаў у Вільню і прыняў камандаванне расійскімі войскамі.

У маі 1812 г. імператар кватэраваў у Гродне, удзельнічаў у пасяджэнні Ваеннага савета ў Дрысе, у Полацку падпісаў маніфест аб фарміраванні народнага апалчэння, пасля чаго пакінуў армію і вярнуўся ў сталіцу.

Пасля Айчыннай вайны 1812 г. Аляксандр I узначаліў антынапалеонаўскую кааліцыю, выступіў ініцыятарам стварэння Свяшчэннага саюза — аб'яднання еўрапейскіх манархаў для абароны імперый ад рэвалюцыйных патрасенняў, з'яўляўся адным з кіраўнікоў Венскага кангрэса (1814-1815), паводле рашэнняў якога да Расіі далучалася Польскае Царства.

У апошняе дзесяцігоддзе царавання Аляксандр I праводзіў рэакцыйную ўнутраную і знешнюю палітыку, узмацніў прыгонніцтва, нацыянальны гнёт, ганенні на асвету, перадавую навуку. Ягоным указам жыхарам Беларусі і Літвы забаранялася выпраўляць юнакоў і дзяўчат на вучобу за мяжу, а ў 1822 г. была спынена дзейнасць тайных таварыстваў і масонаў у Расіі.

Пры Аляксандры I працягвалася заахвочванне дзейнасці каталіцкай і ўніяцкай царквы, Полацкай іезуіцкай акадэміі, праводзілася мэтанакіраваная паланізацыя беларускага насельніцтва, але кіраўніцтва і суды дзейнічалі на аснове Статута ВКЛ 1588 г. [218].

Аляксандр I умацаваў міжнароднае становішча Расійскай імперыі, значна пашырыў яе за кошт далучэння Грузіі (1801), Фінляндыі (1809), Бесарабіі (1812), Азербайджана (1813) і іншых тэрыторый.

У апошнія гады жыцця Аляксандр I шмат падарожнічаў, неаднаразова бываў у Брэсце (1818, 1823), Бабруйску (1823), Віцебску (1817, 1821), Магілёве (1817) і інш. месцах Беларусі.


2


3

1. Пераправа цераз Нёман каля м. Пілонь 30 чэрвеня 1812 г. Літаграфія 1830-х гг. Мастак А. Адам [302, с. 40].

2. Барклай дэ Толі (1761-1818). Палатно невядомага мастака. I чвэрць XIX ст. [302, с. 84].

3. Генерал ад інфантэрыі П. І. Баграціён (1765-1812). Палатно невядомага мастака. I чвэрць XIX ст. [302, с. 84].

## Глава 23
# Эвакуацыйныя планы і дзеянні

На выпадак адступлення расійскай арміі з тэрыторыі беларускіх губерняў у глыбіню Расіі быў выдадзены і накіраваны губернатарам шэраг сакрэтных інструкцый і ўказанняў аб эвакуацыйных дзеяннях.

Было прадпісана, што пры набліжэнні ворага неабходна вывозіць у кожным канкрэтным выпадку ў вызначаныя бяспечныя месцы ўсе ўрадавыя касы, архівы, тапаграфічныя карты, статыстычныя дадзеныя аб колькасці насельніцтва, падаткавыя тарыфы, паперы аб уліку дзяржаўных і былых езуіцкіх уладаранняў і г.д., словам, усе, што магло быць карысным ворагу.

Акрамя таго, пад асаблівай аховай ва ўмовах стражайшай сакрэтнасці ад насельніцтва павінны былі знаходзіцца акты камісій па рэкруцкай павіннасці і іншай інфармацыі, якая мела дачыненне да армейскіх набораў.

Акрамя таго, усім службовым асобам, нават дробным чыноўнікам, прадпісана пры першым з'яўленні расійскіх войскаў пакінуць свае ўстановы і накіравацца ў вызначаныя раней месцы. Напрыклад, для збору служачых Гродзенскай губерні быў указаны г. Пскоў [1103].

У першай палове чэрвеня віленскаму губернатару было загадана перавезці фінансавыя сродкі з усіх пагранічных месц у бліжэйшыя казённыя палаты, гродзенскаму, віленскаму губернатарам і беластоцкаму абласному праўленню было прадпісана перавезці казённыя грошы з Беласточчыны, Гародні і Коўны ў Вільню, з іншых населеных пунктаў — у бліжэйшы г. Мітаву.

На асобы ўлік і пад кантроль былі ўзяты памешчыкі, банкіры, уладальнікі буйной маёмасці, земскія і грамадзянскія чыноўнікі, якія маглі перадаць каштоўную інфармацыю праціўніку.

Калі ваенная пагроза значна павялічылася, Барклай дэ Толі накіраваў Рымскаму-Корсакаву прадпісанне, каб з прыгранічных тэрыторый вывозіліся не толькі фінансы, але і ўся казённая маёмасць.



Князь Францішак Ксаверы Друцкі-Любецкі (1778-1846). Дзяржаўны і палітычны дзеяч ВКЛ. Ураджэнец маёнтка Пагост Пінскага павета [1273, с. 111].



ODEZWA

*Kommissyi tymczasowey Rządu Xięstwa Litewskiego.*

OBYWATELE!

Nie masz miary ofiar i poświęcenia się osobistego, kiedy idzie o odzyskanie Oyczyzny — Przykład ten obywatelski zostawili nam w naydroższém dziedzictwie Oycowie — Staraymy się bydź ich godnemi — Obrońcy i Wybawiciele nasi potrzebuią żywności, oni krew za nas przelewaią; winniśmy dzielić się z nimi ostatkami naszych zapasów, tym bardziey nieść z ochotą te, które nam mogą od istotnych potrzeb pozostać — Rząd przyymie wszystko w podatkach, a szlachetne ubieganie się w gorliwey do tego pomocy, będzie wstępem zasługi obywatelskiey, i nayrzetelnieyszą dobrego obywatela gorliwości cechą, a nas godnemi uczyni Bohatyra Wieku Opieki.

*Zgodno z Protokułem.* *Podpisali*
Józef Kossakowski Jeneral. Józef Hrabia Sierakowski.
Sekr. Rządu Lit. Alexander Xiąże Sapieha.
Franciszek Jelski.

Другая старонка Віленскай газеты «Kuryer Litewski» № 49 ад 4 ліпеня 1812 г. (па ст. стылі) з заклікам Камісіі Часовага ўрада ВКЛ да жыхароў аб службе, адданасці, зборы правіянту і харчу на карысць імператару Напалеону. Са збораў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта.



Сын Напалеона ад Марыі-Луізы Франсуа Чарльз Іосіф Банапарт у гадавалым узросце [1013, с. 119].

Пакуль доўжылася перапіска і выдаваліся эвакуацыйныя загады, паралельна раслі сумненні і разгубленасць сярод губернскіх чыноўнікаў, бо ў шэрагу выпадкаў справа вывазу каштоўнасцяў зацягвалася.

Паспяхова справіўся з эвакуацыяй маёмасці губернатар А.Лавіцкі, які за некалькі дзён забяспечыў вываз патаемна ад насельніцтва Вільні ўсяго, што магло прынесці выгаду ворагам.

З пачаткам ваенных дзеянняў у войскі паступіла распараджэнне аб раздачы назапашаных харчу і фуражу столькі, колькі патрэбна вайсковым часцям, а астатняе неабходна знішчыць.

Праз чатыры дні пасля пачатку вайны ў Навагрудак адбыла адміністрацыя Гродзенскай губерні. Мінскі губернатар П. Дабрынскі эвакуацыйную справу замарудзіў, бо толькі 6 ліпеня перад самым уваходам французаў у Мінск загадаў вывезці каштоўнасці і пакінуць чыноўнікам горад. Грашовая казна была вывезена ў Рэчыцу, затым часткова ў Смаленск і Чарнігаў, а сам губернатар выехаў у Рэчыцу, дзе заставаўся да канца вайны.

Ва ўмовах імклівага наступлення Напалеона эвакуацыя і перавозка дзяржаўных і ваенных грузаў ішлі не заўсёды гладка. Справа дайшла да таго, што 7 ліпеня Баграціён аддаў загад скінуць у Бярэзіну ўсе гарматы і адыходзіць да Бабруйска.

Напружаная сітуацыя склалася ў Магілеўскай губерні. Ваенны губернатар герц. Вюртэмбергскі фактычна самаўхіліўся ад сваіх абавязкаў, а грамадзянскі губернатар гр. Дз. А. Талстой пад уплывам завярэнняў ген. Баграціёна аб захаванні спакою не прыняў належных і аператыўных дзеянняў па эвакуацыі маёмасці і адпраўцы чыноўнікаў. У выніку, калі французы апынуліся пад Магілёвам, у горадзе ўзнікла сапраўдная паніка, жыхары кінуліся хто куды, нават сам губернатар ледзьве ўратаваўся, прабраўшыся праз балоты да расійскіх адступаючых часцей, пакінуўшы супрацоўнікаў адміністрацыі на адданасць лёсу.

Як падкрэслівае А. Лукашэвіч, падчас «непрадуманай эвакуацыі больш за ўсе пацярпелі беларускія архівы» розных устаноў і арганізацый. Частка з іх была пакінута, а тое, што было вывезена ва ўсходнія губерні Расіі, часткова згінула, бо сховішчы для іх захавання не былі падрыхтаваны належным чынам [131].

Пры наступленні Напалеона на беларускія губерні кінуліся наўцёкі ў глыбіню Расійскай імперыі пераважна толькі «русское население и русские чиновники», шляхта ў большасці засталася на месцы, чакала і вітала французаў, нярэдка сабаціравала эвакуацыйныя прадпісанні расійскай вышэйшай і мясцовай адміністрацыі [234].

# Глава 24
# Перадваенны настрой універсітэцкай моладзі ў Вільні

Як ужо адзначалася, Камітэт па нарыхтоўцы правіянту працаваў з завіднай упартасцю і энергіяй, бо большасць яго членаў верыла, што Аляксандр I і ягонае войска не адступяць і не ўступяць Напалеону Літву і хутка будуць прадпрыняты імі наступальныя дзеянні. Камітэт за кароткі час сваёй працы толькі ў Вільні назапасіў на складах харчу і фуражу для 8-мі пяхотных і 4-х кавалерыйскіх дывізій.



twem ?

POLSKA

z *Nowogródka d. 16 Sierpnia.*

Obywatele Powiatu i miasta tego obchodzili dzień urodzin Wielkiego NAPOLEONA z uroczystością, lubo mniey odpowiednią co do wytworności tak wielkiemu przedmiotowi, lecz w uczuciach serc wdzięcznych równą naywspanialszym wielkich miast w dniu tym festynom. Przed południem zgromadziło się obywatelstwo powiatowe mieyskie tudzież cechy i duchowieństwo zakonne do kościoła Xży Dominikanów, gdzie garnizon w paradzie zaiął śrzodek kościoła: żołnierze ranieni i starcy dawney woyskowey służby Litewskiey, z domów na ten dzień przybyli, otoczyli Tron przy ołtarzu wystawiony z portretem Wielkiego Zbawcy narodu Polskiego, a JW. Podprefekt z urzędnikami Powiatowemi naprzeciw Tronu mieysca zaięli.—Msza Swięta spiewana odprawiła się. Podczas niey, garnizon zwykłe na uczczenie taiemnic religii, woyskowe czynił obrzędy z biciem w bębny marszu podczas podniesienia Nayświętszego Sakramentu, oddaiąc ten hołd rycerski Bogu Zastępów i dawcy zwycięstw.—W kazaniu mądrém i prawdziwie Bożym duchem mówioném, wyobraził słuchaczom Przeor tego konwentu JX. *Ley*, niegdyś Missyonarz a potém były kapelan woysk Litewskich, z jakiém miłosierdziem Bóg okazał się dla narodu, i iako nigdy kara za przestępstwa Praw Bożych żadnego nie minęła narodu, tak i Polska lubo dłużey niż kiedykolwiek zniszczeniem Istności swey ukarana była: lecz że nigdy taż Polska tak Wielkiego Obrońcy ani tak silney mocy na iey ratunek nie miała, iaką iey teraz Bóg zesłał w W. NAPOLEONIE i tylu Przezeń dla wskrzeszenia Polski sprowadzonych narodów.—Tłumaczył wymową iasną i przekonywaiącą, *iż szczęście* Ludów i moc Narodów tam tylko bydź mogą, gdzie religiia i dobre obyczaie są zachowane, i że bez tych żadna siła Narodu ocalić, żadna pomyślność stale uszczęśliwić nie może. Przy końcu kazania zwykłą modlitwą do Boga skończył kaznodzieia prozbą i życzeniem *Niech żyie NAPOLEON!* a Lud zgromadzony kilkakrotnie to życzenie powszechne odgłosem swym przed ołtarzem do Boga ponowił. Po mszy S. spiewany był zwyczayny hymn dziękczynienia Bogu, przy nieustannych wystrzałach z moździerza

Амаль усё гэтае багацце, адабранае ў беларускага насельніцтва, было спалена расіянамі ў момант іх адступлення перад націскам французаў. Гэта сведчыць аб недальнабачнасці літоўска-беларускіх дзеячаў, у прыватнасці Ваўжэцкага, Сулістроўскага, Любецкага і інш., за тое, што агалілі губерні ад усялякіх запасаў харчу, выклікалі асуджэнне большасці тутэйшага насельніцтва, асабліва моладзі.

Напрыклад, універсітэцкая моладзь пачала групавацца вакол тайнага саюза «Прыгнечаных братоў» і будавала разам са сваім кіраўніком, прафесарам архітэктуры ўніверсітэта Міхаілам Шульцам, смелыя планы супраціўлення расійскім уладам і ладзіла ўрачыстую сустрэчу Напалеона.

Яны адкрыта пратэставалі супраць дагаджальнай палітыкі Сулістроўскага і ягоных паплечнікаў, выкрывалі іх прарасійскую дзейнасць у лістоўках, закліках, памфлетах, перашкаджалі моладзі ўступаць у расійскую армію і г.д.

Кіраўнікамі маладзёжнага руху, у які было ўцягнута каля 1500 маладых людзей, быў

Другая старонка Віленскай газеты «Kuryer Litewski» № 69 ад 29 жніўня 1812 г. з артыкулам аб святкаванні ў Навагрудку народзін імператара Напалеона. Са збораў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта. Фота аўтара, 2011 г.



1



2

распрацаваны план дыверсійнай дзейнасці ў момант пачатку вайны Напалеона з расіянамі. Планавалася нават выкраданне ў Вільні галоўнакамандуючага расійскай арміяй разам з ягоным штабам і архівамі, а таксама перашкодзіць расіянам спаліць велізарныя склады харчу ў мястэчках пад Вільняй.

Планы былі грандыёзнымі, але па прычыне велізарнай канцэнтрацыі расійскіх войскаў і мер бяспекі, прынятых Барклаем дэ Толі ў Вільні, яны аказаліся невыканальнымі і хутка развалiліся з нагоды раптоўнай смерці кіраўніка саюза Шульца.

Справа ў тым, што Шульцу, як здольнаму архітэктару, было даручана будаўніцтва ў прадмесці Вільні залы для балю, які ладзіўся для расійскага імператара ягонай світай.

Перад адкрыццём балю па прычыне парушэння тэхналогіі будаўніцтва рухнула каланада і зала развалілася. Сёння цяжка сказаць, была гэта выпадковая будаўнічая памылка ці загадзя спланаваная дыверсія, але наляканы архітэктар, баючыся адказнасці, кінуўся ў Вілію і патануў.

Моладзь, якая засталася без свайго паважанага і аўтарытэтнага кіраўніка, не адважылася на самастойныя дзеянні, за выключэннем накіравання двух сваіх студэнтаў, Хялмінскага і Руткоўскага, да Напалеона з важнымі матэрыяламі аб становішчы спраў у Вільні. Пераадзетыя ў вопратку сялян, яны ўдачна перайшлі граніцу і дабраліся да французаў.

1. Аляксандр I. Французскі жывапіс [1013, с. 75].

2. Клінок маршала «Вялікай арміі» Напалеона. Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў. Фота аўтара [42, Inv. к. 1146, Ca 113].

## Глава 25

# Вайна замест «мира на вечныя времена»

Чаму так здарылася, што праз пяць гадоў пасля заключэння «мира на вечные времена», як было запісана ў тэксце Тыльзіцкага дагавора аб саюзе з Расіяй, ён, Напалеон, пачынаў вайну супраць саюзніка, а дзве краіны, яшчэ ўчора завяраючы адзін другога ва ўзаемнай прыхільнасці і дружбе, сталі заклятымі ворагамі і скрыжавалі зброю?

Вядомы французскі гісторык А. Вандаль (1835-1910) напісаў тры ёмістыя тамы пра гісторыю французска-расійскага саюза і яго паступовае згасанне.

Паводле А. Манфрэда, можна коратка і схематычна вылучыць наступныя прычыны пахаладання ва ўзаемаадносінах і ўзброенага канфлікта паміж Напалеонам і Аляксандрам I [621].



19ᵉ BULLETIN

DE LA GRANDE ARMÉE.

( Extrait du Moniteur du 3 octobre 1812. )

Moscou, le 16 septembre 1812.

Depuis la bataille de la Moskwa ; l'armée française a poursuivi l'ennemi sur les trois routes de Mojaisk, de Svenigorod et de Kalouga sur Moscou.

Le roi de Naples était le 9 à Koubinskoë, le vice-roi à Rouza, et le prince Poniatowski à Feminskoë.

Тытульны ліст 19-га бюлетэня «Вялікай арміі» Напалеона ад 19 верасня 1812 г. з інфармацыйным паведамленнем аб следаванні французаў з Барадзінскага поля на Маскву [302, с. 231].

Па-першае, падчас расійска-шведскай вайны Напалеон абяцаў Аляксандру I аказаць ваенную дапамогу, але па незразумелых прычынах французскі корпус Бернадота не прыняў удзел у бітве са шведамі.

Крыху пазней, падчас аўстра-французскай кампаніі 1809 г., Аляксандр I, нягледзячы на абяцанні, не выканаў просьбу Напалеона і расійскі корпус ген. Галіцына не прыйшоў на дапамогу французскаму імператару.

Па-другое, спрэчкі і рознагалоссі пачалі разрастацца па прычыне ўзаемных падазрэнняў у поглядах на аднаўленне Варшаўскага герцагства, бо пастаяннае заігрыванне Напалеона з палякамі, ягонае імкненне захаваць на расійскай мяжы фарпоста тыпу Варшаўскага герцагства прыўносілі ва ўзаемаадносіны элементы нервовасці і напружанасці.

Падрыхтаваны і прапанаваны Аляксандрам I праект канвенцыі аб тым, што Польшча ніколі не будзе адноўлена як незалежная краіна, не быў падпісаны Напалеонам. Магчыма, на гэта паўплывалі зневажальныя ў адносінах да гонару Напалеона перагаворы і адмова ягонага шлюбу з сястрой Аляксандра I Ганнай Паўлаўнай.



Спатканне Напалеона Банапарта і Аляксандра І на Нёмане. Гравюра Ламо і Ліліенбаха. І-я чвэрць XIX ст. [302, с. 26].

Па-трэцяе, у гістарычнай літаратуры часам сустракаюцца сцвярджэнні аб тым, што пахаладанне адносін паміж дзвюма дзяржавамі было звязана з няўдалым падборам паслоў у абедзвюх краінах, але нават пасля заменаў расійскага пасла ў Парыжы гр. П. Талстога на кн. А. Куракіна і французскага пасла ў Санкт-Пецярбургу ген. Савары герц. Равіга на герц. А.О.Л. Каленкура адносіны паміж краінамі ўсё больш разладжваліся.

У-чацвёртых, адной з галоўных крыніц рознагалоссяў заставалася праблема кантынентальнай (антыанглійскай) блакады, бо прэтэнзіі Напалеона да расійскага партнёра былі не беспадстаўнымі. Расія не праяўляла строгасць у захаванні палажэнняў кантынентальнай блакады і неаднаразова парушала іх [1026].

Па-пятае, у 1811 г. у Францыі выбухнуў эканамічны крызіс небывалай сілы, які праявіўся ў рэзкім скарачэнні гандлю, падзенні прамысловай дзейнасці, устанаўленні цвёрдых цэнаў на прадукты харчавання і ўмяшальніцтве дзяржавы ў эканамічную сферу [846].

Па-шостае, дрэнна ішлі справы ў Іспаніі, дзе працягвалася народная вайна і лепшыя напалеонаўскія маршалы не маглі яе задушыць. У Германіі, Італіі, Галандыі, Бельгіі і інш. васальных дзяржавах выспяваў выбух. З гэтай нагоды на працягу апошніх гадоў перад вайной з Расіяй паміж Напалеонам і ягоным малодшым братам, каралём Галандыі Луісам Банапартам, наспяваў канфлікт, бо апошні зразумеў, што палітыка брата-імператара з'яўляецца шкоднай для народа Францыі. У выніку Луіс падаў у адстаўку на карысць свайго сына, але Напалеон не пажадаў выканаць волю брата.

Напалеон не мог ці не захацеў зразумець сапраўднага значэння ўсіх гэтых трывожных сімптомаў. Іх сапраўдны сэнс ён зразумее пазней, на востраве Св. Алены, а цяпер, калі ягоная слава грымела на ўвесь свет, а ўлада здавалася бязмежнай, ён быццам станавіўся асліпленым сваёй усемагутнасцю. Ніхто ўжо не адважваўся яму пярэчыць, ніхто не рашаўся ўступіць з ім у спрэчку, ды і сам ён развучыўся выслухоўваць чужыя меркаванні.

З гэтага часу яго, Напалеона, не пакідала думка аб вайне з Расіяй.

# Глава 26
# Абвяшчэнне і пачатак вайны

Пачатак баявых дзеянняў Напалеона супраць Расійскай імперыі нельга лічыць раптоўным і вераломным.

Яшчэ 4 (16) чэрвеня 1812 г. міністр замежных спраў Францыі герцаг дэ Басана (Г. Б. Марэ) падпісаў ноту аб разрыве дыпламатычных адносін з Расіяй і паведаміў пра гэта ўрадам еўрапейскіх краін, а 10 (22) чэрвеня пасол Францыі ў Расіі гр. Ж. Ларыстон перадаў Міністэрству замежных спраў Расійскай імперыі ноту, у якой гаварылася аб заканчэнні ягонай місіі як пасла, што просьба расійскага пасла ў Парыжы кн. Куракіна аб выдачы яму пашпартоў азначала разрыў адносін, таму з гэтага часу імператар Напалеон лічыў сябе ў стане вайны з Расіяй.

Калі 24 чэрвеня 1812 г. французскія войскі фарсіравалі Нёман і ступілі на беларускую зямлю, якая знаходзілася ў складзе Расійскай імперыі, Аляксандр I знаходзіўся на шыкоўным балі ў чароўным віленскім прадмесці Закрэце.

На балі імператар атрымаў данясенне аб пераправе Напалеона праз Нёман, але, каб не псаваць настрой гасцей, пабыў з імі кароткі час, затым незаўважана пакінуў публіку.

На другі дзень вайны вечарам міністр паліцыі А. Д. Балашоў атрымаў даручэнне Аляксандра I, каб той паехаў да Напалеона і перадаў яму пісьмо, у якім расійскім імператарам прапанавалася пачаць перамовы, але пры ўмове вываду французскіх войскаў за межы расійскай тэрыторыі. Аляксандр I наўрад ці разлічваў на які-небудзь паспяховы вынік місіі Балашова, але такі крок ён павінен быў прадпрыняць, каб яшчэ раз паказаць гатоўнасць расійскага ўрада вырашыць спрэчныя пытанні з Напалеонам мірным шляхам ды выйграць дадатковы час.

Тым часам Вільню ахапіла паніка. Расійскі двор, ягоныя саноўнікі і служачыя паспяшаліся пакінуць горад. Аляксандр I выехаў з Вільні ноччу 26 чэрвеня, пры гэтым загадаў усім членам Камітэта па рэпатрыяцыі харчу выехаць у Санкт-Пецярбург і там чакаць далейшых указанняў.

Такім чынам з Вільні былі вывезены ўплывовыя і дасведчаныя дзяржаўныя асобы, якія маглі б прынесці карысць для дзейнасці створанага праз некалькі дзён Напалеонам Камітэта Часовага ўрада ВКЛ у Вільні.

Сілай адпраўленыя ў сталіцу Расіі, падманутыя ў сваіх надзеях на Аляксандра I, асуджаныя грамадствам як здраднікі Напалеона, гэтыя людзі бачылі, як плады іх угодніцкай працы — поўныя склады з нарыхтаваным правіянтам — згарэлі датла.

Мемарыял Напалеону Банапарту на востраве Св. Алены. Мастак выканаў малюнак падчас рэвалюцыйных падзей 1848 г. [1013, с. 118].



У ноч з 15 (27) на (16) 28 чэрвеня 1812 г. апошнія расійскія атрады пад лязг зброі і цокат капытаў пакінулі Вільню без удзелу ў провадах мясцовых жыхароў, якія сядзелі ў сваіх дамах пры патушаным святле і зачыненых вокнах і моўчкі прыслухоўваліся да ўсяго, што адбывалася.

У 7 гадзін раніцы скончыўся вывад расійскіх войскаў і абсалютная цішыня ахапіла Вільню, якая праз гадзіну была парушана адыходам апошніх тылавых расійскіх атрадаў кн. І.Л. Шахоўскага (1777-1860). Гэта быў той атрад, які даў першы бой французам паміж Вільняй і м. Рыканты, а першыя выстралы на беларускай зямлі прагучалі раніцай 15 (27) чэрвеня, калі 4-тысячны атрад вестфальскага генерала барона Жака дэ Алікса (1768-1836) пачаў наступленне на Гродна [610].

У 9 гадзін раніцы пачалося страшэннае відовішча, прывёўшае ў жах насельніцтва прыгараднай вёскі Сніпішкі: гарэлі велізарныя склады з хлебам і Зялёны мост, якія падпалілі адступаючыя расійскія казакі.

Падпальшчыкі не паспелі ўцячы з горада, бо раптам на іх напалі французскія конныя стралкі і ўзялі ў палон двух казакаў, затым памчаліся ўздагон адступаючым казакам і егерам. У выніку кароткай схваткі пад Антокалем капітан французскіх гусараў Актавіян Сегюр быў паранены і ўзяты ў палон. Гэта быў першы палонны, узяты расійскім атрадам у распачатай кампаніі.

Адначасова атрад м-ра Сухажэўскага з корпуса Багавута ў гэтай схватцы ўзяў у палон некалькі дзясяткаў расійскіх казакаў і егераў, якіх пасля некалькіх гадзін з моманту зыходу расійскай арміі з Вільні вялі праз горад да кляштара св. Казіміра.

Дэталі ківераў расійскай арміі 1812 г. Са збораў Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

# Глава 27
# Вільня ў чаканні

Пакуль адступалі расіяне і наступалі французы, насельніцтва Вільні вяло сябе разумна і стрымана, аб чым было прапісана суровымі распараджэннямі расійскай адміністрацыі.

Барклай дэ Толі, які ажыццяўляў адступленне, выдаў зварот да віленскіх жыхароў, у якім абвяшчалася, што, згодна з аператыўнымі планамі, армія на некаторы час пакідае Вільню, таму жыхары павінны праяўляць спакой, захоўваць адданасць імператару Аляксандру І, а ўсялякія сходы, мітынгі і бунты будуць спыняцца з дапамогай зброі.

Гэтыя грозныя загады літаральна паралізавалі на некаторы час нястрыманасць у асяродку віленскай студэнцкай моладзі і сарвалі яе патрыятычныя планы. Толькі некалькі гараджан безвынікова спрабавалі біць у званы.

Але як толькі расійскія войскі пакінулі горад, некалькі соцен гарачых маладых людзей з прыхаванай зброяй у руках уступілі ў бой са спозненнымі рабаўнікамі з ліку расійскіх войскаў.

Такая паспешлівасць магла каштаваць вельмі дорага, бо моладзь нечакана сустрэлася з адступаючым атрадам казакаў, і толькі дапамога польскіх уланаў Сухажэўскага ўратавала іх ад ахвяраў.

Пакідаючы Вільню, Барклай дэ Толі прызначыў прэзідэнтам горада маршалка шляхты Віленскага раёна А. Ляхніцкага, а ген. Касакоўскаму даручыў стварэнне з ліку гараджан брыгаду бяспекі і аховы горада.

З уступленнем першых французскіх атрадаў на віленскія маставыя тысячы жыхароў горада імгненна высыпалі на вуліцы і плошчы і з запалам віталі польскіх уланаў і французскіх салдат, затым накіраваліся на Пахулянку, адкуль былі відны незлічоныя шэрагі кавалерыі корпуса марш. Мюрата.

Сюды прыбыла адміністрацыя горада на чале з прэзідэнтам Ляхніцкім, каб выказаць пашану Мюрату і праз яго перадаць ключы ад Вільні імператару Напалеону [565].



Пераход Напалеона з «Вялікай арміяй» праз Нёман. Французская гравюра 1841 г. [1336, с. 214-а].

Ад імя жыхароў сталіцы ВКЛ Неапалітанскага караля Мюрата вітаў ген. Касакоўскі, які ў сваёй палымянай прамове падкрэсліў, што, дзякуючы шчасліваму лёсу, менавіта Мюрат першым увайшоў у вароты Вільні, як у 1806 г. ён першым уваходзіў у Варшаву.

Мюрат падзякаваў дэлегацыю горада за цёплую сустрэчу ягонага войска і накіраваў яе да Напалеона, які ў гэты час знаходзіўся пад Панарамі.

З ліку членаў Галоўнага Камітэта ўдалося застацца ў Вільні толькі аднаму Міхаілу Дзяконскаму, які, жадаючы абараніць ад усеагульнага асуджэння выехаўшых пад прымусам Аляксандра І сваіх калег у Санкт-Пецярбург, звярнуўся ад сябе і ад іх да Варшаўскай Генеральнай Канфедэрацыі аб прыняцці ў Канфедэрацыю. Зварот Дзяконскага не меў станоўчых вынікаў, бо Канфедэрацыя патрабавала ўласнаручных заяў ад К. Любецкага, Т. Ваўжэцкага і Л. Плятэра.

У Вільні, акрамя Дзяконскага, застаўся яшчэ Казімір Плятэр, адзін з актыўнейшых даваенных паплечнікаў М.К. Агінскага ў Санкт-Пецярбургу, які быў заняты цяпер выкананнем Загаду Напалеона па фарміраванню батальёна ліцвінскіх стралкоў.

Напалеон І наведвае лазарэт у суправаджэнні маршалаў Берцьера, Дюрока, Мюрата, Серюр'ера і дактароў 11 лютага 1808 г. у Косце. Малюнак XIX ст. Мастак Аляксандр Поль Жазэ Вярон [1207. с. 12].



# Глава 28
# Напалеон на берагах Нёмана

На бераг Нёмана Напалеон прыбыў 23 чэрвеня 1812 г. Лёс зноў прывёў яго на гэты бераг і паставіў перад пытаннем, вырашэнне якога ён адкладваў.

У размовах са сваімі прыбліжанымі Напалеон падкрэсліваў, што злы рок цягне Расію ў пропасць, таму мір, які ён хацеў бы заключыць тут, будзе ўтрымліваць залог трываласці і стане перашкодай няшчаснаму ўплыву, які 50 гадоў аказвае Расія на еўрапейскія дзяржавы.

У адзенні звычайнага польскага ўлана вечарам Напалеон аглядаў мясціны пераправы войскаў праз Нёман. Яму спадабалася частка ракі з выгнутым каленам у наваколлі м. Панямунь, дзе была магчымасць патаемна пераправіць гарматы.

За ноч былі пабудаваны тры масты, і 24 чэрвеня на світанку пачалася пераправа скопішча ягоных войскаў у колькасці прыкладна 200 тыс. чалавек.

Перад уступленнем на беларускую зямлю войску была зачытана кароткая пракламацыя, падпісаная Напалеонам у м. Ваўкавішкі, у якой ён абвясціў аб пачатку вайны і выступіў са зваротам: «Салдаты! Другая Польская вайна пачынаецца. Першая закончылася пры Фрыдландзе і ў Тыльзіце. У Тыльзіце Расія паклялася на вечны саюз з Францыяй і вечную вайну з Англіяй. Цяпер яна парушае свае клятвы . Расія захапляецца рокам; няхай збудзецца яе лёс!» [444, 1026].

У пракламацыі беларускія землі называліся варожымі, бо знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі, тым самым як бы давалася магчымасць французскім салдатам беспакарана забіраць і карыстацца пажыткамі і маёмасцю мясцовага насельніцтва.

Карпусы марш. Даву і Мюрата першымі пераправіліся праз Нёман і накіраваліся па шляху на Вільню. Напалеон разам са сваёй гвардыяй і корпусам марш. Удзіна пасля пераправы спыніўся на адзін дзень у г. Коўна, прызначаным для складоў з правіянтам і фуражом, якія планавалася акружыць



Крыж узнагародны для святароў, удзельнікаў вайны 1812 года.
Са збораў прыватнай калекцыі А. А. Нікалаева (г. Брэст).



На беразе Нёмана 25 чэрвеня 1812 года. Мастак Х.В. Фабэр дзю Фор, 1830-я гады.

фартыфікацыйнымі збудаваннямі, а праз рр. Нёман і Вілію пабудаваць чатыры пантонных масты і адправіць правіянт лодкамі па Віліі да Вільні.

У той жа дзень войскі марш. Э. Макдональда перайшлі Нёман злева каля г. Тыльзіт, войскі віцэ-італьянскага караля Эжэна (Яўгена) Багарнэ (прыёмнага сына Напалеона ад Жазэфіны) перапраравіліся на правым крыле 29-30 чэрвеня пад м. Прэні, а вестфальскі кароль Жэром Банапарт перайшоў р. Нёман 30 чэрвеня каля Гродна.

Карпусы марш. Мюрата і Даву імкліва рушылі па віленскаму гасцінцу, нягледзячы на небяспеку быць разбітымі расійскімі войскамі на нявыгадных пазіцыях, але неўтаймаванае жаданне першымі ўварвацца ў Вільню гнала марш. Мюрата ўперад. Ягоная конніца стамілася так, што коні ад недахопу фуража, пакормленыя зялёным жытам, слабелі на вачах і гінулі тысячамі так, што дарога з Коўна да Вільні была ўсеяна пятнаццаццю тыс. трупамі коней. Нават асцярожны і вопытны марш. Даву выказаў незадаволенасць неабачлівасцю і паспешлівасцю Неапалітанскага караля.

У м. Панары Напалеон прыняў ліцвінскую дэлегацыю, з якой правёў доўгую гутарку, сэнс якой пралівае святло на ягоныя планы і першыя крокі на беларускай зямлі. Перакладчыкам з польскай мовы ў Напалеона тады быў імператарскі ад'ютант Вансовіч.

Пасля ўзаемных прывітанняў кіраўнік дэлегацыі прэзідэнт Вільні Ляхніцкі прасіў імператара аб абароне і апякунстве над жыхарамі Віленшчыны, а ў адказ Напалеон заявіў пра сваю сімпатыю да палякаў і ліцвінаў, але дабавіў, што памылкі палякаў у значнай меры садзейнічалі развалу краіны.

Ён з цікавасцю распытваў аб адступленні расійскай арміі, падрабязнасцях прабывання Аляксандра I у Вільні, здзіўляўся, што ра-

сійскія войскі пакінулі такія выгодныя для абароны пазіцыі.

Пры гэтым прыгадаў, што сам ён на іх месцы з 60-тысячным корпусам даў бы сакрушальны бой французскім арміям, якія перапраўляюцца на такім цудоўна ўмацаваным месцы.

У сваёй прамове Напалеон гаварыў пра скасаванне прыгонніцтва ў Літве, распытваў пра Віленскі ўніверсітэт, успомніў пра рэктара Снядзецкага, пра якога раней чуў, і раптам запытаў аб знаходжанні цяпер Т. Ваўжэцкага і М.К. Агінскага.

Даведаўшыся, што гэтыя дзяржаўныя дзеячы ВКЛ паследавалі разам з расійскай арміяй, Напалеон звярнуўся да Габрыеля, пляменніка М.К. Агінскага, які быў у складзе ліцвінскай дэлегацыі, са словамі: «Паглядзім, спадар Агінскі, каму болей пашанцуе, спадару ў мяне ці дзядзьку спадара ў Аляксандра». Затым запытаў наконт правіянту, які можа прадаставіць для яго арміі Вільня, а пачуўшы адказ Ляхніцкага пра 600 рацыёнаў, Напалеон раздражнёна засмяяўся і загадаў, каб было падрыхтавана не менш 100 тыс. рацыёнаў, затым трохі супакоіўся, развітаўся і накіраваўся ў горад [1103].

Тым часам войскі Мюрата ўступілі ў Вільню з боку Пагулянкі. У іх авангардзе рухаўся 8-мы полк кн. Д. Радзівіла, які з патрыятычных пачуццяў да Айчыны жадаў першым увайсці ў Вільню.

Велізарныя натоўпы віленскіх жыхароў з нецярплівасцю чакалі з'яўлення Напалеона, які тым часам пажадаў з вышыні ўбачыць Вільню, павярнуў на Вострую Браму, галопам узляцеў на Замкавую гару і адтуль уважліва агледзеў горад, затым таксама імкліва спусціўся на бераг Віліі, каб паглядзець на спаленыя казакамі склады са 150 тыс. цэнтнерамі мукі і велізарнымі запасамі фуражу і разбураны мост.

Ён загадаў адбудаваць мост, а віленскія жыхары з жаданнем узяліся за гэтую справу, і праз 4 гадзіны мост праз Вілію быў адноўлены.

Напалеон вярнуўся назад у горад праз улічныя натоўпы ўзбуджаных жыхароў і спыніўся на былой біскупскай плошчы, адкуль два дні назад з'ехаў Аляксандр I.

Тут 30 чэрвеня Напалеон прыняў пасланніка Аляксандра I міністра паліцыі ген. А. Балашова. Прыём адбыўся ў тым жа пакоі, дзе нядаўна знаходзіўся Аляксандр I. Падчас абеда пасля доўгіх разважанняў Напалеон адправіў Балашова назад з пісьмом да Аляксандра I, у якім ён пералічваў усе прэтэнзіі, крыўды і непаразуменні, якія ўсё-такі прывялі да таго, што абодва бакі апынуліся ў стане вайны.




Вокладка грамадзянскага кодэкса Напалеона, зацверджанага ў 1804 г. [1005, с. 87].



РАЗДЗЕЛ V

# Арганізацыя і дзейнасць улады абвешчанага ВКЛ

## Глава 29
# Загад Напалеона аб арганізацыі ўлады ВКЛ

Яшчэ да вайны Напалеон запатрабаваў ад Дзяржаўнай Рады Варшаўскага герцагства (княства) падабраць яму 6 адукаваных, патрыятычна настроеных і аўтарытэтных дзеячаў Польшчы і ВКЛ, якіх можна было б выкарыстаць пры арганізацыі ўлады ВКЛ.

У спіс, які быў пададзены Напалеону, былі ўключаны кн. Яўстафій Сангушка, Аляксандр Хадкевіч, гр. Юзаф Серакоўскі, ген. Юзаф Касакоўскі, Сулістроўскі, кн. Аляксандр Сапега, Аляксандр Патоцкі, сын старшыні Варшаўскага Савета Міністраў. Гэтыя дзеячы папярэдне былі разгледжаны Напалеонам для арганізацыі літоўскіх «спраў».

Сапраўды, усе яны, за выключэннем былога віленскага маршалка Сулістроўскага, які следаваў за расійскай арміяй, знаходзіліся ў Вільні.

Пасля заняцця Вільні французскімі войскамі гэтыя асобы, а таксама гр. В. Красінскі, кн. А. Сапега, Пац, Я. Снядзецкі і шэраг інш. 30 чэрвеня 1812 г. былі выкліканы да кн. Басана, дзе гр. П.А. Дару абвясціў дзённы Загад Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г., апублікаваны на наступны дзень у мясцовых газетах, згодна з якім ствараўся Урад ВКЛ (Часовая Камісія), які складаўся з 5-ці чалавек.

Найбольшы ўплыў на прызначэнне членаў Урада ВКЛ меў кн. А. Сапега, які карыстаўся поўным даверам Напалеона і быў ягоным інфарматарам па літоўскіх пытаннях. На нарадзе ў Басана абмяркоўваліся іншыя кандыдатуры ў Літоўскую адміністрацыю.

Вылучаўся на члена Урада рэктар Віленскага ўніверсітэта Я. Снядзецкі, якому быў рады Напалеон, але той адмовіўся бракам часу і няведаннем палітычных пытанняў.



Герб роду князёў Чартарыйскіх «Пагоня» [1256, с. 3].

Напалеон I на троне. Малюнак 1806 г.
Мастак Жан Аўгуст Дамінга Інгрэ (1780-1867) [1005, 54].


Ordre du Jour 1er Juillet 1812

Art. 1.

Art. 2

Art. 3

Першая старонка Загада Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г., выдадзенага ў Вільні, аб зацвярджэнні Камісіі Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага, што фактычна азначала аднаўленне дзяржаўнасці ВКЛ. Са збораў Нацыянальнага архіва Францыі [47.AF IV, 671, pl. 5354; 1053. c. 275-a].

Для больш хуткага ўсталявання парадку і ўлады, каб максімальна больш займець для сваёй «Вялікай арміі» людскіх і матэрыяльных рэсурсаў (харчу, фуражу, цяглавай сілы і інш.), Напалеон не паламаў карэнным чынам ранейшыя інстытуты ўлады і грамадскіх адносін на Літве, а арганізаваў сістэму адміністрацыйных органаў пад старшынствам і кантролем французскіх ваенных чыноўнікаў.

Сутнасць напалеонаўскай палітыкі ў Беларусі вельмі трапна падкрэсліў расійскі пісьменнік Ю. Тацішчаў, які пісаў, што Напалеон падкінуў літоўскім летуценнікам цацку, за якую «Літва павінна даць яму ўсё, што ён ад яе патрабаваў...» [101, 232].

Напалеон з самага пачатку вайны не пярэчыў стыхійным утварэнням часовых органаў мясцовага кіравання, шматлікіх канфедэрацкіх і часовых радаў (саветаў, камітэтаў) для падтрымкі парадку і дысцыпліны ў краі, збору і аховы правіянтскіх складоў, а праз хуткі час уніфікаваў кіраўнічыя органы ўлады ў Беларусі па прыкладу калегіяльных структурных органаў дзяржаўнага кіравання французскай імперыі.

Згодна з дзённым Загадам Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г., на тэрыторыі чатырох дэпартаментаў (былых губерняў) — Віленскага, Гродзенскага і Мінскага, а таксама Беластоцкай вобласці — прызначалася Камісія Часовага ўрада ВКЛ у складзе 5-ці членаў: гр. Станіслава Солтана, кн. Аляксандра Сапегі, гр. Францішка Ельскага, гр. Юзафа Серакоўскага, гр. Караля Прозара. Камісія Часовага ўрада з'яўлялася вышэйшым калегіяльным органам кіравання дзяржаўнага ўтварэння — ВКЛ.

Старшынёй Камісіі прызначаўся С. Солтан, які на той час адсутнічаў, Генеральным сакратаром — Ю. Касакоўскі, а 7 ліпеня 1812 г. з мэтай укамплектавання Камісіі былі прызначаны ў яе склад яшчэ два чалавекі: Ян Снядзецкі і кн. Аляксандр Патоцкі, а ў якасці імператарскага камісара ў Камісію быў уключаны барон Л.П.Э. Біньёон, былы рэзідэнт у Варшаве.

Сістэма кіравання ВКЛ у прынцыпе мела калегіяльны, стройны і закончаны характар. Кожны камітэт Камісіі Часовага ўрада ўключаў ад 5 да 10 членаў.

Галоўным лічыўся камітэт унутраных спраў, затым камітэты паліцыі, харчавання, судовы, адукацыі і рэлігіі, а таксама фінансаў.

Па меры заняцця французскімі войскамі тэрыторыі Беларусі у кожнай губерні неадкладна ствараліся мясцовыя органы часовага кіравання. Напрыклад, 20 чэрвеня (2 ліпеня) 1812 г. Жэром Банапарт стварыў Камісію часовага кіравання Гродзенскай губерні, а маршал Л. Даву аналагічную камісію стварыў у ліпені ў Мінскай і Магілёўскай губернях, але пасля абвяшчэння Напалеонам уніфікаванай структуры органаў кіравання гэтыя камісіі і камітэты былі скасаваны, а замест іх паўсталі Адміністрацыйныя Камісіі адпаведных дэпартаментаў.

Названыя Камісіі складаліся з трох аддзелаў: унутраных спраў, паліцыі і судавод-

ства; вайсковага харчавання; фінансаў, асветы і рэлігіі.

На чале Камісій прызначаліся імператарскія інтэнданты, а ў іх склад уваходзілі кіраўнікі аддзелаў, прызначаныя асабіста Напалеонам.

Дэпартаменты падзяляліся на дыстрыкты пад кіраўніцтвам падпрэфектаў, дзейнасць якіх рэгламентавалася Палажэннямі, зацверджанымі Урадам ВКЛ.

Загад Напалеона аб арганізацыі ўлады ў ВКЛ складаўся з 15-ці параграфаў. Першым пунктам прызначаўся Часовы ўрад ВКЛ, які складаўся з 5-ці членаў і генеральнага сакратара. У наступных пунктах гаворыцца аб тым, што Камісіі Часовага ўрада ВКЛ даручаецца заведванне фінансамі краю, дастаўка правіянту, арганізацыя мясцовага апалчэння, народнай гвардыі і жандармерыі. У астатніх пунктах Загаду Напалеона гаворыцца аб губернскіх Камісіях, іх складзе, падпарадкаванасці, адміністрацыі ў кожным павеце, асобна ў Вільні, аб стварэнні жандармерыі, яе складзе, структуры, форме адзення жандармаў, нясенні імі паліцэйскай службы і г.д.

Загад Напалеона аб арганізацыі ўлады ВКЛ быў замацаваны подпісам гр. Дару, які меў пасады Міністра-сакратара імперыі і Галоўнага імператарскага індэнданта [268].



No 6.

ZA ZEZWOLENIEM ZWIERZCHNOŚCI.

TYMCZASOWA

GAZETA MINSKA

w Mińſku dnia 5 Sierpnia ns. 1812 Roku.

z Mińska 5 Sierpnia. Dnia 31 Lipca w imieniu JW. Ludwika Hrabiego Rokickiego b. Mar. Gub. Min. wnieſiono do wydziału Skarbu na potrzeby formuiącey ſię żandarmeryi w Prowincyi Mińſkiey ſkór łoſich, wyprawnych ſztuk ſześć.

Nim dokładnieysze odbierzemy donieſienie, tym czasem powziętą miłą dla nas i prawie urzędową wiadomość, śpieszemy kommunikować Publiczności, że między Oſtrowną a Witebſkiem Arryergarda Moſkiewſka ze 20,000. ludzi ſkładaiąca ſię, była dopędzona przez Wielkie Woyſko JEGO CESARSKO-KROLEWSKIEY MOSCI, i prawie cała znieſiona. Droga od Oſtrowny do Witebſka usłana ieſt trupami. Na iednego Francuza dzieſięciu nieprzyiacioł liczono. Pułk Dragońſki Jngiermanlandzki zupełnie znieſiony przez Polakow.

W dniu 27. Lipca JW. Jntendent Prowincyi Mińſkiey wespoł z Radą Administracyyną ułożyli, że Administracya Departamentu Mińſkiego dzielić ſię będzie na trzy Wydziały: Zywności, Policyi, i Jnteressow ſkarbowych. Każdy wydział ſkładaią Osoby naſtępne: Wydział żywności JJWW. Józef Wołodkowicz członek rady Administracyyney Prezydent, Jgnacy Moniuszko Vice Prezydent, Antoni Wańkowicz i Wincenty Giecewicz Członkowie. Wydział Policyi: JJ. WW. Adam Hrabia Ginter członek rady administracyyney Prezydent, [illegible] V. Prezydent, Wincenty Wołodkowicz i Xawery Hrabia Lipſki Członkowie. Wydział skarbu JJ. WW. Xawery Obuchowicz członek Rady admin. Prezydent, Jan Chodźko V. Prezydent, Stanisław Jelſki i Atanazy Prószyńſki członkowie. Każdy prócz tego wydział ma po dwóch Referendarzy. Wtym obowiązku zaſtaią ci sami którzy wybrani byli w czasie organizacyi Kommissyi tymczasowey Prowin. Mińſkiey na ſkutek rozkazu JO. Xięcia d' Eckmühl. Kontrolerami Departamentu Mińſk. mianowani są WW. Józef Sielawa, Stefan Swida, i Antoni Ratyńſki.

ROZKAZ DZIENNY.

§ 1. Uſtanawia ſię Rząd tymczasowy Xtwa Lit. ſkładaiący ſię z pięciu Członkow i iednego Sekretarza Jeneralnego.

§ 2. Kommissyi tymczasowey Rządu Lit. porucza ſię Administracya Finansow, Zywności, Organizowanie Woyſka Kraiowego, formowanie Gwardyi narodowey i żandarmeryi.

§ 3. Przy Kommissyi tymczasowey Rządu Lit. znaydować ſię będzie ieden Kommissarz Cesarſki.

§ 4. Gubernia Wileńſka, Grodzieńſka Mińſka i Białostocka rządzone będą każda udzielnie przez Kommissyą złożoną z [illegible] członkow pod prezydencyą Jntendenta.

§ 5. Kommissye Administracyyne zoſtawać będą pod władzą Kommissyi tymczasowey Rządu Litt.

§ 6. Administracya każdego z osobna Powiatu powierzona będzie Pod Prefektowi.

Першая старонка «Часовай газеты Мінска» («Tymczasowa gazeta Mińska») № 6 ад 5 жніўня 1812 г. (па ст. стылі) з уступным артыкулам і перадрукаваным Загадам Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г., выдадзенага ў Вільні, аб зацвярджэнні Камісіі Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага. Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Фота аўтара, 2012 г. [НББ — РК- 108].

## Глава 30
# Вышэйшае кіраўніцтва ВКЛ

Вялікае Княства Літоўскае, вернутае Напалеонам у палітычны стан, складалася з 4-х дэпартаментаў і 33-х паветаў, займала плошчу ў 3787 квадратных міль, налічвала 1 333 889 чалавек мужчынскага полу.

Прыведзеныя лічбы носяць прыблізны характар, таму што абсалютна дакладных сведчанняў таго часу няма. Частка паветаў знаходзілася пад кантролем расійскіх войскаў, значная тэрыторыя Гродзенскага дэпартамента ў верасні-кастрычніку 1812 г. была занята войскамі 3-й заходняй расійскай арміі адм. Чычагава.



Такім чынам, можна лічыць, што ў падпарадкаванні Камісіі Часовага ўрада ВКЛ на той час знаходзілася прыкладна 17 паветаў, з якіх 4 ужо ў лістападзе былі заняты расійскімі войскамі [854].

Віленская, Гродзенская і Мінская губерні і Беластоцкая вобласць быліператвораны ў дэпартаменты, паветы — у дыстрыкты, воласці — у кантоны.

У дзённым Загадзе Напалеона ад 1 ліпеня нічога не гаварылася аб арганізацыі ўлады ў гарадах, толькі Вільня атрымала муніцыпальны Савет, які складаўся з 12-ці членаў, муніцыпальнага прэзідэнта і 4-х ад'юнктаў. Згодна з названым загадам, у Вільні павінна быць створана народная гвардыя з двух батальёнаў.

Прызначэнне асобаў на адказныя пасады ва Урад ВКЛ нельга прызнаць удалым, бо адным з крытэрыеў вылучэння кадраў на пасады з'яўляўся факт наяўнасці мінулых заслуг перад Айчынай, маёмаснае палажэнне, званне і г.д.

Безумоўна, гэта былі заслужаныя людзі, касцюшкаўскія ветэраны, удзельнікі Вялікага Сейма, але ў большасці сваёй ста-

Герб імператара Францыі Напалеона Банапарта [1005, с. 54].

лага ўзросту, адарваныя амаль 20 гадоў ад грамадска-палітычнай дзейнасці, якія нават падтрымлівалі пазіцыю М.К. Агінскага. Яны не валодалі ні ўласнай энергіяй, ні сітуацыяй, ні адміністрацыйным рэсурсам, добра не ведалі сітуацыю ў краіне, якой ім прыйшлося кіраваць у напалеонаўскія часы. Гэтыя людзі былі прызначаны на вышэйшыя пасады за мінулыя заслугі, і хоць рабілі ўсе ад іх залежнае, але не падняліся на той узровень працаздольнасці, якога патрабавалі французскае кіраўніцтва і абставіны. Іх прызначэнне адбывалася пад непасрэдным уплывам кн. Аляксандра Сапегі, таму ягоныя сімпатыі і антыпатыі сур'ёзна паўплывалі на кадравую палітыку ў новым кіраўніцтве ВКЛ. Як адзначаюць сучаснікі, прызначаныя Ю. Серакоўскі і А. Патоцкі аказаліся недасведчанымі і слабымі адміністратарамі ва Урадзе ВКЛ.

Створаная ў Вільні Урадавая Камісія павінна была адміністрацыйна распараджацца казной і запасамі, арганізацыяй войскаў, стварэннем народнай гвардыі і жандармерыі.

Свае пасяджэнні Камісія пачала праводзіць з другога ліпеня 1812 г. у бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта ў прысутнасці ўсяго толькі трох членаў: Сапегі, Серакоўскага і Ельскага. На першым пасяджэнні было вырашана паслаць паведамленні членам Камісіі Солтану і Прозару, якія адсутнічалі, аб пачатку працы Урада ВКЛ і з патрабаваннем неадкладнага прыбыцця іх у Вільню.

Другім пытаннем было размеркаванне абавязкаў паміж членамі Камісіі. Вырашылі, што за фінансавыя справы адказвае Серакоўскі, за арганізацыю войска і правіянта — Сапега, а Ельскі павінен дапамагаць абодвум.

На пост генерал-губернатара Вільні былі прадстаўлены тры кандыдатуры: ген. Канопка,



ANNEXES

I

**Actes impériaux** (1)

1. *Ordre du jour* (2)

Au quartier impérial de Wilna, le 1er juillet 1812.

Art. 1. — Il y aura un Gouvernement provisoire de la Lithuanie, composé de cinq membres et d'un secrétaire général.

Art. 2. — La Commission de Gouvernement provisoire de la Lithuanie sera chargée de l'administration des finances, des subsistances, de l'organisation des troupes du pays, de la formation des gardes nationales et de la gendarmerie.

Art. 3. — Il y aura près de la Commission provisoire de Gouvernement de la Lithuanie un commissaire impérial.

Art. 4. — Chacun des gouvernements de Wilna, Grodno, Minsk et Byalistock sera administré par une commission de trois membres présidée par un intendant (3).

Art. 5. — Ces commissions administratives seront sous les ordres de la Commission provisoire de Gouvernement de la Lithuanie.

Art. 6. — L'administration de chaque district sera confiée à un sous-préfet.

(1) Nous croyons utile de réunir tous les actes connus émanant de Napoléon et concernant l'organisation de la Lituanie, qui étaient jusqu'alors dispersés dans diverses publications, depuis les journaux de l'époque comme le *Journal de l'Empire* (24 juillet 1812) et le *Moniteur universel* (30 juillet), jusqu'aux recueils les plus récents parmi lesquels sont à noter ceux de [illegible] (1911); [illegible] (1911), t. II; [illegible] t. V. Les actes nos 17 et 30 sont publiés ici pour la première fois ainsi que les lettres de Berthier, major général et des autres autorités citées ou notées à l'occasion des actes nos 7, 8, 9, 12 et 15.

(2) *Archives nationales*, AF IV, 671, pl. 5354.

(3) [illegible]

Карэспандэнцыя Напалеона. Першая старонка надрукаванага Загаду Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г. аб стварэнні Камісіі Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага. Са збораў бібліятэкі Фонда Напалеона ў Парыжы [50, 1026].



§ 7. Miasto Wilno mieć będzie Mera (Maire) czyli Prezydenta, czterech Adjunktow, i radę municypalną z trzech [illegible] złożoną. Administracyi [illegible] dobrami do Miasta należącemi, mieć dozor nad Instytutami dobroczynności i rząd municypalną policyą.

§ 8. Uformowana będzie w Wilnie gwardya narodowa złożona z dwóch batalionow, każdy batalion z [illegible] kompanii. Gwardya ta narodowa organizowaną będzie jak następuie: Sztab wyższy: Komendant 1, Szefow Batalionu 2, Adjutantow Maiorow 2, Kwatermistrz 1, Adjutantow Pod-Oficerow 2, Dobosz 1, Rzemieślnikow 3, Chirurg Maior 1, Podchirurg 1, Muzykantow 8. Kompania: Kapitan 1, Porucznik 1, Podporucznik 1, Sierżant Maior 1, Sierżantow 4, Kapral Furyer 1, Kaprałow 8, Doboszow 2, żołnierzy 100. Siła dwóch Batalionow 1250.

§ 9. Każda Gubernia, tako to: Wileńska, Grodzieńska, Mińska i Białostocka mieć będzie żandarmeryą (gens d'armes) pod komendą Pułkownika mającego pod sobą tak następuie: Gubernie Wileńska i Mińska po sześć Szefow Eskadronu, Gubernie Grodzieńska i Białostocka po iednym Szefie Eskadronu. W każdym Powiecie będzie po iedney Kompanii żandarmeryi, każda z nich mieć będzie Kapitana komenderującego 1, Kapitana drugiego w rzędzie 1, Porucznika 1go w rzędzie 1, Porucznikow drugich w rzędzie 4, Kwatermistrz Sztabu 1, Kwatermistrzow 4, Brygadyerow Sierżantow 16, żandarmow wolontaryow 80. Trębacz 1. wszystkich 107.

§ 10. Pułkownik żandarmeryi mieszkać będzie w głównym Mieście Gubernialnym. Mieszkanie Oficerow i rozlokowanie Brygad naznaczone będą przez Kommissyą tymczasową Rządu Litt.

§ 11. Oficerowie, Podoficerowie i Wolontery żandarmow brani będą z pomiędzy Szlachty Właścicielow w Powiecie. Nikt się z tego nie będzie mógł wymowić. Nominować się będą następnym sposobem: Oficerowie przez Kommisyą tymczasowego Rządu Litt: Podoficerowie i Wolontery żandarmow przez Kommisye Administracyyne Guber. Wilen. Grodzień. Miń. i Białost.

§ 12. Mundur żandarmeryi będzie Polski.

§ 13. Żandarmerya czynić będzie służbę Policyi, dawać pomoc zbroyną każdey Zwierzchności publiczney, zatrzymywać włóczęgow, Maroderow i iakiego bądź woyska dezerterow.

§ 14. Rozkaz nasz dzienny w ostatnich dniach Miesiąca Czerwca zapadły, ogłoszony będzie w każdey Gubernii i stosownie do niego ustanowiona będzie Kommissya Woyskowa.

§ 15. Maior Jenerał nominować będzie Oficera ieneralnego czyli Przełożonego, Francuza lub Polaka z woyska liniowego na Komendanta w całym Departamencie. Ten będzie miał pod swoią władzą Gwardyą narodową, żandarmeryą i woysko krajowe.

w Wilnie w główney kwaterze Cesarskiey dnia 1 Lipca 1812 roku (podpisano) NAPOLEON, przez Cesarza, Minister, Sekretarz Stanu, Hrabia Daru.

*Od Kommissyi tymczasowego Rządu Xięstwa Litewskiego, Wszystkim Zwierzchnościom Departamentowym, Powiatowym, Municypalnym i Wiyskim.*

Kommissya, dopełniaiąc nayważnieyszey powinności Rządu, w utrzymaniu porządku, bezpieczeństwa, i gospodarstwa kraiowego, podaie do wiadomości i zaleca wszystkim Administracyom, Zwierzchnościom powiatowym, [illegible]

[illegible] Wszyscy właściciele, mieszkańcy miast i wiosek, którzy dla [illegible] opuścili swoie domy, mają do nich, do robot rolniczych, i do [illegible]

Другая старонка «Часовай газеты Мінска» («Tymczasowa gazeta Mińska») № 6 ад 5 жніўня 1812 г. (па ст. стылі) з перадрукаваным Загадам Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г., выдадзеным у Вільні, аб зацвярджэнні Камісіі Часовага ўрада Вялікага Княства. Са збораў Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь [НББ — РК- 108].

Яўстахій Сангушка і Юзаф Касакоўскі, а на пасаду ваеннага каменданта сталіцы — палкоўнік Хлусевіч. Аднак апошняя прапанова была адхілена, бо камендантам Вільні быў прызначаны французскі брыгадны ген., барон, гістарыёграф «Вялікай арміі» Напалеона Жоміні Антуан Анры дэ (Генрых Веніямінавіч), які ў жніўні 1813 г. перайшоў на бок саюзнікаў і прыняты на службу ген.-лейтэнантам у расійскую армію [734].

Наступнае пасяджэнне Камісіі адбылося 8 ліпеня пры ўдзеле новых членаў Я. Снядэцкага і А. Патоцкага. Было вырашана накіраваць у губернскія сталіцы ВКЛ упаўнаважаных Часовай Камісіі для арганізацыі ўлады на месцах. Упаўнаважаным у Гродна і Беласток накіраваўся кн. Гедройц, а ў Мінск — навагрудскі Петэрсон.

З 15 ліпеня пасяджэнні Камісіі праводзіліся ў палацы Каскоўскага. Старшыня Камісіі Солтан прыбыў у Вільню і прыступіў да выканання сваіх абавязкаў толькі 18 ліпеня. Да ягонага прыезду старшынстваваў на пасяджэннях Камісіі Серакоўскі. Член Камісіі Прозар, які затрымаўся ў Белай Русі, бо на чале дэлегацыі ВКЛ сустракаў Напалеона ў Смаленску, прыбыў у Вільню толькі 8 кастрычніка.

У склад Урада ВКЛ не быў уключаны адзін з актыўных палітыкаў расельскі стараста Тызенгаўз. Напалеон напачатку выказаў яму недавер, нягледзячы на тое, што двое яго сыноў шчыра падтрымоўвалі сваімі сродкамі фарміраванне літоўскай арміі. Магчыма, паўплывалі на негатыўныя адносіны Напалеона да Тызенгаўза паводзіны ягонай дачкі (аўтара вядомых пазней дзённікаў), якая адкрыта дэманстравала перад французскім імператарам сваю прыхільнасць да Аляксандра І. Толькі пасля смерці Сапегі Тызенгаўз быў уключаны ў склад Камісіі.

Аляксандр Сапега быў раней вядомым славістам і вандроўнікам, членам Таварыства прыхільнікаў навукі, карыстаўся поўным даверам у Напалеона, праяўляў актыўнасць у даваенны час у справах разведкі ў Варшаве, быў схільны да пахвалы і кампрамісаў.

Юзаф Серакоўскі з'яўляўся выдатным знатаком геральдыкі і археалогіі, але ў вайсковых справах не разбіраўся, да таго ж у Камісіі кіраваў яшчэ трыма аддзеламі: фінансаў, харчу і паліцыі. Ягонае прызначэнне членам Урада ВКЛ, верагодна, было звязана з тым, што падчас Тыльзіцкіх перагавораў ён узначальваў дэлегацыю ВКЛ на аўдыенцыю да Напалеона.

Аляксандр Патоцкі на пасадзе кіраўніка ўнутраных спраў таксама не паказаў высокіх здольнасцяў, а тры астатнія члены Урадавай Камісіі Ельскі, Прозар і Солтан былі ўжо даволі сталага ўзросту.

Загад Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г. не вызначаў дакладную арганізацыю дзейнасці Камісіі, таму яна павінна была выпрацоўваць інструкцыю па сваёй унутранай арганізацыі на сесіях.

Згодна з пратаколамі, Камісія Часовага ўрада ВКЛ складалася з сямі камітэтаў (аддзелаў), якія ўзначалілі: камітэт па харчу і складах — Солтан, камітэт паліцыі — Серакоўскі, фінансаў — Прозар, вайсковы — Сапега, прававы — Ельскі, унутраных спраў — Патоцкі, адукацыі і рэлігіі — Снядэцкі.

У кожным камітэце ў дапамогу старшыні ўводзіліся саветнікі колькасцю ад 5 да 10 чалавек з правам дарадчага голасу. Для прыняцця рашэння Камісіі неабходна, каб прысутнічалі не менш чым чатыры чалавекі разам са старшынёй.

Сесіі ўрада праходзілі штодзённа, надзвычайныя — склікаліся старшынёй Камісіі паводле жадання аднага з членаў Камісіі.

1. Адам Ежы Чартарыйскі (1770-1861). Мастак Л. Каплінскі (1826-1873). Са збораў Польскай бібліятэкі і музея А. Міцкевіча ў Парыжы [1256, с. 6].

2. Гогендорп Дзірк Ван (1761-1822), генерал-губернатар Літвы, галандзец, граф імперы Напалеона, генерал-ад'ютант, дывізійны генерал, які быў прызначаны на гэтую пасаду Загадам Напалеона ад 8 ліпеня 1812 г. Невядомы мастак. Малюнак каля 1813-1814 гг. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

3. Бой на Ласьміне 6 ліпеня 1812 г. Мастак Ж Лапін. Парыж.

Заўвагі любога члена Камісіі ў праект рашэння маглі быць прыняты, калі за іх прагаласавала большасць членаў. Прынятае рашэнне мела сілу пасля подпісу яго старшынёй. Пры роўнасці галасоў канчатковае рашэнне прымаў старшыня.

Генеральны сакратар Камісіі Юзаф Ігнацій Касакоўскі павінен быў прысутнічаць на ўсіх пасяджэннях Камісіі, але толькі з правам дарадчага голасу. Ягоныя абавязкі заключаліся ў арганізацыі кантроля прынятых актаў і адпраўцы іх у адпаведныя камітэты.

Старшыня камітэта павінен штомесячна рабіць справаздачу Урадавай Камісіі аб дзейнасці свайго аддзела.

Памылкай пры арганізацыі структуры і дзейнасці Урадавай Камісіі было тое, што члены Камісіі займалі кіруючыя пасты ў асобных аддзелах, што выклікала перагружанасць у іх працы, паспешлівую і слабую падрыхтоўку пытанняў для разгляду на пасяджэннях. Напрыклад, Серакоўскі быў адначасова кіраўніком і камісіі, і аддзела, вырашаў пытанні самастойна, не лічачыся з меркаваннем сваіх супрацоўнікаў, у выніку пытанні вырашаліся марудна, без глыбокай прапрацоўкі.

Напалеон быў незадаволены дзейнасцю Камісіі Часовага ўраду ВКЛ, асабліва ў пытаннях арганізацыі ўзброеных сіл, а ў пісьме да міністра дэ Басана падкрэсліваў, што Камісія нічога абсалютна не робіць, бо займаецца глупствамі, што Літва не аказвае яму ніякай дапамогі, у выніку «...мае шпіталі ў дрэнным стане, мае склады пустыя...» [1026].

Напалеон лічыў, што пасля прызначэння старшынёй Камісіі Часовага ўрада ВКЛ генерал-губернатара Гогендорпа, справы пойдуць лепш, што эмацыянальнасць новага старшыні дасць добры плён. Але Гогендорп не апраўдаў даверу Напалеона, бо меў крайне негатыўныя адносіны да любых патрабаванняў і скаргаў беларусаў.

Пазней ён страціў інтарэс да бягучых і чужых для яго спраў, перастаў наведваць пасяджэнні Урадавай Камісіі, перадаў фармальна свае абавязкі старшыні Камісіі Солтану, пакінуўшы сабе толькі абавязкі па фарміраванню новых войскаў.

Пасля прызначэння членам Камісіі Ігнацыя Тызенгаўза замест памёршага А. Сапегі, пазней — Р. Гедройца, С. Грабоўскага і А. Хадкевіча, справы па нарыхтоўцы правіянту пачалі рухацца лепей, але кардынальных змяненняў на гэтым адказным участку не адбылося.

Улада Камісіі Часовага ўрада ВКЛ распаўсюджвалася толькі на 4 літоўскія дэпартаменты і не пашыралася на Віцебскі і Магілёўскі дэпартаменты Белай Русі.

Верагодна, Напалеон не хацеў аддаваць гэтыя дэпартаменты ў склад ВКЛ, бо лічыў на перспектыву мець іх пад рукой як разменную манету падчас магчымых перамоў з Аляксандрам I.

Для актывізацыі палітычнага жыцця ў гэтых правінцыях Камісія Часовага ўрада ВКЛ дэлегавала кн. Паўла Сапегу і кн. Людвіка Радзівіла ў Віцебск і Магілёў як эмісараў па ўступленню Белай Русі ў Варшаўскую Канфедэрацыю і дапамагчы тут арганізаваць уладу.

Загадам Напалеона ад 1 ліпеня членамі Віленскага дэпартамента сталі І. Тызенгаўз, член камісіі асветы А. Храптовіч і Ф. Плятэр. Храптовіч зацягваў свой прыезд у Вільню, верагодна, хацеў перачакаць ваеннае ліхалецце ў вясковай цішы Шчорсаўскага маёнтка, але пад ціскам Камісіі вымушаны прыехаць у сталіцу і заняць месца ў Віленскай Адміністрацыйнай Палаце.

На пасаду французскага інтэнданта ў Адміністрацыйнай Палаце Віленскага дэпартамента быў прызначаны барон Нікалі, губернатарам у Вільні стаў барон Жаміні, пазней — Годарт.

Французскія інтэнданты вялі сябе нахабна, глядзелі на Літву як на скораную і варожую краіну, пры гэтым не забывалі пра сябе, жылі за кошт края, пастаянна патрабавалі пастаўляць да іх стала самае дарагое віно, лікёры і іншыя



GRANDE
ARMEE.

GOUVERNEMENT GÉNÉRAL DE LA LITHUANIE:

En vertû de l'autorisation donnée par SA MAIESTÉ L'EMPEREUR des Français et Roi d'Italie, par Ordre du jour du 24 Août 1812 qui nous charge specialement de l'organisation des troupes de Nouvelle Levée en Lithuanie et nous donne le pouvoir de nommer provisoirement les Officiers de tous Grades,

N.o 43

Nous Comte de Hogendorp, Général de Division, Aide de Camp de SA MAIESTÉ L'EMPEREUR et Roi Gouverneur Général de la Lithuanie etc.

Sur la proposition du Comité de la Guerre en date du 17e Octobre 1812 et après avoir examiné l'état de service, la Conduite et les talents Militaires de S.r Godlewski Lieutenant du 3e Reg.t d'Infanterie nous avons nommé le dit S.r Godlewski au Grade de Capitaine dans le 3ème ~~Regiment~~ Bataillon des Chasseurs à pied Polonois en Lithuanie

Wilna le Dix neuf Octobre 1812.

Comte de Hogendorp.

Намінацыя (пасведчанне) на імя лейтэнанта Гадлеўскага аб прысваенні звання капітана 3-га батальёна пяхоты войска ВКЛ, падпісанае ў Вільні 19 кастрычніка 1812 г. генерал-губернатарам Літвы Гогендорпам. Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве [38. MWP 4305/1].

спіртныя напоі, праяўлялі самадурства, таму пакінулі аб сабе дрэнныя ўспаміны ліцвінаў.

У паветах, згодна з Загадам Напалеона ад 1 ліпеня, былі створаны падпрэфектуры. Распараджэннем Урадавай Камісіі ВКЛ падпрэфекты выконвалі абавязкі ранейшых павятовых маршалкаў, кіравалі павятовай паліцыяй, транспартнымі сродкамі, поштай, размяшчэннем войска, уладкаваннем складоў, аховай грамадскай уласнасці, фінансавымі справамі, зборам падаткаў, пытаннямі адукацыі, асветы, рэлігіі, утрымання шпіталяў, забеспячэння парадку, бяспекі, пры гэтым вырашалі арганізацыйныя пытанні калегіяльным чынам.

У дапамогу падпрэфектам прызначаліся два саветнікі, якія карысталіся даверам у грамадзян. На пасады падпрэфектаў Урадавая Камісія ВКЛ прызначала, у першую чаргу, павятовых маршалкаў ці іншых паважаных у павеце асобаў, якія былі знаёмы з прынцыпамі сацыяльна-эканамічнага стану ў павеце.

У кастрычніку 1812 г. Урадавая Камісія ВКЛ зацвердзіла новае палажэнне аб пашырэнні кампетэнцыі, абавязках і арганізацыі працы падпрэфектур, падкрэсліўшы, што падпрэфектура з'яўляецца толькі выканаўцам распараджэнняў Адміністрацыйнай Палаты.

Што тычыцца гарадоў, то ў іх ствараліся муніцыпальныя Рады з мэрам, падначаленым Адміністрацыйным Палатам дэпартаментаў.

У Вільні муніцыпальная Рада складалася з 12 асобаў, якія мелі рашаючы голас, Кіраўніком муніцыпалітэта быў прызначаны старшыня Галоўнага суда Вільні Міхаіл Ромер, а ягонымі ад'юнктамі — выкладчык універсітэта Шыман Малеўскі, адвакат Даніловіч, хірург Войніч і купец Слядзінскі, а членамі Рады муніцыпалітэта сталі Антон Храпавіцкі, асэсар трыбунала Францішак Чыж, натарыус Мальчэўскі, фабрыкант Троланд, лекар Шынкевіч, адвакат Войніч, лекар Нойман, купец Рэзер, гандляр Маўзер, шорнік Макс, мешчанін Сталкоўскі і былы бурмістр Баркоўскі.

Пазней замест Ромера, які адмовіўся ад пасады пад відам слабога здароўя, быў прызначаны Ян Непамуцын Гараін.

# Глава 31
# Напалеонаўская адміністрацыя ў Беларусі

Разам з мясцовай уладай на тэрыторыі беларускіх губерняў уводзілася французская ваенная адміністрацыя на чале з ваенным генерал-губернатарам ВКЛ, якому падпарадкоўваліся ваенныя губернатары ў дэпартаментах. У дыстрыктах ваенная ўлада належала камендантам.

Ствараючы сістэму органаў кіравання на землях беларускіх губерняў, Напалеон выкарыстоўваў практыку ўсталявання цэнтралізаваных уладных структураў з мясцовых прадстаўнікоў шляхты і магнатэрыі пад пільным наглядам вышэйшых французскіх ваенных і дыпламатычных чыноў.

Такі вопыт арганізацыі ўладных структур быў назапашаны ў заваяваных ім краінах Еўропы, у тым ліку ў Польшчы ў 1806 і 1809 гг. Пры гэтым Напалеон найперш за ўсё абапіраўся на мясцовыя традыцыі акупаваных ім краін і кіраваўся інтарэсамі ўмацавання багацця і міжнароднага становішча на абшарах Французскай імперыі.

Створаная Камісія Часовага ўрада ВКЛ працавала пад наглядам Напалеонаўскага камісара барона Л.-П.-Э. Біньёна, які ажыццяўляў палітычныя функцыі кіравання краем. Паводле А. Вандаля, гэта быў невялікага росту, надзвычай рухлявы, вельмі адукаваны, старанны чалавек, цалкам адданы справе Напалеона [101, 317].

Міністр замежных спраў французскай імперыі Напалеона герцаг дэ Басана (Г.Б. Марэ), які прыбыў у Вільню 2 ліпеня 1812 г., быў пасрэднікам паміж Напалеонам і адміністрацыямі заваяваных Напалеонам краін Еўропы і як вярхоўны кіраўнік рэгуляваў ад імя французскага імператара дзейнасць грамадзянскіх і ваенных уладаў, а таксама каардынаваў працу Камісіі Часовага ўрада



Wilna le 14 Juillet 1812.

A Monsieur Plonczynski Capitaine

Je vous préviens Monsieur, que, d'après l'ordre de l'Armée du 13 Juillet, vous êtes nommé Chef de Bataillon au 20e Régiment d'Infanterie de la Lithuanie.

Le Prince de Neuchâtel
Major Général

Даведка аб авансе для капітана арміі ВКЛ Яна Планчынскага, падпісаная ў Вільні камендантам горада 19 кастрычніка 1812 г. Са зборау музея Войска Польскага ў Варшаве [38. MWP 25837/1].



Маршал «Вялікай арміі» Напалеона Серюр'ер. Мастак невядомы. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў [1207, с. 11].

ВКЛ, камісара Біньёна і ваеннага генерал-губернатара.

Функцыі ваенна-адміністрацыйнага кіравання ў ВКЛ выконваў галандзец, граф, генерал-ад'ютант, дывізійны ген. Д. ван Гогендорп, які быў прызначаны на гэтую пасаду Загадам Напалеона ад 8 ліпеня 1812 г.

Трэба адзначыць, што герцаг дэ Басана як намеснік Напалеона і вярхоўны назіральнік за дзейнасцю Літоўскага Урада быў пастаянна заняты прымірэннем і ўтрасаннем канфліктаў, якія пастаянна ўзнікалі паміж Гогендорпам і Біньёнам, а таксама Урадам ВКЛ.

Міністр дэ Басана не адрозніваўся кемлівасцю і празорлівасцю, рабіў шмат недаравальных памылак, прымаў шэраг непрадуманых рашэнняў, бо яму не хапала ўласнай ініцыятывы і дастатковай энергіі, але неабходна прызнаць, што да палякаў і ліцвінаў ён адносіўся дастаткова прыхільна. На сваёй цяперашняй пасадзе Басана настойліва выказваўся ў абарону інтарэсаў Літвы і яе жыхароў супраць далёка ідучых планаў і патрабаванняў французскіх уладаў, часам прымаў блізка да сэрца нягоды і надзеі ліцвінаў на лепшае, выкарыстоўваў свой уплыў у іх абарону перад Напалеонам.

Як сцвярджаюць асобныя даследчыкі, зусім няўдалым быў выбар Гогендорпа генерал-губернатарам Літвы, па паходжанні галандца, чалавека запальчывага, атрымаўшага на Яве вопыт дыктатарскага праўлення, абсалютна не знаёмага з польска-беларускімі адносінамі, у вышэйшай ступені бестактоўнага і прадузятага да падначаленых [1103].

З нагоды складанасці характару, Гогендорп бавіў час у бясконцых спрэчках і сварках, чым выклікаў непаразуменні з Біньёнам і гарадскімі ўладамі Вільні. У выніку Басана мусіў мірыць гэтыя саноўныя асобы, якія звярнуліся са скаргай да Напалеона.

Да гэтага часу Напалеон атрымаў падрабязную дакладную запіску ад Басана пра недастойныя паводзіны Гогендорпа, які з першых крокаў праявіў сябе бестактоўным у адносінах да членаў Урада, а ў сваіх выступленнях пастаянна падкрэсліваў, што на Літву неабходна глядзець як на краіну пераможную, што ў мэтах павелічэння матэрыяльных благ неабходна адабраць царкоўнае серабро і ўніверсітэцкую касу, прымусіць не толькі яўрэяў, але і ўсё насельніцтва збіраць вялікія грашовыя сродкі, што выклікала трывожны настрой сярод ліцвінаў і падрывала іх веру ў імператара Напалеона.

З самага пачатку сваёй дзейнасці ў Гогендорпа ўзнік канфлікт з А. Сапегай, які ў расчараваным і разгубленым стане, спасылаючыся на дрэнны стан здароўя, выехаў з Вільні ў свой маёнтак і ў выніку няшчаснага выпадку неўзабаве памёр.

Тагачасны старшыня Урадавай Камісіі пачціва Солтан выказаў шкадаванне з нагоды гэтай трагедыі і ў знак пратэсту да нястрыманай дзейнасці Гогендорпа выехаў з Вільні і вярнуўся толькі тады, калі Гогендорп перастаў кіраваць Камісіяй.

У сваім пасланні Басана прасіў Напалеона прыслаць спецыяльную інструкцыю, якая

магла абмежаваць уладныя функцыі Гогендорпа як генерал-губернатара.

Але, не жадаючы прыніжаць аўтарытэт Гогендорпа, лічачы, што ягоныя настойлівасць і энергія будуць карысны ў Беларусі, Напалеон вынес суровыя вымовы Бініёну і Гогендорпу, прызнаў у цэлым слушнасць генерал-губернатара і нечакана прызначыў яго старшынёй Урадавай Камісіі ў мэтах умацавання яе рашэнняў і пастаноў.

Такі ход Напалеона стаў непрыемнай нечаканасцю як для членаў Урада, так і для самога Басана, які разам з Біньёнам праявіў шмат клопатаў, каб зберагчы Камісію ад распаду.

Адзіным з членаў Урадавай Камісіі, хто смела падняў свой голас супраць палітыкі Гогендорпа па гвалтоўным адабранні царкоўных каштоўнасцей і ўніверсітэцкага капіталу, з'яўляўся рэктар Снядзецкі, які астудзіў запальчывасць Гогендорпа, бо рашуча заявіў гатоўнасць выйсці са скаргай да Напалеона. «Гэты 80-гадовы старац, — падкрэсліў у сваіх успамінах Славацкі, — быццам вулкан, пакрыты снегам, заставаўся гордым, цвёрдым і непахісным ні перад кім, нават не калаціўся перад самім Напалеонам» [1103].



Даспехі карабінераў «Вялікай арміі» Напалеона 1810 г. Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў. Фота аўтара, 2011 г. [Inv. 0174, 0177].

# Глава 32
# Далучэнне ВКЛ да Варшаўскай канфедэрацыі

Напалеону ў гэты час было ўласціва раздваенне і хістанне ў распачатай вайне, якую вельмі хацеў закончыць у Беларусі. Знаходзячыся ў такім стане, ён прымаў у Вільні дэлегацыю Генеральнай Канфедэрацыі Варшаўскага герцагства. У адказ на просьбу кіраўніка польскай дэлегацыі Выбіцкага аб абвяшчэнні адзінага Польскага каралеўства Напалеон ухіліўся ад прамога адказу, ён падкрэсліў цяжкасці свайго стану, у якім яму прыходзіцца сумяшчаць шматлікасць інтарэсаў і свае абавязкі, і, нарэшце, параіў даверыцца сваім уласным сілам, калі яны будуць у аднадушным парыве, то лёс увянчае справу поспехам: «...ухваляю ўсе вашыя намаганні, якія вы намераны прадпрыняць, — гаварыў ён, — і зраблю ўсё, што залежыць ад мяне, каб падтрымаць вашыя намеры. Калі вашыя клопаты будуць аднадушныя, можаце спадзявацца, што ворагі прызнаюць вашыя правы, але ў гэтых аддаленых і разлеглых правінцыях толькі ад аднадушных намаганняў усіх іх жыхароў вы зможаце дачакацца жаданага поспеху! Няхай Літва, Віцебск, Полацк, Магілёў, Валынь, Украіна і Падолія натхняюцца тым жа духам, які я спаткаў у Вялікай Польшчы, — і Найвышэйшая сіла ўвянчае поспехам святую вашу справу» [233].

Варшаўскай дэлегацыі і прысутным дзеячам ВКЛ не спадабаўся такі абцякаемы адказ Напалеона, яны адчулі хістанні і няўпэўненасць імператара адносна будучыні Польшчы і Літвы, нягледзячы на тое, што ён стаяў на чале паўмільённай арміі, меў на сваім баку большасць польскага і беларускага народа, гатовага на ўсемагчымыя ахвяры.

Сучаснікі сцвярджаюць, што гэты адказ Напалеона значна паўплываў на пахаладанне сімпатый да французскага імператара ў Беларусі.

Нягледзячы на гэта, старонкі тагачасных газет Вільні і Мінска былі напоўнены пачуццямі энтузіязму і захаплення, а словы адказу Напалеона былі ўпісаны на мармуры залатымі літарамі ў адпаведнасці з рашэннем Савета Генеральнай Канфедэрацыі ад 23 ліпеня 1812 г.

Трохі раней Напалеон даў рэзкую вотпаведзь членам Урадавай Камісіі, якія ў імя літоўска-беларускага сепаратызма прасілі прызначыць самастойных на тэрыторыі ВКЛ маршалка Канфедэрацыі і рэгента.

Аднак гэта не перашкодзіла, каб праз некалькі дзён пасля аўдыенцыі дэлегацыі з Варшавы ў Віленскім кафедральным саборы 14 ліпеня адбылася надзвычай раскошная ўрачыстасць падпісання Акта Генеральнай Канфедэрацыі.

У 11 гадзін раніцы ў базіліцы касцёла сабраліся духавенства і шматлікасць жыхароў Вільні, каб павітаць прадстаўнікоў Генеральнай Канфедэрацыі Варшаўскага Герцагства і кіраўніцтва ВКЛ. У першых шэрагах у касцёл ішла дэлегацыя Канфедэрацыі на чале са старэйшымі дзяржаўнымі дзеячамі

Польшчы Выбіцкім і Александровічам, далей выстраіліся члены Урадавай Камісіі ВКЛ і Віленскай адміністрацыі, прадстаўнікі Віленскага ўніверсітэта, мэрыі з гарадской Радай муніцыпалітэта, падпрэфектуры, народнай і імператарскай гвардыі і іншага чынавенства. Епіскап Касакоўкі адслужыў месу, пасля якой старшыня Часовага ўрада Серакоўскі выступіў з прамовай пра значэнне Акта Генеральнай Канфедэрацыі і заклікаў усіх падпісаць заяву аб уступленні ў Канфедэрацыю.

Пасля гэтай прамовы генеральны сакратар Касакоўскі зачытаў дакументы Канфедэрацыі і заявы аб уступленні ў канфедэрацыю, затым пачаўся працэс збору подпісаў. Сваю прамову Касакоўскі закончыў словамі: «Віват саюз Літвы і Кароны!». Вокліч Касакоўскага, паўтораны сотнямі сабраўшыхся, доўга гучаў пад купалам базілікі і хутка скончыўся тысячакратным воклічам: «Няхай жыве Вялікі Імператар Напалеон!» [1103].

У памяць аб гэтай падзеі Урадавая Камісія вырашыла даць пасаг па 1000 злотых дзвюм паненкам і выдаць замуж ліцвінку за паляка і, наадварот, палячку за ліцвіна, што сімвалізавала ўзноўлены саюз двух брацкіх народаў.

Пасля гэтай цырымоніі прадстаўнікі ўлады накіраваліся да імператарскага ўпаўнаважанага герцага дэ Басана, каб перадаць яму і Напалеону заяву аб уступленні ў Канфедэрацыю.

Заява, адрэдагаваная рэгентам Тамашам Умястоўскім, гучала наступным чынам: «Мы, Камісія Часовага ўрада ў В[ялікім] Княстве Літоўскім, Адміністрацыя Віленскага Дэпартамента, духавенства і манаства лацінскага, грэка-уніяцкага і іншых веравызнанняў, Акадэмія, судовы апарат, маршалак ... і ўсё насельніцтва Літоўскага Княства, якое сабралася сёння ў горадзе і знаходзіцца ў кафедральным саборы, у прысутнасці сенатараў і дэлегаваных паслоў ад Сейма і Варшаўскай Канфедэрацыі, дзе выслухалі зачытаны нам і падпісаны дакумент аб дабрачынным пачатку, каб раздзеленыя краіны Каралеўства Польскага і В[ялікага] Княства Літоўскага злучыліся разам зноў у адно палітычнае цэлае і вярнуліся ў сваю ранейшую Айчыну, да яе свабод і ўладаранняў. Прыкладаючы ўсе нашыя жаданні, намаганні і спосабы дасягнення такой святой і жаданай мэты вяртання Айчыны, яе ўладкавання і быта, сіл і дабрабыту, далучаемся да братэрскага і грамадзянскага Саюза з Варшаўскай Канфедэрацыяй перад лікам Бога, карыстаючыся магутнай і міласэрнай Яго дапамогай, уласнаручна падпісваем гэты Акт» [234, 1103].

Гэты знамянальны дзень закончыўся цудоўнай ілюмінацыяй, прадстаўленнямі народных тэатраў Вільні і Варшавы, народнымі гуляннямі, а ў магнацкай рэзідэнцыі Паца адбыўся шыкоўны баль для беларускага, польскага і французскага кіраўніцтва.

На балі прысутнічаў нават сам імператар Напалеон, на твары якога былі прыкметы заклапочанасці, быццам перад чаканнем нейкай недалёкай катастрофы.

У другой палове ліпеня ад імя Урада ВКЛ была накіравана адозва да жыхароў Магілёўскай і Віцебскай губерняў з заклікам аб далучэнні іх да Генеральнай Канфедэрацыі Варшаўскага герцагства. Неўзабаве да Канфедэрацыі далучыліся ўлады Магілёўшчыны, а на працягу ліпеня-кастрычніка 1812 г. да Канфедэрацыі далучыліся шляхам прыняцця актаў на павятовых сейміках амаль усе паветы Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губерняў і Беластоцкай вобласці.

1. Адно са шматлікіх пісем Напалеона Жазэфіне. Лістапад 1795 г. [1005. с. 29-а].

2. Загад ваеннага міністра ад 18 жніўня 1812 г. аб прызначэнні капітана Тамаша Вяльгорскага да 18-га палка пяхоты арміі ВКЛ, выдадзенага ў Вільні і падпісанага намеснікам міністра ген. Ю. Вяльгорскім. Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве [38. MWP 48935/4].

3. Асабістыя прылады туалета вышэйшых чыноў «Вялікай арміі» Напалеона 1812-1815 гг. Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў. Фота аўтара, 2011 г.

## Глава 33

# Спадзяванні і трывогі Напалеона ў Вільні

Ствараючы адміністрацыю ВКЛ, Напалеон спадзяваўся, што краіна паставіць у поўным аб'ёме харч для ягонай 100-тысячнай арміі, якая стаяла на той час вакол Вільні, створыць свае ўзброеныя сілы, якія эфектыўна дапамогуць рэалізаваць яго рэстуцыйныя планы.

Сапраўды, не хапала хлеба, бо расійскія атрады пры адступленні разбурылі млыны і вайсковыя хлебапякарні, а прыватныя пякарні маглі выдаць у дзень толькі 30 тыс. рацыёнаў. Напалеон жа патрабаваў 100 тыс., а праз некалькі дзён — удвая больш. Таму першачарговай задачай стала аднаўленне разбураных млыноў і пякарняў, для чаго былі выкарыстаны муляры, якія меліся ў корпусе прадбачлівага марш. Даву.

Напалеона вельмі хвалявала нізкая дысцыпліна ягоных салдат, якія дапускалі выпадкі рабаўніцтва літаральна ў кроку ад ягонай рэзідэнцыі ў Вільні. Прадбачыўшы згубнасць гэтага зла, Напалеон сабраў у сваёй рэзідэнцыі маршалаў і генералаў, якіх папярэдзіў аб недапушчэнні выпадкаў рабавання і здзекаў з мясцовага насельніцтва. Закончыў сваю гнеўную рэч такімі словамі: «Позорите меня, господа, позорите!» [1103].



1



2



Мінск. 1840 г. Саборная плошча. Літаграфія Леона Жана Баціста Себацье, паводле малюнка мастака Лаверні. Францыя.
Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь

Таму прабыванне Напалеона ў Вільні замарудзілася амаль да 16 ліпеня. Імператар быў заклапочаны навядзеннем дысцыпліны ў арміі, чакаў ваенныя транспартныя склады з правіянтам, займаўся арганізацыяй ВКЛ, стварэннем у Беларусі вайсковых фарміраванняў.

У дзённым Загадзе ад 5 ліпеня ён запатрабаваў ад уладаў ВКЛ стварыць 4 палкі конніцы і 5 палкоў пяхоты. Гэта было зусім не тое, на што ён спадзяваўся, паводле завярэнняў А. Сапегі, які з легкасцю дакладваў Напалеону, што ліцвіны гатовы на ўсялякія ахвяры і створаць 100-тысячную армію.

1. Іосіф Банапарт (1768-1844), родны брат Напалеона I. Малюнак II паловы XIX ст. Мастак Л. Таго (1836-1900) [1305, с. 59].

2. Станіслаў Костка Патоцкі (1755-1821), дзяржаўны і палітычны дзеяч ВКЛ, генерал, мецэнат, пісьменнік. Малюнак 1865 г. Мастак Іпаліт Інка [1273, с. 85].

Але Напалеон хутка ўпэўніўся, што Літва не збярэ і паловы той колькасці войскаў, таму палічыў за лепшае мець хоць бы 15 тыс. самаахвярных беларусаў і загадаў неадкладна сфарміраваць Беларускія палкі.

Стварэнне нават такой нязначнай колькасці ваеннай сілы стала надта складанай справай для Урада ВКЛ, бо на гэтыя мэты Урадавая Камісія не мела ніякага капіталу, таму кн. Сапега быў накіраваны ў якасці ўпаўнаважанага да Напалеона з просьбай аб выдзяленні ім субсідый коштам 4 млн. франкаў для фарміравання 9-ці беларускіх палкоў.

Напалеон быў уражаны такой просьбай і запытаў аб тым, куды дзеўся патрыятызм ліцвінскіх грамадзян, калі рэч ідзе аб вызваленні іх Айчыны, на што кн. Сапега саромеючыся адказаў, што на Літве зямлі шляхта мае шмат, але наяўных грошай зусім не мае.

Напалеон пагадзіўся з довадамі кн. Сапегі і выдзеліў Літоўскай казне ссуду ў 400 тыс. франкаў, што ў 10 разоў менш, чым яго прасілі.

З цягам часу пасіўныя паводзіны шырокіх пластоў беларускай грамадскасці пачалі трывожыць французскіх маршалаў і нават самога Напалеона. Ён пачаў параўноўваць энтузіязм грамадскасці Варшавы і Вільні, які праяўляўся не на карысць Беларусі.

У свіце Напалеона не даставала выдатных прадстаўнікоў беларускай магнатэрыі, шмат якіх апынуліся ў стане Аляксандра І, а тыя, што дзейнічалі побач з ім, былі нерашучымі, часам азіраючыся на Санкт-Пецярбург.

Не маючы часу, Напалеон не паспеў глыбока ўнікнуць у сітуацыю на Літве, вызначыць яе слабыя бакі, таму паспешліва зрабіў высновы, што прычынай літоўскай пасіўнасці з'яўляюцца злыя помыслы беларусаў і козні здраднікаў Агінскага,Ваўжэцкага і інш.

Ва ўсялякім выпадку ягоныя адносіны да беларусаў змяніліся ў горшы бок з моманту прыбыцця яго ў Вільню, дзе выказаў незадаволенасць дзейнасцю Генеральнай Канфедэрацыі, а яшчэ больш ягоным паслом у Варшаве Прадтам і архіепіскапам Мяхлінскім.

Напалеон лічыў, што Генеральная Канфедэрацыя замест таго, каб быць яркім вогнішчам у сваёй краіне і ствараць у расійскіх правінцыях успламянёную сітуацыю, падобную ў Іспаніі на той час, калі там знаходзілася французская армія, Варшаўская Канфедэрацыя разыгрывае нейкі спектакль з няўдалых актораў. Таму прыбыццё ў Вільню дэлегацыі ад Варшаўскай Канфедэрацыі з просьбай дапамагчы ў арганізацыі дзейнасці Канфедэрацыі нічога добрага не прадракала.

Незадаволены дзейнасцю Прадта і Канфедэрацыі, а таксама сумнымі настроямі беларусаў, Напалеон песімістычна заявіў, што палякі і ліцвіны на Літве мала падобны на сваіх братоў і сясцёр з Вялікапольшчы, таму вырашэнне польскага пытання застаецца адкрытым. Гэты песімізм імператара павялічваўся тым, што прайшло ўжо 3 нядзелі пасля пачатку вайны, а рашучай перамогі над расійскімі войскамі пакуль не атрымана. Ягоныя войскі літаральна памяншаюцца ў выніку хваробаў, дэзерцірства і недахопу правіянту ў краіне, якую ён прыйшоў вызваліць.

Затрымка Напалеона ў Вільні да 16 ліпеня адбылася не толькі па прычыне ўзніклых праблем забеспячэння ягонай арміі правіянтам і нізкай у ёй дысцыпліны салдат.

Справа ў тым, што Напалеон увесь гэты час вельмі чакаў пасланнікаў ад імператара Аляксандра І, якія, на ягоную думку, павінны былі прынесці доўгачаканую просьбу расійскага імператара аб заключэнні міра. Нават былі распрацаваны і надрукаваны тэксты пагадненняў з Расіяй. Але місія расійскага міністра паліцыі А. Балашова развянчала спадзяванні Напалеона на заключэнне мірнай дамовы з Аляксандрам І.

Праз два дні пасля ўрачыстасцей, праведзеных у гонар Акта далучэння ВКЛ да Генеральнай Канфедэрацыі Варшаўскага герцагства, апоўначы, з 15 на 16 ліпеня 1812 г., Напалеон пакінуў Вільню і накіраваўся да сваіх войскаў.


*Kaietan Kozmian, Sekretarz Konfederacyi Generalney Królestwa Polskiego.*

RADA KONFEDERACYI GRODZIEŃSKIEY

*Do obywatelów powiatu Sokolskiego i Grodzieńskiego.*

*Polacy!* Dopełniła się miara nieszczęść naszych. Wybiła godzina wyzwolenia naszego. Zniknął nieprzyiaciel: na iego mieyscu widziemy niezwyciężone hufce Wielkiego NAPOLEONA. Widziemy braci naszych, tych walecznych rycerzów z ratunkiem nam spieszących. Spękały się kaydany, które przez lat 18 nas krępowały. Czas powstać z letargu, w którym pogrążyła nas tyrania uzurpatorów: czas pokazać światu, żesmy polacy, że uchowaliśmy tego ducha narodowego, który ożywiał naszych przodków. W tym celu wielka część współobywatelów skonfederowała się. Rada Konfederacyi kommunikuie ten akt powiatom swoim i Sokolskiemu, w imieniu oyczyzny wzywa każdego polaka, każdego mieszkańca ziemi polskiey przystąpić do niey natychmiast. Dla osiągnienia tego ważnego celu, rada otworzyła akt konfederacyi, w którym każdy może zapisać imię. *Polacy!* śpieszcie się łączyć w iedno ciało! Nie iest to akt, który musieliście kiedyś podpisywać drżącą ręką pod mieczem tyranów naszych; iest to dzieło, owoc zupełney wolności, dowód naszego uczucia i rękoymia naszey wolności. Jesteśmy narodem: byt Polski niezawodny. Potęga NAPOLEONA i męstwo polaków są pewną gwarancyą — *Polacy!* Trzeba wam stać się godnemi tego szczęścia. Zapomnimy na przeszłość, poświęćmy nasze dobra, uzbroymy nasze dłonie; bądźmy gotowi do uczynienia wszystkiego tego, czego okoliczności i dobro narodu wymaga. Dopełniaymy obywatelskich powinności: niech młodź bieżże się do oręża; niech rolnik z pługiem pracuie, niech każdy odpowie swemu przeznaczeniu, niech nierząd mieysca niema w naszym połączeniu się, niech każdy pełni swoię powinność. Słuchaymy praw i zwierzchności. Temi drogami doydziemy do chwały — Rada zamyka tę odezwę w przekonaniu, że mówi do obywatelów, z których każdy iest prawdziwym polakiem, i przeto mocą złożoney w ręku swoim władzy, wzywa, i rozkazuie bydź iey posłusznemi.

Marszałek Konfederacyi Grodzien. *Pancerzyński.*

Niżey podpisani obywatele, z urzędu obecnego uwolnieni, zebraliśmy się w Białymstoku, stosownie do akta Seymu Warszawskiego, zamierzaiącego po konfederacyi powrócenia Polski w zupełne połączenie w iedno ciało polityczne pod Naypotężnieyszą tarczą NAPOLEONA W. ...

2

## Глава 34

# Патрыятызм Віленскай моладзі

Энтузіязм, які праявіўся ў беларусаў у момант уступлення французскіх войскаў на тэрыторыю беларускіх губерняў, быў кароткатэрміновым. Толькі беларуская моладзь, у асноўным універсітэцкая, была напоўнена гарачым ахвярным патрыятызмам.

На ўрачыстасцях з нагоды ўзнаўлення ўніі ВКЛ і Польшчы менавіта ад моладзі выйшаў заклік аб стварэнні адзінай дзяржаўнасці і прызнанні незаконным акт захопу краіны Расійскай імперыяй.

Адпаведны дакумент (Акт), які быў напісаны ў прысутнасці польскіх і французскіх афіцэраў і генералаў у кафедральным саборы Вільні і замацаваны 10-цю з лішнім тысячамі подпісаў, з'яўляўся быццам адказам на стварэнне ў папярэдні дзень Генеральнай Канфедэрацыі Польскага герцагства.

На наступны дзень гэты Акт быў перададзены кн. Сапегам Напалеону. Тым часам універсітэцкая моладзь, жадаючы прыняць самы актыўны ўдзел у справе аднаўлення Айчыны, сабралася на тэрыторыі ўніверсітэцкага двара, каб дамовіцца, якім чынам яно зможа найбольш эфектыўна дапамагчы вялікай справе. У выніку было прынята рашэнне аб стварэнні студэнцкага легіёна для арміі Напалеона, накіраваць з асяродка Віленскай моладзі эмісараў у розныя куткі Беларусі, каб ускалыхнуць усю краіну і ўзбудзіць патрыятычныя настроі на аднаўленне краіны па ўзору Вялікапольшчы ў 1806 г.

Такі падыход да выхавання моладзі, прапанаваны імператару рэктарам Віленскага ўніверсітэта Я. Снядэцкім і маршалам Даву, быў начыста і катэгарычна адкінуты Напалеонам, які не прымаў ідэі анархічных апалчэнняў моладзі, асабліва ў Польшчы і Літве. Ён прасіў данесці да свядомасці беларускай моладзі, што з радасцю вітае іх энтузіязм па ўступленні на шлях пазнанскіх і варшаўскіх братоў, але ён не жадае стварэння асобных анархісцкіх атрадаў.

Па ягоным меркаванні, створаны Урад Літвы з надзейных і падрыхтаваных да палітыкі людзей вызваляе моладзь ад клопатаў аб грамадскіх справах і таму ён, імператар, падумае больш глыбей над маладзёжнай праблемай у Беларусі, а цяпер, калі ствараюцца новыя літоўскія палкі, моладзь павінна знайсці сваё пачэснае месца і поле дзейнасці для служэння Айчыне [1103].

Тым не менш такі адказ Напалеона не астудзіў успламянёнасць моладзі Вільні, толькі змяніў кірунак яе дзейнасці. У выніку студэнцкая моладзь з ахвотаю ўступала ў фарміруемы 3-ці лёгкаконны полк Літоўскай гвардыі пад камандаваннем ген. Я. Канопкі і 18-ты пяхотны полк на чале з А. Хадкевічам, а таксама папаўняла палкі Варшаўскага герцагства, з якімі шчодра пралівала кроў на палях сражэнняў Еўропы ў 1812-1815 гг.



Генерал Ян Канопка (1775-1815), брыгадны генерал, узяты ў палон у баі пад Слонімам.

Бранікоўскі Мікалай Дэадатус Каятан (1767-1817), гр. Опельн, брыгадны ген., з 1812 г. камандзір 2-й брыгады ў дывізіі фр. ген. Клапарэда «Вялікай арміі» Напалеона, з 25 чэрвеня (7 ліпеня) 1812 г. генерал-губернатар Мінска, з лютага 1813 г. камандзір брыгады ў дывізіі французскага ген. Жырара, з сакавіка 1813 г. камандзір 2-й брыгады 6-й дывізіі ген. Віаля 2-га корпуса, узяты ў палон пры Лейпцыгу 7 (19 ) кастрычніка 1813 г. Гравюра паводле мастака Э. Квэндзі. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

Першая старонка Віленскай газеты «Kuryer Litewski» № 52 ад 15 ліпеня 1812 г. (па ст. стылі) са зваротам сесіі Камісіі Часовага ўрада ВКЛ ад 6 ліпеня 1812 г. да ўсіх жыхароў беларускіх губерняў аб зацвярджэнні Дэкрэтам (загадам) Напалеона I ад 1 ліпеня 1812 г. Камісіі Часовага ўрада ВКЛ і тым самым аднаўленні дзяржаўнасці Вялікага Княства Літоўскага. Са збораў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта. Фота аўтара, 2011 г.



1



Nro 52.

KURYER LITEWSKI

W WILNIE DNIA 15 LIPCA N.S. 1812 ROKU.

TURCYA

LITWA

CESARSTWO FRANCUZKIE.

2

Калі ацэньваць такі падыход да спраў моладзі, то відавочна, што некалькі тысяч беларускай моладзі мала што значылі ў кампаніі 1812 г., бо больш карысней магла б быць яе дзейнасць у сябе на радзіме, каб мацней ускалыхнуць беларускае грамадства ад летаргічнай спячкі ў такі важны палітычны момант для сваёй краіны.

Паводле газеты «Літоўскі кур'ер», нават школьная моладзь ВКЛ правяла баі і ўратавала для французскіх войскаў некалькі складоў з правіянтам.

Камісія Часовага ўраду ВКЛ прыдавала вялікае значэнне маладзёжнаму руху. У першым звароце да шляхецкай моладзі Камісія заклікала іх уступаць у фарміруемы гвардзейскі полк, падкрэсліваючы, што кожны малады ліцвін павінен быць не толькі сведкам незлічоных перамог французскага імператара, але і ўдзячным яму за раскаванне кандалоў, вяртанне палітычнай самастойнасці і свабоды Айчыны, а гэта павінна быць аплочана не чым іншым, як асабістым служэннем яму кожнага маладога чалавека [798].

У паўторным звароце беларускія ўлады прапанавалі павятовым падпрэфектам накіраваць у беларускія палкі 1000 маладых хлопцаў, каб яны апраўдалі свой патрыятызм перад «Найвялікшым з Манархаў, Вялікім Напалеонам» [234].

# Глава 35
# Арганізацыя ўлады ў Гродне і Беластоку

Тым часам расійскія войскі без якога-небудзь сур'ёзнага супраціўлення адступалі ў глыбіню беларускіх губерняў. Гродна было занята французамі 29 чэрвеня. Вайсковая брыгада ген. Платава пасля кароткай сутычкі казакаў з уланамі гр. Тышкевіча адступіла, спаліўшы мост праз Нёман, і імкліва падалася на Мехаўшчыну для злучэння з асноўнай расійскай арміяй.

Пасля кароткай кананады і ўладкавання маста ген. Тышкевіч увайшоў у Гродна. Следам за ім перайшлі Нёман V і VIII карпусы кн. Ю. Панятоўскага і Вестфальскага караля Жэрома Банапарта.

Насельніцтва шматлікімі натоўпамі сустракала войскі Напалеона, асабліва горача віталі гараджане камандуючых кн. Панятоўскага і Ж. Банапарта, якому дэлегацыя паднесла ключы ад горада.

Гебернатарам Гродна быў спачатку прызначаны ген. Ражнецкі, затым Камянецкі.

У Гродне Ю. Панятоўскі атрымаў вестку аб стварэнні 28 чэрвеня ў Варшаве Генеральнай Канфедэрацыі Польскага герцагства (княства) і прызначэнні ягонай асобы на пасаду рэгента. У сваю чаргу Панятоўскі неадкладна заявіў аб згодзе быць рэгентам і абвясціў, што ён і ўвесь ягоны пяты корпус далучаецца да Канфедэрацыі, што ён абавязаны адпомсціць расіянам за мінулыя здзекі і знявагі над ягонай краінай.

Панятоўскі стаў сведкай сходу шляхты Гродзенскага павета на чале з маршалкам Панцажынскім, на якім з вялікім натхненнем 3 ліпеня было прынята рашэнне аб далучэнні гродзенцаў да Варшаўскай канфедэрацыі і фарміраванні за свой кошт разам з Сакульскім паветам аднаго пяхотнага палка.

Далучэнне гродзенцаў да Варшаўскай канфедэрацыі было адным з першых актаў на беларускай зямлі. Маршалак Панцажынскі, які пры расійскай імперыі быў ініцыятарам пісьмовай удзячнасці ад гродзенскай шляхты губернатару Ланскому, з'яўляўся шчырым прыхільнікам дзейнасці М.К. Агінскага па аднаўленні ВКЛ пад апекай Аляксандра I, цяпер выступаў як старанны прыхільнік напалеонаўскіх новаўвядзенняў на беларускіх землях, за што быў аднагалосна абраны маршалкам Гродзенскай канфедэрацыі.

Тым часам камандуючы VIII корпусам «Вялікай арміі» Вестфальскі кароль, родны брат Напалеона Жэром Банапарт, знаходзіўся ў Гродне аж да 4 ліпеня. За гэты час ён пастаянна наведваў шляхецкія балы і народныя гулянні, якія былі арганізаваны ў ягоны гонар, прымаў гарачыя ванны ў віне і не спяшаўся выконваць загады Напалеона аб разгортванні баявых аперацый супраць расійскіх войскаў, чакаў, пакуль спыніцца непагадзь з ліўнямі і прасохнуць дарогі.

Гэты час быў незваротна страчаны, а маруднасць напалеонаўскага маршала дала

магчымасць ген. Баграціёну вырвацца з пасткі, якую ўмела расставіў яму Напалеон.

Прызначаны Жэромам Банапартам на пасаду гродзенскага губернатара ген. Ражнецкі адразу прыступіў да фарміравання ўрада Гродзенскай губерні, якім ажыццяўляў сваё кіраўніцтва Савет Канфедэрацыі з 12 чалавек на чале з маршалкам Панцажынскім. Савет Канфедэрацыі меў 4 аддзелы: харчу, паліцыі, казначэйскі і палітычны. Яму былі падначалены Канфедэрацыі, якія ствараліся ў паветах па меры прасоўвання французскіх войскаў у глыбіню беларускіх губерняў.

Але такая структура ўлады праіснавала нядоўга, бо 17 ліпеня ў Гродна прыбыў упаўнаважаны Урадавай Камісіяй ВКЛ кн. Антоні Гедройц, які правёў закрыццё Савета Канфедэрацыі ў Гродне і паветах і адкрыў Адміністрацыйную Палату, згодна з дзённым Загадам Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г.

Членамі Палаты сталі маршалак шляхты Брэсцкага павета Я. Нямцэвіч, палкоўнік І. Ляхніцкі і былы маршалак Гродзенскай губерні Л. Панцажынскі.

Першае пасяджэнне Адміністрацыйнай Палаты ў Гродне адбылося 26 ліпеня ў прысутнасці яе членаў І. Ляхніцкага, Панцажынскага і Т. Андрайковіча, які замяняў не прысутнага на гэты час Я. Нямцэвіча.

У Беластоку членамі Адміністрацыйнай Палаты былі прызначаны мясцовы маршалак Віктар Грондзкі, які праславіўся ў 1808 г. сваімі выступленнямі за адмену прыгонніцтва ў Беларусі, Міхаіл Дзяконскі, які дапамог застацца сфарміраванаму войску ў Вільні, і кіраўнік трыбунала Міхаіл Дашкевіч. Але Грондзкі і Дашкевіч былі ўвезены ў глыбіню Расіі разам з адступаючымі войскамі Аляксандра І. Замест іх членамі беластоцкай Адміністрацыі былі прызначаны Загадам Напалеона Ян Непамуцын Свідзінскі і Міхаіл Грабоўскі.



Nro 1.

ZA POZWOLENIEM ZWIERZCHNOŚCI

TYMCZASOWA

GAZETA MINSKA

w Mińsku dnia 18 Lipca n. s. 1812 roku.

*Z Mińska 8 Lipca.* Niezwyciężone Woyska W. NAPOLEONA Cesarza Francuzow, Króla Włoskiego, Wybawcy Polski, weszły dzisiay do Miasta naszego. Dzień ten w dziejach pamiętny wyprowadził naszą Prowincyą z iarzma niewolniczego i wrócił nas Oyczyznie. Po opuszczeniu przez Rząd Rossyyski Miasta, pozostali urzędnicy Polacy z wyborow Obywatelskich, iako to: JW. Kamiński Prezydent 1go departamentu, JW. Chodźko 2go departamentu Sądow Głównych, JW. Ignacy Moniuszko Marszałek Powiatowy Miński zastępuiący mieysce Gubernskiego, wespół z Magistratem Miasta Mińska uformowawszy pod prezydencyą JW. Kamińskiego Radę tymczasową na dniu 6 Lipca i strzegąc w oney tak całości Magazynow, iako też bespieczeństwa całego Miasta, w dniu dzisieyszym za odebraną wiadomością, iż JO Marszałek Państwa Francuzkiego Xiąże d' Averstadt i d' Eckmühl zbliża się do Miasta naszego na czele niezwyciężonych Woysk Francuzkich, natychmiast rozpoczęła potrzebne do przyięcia tak wielkiego Męża, przygotowania. JW. Prezydent Kamiński wespoł z JW. Marszałkiem Moniuszką udali się o dwie Mile za Miasto dla przyięcia Go, a JW. Prezydent Chodźko z JO. Xięciem Michałem Puzyną Podkomorzym Mińskim i JW. Sierakowskim spotkali za rogatką Rakowską ofiaruiąc chleb i sól Nayiaśnieyszemu i Naypotężnieyszemu [illegible] Wielkiemu NAPOLEONOWI przez ręce JO Xcia d' Eckmühl, który przyimuiący łaskawie Delegowanych, oświadczył onym w imieniu Nayiaśnieyszego Cesarza: iż niezwyciężone Woysko Jego przybyło dla zwrócenia Polakom Oyczyzny. i albo ogromne onych zastępy okryią tę ziemię trupami swemi, albo całość Oyczyzny naszey wróconą, i wpływ Rossyyski na interesa Europy ukrócony bydź musi. -- Wieżdżaiącego do Miasta JO. Xięcia otaczał tłum ludzi, a Magistrat z Cechami swoiemi witał Go podścielaniem chorągwi pod stopy Zwycięzcy. Gdy przybył JO. Xiąże ze Sztabem swoim na plac wysokiego rynku, zastąpiły Mu drogę Obywatelki ścielaiąc ona kwiatami. Powstały radośne okrzyki ludzi: *Niech żyie NAPOLEON zbawca Polski.* Muzyka mieyska z ganku Ratuszowego przegrywała tak radośnemu obchodowi.

*Dnia 13 tegoż Miesiąca.* Za dekretem JO Xcia d' Eckmühl ustanowiona została Kommissya tymczasowego Rządu Prowincyi Mińskiey i wyznaczone do oney Osoby, która na dniu 14 pod prezydencyą JW. Barbenegre Jenerała Brygady Woysk Francuzkich tymczasowego Gubernatora Mińskiego otworzyła pierwsze posiedzenie swoie następną Odezwą, wszystkich Obywatelów o tak szczęśliwey uwiadamiaiąc zmianie: „Obywatele Polacy! Godzina uszczęśliwienia naszego wybiła. Opieką Nayswiększego z Monarchów i waleczności niezwyciężonych woysk Jego, zostałemy powróceni Oyczyznie. Rząd tymczasowy za rozkazem JO. Xcia d' Eckmühl Marszałka Państwa Francuzkiego ustanowiony, ogłasza wam onego prawidła i podaie wiadomości waszey tak radosną dla serca Polaka okoliczność, spodziewaiąc się że każdy dobry Polak wspierać będzie Jego działania dążące do szczęścia Oyczyzny [illegible] wypełnienia nadziei Wielkiego NAPOLEONA wspaniałego Wybawiciela."

1. Жэром (Іеронім) Банапарт (1784-1860), малодшы брат імп. Напалеона І, кароль Вестфальскі, у 1812 г. камандзір 8-га вестфальскага корпуса «Вялікай арміі», 2 (14) ліпеня пакінуў свой пост і з'ехаў у Касэль, у 1815 г. вярнуўся на ваенную службу і камандаваў 6-й пяхотнай дывізіяй у 2-м корпусе ген. Рэйля [1013, с. 12].

2. Першая старонка «Часовай газеты Мінска» («Tymczasowa gazeta Mińska») № 1 ад 18 ліпеня 1812 г. (па ст. стылі) з артыкулам аб уступленні войскаў Напалеона Банапарта ў Мінск і зацвярджэнні французскім імператарам Камісіі Часовага ўрада Вялікага Княства. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.





Канстанцін Паўлавіч, вялікі князь, родны брат імператара Аляксандра I, царскі намеснік у Варшаве [1273, с. 31].

Жана Грудзінская, жонка Канстанціна Паўлавіча, вялікага князя [1273, с. 31].

На пасаду французскага інтэнданта ў Адміністрацыйнай Палаце Гродзенскага дэпартамента быў прызначаны Хасатон, а губернатарам у Гродне — Ле Брун, у Беластоку — Фэрыер.

Губернатары выконвалі абавязкі камандуючых французскімі і беларускімі войскамі, якія знаходзіліся на тэрыторыі дэпартаментаў і забяспечвалі бяспеку працы паліцыі.

У гэтых мэтах губернатар дэпартамента павінен быў сфарміраваць тры рухомыя калоны па 100 чалавек пяхоты для ачышчэння краю ад рабаўнікоў і бадзяг, задушэння сялянскіх хваляванняў і арганізацыі паштовай сувязі, збірання адстаўшых салдат і фарміравання з іх маршавых батальёнаў, уключэння ў іх склад вылечаных у шпіталях ваенных.

Адносіны паміж членамі Адміністрацыйных Палат і інтэндантамі былі напружанымі, часта ўзнікалі спрэчкі. Напрыклад, у Гродне пасяджэнні часам ператтвараліся ў непрымірымыя канфлікты, а адзін раз нястрыманы інтэндант Чафсарон выклікаў ваенных для пакарання нязгодных членаў Палаты, рваў пратаколы, сілай забіраў грошы з касы дэпартамента і г.д.

Кіраўніком муніцыпальнай Рады ў Гродне стаў Мучынскі, яе членамі — Станіслаў Задарноўскі, Станіслаў Крыдаль, Ян Сакалоўскі і інш.

# Глава 36
# Міншчына сустракае «Вялікую армію»

Войскі маршала Даву ўвайшлі ў Мінск 8 ліпеня 1812 г. Гэтую падзею «Часовая газета Мінска» на наступны дзень адлюстравала наступным чынам: «Непераможныя атрады Імператара французаў, Італьянскага караля і Збавіцеля Польшчы Вялікага Напалеона сёння ўвайшлі ў наш горад. У гэты гістарычны дзень наша правінцыя вызвалена ад рабскага ярма і вернута Айчыне...» [1308].

Урачыстую сустрэчу маршала Даву на падыходзе да горада правялі старшыня Часовага Савета Л. Каменскі і маршалак І. Манюшка ў акружэнні велізарнага натоўпу мінчан. За некалькі дзён да гэтага расійскія войскі і служачыя спешна эвакуіравалі дзяржаўныя дакументы, касы, архівы ў Бабруйск і самі накіраваліся ў больш бяспечныя месцы.

Служачыя, якія засталіся ў Мінску, арганізавалі Часовы Савет, які ўзначаліў старшыня Галоўнага суда Людвік Каменскі. У Савет увайшлі Ян Ходзька, член таго ж суда, павятовы маршалак Ігнацій Манюшка і члены магістрата.



Прадпісанне П. І. Баграціёна бабруйскаму маршалку аб арганізацыі часовага ваеннага шпіталю ў Бабруйску. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Фота аўтара, 2012 г.

Дзякуючы клопатам Савета, былі ўратаваны ад падпалу і пажару пякарні на 100 тыс. рацыёнаў у дзень, шпітальнае абсталяванне, вайсковыя склады з 3600 цэнтнерамі мукі, 300 цн. крупы, 22 бочкамі аўса, 6000 цн. сена, 22 куф. водкі, 1500 фунт. пораху.

Згодна з дзённым загадам Напалеона ад 1 ліпеня, часовы Савет змяніў Часовы ўрад, аб чым «Часовая газета Мінска» напышліва пісала: «Прабіў час нашага шчасця. Пад абаронай Найвялікшага з манархаў, ягоных доблесных і непераможных войскаў мы вернуты Айчыне. Часовы ўрад спадзяецца, што кожны добры паляк і ліцвін будуць падтрымліваць яго дзейнасць на карысць Айчыны, у апраўданне спадзяванняў Вялікага Напалеона, нашага цудоўнага Вызваліцеля» [1308].

У склад Камісіі Часовага ўрада ў Мінску ўвайшлі прэзідэнт Міхаіл Пузына, віцэпрэзідэнт Ігнацій Манюшка, члены: Людвік Каменскі, Ян Ходзька, Атаназы Прушынскі, Вінцэнт Валадкевіч, Вінцэнт Гецэвіч, А. Ваньковіч, Ксаверый Ліпскі і гр. Караль Чапскі.

Французскім камісарам пры Мінскай Камісіі Часовага ўрада быў прызначаны ген. Томас, а ваенным губернатарам ген. Варбанегрэ.

Першай справай Камісіі стала стварэнне Адміністрацыйных Камісій у Барысаўскім, Ігуменскім, Мінскім і Вілейскім раёнах.

Але 15 ліпеня ў Мінск прыбыў у якасці губернатара ген. М. Бранікоўскі замест ген. Варбанегрэ, які, паводле загаду Напалеона ад 1 ліпеня 1812 г., разам з імператарскім інтэндантам Сальнерам ля Крэтэле, Юзафам Валадкевічам, Адамам Гінтэтам і Ксаверыем Абуховічам пераўтварыў Камісію Часовага ўрада ў Адміністацыйную Палату Мінскага дэпартамента, членамі якой сталі вышэй згаданыя асобы.

Такім чынам, за адносна кароткі час тройчы мяняліся характар і склад адміністрацыйнай улады ў нядаўняй Мінскай губерні.

У лістападзе 1812 г. ва Урадавую Камісію ВКЛ звярнулася спецыяльная дэлегацыя грамадзян Аршанскага павета, якая прасіла аб далучэнні іх да Мінскага дэпартамента, сцвярджаючы, што аршанцы заўжды належалі да Мінскага ваяводства і толькі сілай былі далучаны да Магілёўскай губерні пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай.

Адначасова дэлегацыя прывезла ў казну ВКЛ грашовыя сродкі ў суме больш за 17,6 тыс. злотых і прасіла дэ Басана і Біньёна аб хадайніцтве перад Напалеонам у задавальненні просьбы аршанскіх грамадзян.

Хадайніцтва верагодна не папала ў рукі Напалеона, бо ягоная армія знаходзілася на той час у стане агульнага адступлення.

На пасаду французскага інтэнданта ў Адміністрацыйнай Палаце Мінскага дэпартамента быў прызначаны Шауль Ла Кратэле, у Беластоцкім — Кахелі.

Мінчанам пашанцавала больш, бо Шаўль імкнуўся глыбей унікнуць у патрэбы людзей, нават сам унёс асабістыя ахвяраванні для паляпшэння гарадскіх шпіталяў. Ягоныя клопаты адзначаў М. К. Агінскі, які адмоўна ставіўся да французаў на Беларусі, але ў адносінах да Шауля праяўляў сімпатыі і павагу.

Мэрам Мінска стаў Ксаверый Ліпскі, членамі муніцыпальнай Рады былі прызначаны ад шляхты Міхаіл Пузына, Тадэвуш Свентажыцкі, Міхаіл Пшэздзецкі, Францішак Вержбіцкі, Ксаверый Рыльскі, гараджане Мікалай Гайдукевіч, Юзаф Важынскі, Марсэль Таранкевіч, Траян Ключынскі, Герман Баброўскі, ад духавенства — мінскі канонік Садкоўскі і лютэранскі пастар Карштэт.

Ад'юнктамі мэра сталі Аляксандр Садкоўскі і Адам Макарэвіч.

Экспазіцыя, прысвечаная вайне 1812 года. Са збораў Брэсцкага краязнаўчага музея.

# Глава 37
# Дзеянні Пінскай шляхты

Даведаўшыся аб заняцці Кобрына аўстрыйскім корпусам кн. Шварцэнберга, жыхары Пінска разам з мясцовымі сялянамі, узяўшы ў рукі зброю, заявілі расійскім уладам, што не дапусцяць знішчэння і вывазу з горада нарыхтаванага ў велізарнай колькасці правіянту.

Энергічная пазіцыя жыхароў, прыбліжэнне аўстрыйскіх атрадаў прымусілі расійскія ўлады Пінска адмовіцца ад вар'яцкага намеру знішчыць склады і імкліва пакінулі горад. У выніку ў дзяржаўнай казне засталіся некранутымі 4 тыс. рублёў серабром, 46 тыс. асігнацыямі, на складах — 2 млн. цэнтнераў солі, 100 тыс. ц мукі і сухароў, некалькі тыс. гарнцаў водкі, 480 валоў. Усё гэта было ацэнена ў 5 млн злотых і ўрачыста перададзена ў распараджэнне ўступіўшых у Пінск аўстрыйскіх атрадаў.

Галоўная заслуга ўратавання Пінскіх багацейшых складоў належыць Пінскаму Камітэту па пастаўках для арміі ў складзе маршалка Скірмунта, кн. Караля Любецкага, гараднічага Дэлінхаўзена і інш. служачых з мясцовай шляхты. Самым актыўным з'яўляўся кн. Любецкі, які заняўся ўзбраеннем насельніцтва і аховай складоў.

У сутычках з атрадамі ген. Тармасава храбрасць праявілі мясцовыя партызанскія фарміраванні на чале з шляхціцамі Твардоўскім і Фабіянам Хорнічам, якія адбілі правіянт у атрада расійскіх уланаў пад Пінскам.



Помнік 1812 г. у Пінску. Фота аўтара, 2012 г.

# Глава 38
# Стварэнне ўладных структур у Віцебску

У адпаведнасці з Загадам Напалеона ад 6 жніўня 1812 г. у Віцебску была створана Адміністрацыйная Камісія, якая складалася з пяці членаў. У яе склад увайшлі кн. Павел Сапега, кн. Людвік Радзівіл, былы губернскі маршалак Юзаф Шадурскі, Міхаіл Вайзенгоф, губернскі маршалак гр. Борх. Генеральным сакратаром камісіі быў прызначаны Ян Шчыт, інтэндантам — маркіз дэ Пастарэ, які пазней у эпоху другой імперыі стане аўтарам каштоўных мемуараў пра час ягонага прабывання на Белай Русі.

Камісія прыступіла да вырашэння фінансавых праблем, арганізацыі нарыхтовак правіянту, стварэння жандармерыі, якая складалася з двух эскадронаў па 106 чалавек у кожным, раскватэраванай у Віцебску, стварэннем гарадскога муніцыпалітэта ў складзе мэра, двух ад'юнктаў і гарадской рады з шасці членаў.

Мэрам Віцебска стаў Рамуальд Багамолец, у мінулым дэпутат сейма, ад'юнктамі сталі віцебскі падкаморы Жаба і кіраўнік магістрата Ляшко, членамі гарадской рады — Пракоп Бібко, былы начальнік паліцыі Красоўскі, настаўнікі гімназіі Рыхлоўскі і Кандратовіч і асэсары павятовай паліцыі Збожак і Лапо.

На чале павятовай адміністрацыі было пастаўлена 12 падпрэфектаў, у тым ліку ў Віцебску С. Багамолец, у Полацку — Ю. Рыпінскі, у Дынабургу — Ф. Моль, у Дрысе — Т. Свалынскі, у Жэшыцы — Т. Вайсенгоф, у Люсіне — М. Карніцкі, у Свежы — Л. Цыяноўскі, у Невелі — І. Хжаноўскі, у Веліжы — Я. Балычоў, у Гарадку — Ю. Жаба, у Суражы — Любашчынскі, у Лепелі — Грыбніцкі.

Спачатку губернатарам Віцебска быў празначаны ген. А.Ф.М. Шарпанцье. Паводле выказванняў сучаснікаў, гэта быў адзін з лепшых французскіх афіцэраў арміі і дзелавітых французскіх адміністратараў. Пазней ён быў пераведзены ў Смаленск, а на ягонае месца прызначаны барон Ф.Р. Пужэ.

Адміністрацыйная камісія ў Віцебску не адрознівалася руплівасцю і надзёнными клопатамі. Яе старшыня Пастарэ (Pastoret) пазней у сваіх успамінах даволі негатыўна прадстаўляе грамадскасць Белай Русі, папракаючы яе ў эгаізме, адсутнасці патрыятычных пачуццяў і самаахвярнасці, інтарэса да свабоды, але звыкласці да няволі.

Акрамя таго, Пастарэ скардзіцца, што не меў ад Адміністрацыйнай камісіі ніякай дапамогі, што яе члены, даведаўшыся аб набліжэнні да Віцебска расійскіх войскаў, разбегліся хто куды, пакінуўшы яго аднаго ў чужым для яго краі.

Вядома, што і Напалеон не быў прыхільны да жыхароў Белай Русі, а калі прымаў дэлегацыю з Віцебска, з горыччу выказаў: «Бачу, што тут ужо няма палякаў, што тут ужо край не польскі» [1026].



Прадметы амуніцыі салдат французскай арміі 1808-1815 гг. Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў. Фота аўтара, 2011 г.



Крыжыкі, абразкі і іншыя хрысціянскія рэчы асабістага ўжывання салдат расійскай арміі 1812 г. Са збораў прыватных калекцый А. А. Мачульскага (г. Віцебск) і А. Рэентовіча (г. Барысаў). Экспазіцыя 1812 года. Віцебскі мастацкі музей 1812 года ў артэфактах [08-03а АС].

# Глава 39
# Магілёўшчына ў 1812 годзе

Пасля заняцця Магілёва французамі марш. Даву стварыў на Магілёўшчыне, у склад якой тады ўваходзілі землі Гомельшчыны, Часовы ўрад на чале з павятовым маршалкам Я. Макавецкім, кіраўніком другога дэпартамента Вярхоўнага суда Е. Луцкіным і капыльскім маршалкам М. Нітаслаўскім. Гэты ўрад Загадам Напалеона ад 12 верасня 1812 г. быў ператорваны ў Адміністрацыйную Камісію ў складзе Е. Луцкіна, Я. Галынскага, рагачоўскага маршалка Пузыны, М. Цеханавецкага і гр. Стратынскага.

Абавязкі Генеральнага сакратара Камісіі выконваў Мількевіч. Пазней Пузына і Струтынскі былі заменены на Макавецкага і Нітаслаўскага.

Другога верасня 1812 г. ад Магілёўскай губерні была накіравана дэлегацыя да Напалеона, у склад якой увайшлі Прозар, яшчэ не праінфармаваны аб прызначэнні яго членам Літоўскага ўрада, Кроер, палкоўнік Кіркор, ротмістры Сабанскі і Гардзілоўскі.

Дэпутацыя Магілёўшчыны застала Напалеона ў Смаленску, дзе Прозар вітаў імператара ад імя насельніцтва Белай Русі.

У Магілёве быў сфарміраваны муніцыпалітэт, мэрам горада стаў Д. Ванцлавовіч, яго ад'юнктамі прызначаны былы падкаморы Ю. Дамброўскі і павятовы суддзя Коўзан.

Магілёўская губерня была падзелена на 11 падпрэфектур, кіраўнікамі якіх сталі: у Магілёўскім павеце — павятовы маршалак Макавецкі, у Капыльскім — Нітаслаўскі, у Сенненскім — Эрдман, у Аршанскім — падкаморы Васілеўскі, у Чэрыкаўскім — павятовы маршалак А. Быкоўскі, у Чавусах — павятовы маршалак Цеханавецкі, у Беліцы — павятовы маршалак Сянажэнскі, у Мсціславе — павятовы маршалак А. Галынскі, у Клімавічах — павятовы маршалак М. Галынскі.

Тут былі сфарміраваны аддзел жандармерыі з 70 чалавек і гвардыя апалчэнцаў, у якую ўступіла каля 400 чалавек.

Магілёўскім губернатарам Напалеон прызначыў партугальца ген. маркіза П.А.П. дэ Алорна, чалавека высакароднага з вялікімі здольнасцямі, які на гэтай пасадзе змог заваяваць сімпатыі магілеўчан.

Імператарскім інтэндантам і старшынёй Адміністрацыйнай Камісіі Магілёўшчыны быў прызначаны аўдзітар Фасгует.

Як адзначаюць даследчыкі, шляхта і грамадскасць Белай Русі падчас напалеонаўскай кампаніі праяўлялі поўнае раўнадушша ў адносінах да выканання напалеонаўскіх дырэктываў.

Толькі кн. Павел Сапега, які на той час распараджаўся маёнткамі выехаўшага ў Расію кн. Францішка Сапегі, стварыў за свой кошт адзіны пяхотны полк.

## Глава 40

# Магілёўскі архіепіскап Варлаам прысягае Напалеону

З устанаўленнем улады на Магілёўшчыне яе Адміністрацыйная Камісія звярнулася да насельніцтва з заклікам аб прысягненні на адданасць імператару Напалеону. Амаль усё насельніцтва прысягнула без прымусу, уключаючы схізматыкаў, якія ішлі на гэта па прыкладу свайго архіепіскапа Варлаама. Уладыка не з'ехаў з расійскімі чыноўнікамі і войскам у глыбіню Расіі, а застаўся ў родным Магілёве і яўна перайшоў на бок Напалеона.

Архіепіскап Варлаам у акружэнні ўсяго ўніяцкага духавенства 27 ліпеня прынёс прысягу на адданасць імператару Напалеону і з гэтага часу на працягу некалькіх месяцаў ва ўсіх цэрквах ладзіліся набажэнствы з малітвамі за французскага імператара як збавіцеля Белай Русі ад расійскага іга.

Варлаам уважліва сачыў, каб усё духавенства ў ягонай епархіі як мага лепей выконвала ўсе патрабаванні прысягі. Сёння немагчыма высветліць галоўныя матывы, якімі кіраваўся Варлаам, тым больш, што не ўсе ягоныя царкоўнікі ўхвалялі ўчынак архіепіскапа, які быў упэўнены, што лёс Белай Русі вырашаны зброяй Напалеона, і спадзяваўся стаць у аднаўленай Рэчы Паспалітай вышэйшым кіраўніком уніяцкай царквы.

На ўрачыстым богаслужэнні Варлаам абвясціў аб сваім уступленні ў Варшаўскую Канфедэрацыю.

Свяцейшы Сінод Рускай праваслаўнай царквы асудзіў Варлаама за ягоны ўчынак і прысудзіў яго да росстрыгу і «пазбаўлення архіепіскапскага сана за здраду цару».

Як успамінаў пазней адзін з чарнігаўскіх семінарыстаў таго часу, пасля адступлення французаў і заняцця Магілёўшчыны расійскімі войскамі Варлаам быў арыштаваны і перавезены пад стражай у Чарнігаўскі Елецкі манастыр. Выкананне прыгавору было ўскладзена на архіепіскапа Міхаіла Дзясніцкага і адбылося на свята Пятра і Паўла ў кафедральным Спаса-Прэабражэнскім саборы Чарнігава.

Перад літургіяй два архірэі — Варлаам і Міхаіл — прыехалі разам, былі сустрэты з гонарам праваслаўным людам, як належыць царкоўным традыцыям, убраны ў архіярэйскае адзенне і пачалі разам службу. На пачатку службы сакратар кансісторыі Паўлоўскі выйшаў на кафедру і гучна абвясціў Указ Свяцейшага Сінода, у якім пералічваліся злачынствы Варлаама і зняцце з яго свяшчэннага сана, але з астаўленнем пры ім манаства і накіраваннем на вакансію простым манахам у Наўгарад-Северскі Свята-Прэабражэнскі манастыр.

Падчас абвяшчэння Сінадальнага Указа пратадзіякан Аўгусцін зняў з Варлаама аблачэнні, падаў яму расу і клабук. Пасля гэтага Варлаам выпіў святой вады, сеў у вазок і накіраваўся ў Елецкі манастыр [354].



Капліца з пахавальным склепам Паскевічаў у Гомелі. Пабудавана і аздоблена ў 1870-1879 гг. паводле праекта арх. Я.І. Чарвінскага, акадэміка архітэктуры А.Х. Пеля (1809-1902), арх. М.Е. Месмахера (1842-1906) і арх. О.Э. Вегнера (1850-1920).
Са збораў Гомельскага музейнага ансамбля.

## Глава 41

# Барацьба з рабаўніцтвам і бунтамі

Расійская армія пакінула прасторы Беларусі ў дрэнным стане. Ген. Армфелт прыводзіць змрочныя відовішчы разбурэнняў і рабаванняў яе тэрыторыі пры адступленні расіян, пасля якіх «не засталося нічога, акрамя насякомых і балот. Людзі і жывёлы схоплены ці паўцякалі, іх дамы разбураны, пасевы знішчаны... Нянавісць да рускіх павялічылася, верагодна, з нагоды страшэннага разбурэння, якое прычынілі расіяне пры адступленні». Ген. Армфелт быў супраць таго, каб расійская армія пакідала беларускія землі, і абвінавачваў у гэтых інтрыгах Аркчэева, Бенігсена і Пфуля, бо лічыў, што абрабаваная расіянамі Літва пярэйдзе на бок Напалеона і ўмацуе ягоныя сілы палітычна і матэрыяльна на 200 тыс. чалавек [1103].

Безумоўна, у такім становішчы пакінутая расійскай арміяй Літва не магла пракарміць паўмільённай напалеонаўскай арміі, салдаты якой у пошуках ежы рабавалі і знішчалі сядзібы, маёнткі і нават цэлыя вёскі.

Страшэннае відовішча прадстаўлялі сабою населеныя пункты, праз якія прасунулася «Вялікая армія»: растаптаныя жытнёвыя палі, пажарышчы і папялішчы, амаль бязлюдныя вёскі, насельніцтва якіх у трывозе за жыццё сваіх сямействаў і пажыткаў, як і ў часы татара-мангольскага нашэсця, хавалася ў лясах, паўсюдна горы чалавечых і конскіх трупаў пад ліпеньскай спякотай.

Паводле меркавання ген. Рамана Солтыка, падчас кароткага маршу французскіх войскаў ад Нёмана да Вільні каля 50 тыс. французаў збегла з арміі, якая займалася гвалтам жанчын, рабаваннем вёсак і сядзіб. Горш за ўсё французскія рабаўнікі сваім прыкладам часам падбухторвалі да рабавання мясцовае насельніцтва, якое разам з рабаўнікамі паліла і разбурала маёнткі, каб паквітацца такім чынам з мясцовымі і расійскімі памешчыкамі.

Паўсюдную анархію ўзмацняў недахоп мясцовых кадраў, бо расіяне пры адступленні забралі з сабою амаль усіх служачых.

Таму першачарговай задачай Напалеона стала навядзенне жорсткай дысцыпліны ў арміі. З гэтай нагоды ягоным дзённым Загадам ад 3 ліпеня 1812 г. у Вільні і іншых дэпартаментах ВКЛ былі створаны прэвентыўныя камісіі, якія складаліся з прэзідэнтствуючага генерала і чатырох афіцэраў, прызначаных генеральным маёрам. Іх задачай стала правядзенне кантролю за ўмацаваннем паўсюднага парадку, правядзенне судоў над рабаўнікамі, гвалтаўнікамі і марадзёрамі ва ўмовах ваеннага становішча края.

Створаныя дазоры з 10-ці чалавек патрулíравалі вёскі, галоўныя дарогі і гасцінцы, прачосвалі лясы, захоплівалі рабаўнікоў і бадзяг, якіх адпраўлялі ў віленскія турмы.

Усіх падазроных у злачынствах прадстаўлялі на разгляд прэвентыўнай камісіі, а

Два лісты:
1. Ліст прэзідэнта г. Мінска Людвіка Камінскага да маршалка Ігнація Манюшкі ад 12 (19) ліпеня 1812 г.;
2. Ліст ген. Л. Рамеуса да прэзідэнта г. Мінска Людвіка Камінскага ад 10 ліпеня 1812 г. з дзённым загадам аб мерах па папярэджанні фактаў рабавання, у тым ліку стварэнні спецыяльных рухомых калон і прэвентыўных камісій для горада Мінска і Мінскай губерні, а таксама калоны і прэвентыўнай камісіі пры галоўнай кватэры арміі ў Мінску.
Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве [MWP 1676 c.1; 1676 c.3; MG 9169].



Пераправа цераз Бярэзіну 29 лістапада 1812 г. Аўталітаграфія Адама сярэдзіны XIX ст. [302, с. 289].

пасля доказу іх віны адсылалі на пакаранне на працягу 24-х гадзін.

Дазоры і калоны складаліся ў асноўным з атрадаў гвардыі ген. Красінскага, да якіх далучыліся пазней сфарміраваныя групы жандараў, якія стварaліся выключна з мясцовай шляхты.

Каб усталяваць у Літве добра арганізаваную адміністрацыю, былі створаны ў раёнах службы падпрэфектаў з ліку нядаўніх земскіх чыноўнікаў.

Такая арганізацыя спрыяла ўстанаўленню спакою і парадку ў арміі і грамадстве, бо літаральна на наступны дзень у Вільні было шмат асуджаных і расстраляных злачынцаў з ліку немцаў, італьянцаў і французаў «Вялікай арміі».

Другім бедствам, якое ахапіла Беларусь, былі сялянскія хваляванні. Іх планавалася спыніць з дапамогай ствараемай на месцах жандармерыі.

Весткі аб прыходзе на Беларусь Напалеона, якому народная пагалоска прыпісвала намер адмяніць прыгоннае права, прывялі да таго, што сяляне часта адмаўляліся падпарадкавацца памешчыкам, нават пачалі выступаць супраць іх.

Усхваляваныя такім станам, землеўладальнікі пакідалі свае маёнткі, уцякалі ў гарады, дасылалі скаргі ў адрас Урадавай Камісіі, прасілі дапамогі і абароны сваіх правоў.

Улічваючы гэта, Урадавая Камісія выдала зварот, у якім у катэгарычнай форме заклікала сялян неадкладна вярнуцца на свае месца жыхарства, прыступіць да выканання сваіх абавязкаў і чакаць новых распараджэнняў мясцовага кіраўніцтва. Папярэджвалася, што вінаватыя ва ўхіленні ад выканання звароту будуць строга пакараны, а памешчыкі не могуць чыніць самасуды і жорсткасці ў дачыненні да вярнуўшыхся сялян.

Тым не менш, нягледзячы на абяцанні, Напалеон не скасаваў прыгонніцтва ні ў беларускіх, ні ў расійскіх губернях, таму ў пэўнай меры адштурхнуў ад сябе сялянства. Французскі імператар пабаяўся пайсці на гэты смелы крок, бо галоўнай апорай на занятых тэрыторыях Беларусі ён лічыў шляхту і памешчыкаў з іх матэрыяльнай і палітычнай падтрымкай.

Што тычыцца скасавання прыгоннага права ў Расіі, то Напалеон патлумачыў небяспечнасць такога кроку, выступаючы 8 снежня 1812 г. на пасяджэнні сената ў Парыжы, дзе ён заявіў, што «... мог падняць супраць яе (Расіі — аўт.) большую частку ўласнага насельніцтва, абвясціўшы вольнасць рабоў... Калі ён убачыў нізкі нораў гэтага шматлікага класа расійскага народа ... адмовіўся ад гэтага кроку, які асуджаў мноства сямей на смерць, рабаванне і самыя страшэнныя пакуты» [1026].

Разглядаючы гэту тэму, напрошваецца пытанне, ці існаваў народны антынапалеонаўскі партызанскі рух на тэрыторыі Беларусі, бо ў савецкай навуковай літаратуры такая думка была распаўсюджана.

Як слушна падае А. Лукашэвіч, пры гэтым савецкімі гісторыкамі тэрміны «партызанскі рух» і «партызан» трактаваліся памылкова, бо ў пачатку XIX ст. «партызанскі атрад» азначаў вайсковую адзінку рэгулярнай арміі, якая дзейнічала ў тыле ворага [530].

З гэтага пункту гледжання, у Беларусі падчас напалеонаўскай навалы не існавала партызанскага руху як формы барацьбы шырокіх мас мірных жыхароў супраць французаў. Сёння шмат сучасных беларускіх даследчыкаў лічаць, што на ўсёй тэрыторыі беларускіх губерняў антыфранцузскія выступленні колькасна саступалі антыпрыгонніцкаму руху. Такія меркаванні пацвярдждаюцца фактамі, што пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі ад французаў народныя хваляванні працягваліся, а іх у сваю чаргу душылі ўжо расійскія карныя войскі.

Напрыклад, у Віцебскай, у Ліфляндскай і інш. губернях, паводле загаду расійскага ген. П. Вітгенштэйна, ягоныя войскі хапалі і вешалі завадатараў сялянскіх выступленняў. Ген. Барклай дэ Толі і фельдмаршал М. Кутузаў таксама неаднаразова дасылалі атрады ў паветы Смаленскай губерні для задушэння паўстанняў, а 31 ліпеня 1812 г. Барклай дэ Толі загадаў задушыць бунт сялян в. Рудня на Смаленшчыне, а яго зачыншчыкаў, як здраднікаў веры і Айчыны, павесіць [131].



Манеты, прылады, дэталі зброі і экіпіроўкі салдат расійскай і французскай армій 1812 г.
Са збораў прыватных калекцый А. А. Мачульскага (г. Віцебск) і А. Рэентовіча (г. Барысаў).
Экспазіцыя 1812 года. Віцебскі мастацкі музей 1812 года ў артэфактах [10–04].

# Глава 42
# Вынікі дзейнасці Часовага ўрада ВКЛ у 1812 годзе

Галоўнай праблемай, якую вырашала Камісія Часовага ўрада, было выкананне Загаду Напалеона аб фарміраванні ўзброенных сіл ВКЛ і забеспячэнне французскай арміі правіянтам і фуражом.

Мелася на мэце стварыць 100-тысячнае войска ВКЛ, але рэальна Ваенны камітэт Урада ВКЛ сфарміраваў 5 пяхотных палкоў у колькасці 10 тыс. чалавек пад нумарамі 18-22 і 4 кавалерыйскіх пад нумарамі 17-20. Згодна з пастановай Урада ад 23 чэрвеня, у пяхоту прызываліся мужчыны ва ўзросце 17-34 гадоў на шасцігадовы тэрмін службы.

Акрамя таго, для службы ў Напалеонаўскай гвардыі набіраліся добраахвотнікі з ліку беларускай шляхты. Неўзабаве быў сфарміраваны лёгка-конны полк пад камандаваннем слонімскага ўраджэнца ген. Яна Канопкі, да якога далучыўся эскадрон беларускіх татараў на чале з Мустафой Ахматавічам.

Для папаўнення напалеонаўскай арміі, а таксама абароны тэрыторыі краіны ствараліся народная гвардыя (апалчэнцы), пяхотныя, кавалерыйскія і егерскія фарміраванні, жандармерыя і інш.

Сфарміраваная спачатку ў Вільні народная гвардыя складалася з двух батальёнаў і налічвала 1450 чалавек (камандзір Ю. Казельскі ). Пазней народная гвардыя была створана ў Гродне, Слоніме, Нясвіжы, Беластоку. У яе склад набіраліся мужчыны ад 18 да 50 гадоў.

Да восені 1812 г. былі створаны 3 егерскія батальёны (у Мінскім дэпартаменце — 2, у Гродзенскім — 1), хоць планавалася сфарміраваць 6 батальёнаў егераў. Акрамя таго, палкі ВКЛ папоўнілі часці, сфарміраваныя за ўласны кошт заможнымі ліцвінамі: І. Манюшкам, Л. Пацам, Р. Тызенгаўзам і інш.

Так, асобны полк уланаў лікам 3 тыс. шабляў выставіў сваім коштам кн. Дамнік Радзівіл з Нясвіжа, да корпуса кн. Ю. Панятоўскага далучылася беларуская артылерыйская батарэя, а на Палессі ствараўся 6-ты пяхотны полк. Аднак фарміраванне войска ВКЛ ішло марудна. Яно была цалкам не ўкамплектавана, слаба арганізавана і малаабучана. Асноўнымі прычынамі такога становішча былі як старая сістэма камплектавання і няўдалы падбор афіцэрскіх кадраў, так і брак фінансавых сродкаў, цяглавай сілы, амуніцыі, абмундзіравання і г. д.

Паводле даследавання А. Лукашэвіча, да зімы армія ВКЛ разам з жандармерыяй мела каля 20 тыс. воінаў [131]. Паводле іншых крыніц, на баку Напалеона ў 1812 г. змагалася супраць расійскіх войскаў 24 тыс. беларускіх воінаў — тое, што здолеў абмундзіраваць і ўзброіць Часовы ўрад ВКЛ [176].

У баях і сутычках з рэгулярнымі расійскімі войскамі палкі арміі ВКЛ пацярпелі паражэнні, у тым ліку 8 кастрычніка гвардзейскі полк Я. Канопкі быў разбіты пад Слонімам,



Спальванне сцягоў «Вялікай арміі» перад Напалеонам пасля бою пад Красным. Малюнак 1896 г. Мастак В. Косак надаў сваёй мастацкай працы назву: «Так праходзіць слава міра сяго». Са збораў Нацыянальнага музея ў Кракаве. (?). Мастак адлюстраваў гэты эпізод наступным чынам. Калі правал пахода ў Расію стаў відавочным, Напалеон загадаў сабраць і прынесці да сябе сцягі ўсіх палкоў і спаліць іх. Сцягі ў ягонай арміі мелі назву «Арлы», таму што дрэўка іх з 1804 г. было ўвенчана арлом па прыкладзе рымскіх легіянераў. Напалеон сядзіць перад вогнішчам, на якім спальваюць «арлы» пад барабанны бой. Трымаючы ружжы на караул, два салдаты «Старой гвардыі» стаяць у ганаровай варце. За імператарам — маршал Нэй, іншыя маршалы, генералы і світа [302, с. 283].



Сражэнне пад Чашнікамі. Мастак А.К. Пархаеў [266, с. 100].



Аляксандр Сапега (1773-1812), член Камісіі Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага, супрацоўнічаў з Напалеонам, ваяваў на яго баку, не знайшоў паразумення з ваенным генерал-губернатарам Літвы Гогендорпам, з'ехаў з Вільні, раптоўна памёр ад заражэння крыві ў г. Гродна 8 верасня 1812 г. Ад жонкі Ганны Замойскай меў дачку Ганну Соф'ю (1799-1864) і сына Леона Людвіка (1802-1876). Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

22-гі пяхотны і частка 18-га ўланскага палка былі знішчаны пад Новасвержанем.

У Бярэзінскай аперацыі прынялі ўдзел 23-ці пяхотны полк і другая частка вышэйназванага ўланскага палка. Астатнія войскі ВКЛ (жандармерыя пад камандаваннем А. Храпавіцкага, нацыянальная гвардыя Казельскага, татарскі эскадрон Ахматовіча і егерскі батальён Плятэра) пасля заняцця расійскімі войскамі Вільні адышлі разам з рэшткамі «Вялікай арміі» Напалеона на захад. Частка пяхотных палкоў была ўключана ў склад пятага польскага корпуса Ю. Панятоўскага, 20-ты конны полк разам з войскамі Э.Ж. Макдональда адступіў да Гданьска, 17-ты і 19-ты уланскія палкі адышлі да Гамбурга. Навагрудскі 19-ты ўланскі полк увайшоў у склад рэшткаў корпуса Даву і спыніў сваё існаванне таксама пад Гамбургам.

Пасля Парыжскага міру 1815 г. рэшткі арміі ВКЛ былі ўключаны ў армію Польскага Каралеўства, а пасля заканчэння шасцігадовага тэрміну службы, у 1818 г., вярнуліся на радзіму.

Напалеон разлічваў закончыць вайну на тэрыторыі Беларусі, насельніцтва якой павінна было забяспечыць правіянтам і фуражом для ягонай «Вялікай арміі». Тым часам ваенныя дзеянні выйшлі за межы Беларусі, таму патрэбы арміі раслі.

Ураду ВКЛ з вялікімі цяжкасцямі ўсё ж удалося назапасіць шмат харчу і фуражу, але выкарыстаць у поўнай меры гэтыя зборы французам не ўдалося, бо падчас імклівага наступлення расійскіх войскаў амаль усе запасы трапілі ў іх рукі.

За час свайго кароткага існавання Урад ВКЛ шмат зрабіў па ўладкаванні фінансава-падаткавай сістэмы, адукацыі і судаводства.

Напрыклад, нягледзячы на знясіленасць фінансавых рэсурсаў, удалося рэгламентаваць курсы розных грашовых адзінак, забяспечыць



Крамянёвы пісталет. Заходняя Еўропа XVIII ст. Са збораў Брэсцкага краязнаўчага музея.

грашовы зварот, устанавіць стабільныя нормы падаткаабкладання і іх збораў.

Пасля імклівага адступлення і бегства Напалеона з Расіі члены Камісіі Часовага ўрада ВКЛ разам з французскай і мясцовай адміністрацыямі 27 снежня 1812 г. выехалі за мяжу. Члены Камісіі К. Даніловіч, Ф. Плятэр, Я. Снядэцкі, А. Храптовіч пад апекай імператарскага камісара барона Л.-П.-Э. Біньёна забяспечылі збор архіваў, дзяржаўных скарбаў і вываз іх да Варшавы, дзе праца Камісіі была аднаўлена. У сувязі з ваеннымі абставінамі ў лютым Камісія пераехала ў Кракаў, затым у Дрэздэн, дзе 30 ліпеня 1813 г. спыніла сваю дзейнасць.

Усяго з 20 чэрвеня (2 ліпеня) 1812 г. па 18 (30) ліпеня 1813 г. Камісія Часовага ўрада ВКЛ правяла 135 афіцыйных пасяджэнняў, у тым ліку ў Вільні — 118, Коўне (Каўнасе) — 1, Варшаве — 4, па дарозе — 1, Кракаве — 8 і Дрэздэне 3 пасяджэнні.

Як ужо адзначалася, сістэма кіравання ў ВКЛ была стройнай, закончанай і пабудаванай на прынцыпах калегіяльнасці.

Праца Урада ВКЛ магла быць больш эфектыўнай, але ўмовы дзейнасці ўладных структур былі надзвычай складанымі і неспрыяльнымі.

Паводле даследаванняў А. Ерашэвіча, на тэмпы і характар дзейнасці Урада ВКЛ значна ўплывалі няўстойлівасць ваенна-палітычнай сітуацыі на тэрыторыі беларускіх губерняў, слабая падкантрольнасць шэрагу рэгіёнаў, прасоўванне расійскіх атрадаў у тыле французскіх войскаў, нестабільнасць паштовай сувязі, недахоп кваліфікаваных чыноўнікаў і ўзнікаючыя паміж імі непаразуменні, брак грашовых сродкаў і, нарэшце, слабая каардынацыя ў іерархічнай сістэме органаў цывільнай, ваеннай і французскай адміністрацый рознага ўзроўню і рангу [101].

Прадметы вайсковага ўжытку, знойдзеныя на месцы пераправы войскаў Напалеона праз Бярэзіну. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.



# Глава 43
# Беларускія яўрэі ў 1812 годзе

Напярэдадні і падчас французска-расійскай кампаніі 1812 г. на тэрыторыі ВКЛ пражывала значная колькасць яўрэйскага насельніцтва, якое неадназначна ўспрыняла французскае нашэсце.

У 1766 г., паводле падліку Э. Іофэ, у ВКЛ налічвалася 157 тыс. 250 яўрэяў, а ў 1819 г. у Віцебскай, Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губернях пражывала ўжо 247 тыс. чалавек [481].

У Расійскай імперыі ў дачыненні да яўрэяў існаваў прынцып аседласці, што ў пэўнай меры выклікала іх незадаволенасць сваім нераўнапраўным становішчам у грамадстве, таму Аляксандр І ставіў пад сумненне адданасць расійскіх яўрэяў інтарэсам Расіі. У пачатку 1812 г. ён патрабаваў устанавіць асобы нагляд за жыхарамі беларускіх губерняў, на што мінскі губернатар Г.І. фон Родзін у адказ паведаміў, што ў ягонай губерні падазронымі з'яўляюцца «ўсе жыды» [481].

Нягледзячы на Канстытуцыю 1807 г. і Кодэкс Напалеона, якія абвяшчалі роўнасць для ўсіх грамадзян перад Законам, свабоду



веравызнанняў і іх аднолькавыя правы, Камісія Часовага ўраду ВКЛ таксама абмежавала ў правах яўрэйскае насельніцтва.

Як адзначае гродзенскі губернатар у сваёй запісцы ад 23 красавіка 1837 г. аб падзеях вайны 1812 г., Часовы ўрад ВКЛ накіраваў сваім падпрэфектам ва ўсе паветы беларускай дзяржавы прадпісанне, у якім гаварылася, што «коварные евреи, неблагодарные земле их питающей, преимущественно занимаются шпионством в пользу неприятеля (Расійскай імперыі — аўт.)», таму неабходна на іх звярнуць пільную ўвагу, каб без пашпарта ніхо з яўрэяў не меў права з аднаго месца перамяшчацца ў другое, а пашпарты дазволіць выдаваць толькі тым, за каго паручыцца адказваць кагал [21, 233].

Шлях напалеонаўскай арміі праходзіў праз шматлікія беларускія мястэчкі, густа заселеныя яўрэямі, якія, як народ практычны і асцярожны, у адносінах да ўлады захоўвалі знешні спакой і праяўлялі нават раўнадушша да ваюючых бакоў, не беглі ад французскай арміі ў лясы.



Компас, якім карысталіся афіцэры штаба маршала Нея ў 1812 г. [302, с. 283].

Паводле асобных даследчыкаў, невялікая частка расійскіх яўрэяў, магчыма, з карысталюбства ці страха, аказвалі нейкія паслугі французам, што рускія і французскія афіцэры прымушалі яўрэяў быць даносчыкамі інфармацыі.

У той час расійскія яўрэі яшчэ не служылі ў арміі Аляксандра I, але яны адмовіліся падпарадкавацца загаду Напалеона ўступаць у фарміруемыя французскія палкі.

Адступленне «Вялікай арміі» Напалеона па тэрыторыі Беларусі. Малюнак 1896 г. Мастак В. Косак. Са збораў Нацыянальнага музея ў Кракаве (фрагмент).



Патаемны сход франкаў-масонаў. Рытуал прыёму да масонскай ложы. Малюнак невядомага мастака XVIII ст. [710].



Напалеон пад Вільняй. Малюнак 1896 г. Мастак В. Касак. Са збораў музея ў г. Пабіянік.

Некаторыя прызнаныя рэлігійныя аўтарытэтныя дзеячы таго часу, як равін з Лядаў Шнеўр-Залман (Познер), валожынскі равін Хаім бен Іцхак і іншыя, заклікалі сваіх супляменнікаў дапамагаць расійскім войскам.

Шнеўр-Залман (Познер) лічыў, што перамога рэвалюцыйнай Францыі прынясе вялікую шкоду яўрэйскаму традыцыйнаму жыццю і ўстоям іўдаізма, яшчэ ў 1800 г. прадракаў паразу і пагібель Напалеона Банапарта, які ў гэты час перажываў трыумф свайго ваеннага генія і нёсся пераможным шляхам па краінах Еўропы.

Расійскія ўлады прадставілі Шнеўру-Залману (Познеру) абарону і дапамогу, бо ўбачылі ягоны ўплыў на лаяльную грамадскую думку яўрэяў.

У Шклове і іншых гарадах і мястэчках Беларусі маліліся ў сінагогах за перамогу над Напалеонам. Напрыклад, равін Маскал Гілель Марковіч пасля службы падчас правядзення пропаведзі назваў Напалеона «ворагам чалавецтва» і параўнаў французскіх заваёўнікаў з асірыйцамі, якія разрабавалі старажытны Ізраіль [369].

У пачатку вайны 1812 г. беларускія яўрэі моцна пастрадалі падчас бясчынстваў французскіх салдат, якія праводзілі бескантрольныя рэквізіцыі, адбіралі харч, палілі сінагогі.

Яшчэ ў мірны час існавала так званая «яўрэйская пошта», якая дапамагала яўрэйскім гандлярам і банкірам праз карчмы і кур'ераў рэгулярна і хутка перасылаць неабходныя інфармацыйныя матэрыялы праз Варшаўскае герцагства і беларускія губерні. Яўрэі-падрадчыкі і пастаўшчыкі харчу для расійскай арміі мелі асобныя пасведчанні, якія дазвалялі ім бесперашкодна раз'язджаць па населеных пунктах і вайсковых падраздзяленнях.

Даследчык С. Гінзбург у сваёй манаграфіі прыводзіць дзіўны факт, што менавіта ад «яўрэйскай пошты» спачатку Аляксадр I даведаўся аб пераправе Напалеона праз Нёман, і толькі пасля гэтага да яго ў Вільню прыскакаў армейскі кур'ер [369].

Неабходную інфармацыю аб перасоўванні французскіх войскаў уздоўж граніцы напярэдадні вайны 1812 года перадаў расійскаму камандаванню беластоцкі яўрэй Гірш Альперн, які нават папаў на прыём да Барклая дэ Толі ў Санкт-Пецярбургу і атрымаў ад імя Аляксандра I з рук самога Ваеннага Міністра памятны пярсцёнак і 50 чарвонцаў.

У шматлікіх вайсковых рапартах камандзіраў расійскіх атрадаў утрымліваюцца звесткі аб яўрэях-лазутчыках, якія дастаўлялі сведчанні аб французскіх атрадах, іх узбраенні, настроях і планах.

У сваіх успамінах ген. гр. А. Ланжэрон падкрэслівае прыхільнасць яўрэяў да расійскай арміі і піша, што адзін з яўрэяў пад вялікім сакрэтам і ў небяспечны час, прайшоўшы праз тэрыторыі двух французскіх карпусоў, даставіў яму вельмі патрэбную запіску ад ген. П.Х. Вітгенштэйна [568].

Часам яўрэяў выкарыстоўвалі ў якасці кур'ераў паміж расійскімі атрадамі, за што яны атрымлівалі ўзнагароды і падзякі. Напрыклад, адзін з яўрэяў прапанаваў свае паслугі ген. М.А. Мілардовічу, які не адмовіўся ад гэтай прапановы, а за сабраныя сведчанні загадаў выдаць лазутчыку грашовую ўзнагароду, ад якой яўрэй адмовіўся, маўляў, сёння не такі час, каб служыць за грошы [369].

Пасля ўваходу 20 снежня 1812 г. у г. Гродна партызанскага атрада палк. Д.В. Давыдава апошні перадаў часовую ўладу ў горадзе мясцоваму яўрэйскаму кагалу, падкрэсліўшы ў сваім прадпісанні, што за адданасць яўрэяў расіянам ён прыняў рашэнне выбраць кагальнага ў начальнікі паліцыі з ускладаннем на яго абавязкаў спынення ўсялякага роду беспарадкаў у горадзе [398, 400].

Калі расійская армія вярнулася ў беларускія губерні пасля бегства Напалеона, то яўрэі паўсюдна з захапленнем сустракалі расіянаў, выносілі ім хлеб, віно, устройвалі піры, складалі оды Аляксандру I.

А раней, калі французская армія ў чэрвені 1812 г. уступала ў межы Беларусі, то разам з праваслаўнымі і каталікамі на адданасць імператару Напалеону прысягалі і кагалы, заклікаючы яўрэяў праяўляць лаяльнасць да загадаў і прадпісанняў Камісіі Часовага ўрада ВКЛ па нарыхтоўцы правіянту і фуражу для арміі вялікага Напалеона.

Напрыклад, кагал г. Быхава назбіраў 7 тыс. рублёў на ўтрыманне нацыянальнай гвардыі Напалеона, ягоныя краўцы выконвалі шматлікія заказы французскага камандавання, а кагал г. Магілёва перадаў на патрэбы французаў больш за 30 тыс. рублёў.

Улічваючы меркаванне грамадскасці, што «яўрэі шпіёняць на карысць непрыяцеля» [233], французскі марш. Удзіна выкарыстаў гэтую акалічнасць у арганізацыі пераправы праз Бярэзіну. Каб звесці ў зман адм. Чычагава, ён распачаў разгортваць імітацыйныя дзеянні па наладжванні пераправы рэшткаў французскай арміі праз Бярэзіну на поўдні ад Барысава, ведаючы, што мясцовыя яўрэі перададуць гэтую інфармацыю расійскаму камандаванню. Так яно і адбылося. Ноччу тры барысаўскія яўрэі патаемна пераправіліся праз Бярэзіну і паведамілі адм. Чычагаву аб тым, што французы пачалі пераправу на поўдні Барысава, які імгненна без пацвярджэння разведкі накіраваў туды галоўныя сілы сваёй арміі з надзеяй паланіць Напалеона. Тым часам рэшткі «Вялікай арміі» на чале з самім Напалеонам на плячах нязначнай колькасці расійскай арміі ўдала фарсіравалі Бярэзіну ў раёне в. Студзянка і адарваліся ад праследавання [157].



# РАЗДЗЕЛ VI

# Асноўныя бітвы 1812 года на тэрыторыі Беларусі



## Глава 44

# Ад Нёмана да Віцебска

Першай мэтай Напалеона ў пачатку вайны 1812 года з Расійскай імперыяй быў разгром расійскіх армій паасобку на тэрыторыі Беларусі і заключэнне міра на выгадных для Францыі ўмовах. Для галоўнага ўдара і хутчэйшага выканання гэтага плана была выбрана 1-я Заходняя армія Барклая дэ Толі (Ваеннага міністра Расіі) як самая вялікая, пры якой знаходзіўся сам імператар Аляксандр І. Напалеонаўскія войскі ў складзе 1-га, 2-га і 3-га пяхотных карпусоў, 1-га і 2-га кавалерыйскіх карпусоў (каля 218 чалавек пры 527-мі гарматах) перайшлі граніцу левым крылом у раёне Коўны (Каўнаса) і Тыльзіта, а цэнтр і правае крыло заставаліся на месцы.

Але армія Барклая дэ Толі, не ўступаючы ў сражэнне, пачала імклівае адступленне і сабралася 29 чэрвеня (11 ліпеня) 1812 г. у Дрысенскім умацаваным лагеры, які, паводле плана Фуля, быў падрыхтаваны для гэтых мэтаў.

Згодна з рашэннем Ваеннага савета, армія працягвала адступленне, маючы на-





Бітва пад м. Астроўна Лепельскага павета Віцебскай губерні 13 (25 ліпеня) 1812 г. На першым плане два салдаты схіліліся над забітымі, на другім — генерал кіруе бітвай. Мастакі Адам Альберт і Бат Герман (Manachium). Са збораў музея Незалежнасці ў Варшаве [39. GR 1420].

мер аб'яднацца з 2-й Заходняй арміяй П. Баграціёна, 2 (14) ліпеня пераправілася праз Заходнюю Дзвіну і рушыла на Віцебск, дзе меркавалася даць генеральнае сражэнне французам.

Да падыходу 2-й Заходняй арміі патрэбен быў час, таму Барклай дэ Толі паспрабаваў затрымаць французаў ар'ергарднымі баямі 13 (25) ліпеня пад Астроўнай Лепельскага павета Віцебскай губерні, 14 (26) ліпеня каля м. Кукавячына Віцебскага павета і 15 (27) ліпеня пад Віцебскам.

У баі пры Астроўне французскім авангардам цэнтральнай групоўкі «Вялікай арміі» камандаваў марш. Яўхім Мюрат (1767-1815), а ар'ергардам 1-й Заходняй арміі — ген.-л-т А. І. Остэрман-Талстой (1771-1857).

Віцебск. Губернатарскі дом, у якім з 16 ліпеня па 1 жніўня кватэраваў Напалеон Банапарт. Паштоўка. Са збораў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея [КП 22428.81].

Пасля 17-гадзіннай жорсткай схваткі, улічваючы складанасць сітуацыі, Остэрман-Талстой вымушаны быў ноччу адвесці свае войскі з поля бою да м. Кукавячына. Агульныя страты з абодвух бакоў склалі прыкладна па дзве тыс. чалавек.

На наступны дзень каля м. Кукавячына Мюрат асабіста павёў свой авангард на ар'ергард 1-й расійскай арміі, якім камандаваў ген. П. П. Канавіцын (1764-1822). Сражэнне цягнулася амаль 11 гадзін і спынілася на карысць французаў, пакінуўшы на полі бітвы каля двух тыс. чалавек.

Трэцяе сражэнне паміж авангардам Мюрата ў прысутнасці Напалеона і расійскім ар'ергардам 1-й Заходняй арміі пад камандаваннем ген.-м-ра П. П. Палена (1778-1864) адбылося на р. Лучэсе ў шасці км ад Віцебска і цягнулася да самага вечара, што дазволіла галоўным сілам арміі Барклая дэ Толі патаемна пачаць адступленне на Смаленск.

За тры дні названых бітваў расійская армія страціла каля 4 тыс. чалавек, французская — прыблізна 3 тыс. 700.

# Глава 45
# З Гродна да Салтанаўкі

Пасля ўзяцця без бою Вільны і загнаўшы 1-ю расійскую армію Барклая дэ Толі ў Дрыскі ўмацаваны лагер, Напалеон вырашыў напасці на 2-ю Заходнюю расійскую армію П. Баграціёна, акружыць і знішчыць яе.

Дзеля гэтага цэнтральнай групоўцы «Вялікай арміі» (30 тыс. чалавек) пад камандаваннем Эжэна (Яўгена) Багарнэ, пасынка Напалеона ад Жазэфіны, прадпісвалася заняць Вільню, заблакаваць армію Баграціёна ад выхаду на поўнач, а правым крылом арміі (55 тыс. чалавек) на чале з малодшым братам Напалеона Геранімам (Жэромам) Банапартам нанесці фатальны ўдар па арміі Баграціёна праз Гродна.

Для заходу ў тыл 2-й Заходняй арміі ў напрамку Мінска Напалеон адправіў зборны корпус марш. Л. Н. Даву (каля 50 тыс. чалавек), але Баграціёну ўдалося шляхам фарсіраванага адступлення ў паўднёва-усходнім напрамку пазбегнуць акружэння і знішчэння. Ён павёў сваю армію на Бабруйск, ар'ергард якой на чале з ген. М. І. Платавым (1751-1818) у баях пры м. Мір Навагрудскага павета Гродзенскай губерні (цяпер Карэліцкага раёна Гродзенскай вобл.) і м. Раманава Слуцкага павета Мінскай губерні (цяпер в. Леніна Слуцкага раёна Мінскай вобл.) стрымліваў насядаўшыя войскі Жэрома Банапарта.

1



2



3



1. Сражэнне пад Полацкам 18 жніўня 1812 г. Гравюра 1810-х гг. Мастак Д. Ругендас [302, с. 53].

2. Французы ў м. Ліёзна, 9 жніўня 1812 г. Малюнак 1830-х гг. Копія. Мастак Х.В. Фабэр дзю Фор. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Фота аўтара, 2012 г.

3. Помнік-капліца, узведзеная ў 1914–1915 гг. у памяць аб сражэнні 11(23) ліпеня 1812 г. пад м. Салатанаўка Магілёўскага павета. Капліца пабудавана па праекту капітана 2-га сапёрнага батальёна К. Міхайлава і магілёўскага скульптара П. Яцыны. Са збораў Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея.



Медаль з бронзы «У памяць Айчыннай вайны 1812 года» прызначалася для ўзнагароджання дваранства і купецтва, якое садзейнічала перамозе войска ў Айчыннай вайне 1812 года. Заснавана маніфестам ад 30 жніўня 1814 года. Медаль насілі на стужцы ордэна св. Уладзіміра. Са збораў прыватнай калекцыі А.А. Нікалаева (г. Брэст).



Бой пад Мірам 27-28 ліпеня 1812 г. паміж казакамі ген. М. Платава і польскімі кавалерыстамі ген. А. Ражнецкага. Малюнак 1912 г. Мастак В. Мазуроўскі [302, с. 45].

Баграціён паспрабаваў прарвацца праз Магілёў, каб аб'яднацца з 1-й Заходняй арміяй Барклая дэ Толі, але крывавая бойня каля в. Салтанаўка Магілёўскага павета (цяпер аднайменнага раёна) з войскамі марш. Даву да поспеху не прывяла, таму, перапраўіўшыся цераз Днепр каля м. Н. Быхаў, 2-я Заходняя армія рушыла на Смаленск.

У баі каля м. Мір, які адбыўся 27-28 чэрвеня (9-10 ліпеня) 1812 г. паміж французскім ар'ергардам правага крыла «Вялікай арміі» пад камандай польскага ген. А. Ражнецкага (1771-1849) і ар'ергардам 2-й Заходняй арміі на чале з ген. М. Платавым, удзельнічала каля 12-ці тыс. чалавек.

Польская дывізія Ражнецкага ў гэты спякотны дзень змагалася мужна, але пацярпела няўдачу, пакінуўшы на полі бітвы да 800 чалавек забітымі і паранемымі. Страты расіян, паводле рапартаў камандзіраў, склалі каля 300 чалавек, але страты абедвух бакоў, верагодна, былі куды большымі, бо чарговы Бюлетэнь «Вялікай арміі» канстатаваў, што расіяне страцілі 1500 воінаў, а польскія ўланы — 500 чалавек, [1002].

Вечарам 28 чэрвеня (10 ліпеня) 2-я Заходняя армія пад прыкрыццём казакаў Платава і гусараў ген. І.В. Васільчыкава (1775-1847) адступіла з Нясвіжа на Слуцк.

Пад м. Раманова казакі Платава схапіліся 2 (14) ліпеня з авангардам правага крыла «Вялікай арміі», якім камандаваў ген. М.В. Латур-Мабур (1768-1850). У гэтым баі казакі спынілі на некаторы час наступленне французаў, што дазволіла расійскай арміі Баграціёна адправіць армейскія абозы і лазарэты да Мозыра.

Праз некалькі дзён войскі марш. Даву ўвайшлі ў Магілёў, адрэзаўшы гэты шлях на Віцебск для адступлення арміі Баграціёна. Выконваючы пастаўленую Напалеонам задачу аб недапушчэнні аб'яднання 1-й і 2-й расійскіх армій, Даву дзейнічаў рашуча і імкліва, навязаўшы бой расіянам 11 (23) ліпеня пад м. Салтанаўка, назва якой звязана з даўнім ліцвінскім родам Солтанаў, а магчыма, з аднайменнай назвай невялікай ракі Солтан.

У выніку 10-гадзіннай крывавай схваткі паміж 5-ю дывізіямі марш. Даву і корпусам ген. М.М. Раеўскага (1771-1829) войскі апошняга вымушаны былі адступіць да в. Дашкоўка, пакінуўшы на полі бітвы 2548 чалавек. Паводле данясення марш. Даву, страты ягонага корпуса склалі 900 чалавек, паводле іншых крыніц — 1500 воінаў [610].

Такім чынам, расійскія войскі не дасягнулі пастаўленай мэты прабіцца праз Магілёў і адступілі.

## Глава 46

# Берасцейшчына ў агні 1812 года

Значны след на тэрыторыі Беларусі ў вайну 1812 года пакінула 3-я Заходняя расійская армія, таму больш падрабязней спынімся на гісторыі яе баявога шляху. Тэма даволі блізкая аўтару, бо, менавіта, на былым полі Гарадзечненскай бітвы названай арміі ў в. Харкі на Пружаншчыне ён нарадзіўся, вырас і гэтая абставіна прадвызначыла ягоны навукова-пазнавальны шлях, захапленне і тэму дысертацыі кандыдата гістарычных навук, якую ён абараніў у 1996 г.

3-я Заходняя (абсервацыйная) армія была ўтворана 5 мая 1812 г. [224] і на пачатку вайны мела ў сваім саставе 4 корпусы, 7 дывізій, 54 батальёны, 168 гармат, налічвала 49526 афіцэраў і ніжніх чыноў [1, спр.1873] і размяшчалася на Валыні (штаб-кватэра ў Луцку). Галоўнакамандуючым арміі быў прызначаны генерал ад кавалерыі А.П. Тармасаў, менавіта той генерал, што пацярпеў паразу ад войскаў ген. Т. Касцюшкі пад Рацлавіцамі падчас паўстання 1794 г., а пасля яго задушэння канваіраваў апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага з Варшавы ў Гродна.

Пасля адыходу карпусоў Гераніма (Жэрома) Банапарта на ўсход услед за адступаючымі расійскімі войскамі у межах Гродзенскай губерні засталіся аўстрыйскі і саксонскі карпусы, якія, згодна з дырэктывай Напалеона ад 9 чэрвеня з м. Вількавішкі, ахоўвалі герцагства Варшаўскае.

1



1. Тармасаў Аляксандр Пятровіч (1752-1819), ген. ад кавалерыі, у 1812 г. галоўнакамандуючы 3-й расійскай рэзервнай Абсервацыйнай арміяй, з верасня 1812 г. камандаваў войскамі Галоўнай арміі, пасля вайны прызначаны генерал-губернатарам Масквы. Копія з малюнка К. Рэйхеля 1813 г. Мастак П.А. Данэлія, 1949 г. Са збораў Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея [Кп, 2335].

2. Атака данскіх казакаў М.І. Платава пад Нясвіжам 27 ліпеня 1812 г. Хромалітаграфія 1912 г. Мастак М. Багатаў [302, с. 48].

3. План сражэння пры Кобрыне 15 ліпеня 1812 г. Са збораў Расійскага ваенна-гістарычнага архіва [1, спр. 3762].




План сражэння пры Гарадзечне
19 (31) ліпеня 1812 г.
Са збораў Нацыянальнага гістарычнага архіва ў Гродне
[24, спр. 521, л. 177].



Сражэнне пры Гарадзечне
31 ліпеня 1812 г.
Мастак А. К. Пархаеў
[266, с. 40].

Аўстрыйскі корпус ген. кн. Карла Шварцэнберга (1771-1820) складаўся з трох пяхотных, адной кавалерыйскай дывізій, 27 батальёнаў, 54 эскадронаў, каля 30 тыс. салдат [313].

Толькі на пяты дзень вайны Напалеон вырашыў увесці аўстрыйскі корпус Шварцэнберга ў межы Расійскай імперыі і ўключыць яго ў склад цэнтральнай групоўкі «Вялікай арміі». Гэтае рашэнне было прадыктавана як просьбай аўстрыйскага імператара Франца І, так і памылковым меркаваннем Напалеона аб слабасці 3-й расійскай арміі Тармасава. Але галоўнай прычынай такога рашэння быў недавер Напалеона да сваіх саюзнікаў-аўстрыйцаў.

Атрымаўшы загад Напалеона, корпус Шварцэнберга 19 чэрвеня (1 ліпеня) пераправіўся цераз раку Заходні Буг каля Драгічына і заняў Высока-Літоўск, Брэст-Літоўск, Пінск і Пружаны, дзе меў галоўную кватэру, а праз некалькі дзён аўстрыйцы ўвайшлі ў Слонім і сталі чакаць саксонцаў [654].

На наступны дзень 20 чэрвеня (2 ліпеня) саксонскі корпус французскага ген. гр. Ж.Л.Э. Рэйнье (1771-1814) перайшоў граніцу каля Беластока і ў Слоніме змяніў корпус Шварцэнберга.

Пасля выступлення аўстрыйцаў на Нясвіж Рэйнье атрымлівае першае прадпісанне Напалеона аб прыкрыцці Варшаўскага герцагства і магчымасці «...ударить во фланг тех русских войск, которые предпримут покушение против Варшавы, а если Варшава будет угрожаема, отступить к ней» [654].

Праз некалькі дзён Рэйнье атрымаў новы загад Напалеона з м. Глыбокае, дзе знаходзілася галоўная кватэра «Вялікай арміі», аб выступленні ягонага корпуса ў Валынскую губерню з мэтай узрушыць пакой яе насельніцтва і ўстанавіць там Варшаўскую канфедэрацыю.

Для заняцця бліжэйшых да Варшаўскага герцагства гг. Брэста і Кобрына Рэйнье адправіў ген.-м-ра г. К. Кленгеля (1761-1814) з 3-тысячным атрадам і 8-мю палкавымі гарматамі. Акрамя таго, ад авангарда, накіраванага на Янаў-Палескі, быў вылучаны адзін эскадрон для заняцця Пінска [254].

У першыя тыдні вайны Тармасаў, знаходзячыся на Валыні, заняў усе дарогі і масты ад Луцка да Брэст-Літоўска і правёў некалькі невялікіх баявых аперацый у Варшаўскім герцагстве, што выклікала там вялікую паніку і жах. Акрамя таго Тармасаў меў намер знішчыць Варшаўскую канфедэрацыю «в самом ее зародыше» [711].

Але выканаць гэты намер ён не паспеў, бо атрымаў загад Аляксандра I праз ваеннага міністра Барклая дэ Толі «...решительно действовать во фланг и тыл неприятельских сил, устремленных против князя Багратиона, который взял направление свое на Слуцк к Бобруйску, неприятель же, переправясь у Бреста, следует к Пинску» [654].

Не марудзячы час, армія Тармасава 6 (18) ліпеня выступіла ў паход. Ахова Валынскай і Падольскай губерняў была даручана атраду ген. барона Ф.В. Остэна-Сакена (1752-1837), частка 36-й пяхотнай дывізіі (6 батальёнаў) была накіравана да Мазыра ў падмацаванне 2-га рэзервнага корпуса ген. Ф.Ф. Эртэля (1768-1825). Для блакавання аўстрыйскай граніцы і Варшаўскага герцагства ў г. Уладзімір быў накіраваны ген. І.А. Хрушчоў (1774-1824).

Імператарскае прадпісанне аб рашучых дзеяннях супраць саксонцаў было выканана Тармасавым з вялікім поспехам. Першым атрадам 12 (24) ліпеня быў ачышчаны ад саксонцаў г. Пінск, другі атрад 13 (25) ліпеня захапіў Брэст-Літоўск, а асноўнымі сіламі арміі 15 (27) ліпеня Тармасаў штурмам авалодаў Кобрынам. У Пінску была адбіта ў саксонцаў адна гармата, якая стала першым трафеем расійскіх войскаў у вайне 1812 г. [855].

У баі за Кобрын пад магутным націскам расійскіх войскаў саксонцы былі вымушаны пайсці на капітуляцыю. У палон здаліся сам ген. Кленгель, 66 штаб- і обер-афіцэраў, больш




План сражэння аўстрыйскага корпуса
К. Ф. Шварцэнберга пры Гарадзечне 19 (31) ліпеня 1812 г.
Са збораў Расійскага ваенна-гістарычнага архіва
[5, спр. 64].



Карл Філіп Шварцэнберг (1771-1820), аўстрыйскі князь, дыпламат, камандуючы аўстрыйскім корпусам.
За паспяховае правядзенне Гарадзечненскага сражэння, якое адбылося 31 ліпеня 1812 г., паводле прапановы Напалеона, Венскі Двор прысвоіў яму званне генерал-фельдмаршала [1013, с. 93].

за 2 тыс. радавых, такая ж колькасць саксонцаў, паводле рапарта Тармасава, была забіта.

Гэта была першая буйная перамога расійскай арміі над войскамі Напалеона ў кампаніі 1812 года. Менавіта ў гонар Кобрынскай перамогі ад сцен Петрапаўлаўскай крэпасці 16 (28) ліпеня прагучаў першы гарматны салют з пяці салютаў у Санкт-Пецярбургу ў гонар перамогі Расіі над Напалеонам за ўсю вайну 1812 года.

Напалеон быў вельмі ўражаны весткай аб паражэнні і паланенні ген. Кленгеля і адчуў небяспеку тылу яго «Вялікай арміі». Ён загадвае Шварцэнбергу аказаць дапамогу Рэйнье, пасля чаго два галоўнакамандуючых накіравалі свае войскі ад Слоніма насустрач 3-й расійскай арміі, якая стаяла ў гэты час у м. Антопаль.

Пасля сутычак і баёў пад Пружанамі, на р. Ясяльдзе, каля мм. Вінец, Сігневічы, Клетнае, Козі Брод 30 ліпеня (11 жніўня) Тармасаў сабраў 3-ю рускую армію пад м. Гарадзечна Пружанскага павета.

Менавіта тут адбылася буйная бітва паміж аб'яднанымі Аўстрыйскім дапаможным корпусам і 7-ым Саксонскім пяхотным корпусам «Вялікай арміі» пад агульным кіраўніцтвам ген. кн. К. Шварцэнберга (1771-1820) і галоўнымі сіламі 3-й Абсервацыйнай арміі пад камандаваннем ген. А. Тармасава.

У выніку сражэння расійская армія адбіла ўсе атакі аўстрыйцаў і саксонцаў, але пад моцным ціскам пераўзыходзячых сіл праціўніка вымушана з баямі пад мм. Стрыгава і Дывін адступіць на Валынь [855].

Напалеон у сваім чарговым бюлетэні абвясціў аб сваёй поўнай перамозе ў бітве пры м. Гарадзечна. Паводле ягонага хадайніцтва, за станоўчыя вынікі Гарадзечненскай бітвы аўстрыйскі імператар Франц I прысвоіў ген. Шварцэнбергу званне генерал-фельдмаршала [654].

У гэтай бітве абодва бакі панеслі значныя страты агульнай колькасцю каля 5-ці тыс. чалавек.

У сувязі з агульным адыходам пасля Гарадзечненскай бітвы расійскіх войскаў на Валынь атрад ген. Мелісіна пакінуў Пінск, але камандуючы 2-м рэзервным корпусам ген.-л-т Эртэль, паводле загада Тармасава, накіраваў у Пінск атрад ген. Запольскага ў колькасці 4-х тыс. чалавек.

У дзень Барадзінскай бітвы 26 жніўня (7 верасня) пад Пінскам адбыўся бой паміж асобнымі атрадамі аўстрыйскай брыгады фельдмаршала-лейтэнанта барона І. Ф. Мора



Nro 70.

KURYER LITEWSKI

POLSKA

Першая старонка Віленскай газеты «Kuryer Litewski» № 70 ад 2 верасня 1812 г. (па ст. стылі) з перадавым артыкулам аб падзеях, якія адбыліся ў ліпені 1812 г. на Піншчыне. Са збораў бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта. Фота аўтара, 2011 г.

(1765-1846) і падраздзяленнямі 2-га рэзервнага расійскага корпуса пад камандай ген. А. В. Запольскага (1768-1813), у выніку якога Пінск быў часова пакінуты аўстрыйцамі, а неўзабаве зноў імі заняты.

Адступленне 3-й Заходняй арміі Тармасава на Валынь выклікана не толькі магутным контрнаступленнем аб'яднаных аўстра-саксонскіх войскаў, іх перавагай сіл у два разы, недахопам правіянту, але і варожасцю мясцовых жыхароў Гродзенскай губерні да расійскага войска [254].

Адкрыты сабатаж мясцовага насельніцтва ўскладніў нармальнае забеспячэнне арміі харчаваннем. Пра гэта сведчыць рапарт яе галоўнакамандуючага Тармасава імператару Аляксандру I і ваеннаму міністру, у якім ён піша, што «все жители взбунтовались против нас, вооружались вилами и косами, укрывались в лесах, убегали от войск наших, нападали на малые партии и курьеров» [654].

Баявыя дзеянні 3-й Заходняй арміі з аўстра-саксонскім войскам на тэрыторыі Гродзенскай губерні ў чэрвені-ліпені 1812 г. мелі станоўчыя і адмоўныя вынікі для ваюючых бакоў.

Расіяне сваімі дзеяннямі прыкавалі да сябе два 40-тысячныя карпусы саюзнікаў Напалеона, а аўстра-саксонцы, у сваю чаргу, перакрылі шлях арміі Тармасава да руху ў тыл і фланг «Вялікай арміі» Напалеона, прымусілі яе адступіць на Валынь і там знаходзіцца ў бяздзеянні да верасня 1812 г.

У пачатку верасня туды прыбыла Дунайская армія адм. П. В. Чычагава (1767-1849), стварыўшы разам з 3-й Заходняй арміяй і 13-й пяхотнай дывізіяй Рышэльё магутную групоўку сіл, якая налічвала больш за 98 тыс. салдат і афіцэраў і звыш 400 гармат [224].

Уступіўшы ў камандаванне аб'яднанай арміяй, якая атрымала ранейшую назву 3-я Заходняя [290], Чычагаў распачаў у канцы верасня масіраваную атаку на Брэст-Літоўск, але знішчыць аўстрыйскі і саксонскі карпусы яму не ўдалося, бо фельдмарш. Шварцэнберг скарыстаў пралікі Чычагава, паспяхова выйшаў з акружэння і без вялікіх страт адвёў свае войскі за Буг, меўшы толькі баявое сутыкненне з расіянамі на р.Лясная каля м. Клейнікі Брэсцкага павета [654].

Першая старонка спіса воінаў 3-й расійскай арміі А. П. Тармасава ад 5 жніўня 1812 г., прадстаўленых для ўзнагароджання за мужнасць у баі пры Гарадзечне 15 ліпеня 1812 г.
Са збораў Расійскага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу [15, спр. 21, л. 761].



Капітуляцыя саксонскай брыгады ў Кобрыне 1812 г. Карціна каля 1960 г. Мастак Сцельмашонак У. І. Са збораў Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава [Кп, 3001].



Кобрын. Будынак Спасскага манастыра (XV ст.), на двары якога 15 ліпеня 1812 г. адбылася цырымонія капітуляцыі саксонскай брыгады брыгаднага ген. Кленгеля (1761-1814), які быў узяты расіянамі ў палон. Фота аўтара, 2012 г.

Вызваленнем Брэст-Літоўска ад аўстра-саксонскіх войскаў скончыўся першы этап контрнаступлення 3-й Заходняй арміі. Асноўная прычына 2-дзённай затрымкі Чычагава пад Брэст-Літоўскам і нявыканання ім загадаў Аляксандра I і Кутузава аб тэрміновым следаванні на галоўны тэатр вайны крыецца ў характары самога галоўнакамандуючага адм. Чычагава, які даў зарок знішчыць войска Шварцэнберга і ўпарта дзейнічаў у гэтым кірунку, вёўшы так званую «Малую вайну» [855]. Яе сутнасць заключалася ў наступным. Ад арміі былі вылучаны два буйныя атрады, першы з якіх пад камандай ген. Чапліца паспяхова правёў захоп Слоніма і ўшчэнт разграміў ген. Я. Канопку (1775-1814), сфарміраваўшага на Беларусі «...новую гвардию для Наполеона под названием «Литовской». Сам Я. Канопка быў ранены і разам з палкавой казной узяты ў палон атрадам палк. г. А. Дзячкіна [711].

Другі атрад пад камандай палк. А. І. Чарнышова (1785-1857) не менш паспяхова зрабіў глыбокі рэйд на тэрыторыю Варшаўскага герцагства ў напрамку Любліна, чым устрывожыў палякаў і прымусіў Шварцэнберга тэрмінова адцягнуць войска на ахову Варшавы [654].

Трэцім буйным атрадам у складзе корпуса ген. П. К. Эсена (1772-1844) Чычагаў спрабаваў разграміць групоўку аўстра-саксонскіх войскаў пад м. Бяла, але аперацыя не ўдалася і корпус Эсена пацярпеў паражэнне [711].

Такім чынам, у невялікіх баявых аперацыях пад Брэст-Літоўскам, Слонімам, Бялай-Падляскай 3-я Заходняя армія марнавала час і сілы, забіраючы ў мірнага насельніцтва «... вооружённою рукою запасы... хлеба, фуража и скота», наносячы жыхарам Гродзенскай губерні вялікія пакуты ад няспынных рэквізіцый [290].

Тым часам на працягу ліпеня-лістапада 1812 г. мужна вялася абарона Бабруйскай крэпасці расійскім гарнізонам пад камандаваннем ген.-м-ра г. А. Ігнацьева (1768-1852) ад аблогі яе польскай дывізіяй ген. Я. Дамброўскага. Аблога была знята ў выніку агульнага контрнаступлення расійскай арміі 10 (22) лістапада 1812 г.

## Глава 47

# Ад Друі праз Полацк да Смалянцоў

Пры адступленні 1-й Заходняй арміі з Дрыскага ўмацаванага лагера на Віцебск у канцы чэрвеня 1812 г. з яе складу быў вылучаны асобны корпус, які атрымаў назву 1-га асобнага пяхотнага корпуса пад камандаваннем ген.-л-та П.Х. Вітгенштэйна і размясціўся на правым беразе Заходняй Дзвіны для прыкрыцця Санкт-Пецярбурга.



Даву Луі Ніколе (1770-1823), маршал «Вялікай арміі» Напалеона, князь Экмюльскі, у 1812-1813 гг. камандаваў 1-м корпусам, з ліпеня 1813 г. камандуючы 13-ым корпусам, затым галоўнакамандуючы ў Гамбургу [1013, с. 71].

З улікам папаўненняў Санкт-Пецярбургскага і Наўгародскага апалчэнняў, а таксама Фінляндскага корпуса войска Вітгенштэйна мела амаль 40 тыс. чалавек. Спачатку яму супрацьстаяў 2-гі пяхотны корпус марш. Удзіна, затым войскі маршалаў К. Віктора Клода Перэна (1764-1841) і Л. Гувіёна Сен-Сіра (1764-1830).

На працягу ліпеня-лістапада 1812 г. корпус Вітгенштэйна правёў шэраг баёў і сражэнняў на тэрыторыі Віцебшчыны, у прыватнасці: 3 (15) ліпеня каля г. Друя, 18-19 (30-31) ліпеня пры м. Клясціцы, 20 ліпеня (1 жніўня) каля вв. Баяршчына і Галаўшчына, 30 ліпеня (11 жніўня) пры фальварку Свольна, 5-6 (17-18) жніўня пад г. Полацкам, 10 (22) жніўня пры м. Белае, 6-8 (18-20) жніўня зноў пад Полацкам, 19 (31) кастрычніка каля м. Чашнікі, 20 кастрычніка (1 лістапада) пад Віцебскам і 2 (14) лістапада пры в. Смалянцы.

У баі пад Друяй быў узяты ў палон ген. Ж. Сен-Жэнье (Дэліль дэ Фалькон), а ягоная брыгада была поўнасцю разбіта.



Атака каля Клясціц 20 ліпеня 1812 г. Хромалітаграфія пачатку XX ст. Мастак Н. Самакіш [302, с. 50].

Сражэнне пры м. Клясціцы было адным з буйных, у выніку якога французскі корпус марш. Удзіна пацярпеў паражэнне і яго-нае наступленне на Санкт-Пецярбург было сарвана. За ўсе тры дні клясціцкіх баёў страты ваюючых карпусоў дасягнулі каля 9 тыс. чалавек.

У баі пад м. Баяршчына расійскі атрад з авангарда ген. Я.П. Кульнева (1763-1812) папаў у засаду і пацярпеў паражэнне, а ў баі каля в. Галаўшчына была разбіта французская дывізія ген. Ж. Вярдзье (1767-1839).

Гарачыя баталіі разгарнуліся пад Полацкам. Падчас першага сражэння напалеонаўскія войскі адбілі ўсе атакі корпуса Вітгенштэйна і прымусілі яго адступіць за р. Дрысу. На полі бітвы засталося больш за 8 тыс. забітымі і раненымі з абодвух бакоў.

Падчас 2-га Полацкага сражэння ў пачатку кастрычніка 1812 г. расійскія войскі прымусілі французаў пакінуць горад і адступіць за р. Дзвіну. У гэтым сражэнні страты французаў ацэньваюцца ў 6-7 тыс. чалавек, расійскіх войскаў — ад 6 да 8 тысяч.

У ходзе боя пад м. Чашнікі корпус Вітгенштэйна пацяснуў французаў за р. Лукомку. Страты абодвух бакоў тут у жывой сіле склалі каля 2 тыс. чалавек.

Паражэннем французскага атрада пад камандаваннем ген. Ф. Пужэ (1767-1851) скончыўся бой за Віцебск, а ў выніку боя каля в. Смалянцы ў пачатку лістапада 1812 г. французская групоўка ген. Ф. Фурнье (1773-1827) вымушана была адступіць, пакінуўшы на полі боя каля 3-х тыс. чалавек. Расіяне ў гэтым баі панеслі страты ў 2.5 тыс. забітымі і раненымі.

## Глава 48

# З Брэста праз Мінск на Бярэзіну

Рашэнне аб выступленні 3-й Заходняй арміі на галоўны тэатр вайны адм. Чычагаў прыняў у Брэст-Літоўску толькі 15 (27) кастрычніка, а праз тры дні яго асноўныя сілы войска рушылі ў кірунку Пружан і Слоніма [711].

Другая частка арміі пад камандаваннем ген.-л-та Остэн-Сакена засталася пад Брэст-Літоўскам для затрымкі аўстра-саксонскага войска і прыкрыцця маршу асноўных сіл арміі Чычагава.

Даведаўшыся аб руху 3-й Заходняй арміі на галоўны тэатр вайны, войскі Рэйнье і Шварцэнберга рушылі ўслед за расіянамі, але 2 лістапада корпус Остэн-Сакена дагнаў саксонскі корпус Рэйнье ў Ваўкавыску і магутным націскам ачысціў горад ад саксонцаў, але пад ударам корпуса Шварцэнберга, які тэрмінова вярнуўся з-пад Слоніма на дапамогу Рэйнье, корпус Остэн-Сакена з крывавымі баямі пад Шарашовам, Пружанамі і Брэстам, адцягваючы аўстрыйцаў і саксонцаў ад праследавання асноўных сіл 3-й Заходняй арміі, адступіў на Брэст-Літоўск, затым на Валынь [313].



П. В. Чычагаў, галоўнакамандуючы 3-й Заходняй расійскай арміяй.

Маючы імператарскае даручэнне аб сумесных дзеяннях з корпусам ген. Вітгенштэйна і для адкрыцця з ім прамых зносін, Чычагаў накіраваў у Нова-Лепель атрад палк. Чарнышова.

Нягледзячы на варожасць у адносінах да расіян жыхароў Гродзенскай губерні, якія «...готовы были извещать комендантов и этапных начальников о движении отряда», Чарнышоў паспяхова прайшоў шлях каля 400 вёрст і, паводле слоў Аляксандра I, «... сделал один из самых смелых маршей, о каких повествует история» [654].

Атрымаўшы паведамленне аб паспяховым узяцці ген. Вітгенштэйнам Полацка, Чычагаў паскорыў марш на Мінск і Бярэзіну. На шляху следавання авангардам арміі пад камандаваннем ген. Ламбэрта 1 (13) лістапада пад Нова-Свержанем і 3 (15) лістапада пры Койданаве быў поўнасцю разбіты 5-тысячны атрад ген. Ф. К. Касецкага (1778-1858).

Адсутнасць агульнага кіраўніцтва з боку губернатара Мінска брыгаднага ген. М. К. Бранікоўскага (1767-1817) над войска-



План мастоў і перапраў для войскаў Напалеона Банапарта праз Бярэзіну 26-28 лістапада 1812 г., выкананы паручнікам корпуса інжынераў «Вялікай арміі» Міхаілам Свідай. Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве [38. MWP 1019 C].

мі генералаў Ф. Касецкага і Я. Г. Дамброўскага (1755-1818), разгром 5-тысячнага войска Касецкага паскорылі заняцце расіянамі Мінска, Барысава і выхад на Бярэзіну.

Рыхтуючыся да Бярэзінскай аперацыі, Чычагаў зрабіў сур'ёзны пралік. Не разабраўшыся ў сітуацыі, ён накіраваў авангард арміі пад камандай ген. П. П. Палена (ген. Ламбэрт быў паранены пры штурме Барысава) за Бярэзіну, дзе каля м. Лошніца расійскі авангард быў ушчэнт разбіты французскімі войскамі марш. Удзіна, якія на плячах уцякаючых расійскіх салдат уварваліся ў Барысаў [711].

Падзеі развіваліся так імкліва, што Чычагаў не паспеў нават арганізаваць абарону горада, і 3-я Заходняя армія ў беспарадку кінулася на правы бераг Бярэзіны, а сам галоўнакамандуючы ледзве не трапіў у палон, страціўшы ўсю канцылярыю, абоз і раненых [878].

У журнале ваенных дзеянняў Дунайскай (3-й Заходняй) арміі аб гэтых трагічных падзеях запісана так: «Крайность в сии минуты в беспорядке была видна, всяк спасался, как мог, артиллерия и пехота, с частью обозов полковых, спасались ровно и кавалерия авангарда, портикулярные же экипажи всей штабквартиры и канцелярии всего дежурства достались в руки неприятеля» [1. ф 1836].

У гэты дзень 11 (23) лістапада Напалеон у м. Бабры загадаў знішчыць (спаліць) штандары з арламі ўсіх палкоў «Вялікай арміі» [734].

На стар. 230-231: Пераправа французаў цераз Бярэзіну. Гравюра XIX ст. Мастак Фердынанд Дэланэ.
Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве [38. MWP 8755].



МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХЪ ДѢЛЪ.

ДЕПАРТАМЕНТЪ Общихъ дѣлъ.

Отдѣленіе VI. Столъ I.

30 апрѣля 1914 г.

№ 14424.

По ВЫСОЧАЙШЕМУ повелѣнію.

Гродненскому Губернатору.

ГОСУДАРЬ ИМПЕРАТОРЪ, по всеподданнѣйшему докладу Министра Внутреннихъ Дѣлъ, въ 22 день сего апрѣля, ВСЕМИЛОСТИВѢЙШЕ соизволилъ разрѣшить Гродненскому Губернскому Комитету по устройству празднованія 100-лѣтняго юбилея Отечественной войны соорудить въ гор. Волковыскѣ памятникъ героямъ Отечественной войны.

О таковомъ ВЫСОЧАЙШЕМЪ соизволеніи увѣдомляю Ваше Превосходительство для объявленія по принадлежности съ приложеніемъ копіи ВЫСОЧАЙШЕ одобреннаго проекта памятника.

За Министра Внутреннихъ Дѣлъ,
Товарищъ Министра

Исп. об. Вице-Директора

Паведамленне Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі на імя гродзенскага губернатара ад 30 красавіка 1814 г. аб дазволе імператарам Мікалаем ІІ на ўзвядзенне помніка ў гонар герояў 1812 г. у Ваўкавыску [16, спр. 131].




Праект помніка 1812 г. у Ваўкавыску (не рэалізаваны). Дадатак да пісьма Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі на імя Гродзенскага губернатара ад 30 красавіка 1814 г. аб дазволе імператарам Мікалаем ІІ на ўзвядзенне помніка1812 г. у Ваўкавыску [16, спр. 131.

Акружаны з усіх бакоў, знаходзячыся з фізічна і маральна разгубленай арміяй, асабліва ад падзення дысцыпліны, Напалеон «... и в сем положении, может быть, самом бедственном, в каком когда-либо находился, великий полководец сей, не потерял присутствия духа» [313].

Даведаўшыся, што адм. Чычагаў дбае толькі аб ніжняй Бярэзіне, Напалеон вырашыў не адкладваць на далей і пачаў пераправу рэштак сваёй арміі каля в. Студзянка, што ў 12 вярстах ад Барысава.

Перавага ў жывой сіле над 3-й Заходняй арміяй, адсутнасць адзінага кіраўніцтва аперацыяй у расіян з боку фельдмаршала Кутузава, няўзгодненасць дзеянняў паміж расійскімі камандуючымі П. В. Чычагавым, П. Х. Вітгенштэйнам (1768-1843), А. П. Ярмолавым (1772-1861) і М. І. Платавым (1753-1818), няведанне Чычагавым канкрэтнага месца пераправы Напалеона праз Бярэзіну прывялі расіян да правалу Бярэзінскай аперацыі па паланенні Напалеона і рэштак ягонай «Вялікай арміі», у выніку якой 16 (28) лістапада 1812 г. па палудні «...неприятель от генерала до рядового все в одну густую колонну сомкнувшись... сделав сей колонной пролом в нашей цепи, то вслед сам Наполеон с гвардией вышел на дорогу к Зембину...» пад прыкрыццём корпуса марш. Віктора [711].

Атрымаўшы данясенне аб пасляховай пераправе Напалеона праз Бярэзіну, Аляксандр І накіраваў Чычагаву рэскрыпт, у якім выказаў незадаволенасць дзеяннямі адмірала.

Вестка аб удалай пераправе Напалеона праз Бярэзіну была ўспрынята грамадскай думкай Расіі як велізарная няўдача, таму яна пачала шукаць вінаватага за правал аперацыі. Такім вінаватым у вачах суайчыннікаў мог быць толькі адмірал Чычагаў, бо заслугі фельдмаршала Кутузава перад Расіяй у цяжкія моманты выпрабавання былі вельмі вялікімі, каб на ягонае імя магло легчы такое абвінавачанне. Тым часам 21 лістапада (3 снежня)



Узяцце Полацка 6 кастрычніка 1812 г. Гравюра І. Беграва, выкананая пад кіраўніцтвам С. Кардэлі ў 1814 г., паводле арыгінала Д. Скоцці [302, с. 255].

Напалеон з гвардыяй прыбыў у Маладзечна, загадаўшы знішчыць усе ягоныя архівы, а 23 лістапада (5 снежня) 1812 г. у Смаргоні ён усклаў камандаванне рэшткамі «Вялікай арміі» на марш. Мюрата, а сам накіраваўся ў Парыж.

Ад Бярэзіны рэшткі «Вялікай арміі» імкліва рушылі па віленскаму тракту на захад. Іх праследаваў авангард ген. Чапліца, за якім цягнуліся галоўныя сілы 3-й Заходняй арміі. На поўдні паралельна арміі рухаўся корпус М. Платава, на поўначы — корпус П. Вітгенштэйна. За імі следаваў авангард Галоўнай расійскай арміі пад камандаваннем ген.-л-та М.А. Мілардовіча (1771-1825) і далей астатнія расійскія войскі.

22-23 лістапада (4-5 снежня) 1812 г. пад Маладзечна адбыўся апошні на тэрыторыі Беларусі двухдзённы бой французаў з расіянамі, у выніку якога расійскія войскі нанеслі праціўніку паражэнне і ўзялі ў палон каля 2.5 тыс. французскіх салдат.

Напалеонаўскі дом у Старым Барысаве. Фота без даты. Са збораў архіва кінафотадакументаў Рэспублікі Беларусь у г. Дзяржынску [40, 0-30045].



Барысаў. Студзянка. Месца пераправы Напалеона праз Бярэзіну. У цэнтры — помнік Напалеону Банапарту. Фота да 1912 г. Са збораў архіва кінафотадакументаў Рэспублікі Беларусь у г. Дзяржынску [40, 1-3420].





…ЕЮ МИЛОСТІЮ
…ЕКСАНДРЪ ПЕРВЫЙ
ИМ… РЪ и САМОДЕРЖЕЦЪ ВСЕРОССІ…
и прочая, и прочая, и прочая.

Объявляемъ всенародно.

Въ настоящую нынѣ съ французами войну главная част… въ прежде бывшихъ польскихъ, нынѣ же Россійскихъ обла… тяхъ, пребыли НАМЪ вѣрны; почему и раздѣляютъ со всѣми вѣрноподданными НАШУ признательность и благоволеніе… различными образами навлекли на себя праведный НАШЪ… по вступленіи непріятеля въ предѣлы НАШЕЙ Импері… насилія и принужденія, или мечтанія спасти имущества… зоренія и грабительства, вступали въ налагаемыя ото… должности. Другіе, которыхъ число меньше, но прес… сравненно больше, пристали, еще прежде нашествія на и… странѣ чуждаго для нихъ пришельца, и подъемля въ… жіе противъ НАСЪ, восхотѣли лучше быть послѣдни… нежели НАШИМИ вѣрноподданными. Сихъ послѣднихъ… бы наказать мечь правосудія; но видя излившійся на нихъ… поразившій ихъ вмѣстѣ съ тѣми, которыхъ владычеству…

# РАЗДЗЕЛ VII

# Пасля-ваенная Беларусь

ПАСЛЯ-ВАЕННАЯ БЕЛАРУСЬ

## Глава 49
# Бегства Напалеона праз Беларусь

Усведамляючы гібель сваёй «Вялікай арміі» і неабходнасць стварэння новай арміі для працягу непазбежнай барацьбы, Напалеон быў вымушаны пакінуць свае войска. Прыпыніўшыся 21 лістапада (3 снежня) у Маладзечна, ён склаў свой знакаміты 29-ты бюлетэнь, дзе ўпершыню шчыра прызнаў сваю паразу і абвінавачваў лютыя расійскія маразы ў пагібелі сваёй арміі на расійскіх абшарах. Паводле слоў Ж. дэ Марбо, гэты бюлетэнь Напалеона «глыбока ўзрушыў усю Францыю» [1172].



Аляксандр I. Мастак невядомы, XIX ст. Са збораў музея Войска Польскага [1273, с. 118].

Дасягнуўшы Смаргоні, Напалеон знайшоў там прывезеныя з Вільні прыпасы і данясенне аб прыбліжэнні дывізіі Л. А. Луазона, які быў на той час губернатарам Кёнігсберга. Ён паклікаў сваіх маршалаў і абвясціў аб сваім намеры вярнуцца ў Францыю. Галоўнакамандуючым арміяй быў прызначаны Мюрат, з сабой Напалеон забраў толькі Каленкура, Дзюрока, ген. Мутона, мамлюка Рустама і аднаго польскага афіцэра ў якасці тлумача-перакладчыка.

У карэту з Напалеонам сеў Каленкур, у санках размясціліся Дзюрок і Мутон, а польскі афіцэр і Рустам селі на козлы. Пры 28 градусах марозу ноччу Напалеон прыехаў у Ашмяны, дзе стаяла дывізія Луазона, якая таксама знаходзілася ў разгубленым маральным і фізічным стане.

Паводле слоў удзельніка пахода Я. Храпавіцкага, дывізія генерала Луазона ў Вільні за чатыры дні пераходу да Ашмян страціла тры чвэрці сваёй колькасці, а пры ўзяцці Вільні расійскімі войскамі астатняя частка дывізіі была ўзята ў палон. Уся дарога была ўсеяна мёртвымі ці паміраючымі целамі салдат [888].

Пры пад'ездзе да Вільні за некалькі дзясяткаў кіламетраў Напалеона сустрэў французскі міністр замежных спраў Францыі герцаг дэ Басана (Г. Б. Марэ). Яны разам ехалі да самага горада. Падчас гутаркі Напалеон мовіў, што «...арміі няма, а бязладны натоўп блукаючых для пошуку ежы і прытулку нельга назваць арміяй. З іх яшчэ магчыма было б скласці армію, калі б у адным з бліжэйшых пунктаў удалося нам знайсці харч, абутак і адзенне для галодных людзей» [377].



29° BULLETIN DE LA GRANDE ARMÉE.

(Extrait du Moniteur du 17 décembre 1812.)

Molodetschno, le 3 décembre 1812.

Jusqu'au 6 novembre le temps a été parfait, et le mouvement de l'armée s'est exécuté avec le plus grand succès. Le froid a commencé le 7; dès ce moment, chaque nuit nous avons perdu plusieurs centaines de chevaux qui mouraient au bivouac. Arrivés à Smolensk, nous avions déjà perdu bien des chevaux de cavalerie et d'artillerie.

L'armée russe de Volhynie était opposée à notre droite. Notre droite quitta la ligne d'opération de Minsk, et prit pour pivot de ses opérations la ligne de Varsovie. L'Empereur apprit à Smolensk, le 9, ce changement de ligne d'opérations, et présuma ce que ferait l'ennemi. Quelque dur qu'il lui parût de se mettre en mouvement dans une si cruelle saison, le nouvel état des choses le nécessitait. Il espérait arriver à Minsk, ou du moins sur la Beresina, avant l'ennemi; il partit le 13 de Smolensk; le 16 il coucha à Krasnoi.

Le froid, qui avait commencé le 7, s'accrut subitement, et, du 14 au 15 et au 16, le thermomètre marqua 16 et 18 degrés au-dessous de glace. Les chemins furent couverts de verglas, les chevaux de cavalerie, d'artillerie, de train, périssaient toutes les nuits, non par centaines mais par milliers, sur-tout les chevaux de France et d'Allemagne. Plus de 30,000 chevaux périrent en peu de jours; notre cavalerie se trouva toute à pied; notre artillerie et nos transports se trouvaient sans attelage. Il fallut abandonner et détruire une bonne partie de nos pièces et de nos munitions de guerre et de bouche.

Cette armée, si belle le 6, était bien différente dès le 14, presque sans cavalerie, sans artillerie, sans transports. Sans cavalerie, nous ne pouvions pas nous éclairer à un quart de lieue; cependant, sans artillerie, nous ne pouvions pas risquer une bataille et attendre de pied ferme; il fallait marcher pour ne pas être contraint à une bataille que le défaut de munitions nous empêchait de desirer; il fallait occuper un certain espace pour ne pas être tournés, et cela sans cavalerie qui éclairât et liât les colonnes. Cette difficulté, jointe à un froid excessif subitement venu, rendit notre situation fâcheuse. Les hommes que la nature n'a pas trempés assez fortement pour être au-dessus de toutes les chances du sort et de la fortune, parurent ébranlés, perdirent leur gaieté, leur bonne humeur, et ne rêvèrent que malheur et catastrophes; ceux qu'elle a créés supérieurs à tout conservèrent leur gaieté et leurs manières ordinaires, et virent une nouvelle gloire dans des difficultés différentes à surmonter.

Знакаміты 29-ты бюлетэнь «Вялікай арміі» ад 21 лістапада (3 снежня) 1812 г., які быў складзены ў Маладзечна і апублікаваны ў газеце «Манітор» 17 снежня 1812 г. У ім Напалеон упершыню шчыра прызнаў сваю паразу і абвінавачваў лютыя расійскія марозы ў пагібелі сваёй арміі на расійскіх абшарах [1005, с. 101-а].

Герцаг дэ Марэ абнадзеіў Напалеона добрым станам віленскіх харчовых складоў, у якіх захоўвалася 14 тыс. чвэрцяў жыта, 5 тыс. чвэрцяў мукі, 30 тыс. параў абутку, мноства адзення і 27 тыс адзінак зброі. Напалеон, прыемна ўражаны такім станам правіянту, усклікнуў: «Вы вяртаеце мне жыццё! Заставайцеся да прыбыцця Мюрата і загадайце яму трымацца ў Вільні па крайняй меры нядзелю, каб як-небудзь прывесці ў парадак армію і працягваць адступленне не ў такім жаласным становішчы» [377].

У Вільні Напалеон прыпыніўся ў адным з прадмесцяў горада, каб змяніць коней, і паімчаўся далей. Газета «Кур'ер Літоўскі» не палічыла патрэбным шырока распаўсюджваць гэты факт і абмежавалася кароценькай інфармацыяй: «Вяртаючыся з Масквы, Напалеон праехаў віленскімі фарштатамі, за горадам прыняў кн. Басана і ваеннага губернатара, памяняў коней і паспяшаўся праз Коўна ў Францыю» [1140].

«Вялікая армія» бегла без славы, хоць і не прайграла ні аднаго буйнога сражэння ў Расіі. Яна аказалася надта велізарнай, халоднай і «няветлівай» краінай, якую заваяваць з паўмільённай арміяй было немагчыма.



БОЖІЕЮ МИЛОСТІЮ

МЫ АЛЕКСАНДРЪ ПЕРВЫЙ

ИМПЕРАТОРЪ и САМОДЕРЖЕЦЪ ВСЕРОССІЙСКІЙ

и прочая, и прочая, и прочая.

Объявляемъ всенародно.

На подлинномъ подписано собственною ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА рукою тако:

АЛЕКСАНДРЪ

Г. Вильна.
Декабря 12 дня 1812.

Маніфест Аляксандра I ад 12 снежня 1812 г. аб амністыі грамадзян ВКЛ, якія супрацоўнічалі з французскай адміністрацыяй. Копія дакумента з Нацыянальнага архіва Беларусі. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Фота аўтара, 2012 г.

## Глава 50
# Вяртанне расійскай адміністрацыі ў Беларусь

Па меры адыходу рэштакаў «Вялікай арміі» Напалеона за межы беларускіх губерняў паўсюдна ўводзілася расійскае ваеннае кіраўніцтва і стваралася тэрытарыяльная адміністрацыя.

Галоўным распарадчыкам у вызваленай Магілёўскай губерні быў прызначаны ген.-л-т Д. Шэпелеў. Арганізацыяй расійскай адміністрацыі ў Вільні займаўся адм. П. Чычагаў, які прызначыў камендантам Вільні падпалкоўніка Я. Храпавіцкага. Апошнімі тэрыторыямі, вызваленымі ад французскага нашэсця, сталі Гродзенская губерня і Беластоцкая вобласць. Пасля заняцця 9 (21) снежня 1812 г. Гродна партызанскім атрадам арганізацыяй у ім расійскай адміністрацыі займаўся яго камандзір ген. Д. Давыдаў.

Ён перадаў гарамадзянскую ўладу ў горадзе яўрэйскаму кагалу, змяніў паліцэйскае кіраўніцтва, выдаў загад аб неадкладнай (у лічаныя гадзіны) здачы гараджанамі агнястрэльнай зброі, даручыў былому кіраўніцтву муніцыпалітэта забяспечыць парадак, а 12 (24) снежня ў дзень нараджэння Аляксандра І распарадзіўся, каб ва ўсіх храмах горада цэлыя суткі гучалі званы і ўсе чыноўнікі прыбылі ў ягоную рэзідэнцыю з віншаваннямі.

Тым часам Мінск перад уваходам расійскага войска начыста апусцеў, бо жыхары пабеглі з горада ва ўсе бакі, баючыся помсты і салдацкай жорсткасці сваіх патэнцыйных ворагаў. Пасля абвешчанай амністыі для беларусаў і палякаў яны вярнуліся дамоў.

У Бабруйску ваенным губернатарам стаў ген. г. Ігнацьеў, які сумяшчаў абавязкі мінскага ваеннага губернатара.



Адам Ежы Чартарыйскі. Бронза. Мастак-скульптар Жан Давід. Парыж, 1844 г. Са збораў Каралеўскага замка ў Варшаве [1273, с. 81].

Канстанцін Паўлавіч, вялікі князь, родны брат Аляксандра І. Малюнак 1856 г. Мастак Готфрід Вілевальдэ. Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве [1273, с. 122].




























Калекцыя гравюр са сцэнамі жыцця і дзейнасці Напалеона Банапарта, якімі аздоблены падаруначныя шкатулкі. І палова XIX ст. , Нюрнберг. Мастак Т. Стэтнер. Са збораў музея Рамантызма ў Апінагоры [1273, с. 50].

У Вільні ўся ўлада перайшла да ген. А.М. Рымскага-Корсакава, прызначанага генерал-губернатарам Літвы, якому былі падпарадкаваны ўсе войскі, расквартэраваныя на яе тэрыторыі, і ўсе чыноўнікі і каманды. Тут з 19 (31) снежня 1812 па 30 лістапада (12 снежня) 1813 г. захоўвалася ваеннае палажэнне. На першых парах і да сакавіка 1813 г. парадак у Вільні падтрымліваўся гарадской нацыянальнай гвардыяй.

Паступова на тэрыторыі беларускіх губерняў пачалі аднаўляць сваю дзейнасць уладныя структуры пад кіраўніцтвам ваенных камендантаў. Складанасць сітуацыі пры фарміраванні новай расійскай улады заключалася ў тым, што былыя расійскія губернатары, іх намеснікі, губернскія чыноўнікі ў свой час былі эвакуіраваны ў глыбіню Расійскай імперыі, таму новы генерал-губернатар пры падтрымцы галоўнакамандуючага Кутузава вырашыў прыцягнуць ва ўладныя структуры нядаўніх прадстаўнікоў адміністрацыі ВКЛ, большая частка якіх засталася ў Беларусі і захавала свае пасады шляхам прызначэння ці выбараў.

Створаную 7 (19) снежня 1812 г. Часовую камісію Віленскай губерні спачатку ўзначаліў былы кіраўнік 1-га Дэпартамента Літоўскага суда, а пры нашэсці Напалеона — член камітэта юстыцыі Камісі Часовага ўрада ВКЛ Антоній Ляўданскі, затым выконваючым абавязкі старшыні быў прызначаны гр. Адам Храптовіч, які працаваў на гэтай пасадзе да часу яе ліквідацыі ў сакавіку 1813 г.

У Гродне Часовую губернскую камісію ўзначаліў павятовы маршалак М. Андрэйковіч, якога неўзабаве замянілі на кн. К.Ф. Друцкага-Любецкага.

Часовыя камісіі мелі па тры аддзяленні: харчавання, унутранага кіравання і фінансаў.

Для арганізацыі кіравання на месцах ствараліся павятовыя камісіі, у губернскіх



Ордэн для воінаў Ганаровых легіёнаў «Вялікай арміі» Напалеона (awers i rewers), 1807-1815. Са збораў музея Войска Польскага ў Варшаве [1273, с. 130].

гарадах аднаўлялі сваю дзейнасць казённыя палаты.

Новая расійская адміністрацыя ў Беларусі пачала вырашаць шэраг праблем. Самая важная з іх — забеспячэнне расійскіх войскаў харчаваннем, затым правядзенне санітарнай ачысткі ўсёй тэрыторыі ад мёртвых цел салдат і трупаў коней, барацьба з эпідэміяй, вырашэнне далейшага лёсу ваеннапалонных і, нарэшце, збор разнастайнай трафейнай зброі, узнаўленне дзейнасці паліцыі, пошты, судоў г.д.

Паводле загада Кутузава аб забеспячэнні расійскіх армій харчаваннем і фуражом, неабходна было стварыць сетку правіянцкіх магазінаў (складоў) у памежных губернях, на галоўных дарогах, трактах, гасцінцах праз кожныя 50-60 вёрст. У выніку прыдарожныя магазіны былі створаны на трактах ад Мінска да Гродна, у Смаргоні, Ашмянах, Вільні, Брэст-Літоўску і іншых беларускіх гарадах. Акрамя таго, пытанне арганізацыі харчавання расійскага войска было вырашана за кошт правіянту, які захапілі расіяне ў Мінскай, Віленскай і Гродзенскай губернях.

Велізарным бедствам для беларусаў з'явілася праблема ачысткі гарадоў і мястэчак ад цел палеглых у бітвах і замёрзлых салдат і мясцовых жыхароў, а таксама забітых коней. Мёртвых цел было шмат, яны валяліся паўсюдна, ствараючы небяспеку навалы эпідэмій і розных хваробаў. Спачатку імператарскім загадам было прадпісана Віленскаму губернатару арганізаваць прыборку мёртвых цел і іх спальванне, але іх было вельмі шмат, пры гэтым не хапала ні коней, ні павозак, ні дроў, ні людзей.

З гэтай нагоды, паводле распараджэння віленскага генерал-паліцмайстра, была створана санітарная камісія, якая выявіла толькі пад Вільняй горы трупаў (каля 14 тыс.), звезеных для спальвання. Было вырашана, каб не атручваць паветра смуродным дымам, целы палеглых салдат і трупы коней закопваць у вялікія ямы, прыцягнуць для гэтай работы сотні чалавек. Усяго за зіму-вясну 1812-1813 гг. было закапана каля 300 тысяч людскіх цел і 100 тысяч трупаў жывёлы [131].

Тым часам на плечы беларускага насельніцтва таксама лёг цяжар утрымання вялікай колькасці ваеннапалонных і раненых французскіх воінаў. Неабходна прызнаць, што Аляксандр I праявіў літасць і прыхільнасць да лёсу палонных французаў, бо яшчэ 7 (19) лістапада 1812 г. падпісаў распараджэнне аб забеспячэнні іх харчаваннем, вопраткай і абуткам для адпраўкі па этапу ў цэнтральныя раёны Расійскай імперыі, а таксама вяртання на радзіму. На шляху руху калон палонных праз Віцебск, Ашмяны, Смаргонь, Маладзечна, Мінск, Магілёў і інш. пункты Беларусі ствараліся харчовыя склады, якія папаўняліся за кошт мясцовага насельніцтва.

## Глава 51

# Пасляваенныя клопаты па аднаўленні Польшчы і ВКЛ

Параза Напалеона ў вайне 1812 г. стварыла новую палітычную сітуацыю ў Беларусі і Польшчы, магчымасці іх аднаўлення пад апекай Расійскай імперыі. Актыўнасць у гэтай справе праяўлялі зноў гр. М.К. Агінскі і кн. А.Е. Чартарыйскі, якія прапанавалі Аляксандру I новыя праекты аднаўлення польскай дзяржаўнасці, стварэнне Генеральнай канфедэрацыі і ўвядзенне Канстытуцыі 1791 г. на тэрыторыі Польшчы і Літвы.

Спачатку Аляксандр I падтрымліваў гэтыя намеры і прапановы. Ён нават распарадзіўся, каб расійскія войскі не кватэравалі ў Варшаве, а ўрад герцагства беспрашкодна займаўся сваімі справамі. Было створана Часовае кіраванне ў Варшаве на чале з былым гродзенскім губернатарам В. Ланскім, а неўзабаве пачалося фарміраванне Польскай (Рэзервовай) арміі пад кіраўніцтвам ген. Л. Бенігсена.

Расійскі імператар маніфестам ад 12 (24) снежня 1812 г. абвясціў амністыю жыхарам беларускіх губерняў, дараваў іх служэнне Напалеону, адхіліў прапанову Кутузава аб канфіскацыі маёнткаў заможнай шляхты на карысць расійскіх генералаў і афіцэраў, якія вылучыліся рэўнаснай службай і адвагай у вайне з Напалеонам.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў у Еўропе і вяртання Аляксандра I летам 1814 г. у расійскую сталіцу па просьбе М.К. Агінскага імператар прыняў дэпутацкую дэлегацыю ВКЛ ад Віленскай, Віцебскай, Валынскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай, Кіеўскай, Курляндскай, Падольскай губерняў і Беластоцкай вобласці. Падчас аўдыенцыі ён пацвердзіў свой акт амністыі, але вынясенне на разгляд пытання па аднаўленні Польшчы і Літвы адхіліў на нявызначаны тэрмін.

Крыху раней, у красавіку 1814 г., Т. Касцюшка асабіста звярнуўся да Аляксандра I з пісьмом, у якім прасіў дараваць жыхарам Варшаўскага герцагства і ВКЛ усеагульную амністыю без усялякіх абмежаванняў, абвясціць яго (Аляксандра I — аўт.) польскім каралём з свабоднай Канстытуцыяй, стварыць у Польшчы народную школу для сялянскіх дзяцей, скасаваць прыгонніцтва і надзяліць сялян зямлёй. У канцы пісьма Касцюшка гаворыць, што, нягледзячы на сваю хваробу і сталасць, ён, Касцюшка, выказвае імператару гонар і гатоўнасць служыць сваёй радзіме і яе манарху [781].

Князь Панятоўскі Юзаф Антоні (1763-1813), польскі генерал, з 4 (16) кастрычніка 1813 г. французскі маршал. У 1812 г. камандаваў 8-м корпусам, загінуў пад Лейпцыгам 7 (19) кастрычніка 1813 г. Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў [42].



Напалеон Банапарт у сваёй рэзідэнцыі пасля адрачэння ад прастола. 1814 г. Мастак Дэларош. Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў. Фота аўтара 2011 г. [42].

У адказ Аляксандр I дзякуе Касцюшку за ягоныя клопаты па адраджэнні сваёй краіны і падкрэслівае, што «он желает и надеется осуществить возрождение храброй и почтенной нации ... к которой принадлежит он (Касцюшка — аўт.) [781].

У наступным пісьме да Аляксандра I Касцюшка з хваляваннем і ўспламянёнасцю выказвае словы ўдзячнасці імператару і гаворыць, што «... адзін толькі клопат турбуе мяне, атручаючы маю радасць: я ўраджэнец Літвы, гасудар, і мне застаецца жыць нядоўга, між іншым, будучыня маёй радзімы і шмат якіх яе частак застаецца цьмянай і невядомай ... я не запамятаў тых велікадушных абяцанняў, якія Ваша імператарская і каралеўская Вялікасць пажадалі выказаць з гэтай нагоды ... я магу тады зысці ў магілу з уцехай і ўпэўненасцю, калі ўсе вашыя польскія падначаленыя будуць карыстацца вашымі добрымі дзеяннямі» [781].

Як пакажа час, спадзяванні Касцюшкі, Агінскага, Чартарыйскага і інш. дзяржаўных дзеячаў Польшчы і Беларусі на адраджэнне засталіся марнымі.

# Глава 52
# Страты Беларусі, нанесеныя вайной 1812 года

Французска-расійская кампанія 1812 года нанесла Беларусі велізарныя чалавечыя і матэрыяльныя страты. Гінулі на палях сражэнняў воіны-рэкруты, набраныя з беларускіх губерняў, касілі людзей эпідэміі, рэквізіцыі падвяргаліся жывёлы, у агні гарэлі гарады, вёскі, жыллё, матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, рабаваліся архіўныя, музейныя і бібліятэчныя скарбы, мастацкія шэдэўры, вывозіліся, разбягаліся і не вярталіся карэнныя жыхары і г.д.

Шэраг сучасных беларускіх даследчыкаў (Ю. Літвіноўская, К. Тарасаў, А. Лукашэвіч, П. Чыгрынаў і інш.) зрабілі спробу на падставе архіўных крыніц, друкаваных матэрыялаў прааналізаваць страчанае ў вайне 1812 года [587, 131, 844, 904].

Але, як слушна падкрэслівае А. Лукашэвіч, падлічыць страты, асабліва людскія, вельмі складана, бо дакладны падлік ахвяраў тады ніхто не вёў [131]. Гаварыць агулам, як гэта часам бывае, што ў гэтай вайне загінуў кожны трэці ці чацвёрты беларус, не зусім карэктна ды і не навукова.

У сваіх дакладных запісках тагачасныя губернатары беларускіх губерняў, іх чыноўнікі часам спрабавалі паказаць больш складаную сітуацыю са стратамі ў надзеі атрымаць ад царскага двара як мага большую кампенсацыю.

Матэрыялы тагачасных рэвізій (перапісаў) таксама не даюць дакладнага ўяўлення аб стратах, бо яны ўлічвалі толькі падатказдольнае насельніцтва, ды і самі падлікі былі прыблізныя.



Генерал Тадэвуш Тышкевіч (1774-1852), у 1812 г. камандаваў 19-й кавалерыйскай брыгадай у 5-м корпусе Ю. Панятоўскага, узяты ў палон у Медыні 13 (25) кастрычніка 1812 г. Са збораў музея Незалежнасці ў Варшаве [39. GR 1662].



Воіны арміі ВКЛ у 1812 г. [824, с. 38-а].



Аляксандр I ратуе Еўропу ад французскай навалы. Алегорыя. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

Напрыклад, вынікі VI рэвізіі 1811 г. паказалі, што ў сучасных тэрытарыяльных межах Беларусі на той час было каля 1млн 549 тыс. душ мужчын, а ўсяго насельніцтва каля 3 млн. чалавек, па VI рэвізіі 1815 г. мужчын засталося 1 млн 452 тыс. чалавек, што на 97 тыс. (6 %) менш, чым у 1811 г. Змяншэнне колькасці прыгонных сялян у памешчыкаў склала 20 % [587].

Там, дзе вяліся актыўныя баявыя дзеянні, дзе шматтысячныя арміі прасоўваліся праз асобныя паветы па некалькі разоў, матэрыяльныя і людскія страты былі яшчэ больш значнымі. Напрыклад, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губерні загінула чацвёртая частка насельніцтва, у Ашмянскім павеце Віцебскай губерні — 27 %, Браслаўскім — 20 %, Лідскім Гродзенскай губерні — 22 % і г.д.

Паводле А. Міхайлоўскага-Данілеўскага, цана знішчанай і разрабаванай маёмасці ў беларускіх губернях, страты жывёлы, знішчэнне хлеба, незлічоная колькасць рэквізіцый правіянту і фуражу, вываз бібліятэчных, архіўных каштоўнасцей, твораў мастацтва складалі велізарную па тым часе суму ў 152,9 мільёны рублёў серабром [654]. Мужчынскае насельніцтва скарацілася больш чым на палову, а ў асобных гарадах і мястэчках — на 70-80 працэнтаў.

Цана страт Мінскай губерні склала звыш 34,1 млн рублёў, Віцебскай — 39,9 млн, Магілёўскай — 33,9 млн, Гродзенскай — 32,5 млн рублёў.

Паўсюднае рабаванне, пажары, рэквізіцыі, спыненне транспартных зносін прывялі да заняпаду эканомікі і гандлю ў краі. Віленскія



Напалеон на востраве Святой Алены з блізкімі ў акружэнні варты.
Французская гравюра 1841 г. паводле Эдварда Шулера [1336, с. 420-а].

купцы, напрыклад, згубілі падчас вайны 361, 6 тыс. руб. серабром.

Шмат выдаткаў з беларускіх губерняў пайшло на ўтрыманне велізарнай колькасці шпіталяў і ваеннапалонных. Забеспячэнне іх адзеннем і абуткам абыходзілася заходнім губерням прыкладна па 50 руб. на кожнага.

Ад усеагульнай разрухі пацярпелі як буйныя маёнткі, так і гаспадаркі сярэдняй, дробнай шляхты і сялян.

Барысаўскі ўладальнік маёнтка Бялавічы А. Беліковіч, звяртаючыся пасля вайны да Мінскага грамадзянскага губернатара П. Дабрынскага, пісаў, што «...крестьяне разорены и оных значительное число поумирало и побито в деревне. В прах обращены хлеба, в зерне и на поле вовсе неприятелем истреблено...во дворе и во всех крестьян не осталось ни лошади, ни коровы, ни свиней, ни самомалейшей птицы...» [587].

У Магілёўскай губерні асабліва пацярпеў Капыскі раён, праз які праследавалі расійскія войскі і карпусы французскіх военачальнікаў Даву, Удзіна, Сен-Сіра, Ажэра, Грушы, Мюрата, Нея, Панятоўскага і інш. Па галоўнай дарозе на тэрыторыі ўсяго раёна даўжынёй каля 100 км былі выпалены амаль усе населеныя пункты, сялянскія хаты, цэрквы і касцёлы, млыны, паштовыя станцыі, амбары, казённыя мураваныя пабудовы, грэблі, масты і г.д. Такі ж лёс напаткаў мястэчкі і вёскі Бобр, Крупкі, Коханава, Маляўку, Талочын, Славені, Трасцянку, Бухарава, Замосце, Дуброўскае, Яблонку і інш.

Страты Аршанскага павета (цяпер Віцебская вобласць) дасягалі амаль трох млн. рублёў [587].

У Гродзенскай губерні моцна пацярпелі Брэст, Ваўкавыск, Кобрын, Пружаны і акаляючыя іх вёскі і мястэчкі. Знакаміты бой у Кобрыне войскаў Тармасава з саксонцамі 15 ліпеня 1812 г., затым шматразовае прасоўванне праз горад расійскіх, аўстрыйскіх і саксонскіх войскаў каштавала Кобрыну 927 спаленых, разабраных і знішчаных разнастайных гарадскіх пабудоў з 1187 іх агульнай колькасці. Страчаная маёмасць была ацэнена ў 270 тыс. руб. серабром.

Кобрынскі гараднічы Эме ў рапарце на імя літоўскага ваеннага губернатара 15 студзеня 1813 г. дакладваў, што «...следствием сего происшествия жители христиане и евреи, коих дома погорели, частью разошлись по разным местам, а частью хотя и остались в Кобрине, но живут по нескольку семейств у других хозяев, коих дома не сгорели и в весьма бедном состоянии находятся. Ибо и то, что могли вытащить из пожара или во время оного зарыть в землю, после разграбили и забрали неприятельские войска...» [232, 686].

У Брэсце, акрамя жыллёвых пабудоў, моцна пацярпелі Сімяонаўскі манастыр, у якім французы, шукаючы зброю, сарвалі падлогу ў храме і кельях, а таксама спалілі большую частку манастырскіх будынкаў.

1. Марш французскай дывізіі ген. Піно 16 ліпеня 1812 г. пасля пераходу цераз Нёман. Літаграфія 1830-х гг. Мастак А. Адам [302, с. 46].

2. Напалеон у Вільні. Вайсковы абоз"Вялікай арміі» на беразе Нёмана пад Вільняй. Мастак Тамаш Леон. Францыя. Са збораў музея Незалежнасці ў Варшаве [39. GR 1572].

Не пазбеглі такога лёсу і Пружаны, у першую чаргу маёнтак Гарадзечна, вв. Паддубна, Сасноўка, Харкі і Жабін, якія знаходзіліся ў эпіцэнтры Гарадзечненскай бітвы 31 ліпеня 1812 г. на Берасцейшчыне. Названыя вёскі ў ходзе двухдзённай бітвы былі разбураны і спалены датла, а ўцалелыя жыхары разышліся па навакольных вёсках. Паводле паданняў, нават палеглых воінаў не было каму пахаваць, таму шмат гадоў пазней іх астанкі, якія дзенідзе сустракаліся ў лясах паміж мм.Тэўлі і Гарадзечна, доўга напаміналі людзям аб ваенным ліхалецці [686].

У канцы 1813 г., паводле прадпісання Гродзенскага губернатара, Гродзенская палата накіравала спецыяльную камісію ў Пружанскі раён, каб разабрацца ў ягоным бядотным і жудасным стане. У данясенні, падпісаным саветнікам палаты Максімовічам і сакратаром Абнінскім, гаворыцца, што «...часть пружанских обывателей с голоду и несостоятельности разошлась по другим местам, а между оставшимися разразилась какая-то заразительная болезнь со смертельным исходом. В результате из числившихся в Пружанах по ревизии 1811 года 536 мужских душ осталось налицо 202, трагическое положение которых усугубляется исполнением земских повинностей, уплатой податей і недоимок прежних лет за полное по последней ревизии душ.

Причины бедствия:

1) по случаю бывших военных действий в прошедшем 1812 году почти половина урожайного хлеба пропала на поле, а собранный вместе з запасом прежних лет неприятелем забран;

2) на сей год не имели возможности засеять всей земли, и осталось пустопорожнего более половины;

3) нынешнего урожая с проходом войск не имели жители времени собрать, и по мокрому лету сенокосы затоплены и сгнили;

4) весь рогатый скот, в малой части оставшийся от неприятельских забров, как рабочий,

так и для пищи бывший, от падежа выпал так, что на весь город не более имеется как 30 штук, и лошадей то же число;

5) имущество жителей неприятелем истреблено и много жилых домов сожжено, словом, остались они без всякого состояния и промысла в самобеднейшем положении.

Сие несчастное состояние жителей христиан и разорение его неприятелем через пятивременное его посещение города заставляет нас просить отановить снятие недоимки, накопившейся с прежних лет провианта и фуража. С убывших 300 душ просим подати не брать, а исполнить повинности с оставшихся 202 душ и оказать разорённому городу и уезду защиту и покровительство» [325, 686].

Толькі невялікая частка жылых пабудоў захавалася ў г. Ваўкавыску, які быў настолькі разбураным, што дзяржаўныя ўстановы мусілі перанесці і часова размясціць у м. Ізабелін.

Крытычная сітуацыя склалася ў сельскай гаспадарцы. Велізарныя страты цяглавай жывёлы прывялі да рэзкага скарачэння пасяўных плошчаў. Напрыклад, у Гродзенскай губерні на пачатак вайны налічвалася каля 60, 5 тыс. коней і амаль 157 тыс. валоў, а ў 1813 г. засталося толькі 28 377 коней і 86 659 валоў, г.з., што іх колькасць скарацілася адпаведна на 53 і 45 % [587].

Нягледзячы на такую архіскладаную сітуацыю ў Беларусі, царскі Урад не адмяняў у краі ваеннага палажэння, а, наадварот, працягваў разглядаць яго як важную крыніцу для забеспячэння расійскай арміі харчам і фуражом, увёў жорсткую фіскальную палітыку, шырока практыкаваў штрафы і прымусовыя паборы, часам падтрымліваў добраахвотныя ахвяраванні сялян, імкнучыся выціснуць з насельніцтва як нядоімку даваенных гадоў, так і цякучыя плацяжы.

Напрыклад, толькі 2 (Быхаўскі і Чаўскі) з 12 паветаў Магілёўскай губерні на працягу 1813 г. у кошт ахвяраванняў паставілі 1 859 пудоў сухароў, 6 334 пуды мукі, 500 чвэрцяў крупы, 1 739 вёдзер віна, 466 галоў буйной рагатай жывёлы, больш за 3, 3 тысячы чвэрцей аўса, шмат пудоў сена, вялікую колькасць мёда, масла і іншай харчовай прадукцыі на агульную суму звыш 382 тыс. рублёў [587].

З усіх куткоў Беларусі пасыпаліся скаргі і прашэнні аб вызваленні ад непасільных паставак ці іх скарачэнні. Рэакцыяй царскага Урада на звароты грамадзян стала зацвярджэнне правілаў аб дапамозе хлебам пацярпелым ад вайны для харчу і сяўбы. Згодна з гэтымі правіламі, для харчу на душу насельніцтва выдзялялася паўтары чвэрці жытняга хлеба, на сяўбу — не больш за 2 чвэрці на дзесяціну [931].

Для падліку страт, нанесеных вайной 1812 года, ва ўсіх паветах беларуска-літоўскіх губерняў у студзені 1813 г. былі створаны люстрацыйныя камісіі, прычым апошнія кіраваліся інструкцыямі, якія распрацоўваліся Камісіяй Часовага ўрада ВКЛ пры Напалеоне.

Дадзеныя па паветах Гродзенскай і Мінскай губерняў дасылаліся ў Віленскі галоўны камітэт ваенных павіннасцей, з Віцебскай і Магілёўскай губерняў інфармацыя дасылалася ў адпаведны камітэт Санкт-Пецярбурга.

Пасля апрацоўкі дадзеных пацярпелыя дзяліліся на тры катэгорыі, у залежнасці ад колькасці страчанай маёмасці, цяглавай сілы, буйной рагатай жывёлы і г.д.

Першая катэгорыя насельніцтва, якое страціла жыллё і маёмасць, вызвалялася ад выплаты нядоімак даваенных гадоў, а таксама вызвалялася ад падаткаў да 1814 г.

Ветэраны французска-расійскай кампаніі 1812 г. ва ўніформе. Парыж 1848 г. Мастак Аджэ-Луі Жанэ-Ланжэ (1815-1872). Парыж. Са збораў музея Арміі ў Ансамблі Інвалідаў [42 — PL. 58; 1207, с. 39].



Адступленне Напалеона з рэшткамі «Вялікай арміі» пасля Бярэзіны. Гравюра 1841 г. паводле Эдварда Шулера [1336, с. 270-а].

уключна, з выплатай з казны кампенсацыі ў доўг у памеры пятай часткі ад страчанага. Другая катэгорыя пацярпелых, якая не страціла ўсяго жылля і жывёлы, мела права на льготы па падатках і кампенсацыю ў доўг. Трэцяя катэгорыя насельніцтва, якая пражывала ў зоне баявых дзеянняў, але моцна не пацярпела, мела таксама паслабленне па выплаце падаткаў, але не мела права на кампенсацыю. З выкананнем дадзенай інструкцыі на месцах не спяшаліся, бо царскім маніфестам ад 30 жніўня 1814 г. сяляне Заходніх губерняў Расіі вызваляліся толькі ад выплаты нядоімак за 1812-1813 гг., а буйным землеўладальнікам таксама даравaліся нядоімкі па працэнтным зборы з іхніх даходаў за 1812-1813 гг.

У выніку дзейнасці люстрацыйных камісій і Галоўных камітэтаў быў вызначаны агульны памер страт падчас вайны 1812 года, які склаў, як ужо гаварылася раней, прыкладна 155-160 мільёнаў рублёў.

Галоўнымі ўсё ж былі велізарныя страты сярод мірнага насельніцтва, якое апынулася ў пекле бітваў і сражэнняў, было безабаронным ад рабавання і гвалту, гінула ад пажараў, марозаў, голаду і эпідэмій. Адзін з удзельнікаў вайны пісаў, што пасля пераходу Бярэзіны адкрылася страшэнная карціна спустошанай навокал зямлі, бо ўцалелая частка жыхароў з дзецьмі разбеглася хто куды, па лясах, дзе без цяпла і прытулку гінулі сем'ямі так, што пасля надыходу вясны іх мёртвыя целы валяліся ў агародах, дамах, на вуліцах, у лясных гушчарах, «...и никто не был встречаем, кого бы можно было заставить похоронить оные» [131].



Здзекі салдат Напалеона над жанчынамі. Малюнак Францішка Гушо (1746-1828) з серыі 1810-1812 гг. [1305, с. 38].

Маладаследаванымі з'яўляюцца шматлікія факты рабавання ў Беларусі расійскімі войскамі і французамі замкаў, палацаў, музейных, бібліятэчных каштоўнасцей і іншых скарбаў у беларускіх храмах і манастырах.

Маюцца некаторыя звесткі аб рабаванні Нясвіжскага замка расіянамі, калі ягоны гаспадар Дамінік Радзівіл выступіў супраць Расійскай імперыі на баку Напалеона, што «...розныя брыліянты, серабро, золата і іншыя дарагія рэчы...» з Нясвіжскага замка саматужна забраў расійскі ген. С. Тучкоў, супраць якога пазней вялася крымінальная справа і загадам Кутузава ён быў арыштаваны і вызвалены ад пасады камандзіра корпуса, але праз шмат часу, у 1826 г., апраўданы за адсутнасцю доказаў [131].

Паводле загада галоўнакамандуючага 3-й Заходняй расійскай арміі адм. Чычагава ад 9 студзеня 1813 г., было прадпісана старажытныя манеты і медалі з Нясвіжскага замка накіраваць у Харкаўскі імператарскі ўніверсітэт, царкоўныя рэчы адаслаць Маскоўскаму сабору, рэдкія старадаўнія каштоўнасці пераправіць сапраўднаму стацкаму саветніку Валуеву, а ўсё астатняе прадаць на аўкцыёне.

Безумоўна, Беларусь панесла велізарныя людскія і матэрыяльныя страты, адной з якіх з'ўляецца канчатковае крушэнне спадзяванняў беларусаў аднавіць Айчыну ў колішніх межах Вялікага Княства Літоўскага, бо пасля вайны Расійская імперыя так і не рэалізавала гэтую каштоўную для мільёнаў беларусаў ідэю.





# РАЗДЗЕЛ VIII

# Ушанаванне беларускіх палёў бітваў 1812 года

## Глава 53
# Помнікі манументальнага мастацтва

Даволі паслядоўны аналіз зробленага па ўвекавечанні ахвяраў расійска-французскай кампаніі 1812 года на тэрыторыі Беларусі выканалі мінскі навуковец Анатоль Лукашэвіч [598] і мясцовы даследчык з Калінкавіч Уладзімір Лякін [610].

Усяго на тэрыторыі Беларусі на сённяшні дзень увекавечваюць памяць аб ахвярах вайны 1812 года 44 аб'екты манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.

На Брэстчыне ў розныя гады пасля вайны 1812 г. усталявана 10 мемарыяльных знакаў, помнікаў, храмаў і капліц, прысвечаных ахвярам вайны 1812 г., на Магілёўшчыне — 5, Міншчыне — 10, Гродзеншчыне — 5, Віцебшчыне — 12, на Гомельшчыне — 2 помнікі.

Паводле А. Лукашэвіча, найбольш буйнымі помнікамі фартыфікацыйнай архітэктуры і мастацтва, якія знітаваны з падзеямі вайны 1812 г., з'яўляюцца Бабруйская і Дынабургская (тагачасная Віцебская губерня) крэпасці, умацаванні Себежа (тагачасная Віцебская губерня), Дрысенскі ўмацаваны лагер, Барысаўскі, Аршанскі і Бешанковіцкі тэт-дэ-поны.

У красавіку-кастрычніку 1813 г. на месцы паўразбураных фартыфікацыйных умацаванняў у г. Барысаве (2 рэдуты з рэтраншэментам, абнесеныя валам і ровам) сіламі французскіх палонных і мясцовых жыхароў была ўзведзена новая магутная крэпасць, але, перажыўшы тры вайны, яна прыйшла ў запусценне і з цягам часу ператварылася ў руіны. На сённяшні дзень тут налічваецца каля 50 аб'ектаў (рэштак вежы, бастыёнаў, люнэтаў, фрагментаў умацаванняў форта «Фрыдрых Вільгельм» і інш.), якія патрабуюць рэстаўрацыйных і кансервацыйных работ.

Напярэдадні 25-годдзя вайны 1812 года расійскім імператарам Мікалаем II быў зацверджаны спіс 16 помнікаў, якія планавалася ўзвесці на палях сражэнняў з улікам прысвоенага ім класа, у тым ліку на Барадзінскім полі пабудаваць манумент I-га класа, у Таруціна, Малаяраслаўцу, Полацку, Смаленску, Красным, Коўна, Клясціцах, Студзянцы, Чашніках і Кулакове — манументы 2-га класа, а ў Салтанаўцы, Віцебску, Кобрыне, Гарадзечне і Вязьме — адпаведна аб'екты 3-га класа.

1. «Швейцарскі» помнік у в. Студзёнка ў памяць аб палеглых воінах «Вялікай арміі» Напалеона Банапарта пры пераправе цераз Бярэзіну. Пабудаваны ў 2002 г. па ініцыятыве г. Новіка, праекту І. Марозава і скульптара А. Арцімовіча. Са збораў Барысаўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.

2. Помнік у памяць аб Бярэзінскай пераправе Напалеона з рэшткамі войска каля «верхняга маста» ў в. Студзянка. Пабудаваны і адкрыты ў 1901 г. па ініцыятыве барысаўскага калекцыянера кніжных і мастацкіх каштоўнасцей І. Х. Каладзеева (1859-1914) па праекту М. В. Зарэцкага (1876-1959). Разбураны ў савецкі час, аднoўлены ў 2002 г. Са збораў Барысаўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.

3. Помнік каля в. Брылі. Пабудаваны ў 1913 г. па ініцыятыве камандзіра 108-га Саратаўскага пяхотнага палка Я. А. Міладановіча (1866-1967), паводле праекта капітана І. К. Дземякова. У савецкі час помнік быў разбураны. Аднoўлены ў 1992 г. Са збораў Барысаўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.

На пачатак 1850 г. з 8-мі помнікаў названай імператарскай праграмы на тэрыторыі сучаснай Беларусі ўзведзены толькі два аб'екты (у Клясціцах і Полацку), астатнія былі пабудаваны пры падрыхтоўцы да 100-гадовага юбілею французска-расійскай кампаніі 1812 года.

У першыя дзесяцігоддзі савецкага часу 5 манументальных аб'ектаў, пабудаваных у гонар баявых аперацый 1812 г. у царскай Расіі, былі знішчаны.

Некаторыя помнікі «Доблестным предкам 1812 года...», створаныя да рэвалюцыі 1917 г., перажылі трагічны лёс і па-новаму аднавіліся, але толькі рэдкія, можна сказаць, адзінкавыя помнікі ўтрымліваюць інфармацыю пра ўдзел

1. Віцебск. Помнік героям Айчыннай вайны 1812 г. Узведзены ў 1912 г. паводле праекта арх. І. А. Фаміна. Паштоўка пачатку XX ст. Са збораў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

2. Ветэран Айчыннай вайны 1812 г. (Унцер-афіцэр былога Літоўскага палка Андрэеў). Малюнак 1836 г. Мастак П. Заблоцкі [302, с. 154].

3. Юбілейныя медалі, прысвечаныя 100-годдзю вайны 1812 года. Са збораў прыватнай калекцыі А. А. Нікалаева (г. Брэст).



1


2

беларускіх палкоў, ваяваўшых як на баку Аляксандра I, так і Напалеона Банапарта.

Што тычыцца ўшанавання палеглых беларускіх воінаў, то адразу пасля заканчэння ваенных дзеянняў 1812 г. каля мм. Астрова і Галынка Слонімскага павета Гродзенскай губерні на брацкай магіле палеглых у баі 7 кастрычніка 1812 г. беларускіх воінаў гвардзейскага палка ген. Яна Канопкі і расійскіх воінаў ген.-л-та Я. Чапліца быў усталяваны помнік з памятнай плітой і металічным крыжом. Памянёны помнік прастаяў паўтара стагоддзя, але падчас разгулу атэістычнага вандалізму ў 1970-х гадах быў знішчаны і больш не аднаўляўся.

У 1814 г. у в. Дзярэчын Слонімскага павета Гродзенскай губерні быў усталяваны надмагільны помнік удзельніку вайны 1812 г. Я.Я. Гамперу, аналагічны помнік у 1816 г. быў устаноўлены ў г. Гродна на магіле ген. С. Ланскога.

У г. Глыбокае Віцебскай губерні ў 1813-1814 гг. пастаўлена вежа-абеліск ва ўшанаванне падзей 1812 г., а ў 1830-м г. на месцы першага пахавання ген.-м-ра Я.П. Кульнева, загінуўшага 20 ліпеня 1812 г. у баі пры м. Баяршчына Полацкага павета (цяпер мястэчка не існуе), быў узведзены помнік герою. У 1832 г. ягоны прах быў перавезены і перазахаваны роднымі генерала ў капліцы-пахавальні радавога маёнтка Кульневых у п. Берзгале ў Латвіі [610].

Трагічны лёс напаткаў чыгунны помнік у гонар сражэння пры м. Клясціцы Дрысенскага павета (цяпер Расонскі раён Віцебскай вобласці). Помнік быў узведзены ў сярэдзіне 19 ст. Ён прадстаўляў сабой зменшаную копію помніка, пабудаванага ў Полацку па праекту архітэктара А. Адаміні ў выглядзе востраканечнай піраміды, завершанай лукавічнымі купаламі. У сярэдняй частцы помніка размяшчалася каланада з пазалочанымі арламі наверсе, з двух бакоў — нішы з памятнымі дошкамі аб бітве пры Клясціцах 19 ліпеня 1812 г. На жаль, у 1930-х гг. абеліск быў разбураны.

3




Аналагічны лёс напаткаў вышэй памянёны помнік у Полацку, узведзены па праекту арх. А. Адаміні ў выглядзе капліцы з чугуна і бронзы і ўрачыста адкрыты 26 жніўня 1850 г. Велічнае збудаванне вышынёй у 23,7 метры з пазалочаным купалам, 8-мю калонамі з арламі, крыжом і памятнымі надпісамі ў бакавых нішах прастаяла да 1932 г., да таго часу, калі мясцовая савецкая ўлада загадала яго разбурыць, а метал перадаць на пераплаўку.

Расійскі ваенны даследчык А. Драке ў сваёй публікацыі за 1911 год аб выніках агляду поля боя 1812 г. пры фальварку Свольна Дрысенскага павета (цяпер в. Зара Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці) пісаў, што непадалёку ад названага фальварка стаяла невялікая сельская царква ў імя Св. Мікалая




Праект помніка-капліцы «Доблесным продкам, палеглым у баі пад Гарадзечна 1812 г. 31 ліпеня» (арх. Р. Р. Будзько) з пісьмовым благаслаўленнем мітрапаліта Філарэта ад 19.12.1991 г. Са збораў асабістага архіва аўтара.

Мемарыяльная мармуровая дошка на помніку-капліцы «Доблесным продкам, палеглым у баі пад Гарадзечна 1812 года 31 ліпеня», усталяваная ў 1994 г., з найменнямі беларускіх дывізій і палкоў — удзельнікаў вайны 1812 г. у складзе расійскіх войскаў і «Вялікай арміі» Напалеона. Фота аўтара, 1994 г.

Цудатворцы з гарматным ядром, якое прабіла падчас бою царкоўны дах, але не ўзарвалася і было прымацавана ў царкве да столі як памяць аб падзеях 1812 года. Царква не захавалася, прапала і ядро з надпісам «У памяць 1812 года» [610].

У перыяд падрыхтоўкі да 50-годдзя вайны 1812 г. у розных куточках Беларусі было створана некалькі цікавых помнікаў, але асабліва маштабны характар набыла работа па ўшанаванні падзей расійска-французскай кампаніі 1812 года ў перыяд падрыхтоўкі Расійскай імперыі да 100-гадовага юбілею гэтай падзеі. Быў зацверджаны спецыяльны (Асобы) камітэт па стварэнні ў Маскве музея 1812 года, які разам з Дэпартаментам Міністэрства ўнутраных спраў ўрада Расіі ў верасні і снежні 1910 г. запрасіў губернатараў беларускіх губерняў прапановы аб ушанаванні падзей 1812 г.

Ва ўсе паветы губерняў былі накіраваны распараджэнні аб неадкладным абследаванні памятных месцаў 1812 г. Напрыклад, у рапарце на гэты конт Пружанскі павятовы спраўнік 23 лютага 1811 г. праінфармаваў Гродзенскага губернатара, што ў ягоным павеце налічваецца 5 брацкіх магіл, якія адносяцца да вайны 1812 года [24, 686].

У сакавіку 1911 г. губернатары беларускіх губерняў праінфармавалі старшыню Асобага камітэта па стварэнні ў Маскве Музея вайны 1812 г. аб стане месцаў баявых дзеянняў і пахаванняў 1812 г.

У выніку пачалася актыўная праца па ўшанаванні вызначаных месцаў баёў, бітваў, сражэнняў і брацкіх магіл палеглых воінаў.

Шмат помнікаў з'явілася на Віцебшчыне. Напрыклад, да 100-годдзя баёў 1812 года 6 снежня 1912 г. у Віцебску быў урачыста адкрыты велічны 26-мятровы абеліск з чырвонага мармура, увенчаны двухгаловым арлом і памятнай дошкай (арх. І. Фамін).

У гэтым жа годзе гранітны абеліск вышынёй у 2,5 метры і памятнай дошкай быў пабудаваны ў м. Ляды Аршанскага павета (цяпер Дубровенскага раёна).

Да 100-гадовага юбілею вайны 1812 г. на асабістыя ахвяраванні воінаў 14-га Ямбургскага ўланскага палка каля в. Фалькавічы пад Віцебскам (цяпер в. Вораны) быў узведзены трохступенчаты помнік вышынёй у 2,2 метры, увенчаны чугунным крыжом. На памятнай пліце нанесены тэкст аб перамозе воінаў палкоўніка Сталыпіна над французамі 26 кастрычніка 1812 года. Помнік захаваўся і знаходзіцца ў добрым стане.

У верасні 1912 г. каля Аляксандра-Неўскага сабора ў г. Кобрыне, паводле праекта інж. Д. Маркава, быў адкрыты і асвечаны помнік у гонар першай перамогі расійскіх атрадаў ген. Тармасава над саксонцамі ген. Кленгеля. Помнік выкладзены з колатага камення ў выглядзе ўсечанай піраміды, на вяршыне якой знаходзіўся двухгаловы арол, які трымаў у кіпцюрах лаўравы вянок з вензелем пад лацінскай літарай «N». На трох памятных дошках меліся надпісы аб першай перамозе над войскамі Напалеона 15 ліпеня 1812 года і пералікам палкоў-удзельнікаў бою і палкоўудзельнікаў узвядзення помніка. Падчас Першай сусветнай вайны кайзераўскія акупанты знялі з помніка бронзавага арла і адправілі ў Германію, а памятныя пліты разбурылі. У міжваенны перыяд польскія ўлады паставілі на вяршыні помніка бюст Т. Касцюшкі (арх. М. Відацкая), а ў 1951 г. новыя ўлады СССР аднавілі помнік са значнымі змяненнямі ў гістарычным і архітэктурным плане. Замест двухгаловага арла з'явіўся аднагаловы, а з вянка знік вензель з літарай «N».

Да 100-гадовага юбілею вайны 1812 года ў Нова-Свержані Мінскага павета на брацкай магіле палеглых воінаў побач з Успенскай царквой на сродкі мясцовых жыхароў быў узведзены 8-мятровы абеліск з чырвонага граніта з двухгаловым арлом. На галоўным фасадзе былі нанесены назвы расійскіх палкоў, прозвішчы камандзіраў, лік загінуўшых тут воінаў. Але з прыходам савецкай улады ў 1919 г. помнік быў разбураны, а на пастаменце, перавезеным у Стоўбцы, у 1940 г. быў

усталяваны помнік Леніну. У 1964 г. Навасвержанская Успенская царква была зачынена, магілы «Воінаў-пераможцаў 1812 года...» зруйнаваны.

У 1901 г. вядомым калекцыянерам матэрыяльных каштоўнасцей і збіральнікам літаратурнай спадчыны аб вайне 1812 г. І.Х. Каладзеевым каля в. Студзянкі Барысаўскага павета насупраць узведзеных французамі мастоў былі пабудаваны два невысокія помнікі з барэльефамі Напалеона Банапарта і Аляксандра І, якія хуткім часам сталі ахвярамі мясцовых вандалаў.

На месцы Бярэзінскай пераправы рэшткаў войскаў Напалеона (Брылёўскае поле) у маі 1913 г. быў узведзены 2-мятровы гранітны абеліск, увенчаны бронзавым арлом. Памятная дошка ўтрымлівала тэкст аб «Доблесных продках ... палеглых у сражэнні на Бярэзіне 15-17 лістапада 1812 года». У 1920-х гг. пры польскіх уладах помнік быў разбураны.

У перыяд падрыхтоўкі да 100-гадовага юбілею вайны 1812 года, паводле распараджэння імператара Мікалая І, планавалася ўсталяваць помнік у памяць аб баі пад Ваўкавыскам, які адбыўся тут у пачатку лістапада 1812 года, але праект помніка ў выглядзе базальтавай калоны з двухгаловым арлом, падрыхтаваны арх. І. Фаміным, застаўся нерэалізаваным.

Такі ж лёс напаткаў праект помніка ў памяць аб баі пад Чашнікамі, запланаваны па аналагу манументаў, узведзеных у Клясціцах і Полацку.

У пасляваенны перыяд, падчас падрыхтоўкі да 150-годдзя французска-расійскай кампаніі 1812 г. па распараджэнні савецкага ўрада, мясцовымі органамі ўлады ўсталяваны шэраг аднатыповых абеліскаў у выглядзе бетонных стэл з памятнымі дошкамі аб мясцовых бітвах і баях.

У 1962 г. узведзены помнікі-стэлы ў памяць аб ваенных падзеях 1812 года пад в. Астроўна Бешанковіцкага раёна, на акраіне г.п. Друя Браслаўскага раёна, пад в. Клясціцы Расонскага раёна, на акраіне в. Капцевічы Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці, каля м. Раманова (цяпер Леніна) Слуцкага раёна, пад в. Брылёва Барысаўскага раёна Мінскай вобласці, каля в. Салтанаўка Магілёўскага раёна, у г. Брэсце перад уваходам на тэрыторыю Брэсцкай крэпасці з боку Кобрынскіх варот, каля в. Паддубна Пружанскага раёна, вв. Лескава і Стрыгава Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, у в. Сапежынка Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці, мемарыяльныя дошкі на будынках Спасскага кляштара і Свята-Аляксандра-Неўскага сабора ў г. Кобрыне і інш. месцах.

Праца па ўшанаванні падзей 1812 года працягвалася і пасля 150-гадовага юбілею.

Напрыклад, у 1968 г. у в. Дашкоўка Магілёўскага раёна адкрыта памятная дошка ў гонар герояў Салтанаўскага сражэння, у 1978 г. у гарадскім парку г. Пінска ўсталяваны гранітны валун з чугуннай гарматай, адбітай у аўстра-саксонцаў.

У г. Барысаве на месцы існавання «батарэй» (земляных абарончых умацаванняў 1812 г.) у 1985 г. усталяваны помнік у выглядзе стэлы, у 1992 г. адноўлены помнік у в. Брылі, у 1997 г. тут пабудаваны помнік напалеонаўскім воінам, а ў 2002 г. у в. Студзянка па-новаму адбудаваны помнік на месцы пераправы Напалеона.

Помнік у гонар перамогі расійскіх воінаў у вайне 1812 г. усталяваны ў 1977 г. у Маладзечна, а ў 1987 г. на месцы боя 1812 г. пад г.п. Плешчаніцы Лагойскага раёна ўстаноўлены мемарыяльны камень.

Помнік у гонар першай перамогі расійскай арміі над войскамі Напалеона пад Кобрынам 15 ліпеня 1812 г.
Закладзены 15 ліпеня 1912 г., пабудаваны і асвечаны 15 ліпеня 1913 г., паводле праекта гродзенскага інжынера Д.В. Маркава (1881-1943) і варшаўскага скульптара С. Ота (1874-1944).

## Глава 54

# Ушанаванне падзей 1812 года на Беларусі храмамі і музеямі

Ушанаванне ваенных падзей 1812 года храмамі, капліцамі, музеямі на тэрыторыі Беларусі пачалося адразу пасля заканчэння вайны 1812 г.

Напрыклад, у м. Гарадзечна Пружанскага павета на полі бітвы быў закладзены Св.-Пакроўскі храм, які быў асвечаны 14 кастрычніка 1825 г. У савецкія часы храм быў апаганены і паўразбураны, але ў 1991 г., напярэдадні 180-й гадавіны Гарадзечненскай бітвы, удзячнымі вяскоўцамі адноўлены і па-новаму асвечаны епіскапам Брэсцкім і Кобрынскім Канстанцінам.

У в. Асінагарадок пад м. Паставы Віцебскай губерні каля сярэдзіны 1820-х гг. была ўзведзена капліца-пахавальня на брацкай магіле палеглых расійскіх салдат.

У 1864-1868 гг. на брацкай магіле палеглых воінаў у баі 15 ліпеня 1812 г. за Кобрын быў узведзены Аляксандра-Неўскі праваслаўны храм з нагоды адмены прыгоннага права, а на сцяне храма ўсталявана памятная дошка ў гонар першай перамогі расійскай арміі над войскамі Напалеона. У часы разгула ваяўнічага атэізма (1964 г.) храм быў ператвораны ў філіял Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, у 1990 г. перададзены вернікам і 12 верасня таго ж года паўторна асвечаны епіскапам Брэсцкім і Кобрынскім Канстанцінам.

Прыкладна ў гэты перыяд каля в. Клетна пад Шанямі Пружанскага павета была ўзведзена невялічкая каплічка (захавалася да нашых дзён), якая ўшанавала загінуўшых воінаў на полі боя, што адбыўся тут 29 ліпеня (10 жніўня) 1812 г.

На месцы боя каля м. Салтанаўка Магілёўскага павета ў 1914 г. была ўзведзена арыгінальная белакаменная капліца ў стылі класіцызму, якая мае сіметрычную квадратную ў плане форму, вузкія крыжападобныя вокны, шатровы чашуйчаты жалезны дах, увенчаны чыгунным васьміканечным крыжам. На чатырох чыгунных памятных плітах змешчаны



Помнік на Брылёўскім полі, узведзены ў 1962 г.
Фота са збораў Барысаўскага гісторыка-краязнаўчага музея.

надпісы аб прайшоўшым тут баі з пералікам усіх палкоў, якія біліся з французамі.

Мемарыяльная капліца ў памяць аб палеглых воінах 1812 года ў баі пад в. Сялец Магілёўскага раёна была пабудавана і асвечана ў 1912 г., а ў п. Светлы Гай Барысаўскага раёна невялічкая капліца пабудавана ў 1997 г.

Шматпакутны лёс напаткаў помнік-капліцу, узведзеную на полі бітвы, якая адбылася 31 ліпеня (10 жніўня) 1812 г. пад в. Гарадзечна Пружанскага павета Гродзенскай губерні. Напярэдадні 100-гадовага юбілею 7 мая 1912 г. паручнік 61-га Уладзімірскага пяхотнага палка Канстанцінаў прыязджаў у Гарадзечна і, паводле даручэння ваеннага камандавання, выбраў месца для пабудовы тут капліцы. Зямлю ў памеры 25 кв. сажняў пад яе ахвяравалі мясцовыя жыхары Малафей і Кузьма Курчакі і Раман Грыцук. Капліца была пабудавана на ахвяраванні афіцэраў 61-га Уладзімірскага палка (1000 руб.), воіны якога ваявалі тут у 1812 г. Капліца мела шасцігранную форму з купалам, увенчаным чыгунным крыжам. На галоўным баку капліцы мелася памятная дошка «Доблесным продкам, палеглым у баі пад Гарадзечна 1812 года 31 ліпеня». На астатніх баках капліцы былі змешчаны надпісы на мармуровых плітах з пералікам палкоў, якія ўдзельнічалі ў бітве і ўзвядзенні ваеннай капліцы. Помнік не паспелі асвяціць і афіцыйна адкрыць, бо выбухнула Першая сусветная вайна, але ён стане сведкам пахавання тут палеглых у грамадзянскай вайне і ахвярай атэістычнага вандалізму, будзе разбураны ў 1945 г. вайсковым падраздзяленнем Савецкай Арміі, якое вярталася з вайны і кватэравала ў лесе, дзе стаяла капліца. Па ініцыятыве аўтара дадзенай манаграфіі, дзякуючы намаганням мясцовых уладаў і брэсцкіх рэстаўратараў, капліца была адноўлена і 14 кастрычніка 1994 г. асвечана архіепіскапам Брэсцкім і Кобрынскім Канстанцінам. На яе бакавых фасадах па-новаму высечаны тэксты з апісаннем бітвы, пералікам палкоў і дывізій расійскай, аўстрыйскай і саксонскай армій, якія біліся тут



Бярэзіна. Помнік на месцы «ніжняга маста» ў памяць аб Бярэзінскай аперацыі. Узведзены ў 1962 г. Са збораў Барысаўскага гісторыка-краязнаўчага музея.



Помнік-капліца, узведзеная ў 1912 г. у памяць аб баях 1812 г. каля в. Клетна Пружанскага павета. Фота аўтара, 2012 г.

у 1812 г. Асаблівасцю капліцы стала памятная пліта з тэкстам аб Гарадзечненскай бітве 1812 г., якая была змешчана на сцяне Храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве [157].

Большасць падзей вайны 1812 года ў рознай ступені адлюстравана музейнымі экспазіцыямі ў дзяржаўных музейных установах Рэспублікі Беларусь, у першую чаргу ва ўсіх абласных краязнаўчых музеях, шэрагу грамадскіх, асабліва школьных музейных пакоях і краязнаўчых вугалках.

Напрыклад, у школьным музейным пакоі в. Астроўна Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці дзейнічае невялікая экспазіцыя, у складзе якой маецца гарматнае ядро з поля бою, у Бешанковіцкім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі дэманструецца макет-дыярама «Бітва пад Астроўна», а ў Віцебскім абласным краязнаўчым музеі прадстаўлены шэраг матэрыялаў пра падзеі 1812 года на Віцебшчыне, у тым ліку пра Кукавячынскі бой у Віцебскім павеце, віды зброі і абмундзіравання воінаў. Супрацоўнікамі гэтага музея праводзяцца экскурсіі па памятным мясцінам Віцебска, якія звязаны з 1812 г., наведваннем помніка на Успенскай гары і будынка былога губернатарскага палаца, дзе ў свой час кватэраваў Напалеон.

Бой каля м. Мір Навагрудскага павета (цяпер Карэліцкі раён) пакуль не ўшанаваны годным чынам. Тут супрацоўнікамі замкавага комплекса «Мір» вядзецца праца па рэканструкцыі падзей 1812 года, а ў цэнтральнай вежы замкавага комплекса ствараецца экспазіцыя па тэме.

У Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі аформлена пастаянная экспазіцыя, прысвечаная бою пад Салтанаўкай.

У Кобрынскім ваенна-гістарычным музеі дзейнічае пастаянная экспазіцыя аб першай перамозе расійскіх воінаў ген. Тармасава над



Афіцэрскае ўбранне ў расійскай арміі 1812 г.
Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

войскамі саксонскага ген. Кленгеля пад сценамі Спасскага кляштара ў Кобрыне.

У Слонімскім краязнаўчым музеі ёсць экспазіцыя пра падзеі 1812 г., дзе маюцца віды зброі і амуніцыі, некалькі палотнаў і бюст Напалеона работы мясцовых мастакоў.

У Дзяржынскім раённым краязнаўчым музеі афармлены стэнд аб падзеях 1812 г.

Экспазіцыя аднаго з залаў Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П. Баграціёна, створанага яшчэ ў 1935 г. як краязнаўчы музей, прысвечана вайне 1812 г. У ёй прадстаўлены віды зброі і амуніцыі расійскай і французскай армій, копіі загадаў і распараджэнняў военачальнікаў, старадаўнія карты, літаграфіі, матэрыялы раскопак і інш.

Цікавыя матэрыялы пра падзеі 1812 г. сабраны супрацоўнікамі Бабруйскага краязнаўчага, Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага і Полацкага краязнаўчага музеяў (партрэты палкаводцаў, ядра, зброя, гузікі, манеты і інш. каштоўнасці).

У 2007 г. у в. Клясціцы Расонскага раёна Віцебскай вобласці адкрыты музей Айчыннай вайны 1812 года, у якім створана дыярама знакамітага сражэння, сабраны некаторыя віды зброі, амуніцыі, асобная экспазіцыя прысвечана ген. Я. Кульневу.

Экспазіцыя, прысвечаная Бярэзінскай пераправе, створана ў Барысаўскім краязнаўчым музеі. У ліку экспанатаў — ядра, кулі, шаблі, зброя і інш. каштоўныя рэчы, паднятыя са дна Бярэзіны.

Значныя музейныя каштоўнасці па тэме вайны 1812 года назапашаны таксама ў Брэсцкім і Гродзенскім абласных краязнаўчых музеях.




Экспазіцыя «Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска». Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

## Глава 55

# Беларускія палі бітваў 1812 года на плітах Храма Хрыста Збавіцеля

Ніці вялікіх падзей 1812 года духоўна звязалі Беларусь з Кафедральным у імя Хрыста Збавіцеля (Спасскім) саборам у Маскве. Шмат могуць паведаць архіўныя дакументы пра велічную і шматпакутную гісторыю гэтага каласальнага помніка-музея вайны 1812 года.

Яго першая закладка адбылася на Вараб'ёвых горах 12 кастрычніка 1817 г. у дзень, калі Напалеон 5 гадоў таму назад вымушаны быў пакінуць Маскву. Аўтарам праекта храма з'яўляўся аўтарытэтны расійскі акадэмік А.Л. Вітберг. Але раптоўная смерць Аляксандра I, нараканні прыдворных зайздроснікаў, змена імператара прыпынілі будаўніцтва храма.

Пасля суда за «убыткі казны в 580 000 рублей» Вітберг быў сасланы ў Сібір, а новы



1




2



3

1. Мемарыяльны знак невядомаму салдату «Вялікай арміі» Напалеона. Усталяваны 18 лістапада 2006 г. на месцы перазахавання астанкаў на Брылёўскім полі. Са збораў Барысаўскага гісторыка-краязнаўчага музея.

2. Копія мемарыяльнай мармуровай дошкі з Храма Хрыста Збавіцеля на помніку-капліцы ў памяць аб палеглых у сражэнні пад Гарадзечна 31 ліпеня1812 года, усталяваная ў 1994 г., з найменнямі палкоў 3-й Заходняй расійскай арміі, якія ўдзельнічалі ў гэтым сражэнні. Фота аўтара, 1994 г.

3. Выгляд Храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве да ягонага разбурэння ў 1931 г. [557, С. 72].

архітэктар сабора К.А. Тон прадставіў праект Мікалаю I 10 красавіка 1832 г. Другім месцам узвядзення сабора стаў бераг р. Масквы. Дзеля будаўніцтва сабора былі знесены старажытныя будынкі Аляксееўскага жаночага манастыра, Усясвятскай праваслаўнай царквы і шмат інш. аб'ектаў старасветчыны.

Храм будаваўся 15 гадоў, яшчэ 20 гадоў цягнулася ягоная архітэктурная і мастацкая аздоба, і 26 мая 1883 г., праз 44 гады пасля закладкі, адбылося ягонае ўрачыстае асвячэнне. Храм быў увенчаны 5-цю купаламі, меў 14 званоў, вышыню 97 м, плошчу 6750 метраў квадратных, у якім адначасова падчас службы магло знаходзіцца 7200 чалавек. Роспісы, абразы, мазаікі ў храме стваралі знакамітыя мастакі Сурыкаў, Верашчагін і інш. майстры царкоўнага жывапісу.

На ягоных унутраных сценах знаходзілася 177 белых мармуровых пліт вышынёй у 3 аршыны (2,1 м) з усімі пісьмовымі актамі 1812-1814 гг., апісаннем бітв і лікамі тых святых, на дні святкавання якіх прыпадалі баі, бітвы і сражэнні 1812 г.

На стар. 270-271:
Напалеон у Егіпце. 1799 г. Малюнак 1840 г. Гродзенскі мастак Януар Сухадольскі (1797-1875). Са збораў музея імя Мяльжынскіх у Познані [MP 42].



Адкрыццё помніка на Барадзінскім полі ў 1839 г. Акварэль невядомага мастака І паловы XIX ст. [302, с. 305].

На плітах заходняга боку сабора змяшчаліся імператарскія ўказы аб абвяшчэнні вайны з Напалеонам, зварот да расійскага народа, на плітах усходняй часткі калідора знаходзіліся маніфесты аб выгнанні французаў з межаў Расійскай імперыі, устанаўленні медалёў, Маніфест удзячнасці расійскаму народу, затым на цэнтральных сценах храма на 71 пліце па чарзе апісана 71 сражэнне ў межах расійскай імперыі, у тым ліку 33 баі, бітвы і сражэнні на тэрыторыі беларускіх губерняў, якія варта і пералічыць у храналагічным парадку.

На 4-й сцяне — справы пры Астроўне, Кукавячыне і Віцебску 13, 14 і 15 ліпеня, справа пры Кобрыне — 15 ліпеня.

На 5-й сцяне — справа пры Клясціцах 18 ліпеня, справа пры Баярщчыне і справа пры Галоўчыцах 20 ліпеня.

На 6-й сцяне — сражэнне пры Гарадзечне 30-31 ліпеня, справа пры Свольне 31 ліпеня.

На 10-й сцяне — сражэнне пры Полацку 5 і 6 жніўня, ар'ергардныя баі пры Белым 10 жніўня.

На 18-й сцяне — 1-е сражэнне пры Полацку, Громах, Рудні і Баноні 6 і 7 кастрычніка.

На 19-й сцяне — 2-е сражэнне пры Полацку, Громах, Рудні і Баноні 6 і 7 кастрычніка.

На 21-й сцяне — справа пры Чашніках 19 кастрычніка.

На 22-й сцяне — справа пры Віцебску 26 кастрычніка.

Па 23-й сцяне — партызанскія справы пры Ляхаўцах і Язвіне 27 кастрычніка, справа пры Смалянцах (Лукомля) 2 лістапада, справы пры Нова-Свержані, Койданаве і Нясвіжы 1 і 3 лістапада, справа пры Ваўкавыску 2 і 4 лістапада. На 25-й сцяне — справы пры Мінску і Барысаве 3, 9 і 11 лістапада, справы на Бярэзіне, пры Студзянцы і Стахаве 14, 15 і 26 лістапада, справа пры Маладзечне 22 і 23 лістапада.

Маніфестам ад 25 снежня 1812 г. Аляксандр I пастанавіў узвесці ў Маскве царкву ў імя Збавіцеля Хрыста, а Указам Свяшчэннаму Сіноду ад 30 жніўня 1814 г. прадпісаў устанавіць разам са святкаваннем Нараджэння Хрыстова ў царквах Расіі 25 снежня святкаванне «дня збаўлення чалавецтва ад нашэсця Галаў».

Дарэчы, Маніфест аб узвядзенні Кафедральнага сабора ў імя Збавіцеля Хрыста ў Маскве заканчваецца словамі «...Да простоит сей храм многие века и да курится в нем пред святым престолом Божиим кадило благодарности до позднейших родов вместе с любовью и подражанием делам их предков» [351].

Лютая нянавісць правадыроў бальшавіцкай Расіі да духоўнай культуры не дазволіла велічнаму храму-помніку выстаяць і выжыць. Ужо ў пачатку 1918 г. быў дэмантаваны помнік Аляксандру III, які стаяў у скверы каля храма, затым пачаліся страшэнныя рэпрэсіі супраць святароў, глумленне над святымі машчамі, а ў канцы 1929 г. у скверы перад храмам была праведзена самая кашчунская акцыя XX стагоддзя — антыкаляды, прымеркаванае да свята Нараджэння Хрыстова з удзелам каля 100 тыс. масквічоў, шмат з якіх займаліся глумленнем над сакральнымі святынямі — палілі абразы, царкоўныя кнігі, макеты Хрыста і святых, вялі пальбу па храму і г.д. Такія кампаніі — антыпасхальныя і антыкалядные пад лозунгам «За бязбожную Маскву і бязбожную вёску» працягваліся ў 1930 і 1931 гг.

У рэшце рэшт прапанова С. Кірава аб знясенні Храма Храста Збавіцеля перамагла і на месцы ваеннай святыні 1812 г. было вырашана пабудаваць Палац Саветаў. Кіраў раптоўна згінуў, але ягоную вар'яцкую справу па волі Сталіна пачалі рэалізоўваць Молатаў і Кагановіч.

Пасля беспрэцэдэнтнай ідэалагічнай кампаніі па траўлі храма, «публічных заяў» у прэсе шэрагу савецкіх «акадэмікаў», што храм не мае гістарычных, мастацкіх і архітэктурных вартасцей, восенню 1931 г. пачалася яго разборка.

Сярод раз'юшанай антыцаркоўнай істэрыі супраць глумлення над храмам-помнікам вайны 1812 года прарываліся дзе-нідзе галасы высокакультурных і сапраўдных абаронцаў гісторыка-культурнай спадчыны — Верашчагіна, Сурыкава і іншых, але да іх голасу савецкія правадыры не прыслухоўваліся.



Французская армія перад уваходам у Смаленск ноччу 17 жніўня 1812 г. На карціне злева Напалеон дыктуе свой загад Мюрату. Размаляваная гравюра І паловы XIX ст. Мастак Ланглоіс [1013, с. 88].

Наадварот, калі разборка храма замарудзілася, ягоныя сцены вырашылі ўзарваць. Ад першага ўзрыву храм устаяў, пасля другога, больш магутнага, на вачах тысяч разгубленых людзей галоўны храм Расіі, храм-помнік 1812 года 5 снежня 1931 г. а 12 гадзіне дня быўператвораны ў руіны.

Сэрцы мільёнаў людзей міра здрыгануліся ад гэтага жудаснага злачынства. Без жалю знішчыўшы шэдэўр сусветнага дойлідства, савецкія кіраўнікі пайшлі яшчэ далей, загадаўшы аддаць белыя мармуровыя пліты з імёнамі слаўных сыноў Расіі на абліцоўку станцый маскоўскага метрапалітэна, асобных дзяржаўных устаноў, а астатнія перамалоць у шчэбень і адсыпаць сцежкі ў парках Масквы.

Гарбачоўская «адліга» ў палітычным жыцці СССР спрыяла духоўнаму адраджэнню, аднаўленню святыняў, асабліва пасля развалу савецкай імперыі. У ліпені 1992 г., паводле ўказа Б. Ельцына, быў створаны Фонд адраджэння Масквы, у тым ліку храма Хрыста Збавіцеля.

Пад рубрыкай «Храму Хрыста Збавіцеля — жыць!» пачалі з'яўляцца публікацыі і ў незалежнай Беларусі [159, 692].

Праз 5 гадоў 7 верасня 1997 г. на ўрачыстасцях, прысвечаных 850-годдзю Масквы, храм Хрыста Збавіцеля быў пановаму адбудаваны і асвечаны патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем II, а 19 жніўня 2000 г. пасля завяршэння архітэктурнай і мастацкай аздобы адбылося Вялікае асвячэнне храма.

Помнік героям 1812 года ў Віцебску. Фота 2011 г.
Са збораў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

## Глава 56

# Вайна 1812 года ў Беларусі ў мастацкай літаратуры і творах выяўленчага мастацтва

Пра асобныя баталіі французска-расійскай кампаніі 1812 года ў Беларусі складаліся песні, пісаліся палотны, няшмат, але выходзілі фільмы, ставіліся спектаклі, рыхтаваліся тэатралізаваныя прадстаўленні.

Асабліва яркае і глыбокае адлюстраванне вайна 1812 года атрымала ў расійскай мастацкай літаратуры. Шмат якія пісьменнікі і паэты былі не толькі сведкамі, але і прамымі ўдзельнікамі ваенных баталій (В. Жукоўскі, Ф. Глінка, П. Вяземскі, В. Раеўскі, К. Бацюшкаў, К. Рылееў, Д. Давыдаў і інш.).

Патрыятычных вершаў тых гадоў вядома каля 600. Яны выходзілі асобнымі выданнямі, друкаваліся ў часопісах. Частку з іх сабраў В. Жукоўскі і выдаў у 1814 г. пад назвай «Збор вершаў, якія знітаваны з незабыўным 1812 годам».

Услед за А. Пушкіным, А. Грыбаедавым, М. Лермантавым, І. Крыловым і інш. расійскімі класікамі 7 гадоў напружанай працы (1863-1869) прысвяціў Л. Талстой напісанню свайго шэдэўра «Вайна і мір».

З сучасных беларускіх літаратурных твораў, прысвечаных падзеям 200-гадовай



Бляшаная скрынка для цукерак прысвечана 100-годдзю перамогі ў Айчыннай вайне 1812 года, упрыгожана мініяцюрамі.
Са збораў прыватнай калекцыі А. А. Пашчука (г. Брэст).

даўніны, неабходна ўзгадаць гістарычны прыгодніцкі раман берасцейскай пісьменніцы Зінаіды Дудзюк «Год 1812», у якім аўтарка апавядае пра падзеі 1812 г., якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі. Прататыпамі герояў гэтага твора сталі вядомыя гістарычныя постаці: архіепіскап Магілёўскі і Віцебскі Варлаам, а таксама будучы стваральнік першага беларускага слоўніка Іван Насовіч, збіральнік старажытных беларускіх актаў Іван Грыгаровіч, маршалы Ю. Панятоўскі і Луі Даву, генерал-губернатар Магілёва Д. Талстой і інш. тагачасныя знакамітыя асобы [100].

На тэму вайны 1812 года складаліся таксама харавыя паланезы, трыумфальныя і жалобныя маршы кампазітараў-прафесіяналаў і музыкантаў-аматараў.

Да такіх твораў можна аднесці паланез «Польскі з хорам на перамогі...» Восіпа Казлоўскага (1757-1831) — прафесійнага музыканта, аднаго з самых папулярных тагачасных кампазітараў, удзельніка расійска-турэцкай вайны канца XVIII ст.

Асаблівую ўвагу айчыннай і замежнай творчай інтэлігенцыі прыцягвала Бярэзінская пераправа. Для напалеонаўскай арміі яна была бадай адной з самых змрочных старонак, ды і расійская армія на Бярэзіне не паказала сябе ўзорнай, бо Напалеон выйшаў з акружэння цэлым і некранутым.

Адным з першых мастакоў Беларусі, які распрацоўваў тэму Бярэзінскай пераправы, быў Ян Дамель. Ён з 1822 г. даволі працяглы час працаваў на беларускай зямлі, але, на жаль, палатно «Пераход Напалеона цераз Бярэзіну» ён пакінуў незавершаным [111].

Сярод найбольш значных работ сталі панарама «Бярэзіна» польскіх мастакоў В. Косака і Ю. Фалата, а таксама палатно нямецкага мастака П. Хеса «Пераправа цераз Бярэзіну».

У 1812 г. польскі мастак А. Брадоўскі (1784-1832) напісаў партрэт ураджэнца Рэчы Паспалітай афіцэра-якабінца Ю. Сулкоўскага, які служыў ад'ютантам Напалеона і загінуў у адной з напалеонаўскіх баталій. Гэтая карціна

Талеркі з выявамі Напалеона і Жазэфіны (Северс-?, 1854-1870). Са збораў музея Рамантызму ў Апінагоры [1273, с. 51].





На стар. 278-279:
Пераход цераз Бярэзіну ў лістападзе 1812 г. Малюнак 1859 г. Гродзенскі мастак Януар Сухадольскі (1797-1875). Са збораў музея імя Мяльжынскіх у Познані [Мр 43].

Бівуак мастака. Карціна мастака Альбрэхта Адама 16 жніўня 1812 г. Са збораў Дзяржаўнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.



пад назвай «Ад'ютант Напалеона» захоўваецца ў сховішчах Нацыянальнага музея ў польскім г. Познань.

Вялікая калекцыя карцін на тэму айчыннай гісторыі, у тым ліку палотны «Бітва пад Рашынам» (1832), «Напалеон у Егіпце» (1840) і «Пераход арміі Напалеона цераз Бярэзіну» (1859), створана выдатным мастаком, нашым земляком Я. Сухадольскім, які нарадзіўся ў Гродне ў 1797 г. Ягоныя карціны захоўваюцца і экспануюцца ў Нацыянальных музеях Польшчы (Познань і Торунь) [1285].

На апошнім палатне мастак прадставіў дынаміку адчаю і хаосу на заснежаных берагах Бярэзіны падчас пераходу Напалеона цераз раку, якая яшчэ не замёрзла належным чынам, бачны ільдзіны і паток ледзяной вады. На левым беразе ракі паблізу перагружанага воінамі маста мастак паказаў Напалеона ў акружэнні вышэйшых чыноў «Вялікай арміі». Пад цяжарам гармат і жывой сілы праваліўся другі мост. На карціне відна, як тысячы людзей змяшаліся ў агульную масу, падкрэсліваючы бязвыхаднасць сітуацыі.

Малюнак з натуры мясцовасці, дзе праходзіла пераправа Напалеона цераз Бярэзіну, выканаў мастак М. Мікешык (1857), эскіз «Напалеон каля Бярэзіны» намаляваў В. Верашчагін, а шэраг зарысовак барысаўскіх ваколіц выканалі вайсковыя мастакі А. Дзмітрыеў-Мамонаў і В. Нораў.

Падчас паходу ў Расію разам з Напалеонам следавалі ягоныя прыдворныя мастакі А. Гро, О. Варнэ, Н. Шарле, А. Дзезарно і інш. Баталію расійскай арміі з войскамі марш. Віктора пад Барысавам адлюстраваў на палатне італьянскі жывапісец Д. Скоці (1914).

Тагачасны стан вайсковага побыту, выгляд навакольных беларускіх пейзажаў данеслі да нас у дэталях французскія мастакі А. Адам і Х. Фабэр дзю Фор. Удзельнік шматлікіх напалеонаўскіх паходаў палкоўнік Ж.Ш. Ланглуа ў 1833 г. наведаў барысаўскія мясціны і стварыў панараму «Пераправа цераз Бярэзіну», якая знаходзіцца ў сховішчах Канскага нацыянальнага музея ў Францыі.

Разнастайныя эпізоды падзей у Вільні пры адступленні французскай арміі ў канцы лістапада 1812 г. адлюстравалі ў сваіх палотнах, літаграфіях, афортах мастакі А. Адам, Л. Марза, А. Шэфер, Ф. Шарпацье і інш.

Як падае Л. Ерусалімчык, з 1829 па 1860 гг. у водах Фінскага заліва, па Балтыйскім, Чорным і Паўночным морах плаваў драўляны пруснік пад назвай «Бярэзіна» [111].

З мастацкіх прац мясцовых мастакоў, якія на сваіх палотнах адлюстравалі эпізоды баталій 1812 года на тэрыторыі Беларусі, неабходна адзначыць карціны з экспазіцыі Кобрынскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага музея У.І. Сцельмашонка «Капітуляцыя саксонскага корпуса ў Кобрыне» (1960), М.І. Грушчанкова «Капліца 1812 г. і Св.-Пакроўскі храм у Гарадзечна» (1996), П.А. Данэліі «Генерал А.П. Тармасаў» (1949), С. Раманава «Атака Уладзімірскага пяхотнага палка ў бітве пад Гарадзечна 31 ліпеня 1812 г.».

У Ваўкавыскім ваенна-гістарычным музеі імя П.І. Баграціёна экспануецца карціна «Ваўкавыскі бой 1812 г.», аўтарам якой з'яўляецца заснавальнік музея г. І. Пех. У Слонімскім краязнаўчым музеі захоўваецца некалькі палотнаў з баталій 1812 г. і бюст Напалеона, выкананыя мясцовымі мастакамі. У экспазіцыі Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея прадстаўлены копіі партрэтаў палкаводцаў расійскай арміі, а ў Клясціцкім музеі Айчыннай вайны 1812 г. адно з цэнтральных месц займае копія палатна «Сражэнне пры Клясціцах», выкананае мастаком П. Гесам.

# Аўтарскае пасляслоўе аб продках і ўласнай гісторыі

Нарадзіўся ў в Харкі на Пружаншчыне ў 1945 г. Вёска размяшчалася некалі ў цэнтры поля бітвы 3-й Заходняй расійскай арміі ген. Тармасава з аўстра-саксонскімі карпусамі Напалеона 31 ліпеня 1812 года. Гэтая абставіна прадвызначыла мой далейшы лёс як гісторыка і даследчыка аховы гісторыка-культурнай спадчыны Бацькаўшчыны.

Мае продкі паходзілі і заўжды жылі на Пружанскай зямліцы. Самым далёкім продкам, звесткі аб якім удалося знайсці ў дзяржаўных архівах, з'яўляецца прапрадзед Емяльян Несцярчук-Грышкевіч, які нарадзіўся ў в. Купічы пад Шарашовым (каля 1805 г.), відавочна, быў сведкам той трагедыі, што разыгралася пад Шарашовым і Гарадзечнай 31 ліпеня 1812 г.

Прадзед Севасцьян Емяльянавіч Несцярчук-Грышкевіч вядомы па матэрыялах судовай справы ад 13 красавіка 1898 г. аб арэндзе і набыцці ўчастка і гаспадарчых пабудоў сядзібы ў в. Харкі [22, ф. 5580].

Хаціну, у якой нарадзіліся мой дзед Павел Севасцьянавіч Несцярчук (1875-1954) і бацька Міхаіл Паўлавіч (1905-1993), добра памятаю чысцінёю (да белізны) падлогі, пахам яблык і чабору, ветлівасцю бабулі Аляксандры


Руіны Свята-Пакроўскай царквы ў в. Гарадзечна Пружанскага раёна. Была пабудавана ў 1825 г. па ініцыятыве гр. В. Пуслоўскага ў памяць аб бітве пад Гарадзечна 1812 г. У 1963 г. зачынена і разбурана. Фота аўтара, 1989 г.


Свята-Пакроўская царква ў в. Гарадзечна. Адноўлена па ініцыятыве аўтара і асвечана 12 кастрычніка 1991 г. епіскапам Брэсцкім і Кобрынскім Канстанцінам. Фота аўтара, 1991 г.

Іванаўны (1872-1963) і пладовым садам, дрэвы якога захаваліся да сяго часу.

У 1939 г. бацька аддзяліўся ад сям'і і побач з дзедавай хацінай пабудаваў сваю новую, у якой і нарадзіўся аўтар.

Ранняе дзяцінства прайшло разам са страхам і трывогай перад калектывізацыяй, судамі над бацькам за адмову ўступаць у калгас.

Пасля заканчэння Гарадзечненскай сярэдняй школы адразу паступіў на аграбіялагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.С. Пушкіна (гістарычнага факультэта тады яшчэ не было). На трэцім курсе быў забраны ў армію, тры гады служыў у Літве, а скончыўшы інстытут (хімбіяфак), трохі настаўнічаў, затым пацягнула прафсаюзная, камсамольская і партыйная кар'ера, служба ў дзяржаўным апараце.

Распад савецкай дзяржавы ўспрыняў станоўча, як аб'ектыўную і непазбежную гістарычную падзею, у выніку якой Беларусь атрымала ўнікальную каштоўнасць — самастойны шлях для станаўлення, развіцця і росквіту.

Але яшчэ да гэтага, калі стала відавочна, што перабудова не можа адолець кансерватызм тагачасных уладных структур, звярнуўся ў Палітбюро ЦК КПСС, выказаў нязгоду з палітыкай партыі і ўрада, якая праводзілася, публічна адмовіўся ад надбаўкі да зарплаты партыйнаму і дзяржаўнаму апарату на карысць хворым анкалогіяй дзецям, шчыра і апантана ўзяўся за аднаўленне разбураных і апаганеных Свята-Пакроўскага храма 1825 г. і помніка-капліцы «Доблесным продкам, палеглым у бітве пад Гарадзечна 31 ліпеня 1812 г.», за што атрымаў велізарную колькасць пісем з падзякай і нават прапановамі балатавацца дэпутатам Вярхоўнага Савета.

Безумоўна, такія нетрадыцыйныя паводзіны «непаслухмянага» партыйца і дзяржаўнага служачага каштавалі наменклатурнай пасады.

Затым працаваў спецыялістам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Берасцейшчыны, абараніў у 1996 г. дысертацыю кандыдата гістарычных навук па тэме вайны 1812 г., закончыў Міжнародную акадэмію спецыялістаў палацава-паркавай архітэктуры і мастацтва, напісаў шэраг манаграфій па гісторыі Бацькаўшчыны, жыцці і дзейнасці славутых суайчыннікаў. Найбольш буйнымі з іх з'яўляюцца выданні: «Замкі, палацы, паркі Берасцейшчыны X-XX стст.»

Руіны помніка-капліцы «Доблесным продкам, палеглым у баі пад Гарадзечна 1812 г. 31 ліпеня». Капліца была пабудавана ў 1914 г. па ініцыятыве камандзіра Уладзімірскага пяхотнага палка кн. Крапоткіна і праекту інж. Л.С. Пінаева. У 1945 г. разбурана паводле загаду камандзіра пяхотнага палка Савецкай арміі, расквартэраванага каля в. Паддубна. Фота аўтара, 1989 г.



Помнік-капліца «Доблесным продкам, загінуўшым у бітве пад Гарадзечна 1812 г. 31 ліпеня». Аднаўлена па ініцыятыве аўтара і асвечана 15 кастрычніка 1994 г. епіскапам Брэсцкім і Кобрынскім Канстанцінам. Фота 1994 г.



(Мн., 2002, перавыдадзена ў 2005 г.); «А.Т. Касцюшка. Вяртанне героя на Радзіму» (Брэст, 2006); «Ахова гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі» (Мн., 2003); «С.А. Панятоўскі. Манарх, асветнік, мецэнат» (Брэст, 2011); «Н. Орда. Шлях да Бацькаўшчыны» (Мн., 2009), якая атрымала Гран-пры за 2009 г. на VI Міжнародным конкурсе кнігавыдання «Мастацтва кнігі» ў Маскве.

Браў удзел у 35 Міжнародных навуковых канферэнцыях, сімпозіумах, семінарах па праблемах аховы гісторыка-культурнай спадчыны, апублікаваў больш за 40 навуковых прац на старонках айчынных часопісаў і газет і 16 публікацый па гістарычнай тэматыцы ў замежным друку, з'яўляюся членам нацыянальнай камісіі ІКАМОС (Міжнародная Рада па помніках і выдатных мясцінах), з 1994 г. — старшынёй Брэсцкага абласнога фонда, а з 2006 г. — старшынёй Брэсцкага міжраённага культурна-гістарычнага грамадскага аб'яднання імя Т. Касцюшкі.

З мэтай збору матэрыялаў па гісторыі Бацькаўшчыны за апошнія 30 гадоў здзейсніў навуковыя вандроўкі па музеях, бібліятэках і архівах Польшчы, ЗША, Францыі, Германіі, Швейцарыі, Украіны, Расіі, Літвы і іншых краін Еўропы.

Па тэме «Арганізацыя аховы сусветнай культурнай спадчыны» ў 1995 г. праходзіў стажыроўку ў ЗША.

За дваццаць гадоў працы спецыялістам ахоўнай справы на тэрыторыі Брэстчыны пабудавана, узведзена і створана каля 450 помнікаў мемарыялаў, мемарыяльных знакаў і пліт, якімі належным чынам ушанаваны гістарычныя падзеі, асабліва ахвяры Вялікай Айчыннай вайны 1941-45 гг. і імёны знакамітых суайчыннікаў.

Дзякуючы стараннай працы і ахвяраванням сумленных вернікаў і людзей добрай волі, пры падтрымцы дзяржаўных органаў улады за гэты час вернуты да жыцця, як кажуць, «з руін пеплу» каля двухсот праваслаўных і каля сарака каталіцкіх храмаў і капліц.

Адноўлена за сродкі дзяржавы больш за 60 іншых унікальных аб'ектаў гісторыі і культуры, у тым ліку сярэднявечны калегіум, палац Бутрымовіча і драмтэатр у Пінску, Дом-музей Т. Касцюшкі ў Івацэвіцкім раёне, гандлёвыя рады і музей-палацык у Пружанах і інш.

Уключаны ў рэстаўрацыйную працу амаль дваццаць значных аб'ектаў гісторыі і культуры, у тым ліку палац Пуслоўскіх у Косаве, Ружанскі архітэктурны комплекс Сапегаў, палац Нямцэвічаў у в. Скокі Брэсцкага раёна, касцёл Прасвятой Тройцы ў в. Воўчын Камянецкага раёна, гістарычны палац у в. Н. Беражное Столінскага раёна, музейны комплекс і радавая сядзіба Н.Орды ў в. Варацэвічы Іванаўскага раёна і шмат іншых.

Як бачна, на Берасцейшчыне зроблены важкія крокі ў справе вяртання да жыцця гістарычных аб'ектаў, але на фоне велізарных страт і разбурэння культурнай спадчыны пакуль што гэта толькі пачатак сапраўднага адраджэння. У далейшым аднаўляць страчанае прыдзецца не аднаму пакаленню.

Парыж. Версаль. Аўтар падчас навуковай вандроўкі ў Францыі. Фота з архіва аўтара, 2011 г.

# Заключэнне

*У манаграфіі аўтар усебакова асвятляе праблемы вайны 1812 года праз сучасны погляд на дадзеную гістарычную падзею, улічваючы незалежны стан Беларусі.*

*На падставе грунтоўнага аналізу аўтар паказвае стан і перспектывы даследаванняў тэмы, узровень айчыннай і замежнай гістарыяграфій, эвалюцыю поглядаў айчынных і замежных даследчыкаў на тэму аб месцы беларускіх губерняў і прымусовым удзеле насельніцтва Беларусі ў вайне 1812 года.*

*Увайшоўшы на тэрыторыю Беларусі, у мэтах неабмежаванага выкарыстання матэрыяльных і людскіх рэсурсаў беларускіх губерняў, Напалеон сваім першым загадам аднавіў беларускую дзяржаву Вялікае Княства Літоўскае, абмежаваўшы яе толькі трыма губернямі: Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Беластоцкай вобласцю, але і гэтым задаволіў спадзяванні патрыятычна настроенай мясцовай шляхты і большай часткі простага насельніцта.*

*Тэрыторыя Беларусі стала галоўным тэатрам баявых дзеянняў паміж Францыяй і Расіяй, таму асноўны цяжар ваенных дзеянняў падчас французска-расійскай кампаніі 1812 года лёг на плечы сялян, менавіта, яны больш за ўсіх пацярпелі ад французскай навалы.*

*Аўтарам паказаны стан працы за 200 гадоў па годным ушанаванні падзей 1812 года на тэрыторыі Беларусі сродкамі манументальнага і выяўленчага мастацтва.*

*Асноўны вывад, зроблены аўтарам манаграфіі, заключаецца ў тым, што французска-расійская кампанія 1812 года, як і незлічоная колькасць іншых войнаў, развязаных метраполіямі, для Беларусі прынесла пакуты, гора, разарэнне і велізарныя страты.*

# Заключение

*В монографии автор всесторонне освещает проблемы войны 1812 года через современный взгляд на данную историческую проблему, учитывая независимое положение Беларуси.*

*На основании тщательного анализа автор показывает состояние и перспективы исследований темы, уровень отечественной и зарубежной историографий, эволюцию взглядов отечественных и зарубежных исследователей на тему о месте белорусских губерний и вынужденном участии населения Беларуси в войне 1812 года.*

*Войдя на территорию Беларуси в целях неограниченного использования материальных и людских ресурсов белорусских губерний, Наполеон своим первым приказом восстановил белорусское государство Великое Княжество Литовское, ограничив его только тремя губерниями: Виленской, Гродненской, Минской и Белостоцкой областью, но и этим удовлетворил надежды патриотически настроенной местной шляхты и большей части простого населения.*

*Территория Беларуси стала главным театром боевых действий между Францией и Россией, поэтому основная тяжесть военных действий во время российско-французской кампании 1812 года легла на плечи крестьян, именно они больше всех потерпели от французского нашествия.*

*Автором показано состояние работы за 200 лет по достойному увековечению событий 1812 года на территории Беларуси средствами монументального и изобразительного искусства.*

*Основной вывод, который сделал автор монографии, заключается в том, что французско-российская кампания 1812 года, как и несчитанное количество других войн, развязанных метрополиями, для Беларуси принесла страдания, горе, разорение и огромные потери.*

# Conclusion

*The author opens the problems of war 1812 in the monograph all-round through the modern view on this historical event, considering independence of Belarus.*

*On the basis of the careful analysis the author shows condition and prospects of researches of a subject, the level of patriotic and foreign historiography, evolution of views of patriotic and foreign researches on a subject about a place of the Belarusian provinces and compulsory participation of the population of Belarus in war of 1812.*

*Having entered on the territory of Belarus, with a view of unlimited use of material and human resources of the Belarusian provinces, his the first order Napoleon renewed the Belarusian power the grand duchy Lithuanian, having limited it only three provinces: Vilna, Grodno, Minsk and Belostok areas, but also with it having satisfied hopes of patriotically adjusted the most part of local population.*

*The territory of Belarus became the main theater of operations between France and Russia, therefore the main cargo of hostilities during French-the Russian campaign of 1812 laid down on shoulders of villagers, they suffered from the French occupation most.*

*The author showed a work condition in 200 years on perpetuating of events of 1812 in the territory of Belarus means of monumental and fine arts.*

*The main conclusion which is made by the author of the monograph is that French-the Russian campaign of 1812, as well as incalculable number of other wars, suffering, a grief, ruin and huge losses brought for Belarus.*

# Conclusion

*Le livre traité de manière globale le problème de la guerre 1812, grâce à un regarde contamporain à ce problème historique, compte tenu de la position indépendante du Bélarus.*

*Basé sur une analyse soigneux, l'auteur monte la situation et les perspectives des thèmes de recherche, le niveau de l'évolution historiographie intérieure et extérieure, de l'avis des spécialistes nationaux et étrangers sur la thème des provinces partenaires de la Biélorussie et la participation de la population du Bélarus dans la guerre de 1812.*

*Entrée sur la territoire de Bélarus pour une utilisation illimitée des ressources matérielles et humaines des provinces partenaires Biélorussie, Napaleon par son première l'orde au gouvernement biélorussie restauré le grand-principauté de Lituanie, avec à trois provinces de Vilna, Grodno, Minsk et région de Bialystok. Mais il satisfait les espoires de la noblesse patriotique et de la plupart de la population en général.*

*Le territoire du Bélarus est devenu la principal place de la guerre entre la France et la Russie, se pourquoi Le poids principal des la combats pendant la campagne de la Russie-Français en 1812 est tombé aux les paysans, ils ont le plus souffert de l'invasion française.*

*L'auteur montre beaucoup de reshershes pendant des 200 ans de l'étude des l'evenements de 1812 sur le territoire de la Bélarusie et par les moyens de l'art monumental.*

*La principale conclusion, que tirée par l'auteur de la monographie, c'est que la campagne française et la Russie en 1812, aussi que pautres guerres qui partiré sur là territoire, apporte de la Biélorussie seulement la souffrance, la douleur, la destruction et les pertes énormes.*

# Бібліяграфія

## Архіўныя крыніцы


1. Российский государственный военно-исторический архив в Москве. – Ф. 846 (Ф. ВУА). – Оп. 16. – Д. 1775, 1846, 1856, 1873, 1879, 1886, 1886-а, 1889, 3480, 3484, 3485, 3501, 3502, 3504, 3596, 3512, 3514, 3517, 3519, 3546, 3558, 3559, 3573, 3575, 3579, 3587, 3605, 3612-3616, 3621, 3622, 3639, 3640, 3643, 3645, 3658, 3659, 3689, 3700, 3711, 3762, 3763, 3775, 3833, 3836, 16814, 16817, 16869.
2. Тамсама. – Ф. 49 (Фонд ген. Эртеля). – Оп. 1. – Д. 3, 7, 11, 12, 15, 16, 24, 29, 36, 40, 47, 56.
3. Тамсама. – Ф. 103 (Фонд ген. Барклая де-Толли). – Оп. 208-а. – Д. 2, 3, 6-8, 10, 12, 14, 23, 25, 34, 39, 80, 107.
4. Тамсама. – Ф. 349. – Оп. 1. – Д. 881.
5. Тамсама. – Ф. 474. – Оп. 1. – Д. 19, 27, 34, 40-42, 51, 52, 58, 64-67, 95-101, 109, 116, 144, 145.
6. Тамсама. – Ф. 489. – Д. 10-27, 45, 172, 969, 6334.
7. Тамсама. – Ф. 544-2. – Д. 42.
8. Тамсама. – Ф. 1409 (Фонд Его Императорского Величества собственной канцелярии). – Оп. 1. – Д. 371, 415.
9. Тамсама. – Ф. 2675. – Д. 1.
10. Тамсама. – Ф. 9192 (Фонд Западных армий). – Оп. 1. – Д. 322, 337, 415, 915, 1112, 1119, 1227, 1232.
11. Российский Государственный исторический архив в Санкт-Петербурге. – Ф. 259. – Д. 363.
12. Тамсама. – Ф. 379. Оп. 3. – Д. 104, 108.
13. Тамсама. – Ф. 384. Оп. 1. – Д. 3.
14. Тамсама. – Ф. 485. – Д. 120.
15. Тамсама. – Ф. 496 (Фонд императрицы Марии Федоровны). – Оп. 1. – Д. 21, 22, 105, 120, 122, 191, 363, 728, 797, 2608.
16. Тамсама. – Ф. 1284. – Д. 105, 131.
17. Тамсама. – Ф. 1409 (Фонд Е.И.В. собственной канцелярии). – Д. 710.
18. Архив Государственного Военно-исторического музея артиллерии, инженерных войск и связи в Санкт-Петербурге. – Ф. 11. – Д. 134, 159.
19. Тамсама. – Ф. 233. – Д. 11.
20. Российский государственный архив древних актов (Журналы заседаний в правительственных Комитетах Великого Княжества Литовского в 1812 году). – Ф. 12. – Оп. 1. – Д. 261-262. – Ч. 1-5.
21. Государственный исторический архив Литвы. – Ф. 378. – Оп. 44. – Д. 1516, – Л 15-37.
22. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне. – Ф. І. – Воп. І. – Спр. 206, 269, 588, 5580.
23. Тамсама. – Ф. І. Воп. 19. Спр. 1141 (Перапіска з ген.-губернатарам Паўночна-Заходняга краю, з гараднічымі і іншымі асобамі аб дастаўленні звестак аб гісторыі вайны 1812 года).
24. Тамсама. – Ф. 17. – Воп. 1. – Спр. 157, 521.
25. Тамсама. – Ф. 864. – Воп. 1. – Спр. 1, 2, 3, 4, 5 (Фармулярныя спісы рэкрутаў, паводле набораў 1809-1812 гг.).
26. Тамсама. – Ф. 1168. – Воп. І. – Спр. 3, 7 (Перапіска з Часовым упраўленнем ВКЛ з 8.11 па 22.11. 1912 г.).
27. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. – Ф. 2. – Воп. 2. – Спр. 161.
28. Тамсама. – Ф. 136. – Воп. 1. – Спр. 2900.
29. Тамсама. – Ф. 136. – Воп. 13. – Спр. 17, 331.

